# Цішка Гартны

## Збор твораў у чатырох тамах

# ЦІШКА ГАРТНЫ



## ЗБОР ТВОРАЎ У ЧАТЫРОХ ТАМАХ



**Падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі**

| С. Х. АЛЕКСАНДРОВІЧА | і Г. З. ЖЫЛУНОВІЧ

# ЦІШКА ГАРТНЫ



## ТОМ 1

## ВЕРШЫ
1909-1935

## АПАВЯДАННІ
1909-1927

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1987

## АД РЭДАКЦЫІ

*Збор твораў у чатырох тамах вядомага беларускага пісьменніка і грамадскага дзеяча Цішкі Гартнага (Зміцера Хведаравіча Жылуновіча) выдаецца да стагоддзя з дня яго нараджэння.*

*Творы ў гэтым выданні размешчаны паводле жанрава-храналагічнага прынцыпу:*

*першы том — прадмова да выдання, вершы, апавяданні дарэвалюцыйнага часу і 20-х гадоў, сабраныя ў зборніках «Трэскі на хвалях» і «Прысады»;*

*другі том — раман у чатырох квадрах «Сокі цаліны», квадра першая «Бацькава воля» і квадра другая «На перагібе»;*

*трэці том — раман «Сокі цаліны», квадра трэцяя «Крыжавыя дарогі» і квадра чацвёртая «Чырвоныя зарніцы»;*

*чацвёрты том — апавяданні са зборнікаў «Гаспадар» і «Гоман зарніц», публіцыстыка, нарысы, літаратуразнаўчыя і крытычныя матэрыялы, пісьмы, «Асноўныя даты жыцця і творчасці Ц. Гартнага», бібліяграфія асобных яго выданняў.*

*Да кожнага тома даецца адпаведны літаратурны каментарый.*



# ЦІШКА ГАРТНЫ

Творчая спадчына Цішкі Гартнага — вядомага пісьменніка, грамадскага, палітычнага і культурнага дзеяча — цікавая і змястоўная старонка ў гісторыі беларускай літаратуры. Яго дакастрычніцкая творчасць развівалася і фармавалася ў рэчышчы рэвалюцыйна-дэмакратычнай літаратуры пад жыватворным уплывам Янкі Купалы і Якуба Коласа, а таксама традыцый рускай класічнай і рабочай паэзіі. Цішка Гартны — у 1912—1913 гг. супрацоўнік бальшавіцкай «Праўды». Маніфест Часовага рэвалюцыйнага рабоча-сялянскага ўрада, якім 1 студзеня 1919 года была абвешчана Савецкая Беларусь, напісаны і падпісаны рукою Зміцера Жылуновіча — Цішкі Гартнага.

На агульным фоне беларускай дакастрычніцкай паэзіі Цішка Гартны выдзяляўся як пясняр рабочай тэматыкі, у яго вершах упершыню загаварыў «рабочы-гарбар, рыцар працы цяжкой». Інакш кажучы, у творчасці Цішкі Гартнага адлюстраваны нялёгкія і супярэчлівыя шляхі станаўлення грамадскай свядомасці беларускага пралетарыя — учарашняга селяніна. У лепшых вершах са зборнікаў «Песні працы і змагання» і «Урачыстасць» паэт перадаў жывы подых бурлівых рэвалюцыйных падзей, паказаў новага чалавека, яго велічныя і будзённыя справы, даў жывы і вобразны малюнак горада, звярнуўся да распрацоўкі інтэрнацыянальнай тэмы.

Значны ўклад зрабіў Цішка Гартны ў беларускую савецкую прозу. Лепшыя яго апавяданні са зборнікаў «Трэскі на хвалях» і «Прысады» прасякнуты сцверджаннем рэвалюцыйнай рэчаіснасці, вызначаліся багаццем і навізною жыццёвага матэрыялу, паказам суровага драматызму і герoікі грамадзянскай вайны, стваральнай працы новага чалавека, характар якога гартаваўся і фарміраваўся ў барацьбе за Савецкую ўладу. Важным здабыткам на шляху станаўлення беларускай эпічнай прозы быў раман Цішкі Гартнага «Сокі цаліны», у якім пісьменнік узнімаў некранутыя пласты беларускага народнага жыцця, прасачыў шляхі фармавання вобраза пралетарыя, адлюстраваў нарастанне класавай барацьбы ў краіне напярэдадні і ў часе Кастрычніка.

Шырокі дыяпазон публіцыстыкі і крытыкі Цішкі Гартнага. На старонках першай беларускай савецкай газеты «Дзянніца», у «Савецкай Беларусі», у часопісе «Полымя» і ў іншых выданнях ён змяшчаў падарожныя нарысы, крытычныя артыкулы і рэцэнзіі, успаміны пра рускіх і беларускіх пісьменнікаў.

* * *

Цішка Гартны (Зміцер Хведаравіч Жылуновіч) нарадзіўся 4 лістапада 1887 г. у мястэчку Капыль у сям'і беззямельнага селяніна, які займаўся адыходным промыслам, асушаў балоты на Палессі. Маці ткала палатно ці хадзіла на падзённую работу да мястачковых багацеяў.

Між лясных пагоркаў і высокіх курганаў у ціхай правінцыяльнай глушы, далёка ад прамысловых цэнтраў ці больш-менш вялікіх гарадоў, далёка ад чыгункі, далёка нават ад бойкай шашы прытаілася ў зяляніне клёнаў і ліп маляўнічае мястэчка Капыль. Старое высачэзнае замчышча, каля яго невялікая плыткая рачулка Каменка, якая нібыта некалі была глыбокай, як Нёман, і абмывала замак мясцовых князёў Алелькавічаў з усіх бакоў, клала своеасаблівы легендарны адбітак на гэты непаўторны кут Случчыны. Пасвойму выглядала і мястэчка. У цэнтры царква, недалёка касцёл, некалькі сінагог, крам-мураванак з чырвонай цэглы, крыху збоку мячэць ва ўсходнім стылі, некалькі дзесяткаў пакручастых вуліц і вулічак з драўлянымі дамамі, брукаваны пляц, на якім па чацвяргах і нядзелях збіраліся велізарныя кірмашы, асабліва славіліся кірмашы на коні і каровы. Сушаную рыбу прывозілі ажно з Петрыкава.

Мястэчка Капыль вызначалася яшчэ і тым, што тут здаўна ў шчырай дружбе і сапраўдным міры жылі беларусы, яўрэі і татары. Звычайна татары-гарбары выраблялі аўчыны і скуры, яўрэі шылі кажухі і боты, беларусы апраблялі зямлю. Было ў Капылі многа малазямельных ці нават зусім беззямельных сялян. Каб неяк пракарміць сям'ю, мужчыны ішлі на заработкі на адыходны промысел, наймаліся на чыгунку, капалі магістральныя каналы каля Любані, асушаючы непраходныя балоты, шукалі парабчанскага месца ў панскіх маёнтках.

Фармаваліся ў Капылі свае літаратурныя і грамадска-палітычныя традыцыі. Тут у сярэдзіне XIX стагоддзя пачаў творчую дзейнасць класік яўрэйскай літаратуры Мендаль Мойхер-Сфарым (Шолам Абрамовіч). У Капыль хоць у адзінкавым экземпляры, але траплялі «Отечественные записки», «Дело», «Слово», «Устои» і іншыя прагрэсіўныя выданні. Значыцца, былі тут і чытачы Някрасава, Салтыкова-Шчадрына, Глеба Успенскага, Пісарава, Шалгунова, Міхайлоўскага, Дарвіна. Вядома, такую літаратуру чыталі сынкі

багацеяў — студэнты, семінарысты, сапраўдная тутэйшая інтэлігенцыя. Але і сярод простых людзей былі пісьменныя, яны ўжо ведалі пра існаванне нелегальнай літаратуры. Таму ў 80-я гады ў мястэчка нясмела, а потым і смялей пранікаюць народніцкія ідэі; недалёка ад Капыля, у вёсцы Пукава, знайшліся сяляне, якім слуцкі гімназіст чытаў агітацыйную брашуру марксісцкага напрамку «Бацька Шымон» — «Дзядзька Антон». Нарэшце трэба адзначыць яшчэ адзін важны і цікавы момант: пра Капыль ведаў У. І. Ленін[1].

«Калі меў 12 г.,— успамінаў пасля Ц. Гартны,— бацька аддаў мяне за пастуха ў сваё мястэчка, дзе я праслужыў пяць год. Летам ганяў каровы ў поле, а зімой вучыўся: спачатку ў «дарэктара», а пасля ў народным і двухкласным вучылішчах»[2]. У 1905 годзе скончыў Капыльскае двухкласнае вучылішча і ўлетку таго ж года зрабіў першае падарожжа «ў людзі» — паехаў у Кіеў, дзе меркаваў уладкавацца на працу і надрукаваць у газеце «Киевские отклики» першыя вершы. Але ні адно, ні другое не атрымалася. Прыйшлося вярнуцца дамоў і пайсці працаваць у гарбарную майстэрню. Пасля Цішка Гартны ўключаецца ў грамадска-палітычнае жыццё свайго мястэчка, уваходзіць вясною 1906 года ў Капыльскую арганізацыю сацыял-дэмакратаў, чытае нелегальную літаратуру, захапляецца творамі М. А. Някрасава, Л. М. Талстога, Максіма Горкага. «Толькі адна дарога дасталася мне. Гэта — барацьба і змаганне да апошніх маіх дзён. І ў маім сэрцы не згасла вера, што прыйдзе панаванне свабоды»,— пісаў ён сябру. Душа яго рвалася да асветы. Ён спрабуе паступіць у Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, але яго там не прынялі. Знайшліся ажно дзве прычыны: нібыта перарос і не мае на руках дакументаў пра «благанадзейнасць».

Летам 1908 года Цішка Гартны даведаўся пра выданне ў Вільні беларускай газеты «Наша ніва», пачаў не толькі чытаць яе, але пасылаць у яе допісы, а потым і вершы. Першы верш «Бяздольны», прысвечаны Янку Купалу, апублікаваў у № 2 за 1909 год.

У пошуках работы Цішка Гартны вандруе па Беларусі, Літве, Украіне і Латвіі. У 1909—1912 гг. яму давялося працаваць у гарбарных майстэрнях Вількаміра, Шаўляя, Панявежыса, Жлобіна, Васількова, Белай Царквы, Дзвінска, Мітавы, Магілёва, Лоева, Жлобіна і іншых гарадоў. Аднак ён не парываў сувязі з капыльскімі сацыял-дэмакратамі і амаль штогод наведваў роднае мястэчка.

У 1910 годзе пры актыўным удзеле Цішкі Гартнага ў

---

[1] Клейнбарт Л. З мінуўшчыны беларускай грамадскасці // Полымя. 1928. № 10. С. 162.

[2] Маладая Беларусь. 1912. Сшытак 2. С. 72.

Капылі пачынае працаваць рабочы гурток «Самаадукацыя і самаразвіццё», які наладжвае выданне рукапіснага літаратурнага часопіса «Заря», у наступным годзе выходзіць «Голос низа», а пры ім беларускі дадатак «Вольная думка».

«Вольная думка» вызначалася, паводле звестак Л. Клейнбарта, багатым літаратурным зместам. Былі тут вершы-заклікі, адрасаваныя беларускаму народу:

Уставай, беларус! Пратры свае вочы,
Ужо годзе цярпець у няволі...
Запей весялей сярод цёмнае ночы,
Запей песню шчасця і волі...

Былі публіцыстычныя творы з адраджэнскімі матывамі: «Уставай, брат-мужык беларус! Ты загнаны, пакрыўджаны ўсімі! Уставай, затрасі сваёй чорнай працоўнай рукой. Няхай твае тыраны задрыжаць у сваіх палацах, няхай пазнаюць, што і ты чалавек... Ты ўладар свету ўсяго! У цябе ўся сіла, уся моц! Смела гавары ўсюды аб волі, аб сваім жыцці нявольным. Уставай! Уставай! Уставай за зямлю, за волю, за роўнасць, за брацтва!».

У дадатку «Вольная думка» разглядалася беларуская паэзія ўвогуле, асобна вызначалася месца Я. Купалы і Я. Коласа ў ёй: «гэта зорачкі, якія загарэліся ў самай глыбі жыцця».

Вясною 1913 г. малады паэт праводзіць на радзіме збор сродкаў у фонд бальшавіцкай «Правды» і неўзабаве становіцца рабочым пецярбургскага ліцейна-механічнага завода «Вулкан». Так складваецца ў сталіцы своеасаблівае капыльскае літаратурнае зямляцтва: Леў Клейнбарт, Цішка Гартны, Алесь Гурло, Хведар Станілевіч. Леў Клейнбарт піша пра Ц. Гартнага ў часопісах «Современный мир» і «Вестник Европы»; Алесь Гурло друкуецца ў «Нашай ніве» і наведвае літаратурныя сходкі на кватэры рускага пісьменніка А. П. Чапыгіна; Хведар Станілевіч, які друкаваўся ў бальшавіцкіх выданнях, сябраваў з вядомым рускім паэтам Аляксеем Гасцевым, нават жыў з ім на адной кватэры.

Дэмакратычная накіраванасць, палымяны пратэст супраць сацыяльнай несправядлівасці, глыбокі аптымізм і вера ў сілы народа, паэтызацыя чалавека працы, заклік да нацыянальна-вызваленчай барацьбы — усё гэта зблізіла творчасць Ц. Гартнага з паэзіяй Янкі Купалы і Якуба Коласа. Герой яго твораў — прыгнечаны і бяспраўны чалавек, якому «цяжка жыць без долі», але які верыць, што «надыйдзе пара — знемажэнне міне»:

Сонейка вечна зіяе,
Нядоля ж не вечна жыве,—
І да нашага любага краю
Шчасце вясны прыплыве...

«Сацыяльны бок найбольш мяне інтрыгаваў, хоць я адчуваў выразна, што ідэя нацыянальнага вызвалення сваёй

краіны залягла ў маім нутры досыць грунтоўна»,— пісаў пазней Цішка Гартны. Спалучэнне сацыяльных і нацыянальных імкненняў — характэрная рыса ранніх вершаў маладога паэта, яго хвалюе шчасце і доля роднай старонкі:

Я люблю гэты вобраз краіны,
Дзе Дзвіна й чысты Нёман плывуць —
Між лясоў, паміж гор, праз лагчыны
Свае воды у мора нясуць,
Дзе раскінулісь шэрыя вёскі,
А ў іх родныя песні чутны,
Песні — долі людской адгалоскі,
Песні — жальбы загнанай душы.

Цішка Гартны паэтызуе працу чалавека («Песня жняі», «Каваль», «Ткачыха»), паказвае, што гэтыя людзі ўсведамляюць сваю ролю і месца на зямлі. Вось выйшаў на луг, дзе косы «песняй срабрыстай звіняць», волат-касец, у яго «радасць у сэрцы іскрыцца», ён повен сілы і энергіі:

Гэй, разыдзецеся, рукі,
Косы так востра бяруць,
Цела не ведае мукі,
Ногі спачынку не ждуць!

Але ў вершах Цішкі Гартнага побач з традыцыйным вобразам мужыка — «пана сахі і касы» — упершыню ў беларускай дакастрычніцкай паэзіі паказаны рабочы — «рыцар працы цяжкой». Чалавек гэты моцны сілаю і духам, ірвецца з чатырох сцен закуранай майстэрні на «сонца і прастор» — такі лірычны герой паэтычнага цыкла — своеасаблівай сімфоніі «Песні гарбара»:

Сагнуўшыся, я ля варстата стаю —
Скуру ўвесь дзень без спачынку я гну,
Я скуру ўсё гну,
Нядолю кляну —
І песню пяю.

Успамінаючы пра сваю працу ў гарбарных майстэрнях, Цішка Гартны пісаў: «Я адчуваў сябе пралетарыем-творцам... Праца, якой я заняўся, была страшэннай. Але яна з першых крокаў здалася мне маім прызваннем. Я адразу ўбачыў у працэсе яе многа той красы, якая чакае свайго песняра. З аднаго боку, чад, дзёгаць, смурод, закасаныя да плеч мускулістыя рукі рабочых, з другога — сонца за сцяной, чыстае паветра — усё гэта кантрасты — кантрасты двух светаў...» Жывыя назіранні дазволілі паэту напоўніць цыкл «Песні гарбара» хараством і музыкай працы, сваім рытмічным малюнкам, унутраным дзеяннем, у якім паэтычная думка нарастае, узмацняецца, уздымае на барацьбу:

Я рабочы-гарбар,
Рыцар працы цяжкой,
Я з жалезнай душой,
З сэрцам палкім, як жар.

Вобраз рабочага-гарбара падаецца ў развіцці, у дынаміцы. Калі спачатку ён пакорліва нясе свой крыж, то потым смела гаворыць: «я здружыўся з трудом, я ў ім рос, я ў ім крэп»; ён сам падбадзёрвае сябе: «не здавайся, гарбар!». Яго не страшыць цяжкая праца, ён мае «жалезную душу», «сэрца палкае, як жар», і разумее сваё прызначэнне:

Для братоў, для людзей
Шчасце і долю кую.

Па сваёй сацыяльнай вастрыні да гэтага цыкла прымыкае верш Цішкі Гартнага «Песня грабара». Тут таксама паэтызуецца стваральная праца чалавека:

Я ўсё жыццё сваё, дзень у дзень, год у год,
Землю цяжкай лапатай капаю, як крот,
І так многа, я многа яе накапаў!
Направодзіў шырокіх і доўгіх канаў,
І прарэзаў я цэлыя мілі равоў:
Шмат, ой, шмат я са свету балотаў так звёў
І багата вады праз равы прапусціў,
А ў ваду тую шмат я крыві свае ўліў...

Умее Цішка Гартны паказаць і штодзённыя будні, беспрацоўе («Гарбар на вандроўцы», «Без работы»), спявае рамантычна-ўзнёслыя гімны свабодзе. Робячы агляд кніг таго часу, Янка Купала пісаў: «Цішка не «майструе вершы», а пяе, пяе ўсёй сваёй набалелай душой, усім сваім сэрцам гарачым, кіпучым» («Наша ніва», 1913, № 50).

Вядомы беларускі крытык і публіцыст Лявон Гмырак пісаў 6 красавіка 1911 года ў рэдакцыю «Нашай нівы»: «Найлепей мне падабаюцца «Песні жальбы», «Жалейка» і «Адвечная песня»... з другіх, каторых вершы з'яўляюцца часамі ў «Нашай ніве», мне падабаецца Цішка Гартны».

Асобна трэба сказаць пра вельмі цікавую старонку ў дарэвалюцыйнай творчасці Цішкі Гартнага — яго супрацоўніцтва ў бальшавіцкай «Правде». У 1912—1913 гг. друкаваліся ў «Правде» вершы беларускага паэта: «Лишь только фабричный гудок прогудит», падпісаны псеўданімам Давид Скорбящий, «Песня кузнеца» і «Говор волн» за подпісам — Д. Жилунович. Сярод гэтых рускіх вершаў Цішкі Гартнага ёсць смелыя і вострыя радкі:

Наковальню стальную свою
Приготовил давно под удары,
Из железа — смягчилось от жара —
Острый меч для себя я кую.

* * *

Вялікую Кастрычніцкую рэвалюцыю Цішка Гартны сустрэў з радасцю і творчым уздымам. Ужо ў лютым 1918 года ён сакратар Беларускага нацыянальнага камісарыята пры ўрадзе РСФСР, адзін з рэдактараў першай беларускай

савецкай газеты «Дзянніца», у кастрычніку 1918 года ён прыняты ў члены Камуністычнай партыі. Пасля абвяшчэння Беларусі Савецкай рэспублікай 1 студзеня 1919 года Цішка Гартны — Старшыня Часовага рэвалюцыйнага рабоча-сялянскага ўрада. Плённую літаратурную дзейнасць пісьменнік і ў далейшым спалучаў з актыўнай грамадска-палітычнай і дзяржаўнай справай: працаваў у штабе 14 арміі, у палітаддзеле Заходняга фронту, быў рэдактарам газеты «Савецкая Беларусь», а пасля часопіса — «Полымя», займаў адказныя пасады ў Дзяржаўным выдавецтве БССР, Народным камісарыяце асветы, Галоўмастацтве; з 1928 года Цішка Гартны — акадэмік АН БССР.

Цішка Гартны не толькі закладаў асновы беларускай рабочай паэзіі. Ён адным з першых адлюстраваў жывы подых бурлівых і велічных падзей Кастрычніка, услsavіў гeроіку і пафас барацьбы, паказаў небывалы энтузіязм і мужнасць тых, хто са зброяй у руках абараняў заваёвы Савецкай улады:

Гары ж, агонь Кастрычніка, гары!
Свой промень зыркі раздувай.
Няхай ён ззяе з краю ў край!
Хто спіць да гэтае пары —
Уставай! (1918)

Пра шырокі дыяпазон творчасці Цішкі Гартнага ў перыяд грамадзянскай вайны і першыя гады мірнага будаўніцтва сведчаць старонкі газет і часопісаў таго часу. Здзіўляе незвычайная аператыўнасць і творчая актыўнасць пісьменніка: пад рознымі псеўданімамі [1] ён у кожным нумары змяшчаў па некалькі публіцыстычных артыкулаў ці мастацкіх твораў. У вершах «Чырвонаармейцы», «Маёй песні далі тоны», «Гадавіна 25 кастрычніка 1917 г.» чуецца суровае дыханне векапомных дзён, урачыстыя маршавыя мелодыі, радасная песня перамогі:

Ціха рэе —
Палымнее
Сцяг чырвоны,
Пад ім роем
Чынным строем
Рэюць тоны
Песняў волі... (1919)

Гартнаўскія творы апалены полымем Кастрычніка і грамадзянскай вайны, яны з'яўляюцца своеасаблівым летапісам барацьбы за Савецкую ўладу на Беларусі, паэтычнай хронікай дзяржаўнага будавання маладой рэспублікі. Аднак

---

[1] Гартны Ц. Друкаваў свае творы пад псеўданімамі: Шэршань, Беларус-камуніст, Вартавы, Сымон Друк, Сымон Смык, Васа, Авадзень, Капылянін, Змітро і інш.

адлюстраваць новае, бурлівы ход жыцця было не заўсёды так лёгка і не так проста, бо многае было яшчэ ў руху, у зменах. Таму ў некаторых вершах Цішкі Гартнага, напісаных па гарачых слядах падзей, часам шмат просталінейнай плакатнасці, рыторыкі і схематызму:

Ракетай зыркай бліснулі імкненні,
З сярпом скрыжаваўся гартованы молат,
Вялікасць сусвету ў касмічным спляценні
Спусціў да зямлі разняволены волат (1924).

Яшчэ ў зборніку «Песні працы і змагання» творчага поспеху Цішка Гартны дасягаў там, дзе ад агульных і абстрактных разважанняў пра Рэвалюцыю, Свабоду, Камуну з вялікай літары пераходзіў да будзённых з'яў штодзённага жыцця («Сельскі рэўком», 1921), да стварэння вобраза новага чалавека («Будаванне», 1921, «Сельскі мітынг», 1922), да паказу слаўных традыцый парыжскіх камунараў («Сцяна федэралістаў», 1921). Гэтыя якасці набываюць далейшае развіццё ў кнізе вершаў «Урачыстасць». Садзейнічала гэтаму само жыццё, якое патрабавала мастацкага адлюстравання не проста рэвалюцыйнага пафасу і энтузіязму ўвогуле, а паказу звычайных фактаў і жывых прыкладаў новага.

Праўда, у некаторых вершах Цішкі Гартнага савецкі чалавек — «разняволены волат», вяшчун «агнязыркі, крылаты, здарэнняў вялікіх нязмерны дазорны» ператвараўся ў нейкую міфічную істоту:

Гартуй жа сілы, ўстаўшы Сфінкс!
Хай попел вецер вольны сее...
Няволі доўгай рабскі чынш
Знялі ўжо рукі Праметэя (1923).

Асобна трэба адзначыць цыклы вершаў Ц. Гартнага «Берлін» (1922), «Горад» (1924), «Чырвоная Радзіма» (1925). Зварот да канкрэтнага факта, публіцыстычная завостранасць думкі і ўсхваляванасць, лірычнае праламленне бачанага — усё гэта выдзяляла цыклы сярод іншых вершаў паэта.

У цыкле «Берлін», які, дарэчы, з'яўляецца самым ранні́м зваротам беларускай паэзіі да інтэрнацыянальнай тэмы, увагу паэта прыцягваюць рэзкія сацыяльныя кантрасты капіталістычнага горада. Цішка Гартны бачыць цяжкую веліч гмахаў і «разрэзы цесных, вузкіх вуліц», дзе віруе жыццё і «роскаш скрозь завабай вас абманнай дорыць». Паэт заўважыў вельмі трапную дэталь: калі ў людскую плынь шырокаю ракою ўвальюцца пасля гудка рабочыя, дык тады здаецца, што каменіцы горада толькі часова стрымліваюць магутную сілу, якая хутка «шугне паводкай, вадаспадам і змые загарадзь наўкруг».

Урбаністычныя матывы, гарадскія малюнкі арганічна суседзяць з непаўторнымі краявідамі роднай Капыльшчы-

ны і Случчыны. У вершы «Капыль» Цішка Гартны звяртаецца да легенды пра мінулае роднага мястэчка:

Капля за капляй точаць каменні,
 Іскра разводзіць пажар...
Колькі свабодзе ўжо пакаленні,
 Колькі прынеслі ахвяр!
Угору высока раслі магілы,—
 Нёман убок пахіліў,
Покуль над сівым буйным Капылем
 Волю вяшчун пратрубіў...

Лепшыя вершы са зборніка «Урачыстасць» сведчылі, што паэт шчыра імкнуўся пераадолець агульную лозунгавасць і аднабокую рамантычную абстрактнасць, праўдзіва паказаць канкрэтныя праявы новага жыцця, рысы новага героя — савецкага чалавека.

* * *

На 20-я гады выпадае перыяд самай актыўнай і плённай літаратурнай дзейнасці Цішкі Гартнага. Не пакідаючы працы над паэтычнымі творамі, ён усё часцей звяртаўся да прозы, якая неўзабаве заняла асноўнае месца ў яго творчасці. Трэба сказаць, што першыя празаічныя творы Ц. Гартнага з'явіліся ў друку яшчэ ў 1909 годзе, адразу пасля публікацыі першага верша «Бяздольны».

Гэта былі лірычныя замалёўкі, блізкія да вершаў у прозе («На ўсходзе сонца», «Думкі», «Скошаны луг», «Думкі беларуса», «Пустуючы шнурок»). У іх глыбокі роздум над жыццём, мужыцкай доляй, сацыяльнай і нацыянальнай няроўнасцю, уменне смела і востра гаварыць пра супярэчныя праявы ў прыродзе, спадзяванне на перамены. Ц. Гартны гаворыць пра цяжкую долю свайго героя: «Ты — сын зямлі, нуднай, горкай зямлі, ты — нявольнік жыцця, цяжкога, горкага, паднявольнага; ты — ахвяра бяды, няшчасця і нядолі!»...[1]. Бачыць ён «гэныя палоскі, гэныя вузенькія шнурочкі,— гэта багацце мужыка; яны кормяць і гадуюць яго, сям'ю, даюць хлеб усяму свету. Гэта ж тая самая зямелька, палітая крывёй і гарачым потам мужыцкім...» [2].

Аднак яшчэ ў ранніх празаічных творах пісьменнік не абмяжоўваецца традыцыйнай сялянскай тэматыкай, ён упершыню стварае вобразы прадстаўнікоў рабочага класа. Гэта беспрацоўныя гарбары Ігнат і Цімох, якія едуць на заработкі ў Кіеў («Шукаючы працы»). Тут і рабочы Анупрэй, у свядомасці якога абуджаюцца чалавечая годнасць і пачуццё грамадскага абавязку («Штрэйкбрэхер»).

Першаадкрывальнікам новых падзей і новага чалавека

---

[1] Гартны Ц. Насустрач сонцу. Мн., 1978. С. 7.
[2] Тамсама. С. 4.

Цішка Гартны выступае не толькі ў паэзіі, але і ў прозе. Ён паказаў чырвонаармейца ў апавяданні «За свабоду», сельскага камуніста («Загадзе»).

Сярод празаічных твораў гэтага часу трэба звярнуць увагу на апавяданне «Чырвонаармеец Панкел Ліпа» (1920), бо ў ім уздымаецца праблема перавыхавання чалавека. Герой твора надзелены жывымі рысамі персанажа таго пераломнага перыяду, калі толькі абуджалася і складалася палітычная свядомасць селяніна. Цішка Гартны паказаў, што ў Панкела пад салдацкім шынялём б'ецца сэрца клапатлівага бацькі, ён сумуе па сваёй сям'і, успаміны пра дзяцей трывожаць і непакояць яго. Каб пабачыцца ■ сям'ёю, чырвонаармеец гатовы нават пайсці на злачынства: збегчы з часці, дзе ён служыць. Панкел Ліпа паддаўся на ўгаворы ворагаў, у дадзеным выпадку Прова, што задумаў перабегчы на бок белых, але ў крытычную хвіліну зразумеў сваю памылку і застаўся верны грамадскаму абавязку. Паставіўшы вобраз чырвонаармейца ў востра драматычную, можна нават сказаць у трагічную, сітуацыю, Ц. Гартны раскрыў супярэчнасці фармавання яго характару як новага чалавека.

Калі ў паэзіі Ц. Гартнага быў адлюстраваны пераважна ўрачыста-святочны бок бурлівых дзён рэвалюцыі і амаль не відзён рэальны чалавек — творца новага жыцця, дык у апавяданнях, напісаных у гады грамадзянскай вайны і першыя пасляваенныя дні і сабраных у першым празаічным зборніку пісьменніка «Трэскі на хвалях» (1924), выразна адчуваецца суровы і велічны час, жывы подых небывалага энтузіязму і актыўнасці народных мас, паказаны пераўтваральнікі свету на новы лад. Героі апавяданняў Ц. Гартнага — гэта салдаты, якія змагаліся і гінулі на франтах грамадзянскай вайны, былыя чырвонаармейцы, што вярнуліся на родныя папялішчы, нізавыя партыйныя работнікі, актывісты савецкіх устаноў, якія прыехалі ў саўгас пачынаць гаспадарчае і культурнае будаўніцтва.

Цішка Гартны ўбачыў і паказаў не толькі жахлівыя сляды вайны, якая прайшлася па беларускіх вёсках і гарадах («На руінах»), ён адлюстраваў першыя арганізацыйныя крокі Савецкай улады, стварыў вобразы камуністаў — сельскіх актывістаў, на плечы якіх ляглі ўсе цяжкасці адбудовы. Чалавекам непахіснай волі і адданасці справе рэвалюцыі выступае Платон Гічка («Больш за ўсіх»). Захоплены бурлівай плынню новага жыцця, ён можа нават занадта актыўна аддаецца рабоце ў рэўкоме. Для яго нічога не існуе, апрача партыйных даручэнняў, «дзеля рэвалюцыі ён ахвяраваў пачуццём кахання», «дзеля рэвалюцыі ён забываў бацькоў». Платон астаецца да канца прынцыповым і тады, калі паўстала пытанне, паслаць ці не паслаць бацьку ў абоз. Не можа ён адмовіцца і ад прапановы павятовага

рэўкома паехаць на працу далёка ад роднага мястэчка, хоць дома астаецца адна хворая маці.

Асабліва значным па задуме і ў ідэйна-мастацкіх адносінах у зборніку «Трэскі на хвалях» з'яўляецца аднайменнае апавяданне. Пісьменнік заўважыў і стварыў праўдзівую і палемічна завостраную сітуацыю з жыцця местачковай інтэлігенцыі ў першыя пасляваенныя гады — першыя гады мірнага будаўніцтва. У апавяданні добра перададзены суровы подых часу: мітынгі і сходы ў халодных і пракураных памяшканнях, вострыя дыскусіі і спрэчкі ў вузкім коле сяброў. Гэта быў складаны і цяжкі для некаторых перыяд ломкі старых поглядаў, станаўлення новых перакананняў, класавага размежавання інтэлігенцыі.

Галоўны герой апавядання — былы настаўнік Сідор Браварка, які яшчэ да рэвалюцыі «выбіўся» ў людзі і трапіў у вышэйшае, як ён думае, «кола грамадскага жыцця». Пра той час у яго засталіся ружовыя ўспаміны: «Гульні з паповымі і станавога дочкамі, пачосткі, балы, вечарыны. Прамільгнулі палкія летуценні, жаданні і мары, якія выглядалі перад ім якімсьці раем» [1]. Але рэвалюцыя разбурыла гэты «рай», і Сідор Гарасімыч страціў колішні спакой і раўнавагу. Усё гэта зрабіла яго лютым ворагам Савецкай улады, ненавіснікам усяго новага ў жыцці. У пошуках сяброў і аднадумцаў прыехаў ён у сваё роднае глухое мястэчка Вікуры, спадзеючыся адпачыць тут ад мітынгаў і дэманстрацый. Але новае жыццё прыйшло і ў мястэчка. Яго былы сябра Андрэй Камель, цяпер загадчык аддзела асветы, у брудным пакойчыку з разбітымі вокнамі і пашарпанымі шпалерамі займаецца школьнымі справамі. Нават звычайная вечарынка, на якую Сідор ішоў з надзеяй адвесці душу, ператварылася ў вострую дыскусію пра ролю інтэлігенцыі ў грамадскім жыцці.

Вуснамі настаўніка Андрэя Камля пісьменнік выносіць прысуд мяшчанскаму свету, тым людзям, якія сталі нікчэмнымі трэскамі на бурлівых хвалях новага жыцця: «Сідор астаўся тым, які і восем гадоў таму назад пяяў на клірасе «Спасі, госпадзі», а ў станавога «Божа, цара храні!»... Ён, пэўна, думаў, што гэты матыў шуміць і над усімі Вікурамі. Дзеля таго і трапіў сюды, але памыліўся. Мы выйшлі з-пад гэтага матыву. Нам звіняць новыя песні». Сімвалічны сэнс мае канцоўка апавядання «Трэскі на хвалях»: Сідор, як «нацкованы воўк, безаглядна бег у цемнату вуліцы».

Неўзабаве выходзіць другі зборнік апавяданняў Цішкі Гартнага «Прысады» (1927). Вызначальныя рысы творчасці пісьменніка, якія выявіліся ў кнізе «Трэскі на хвалях», цесная сувязь з жыццём, актуальнасць праблематыкі — у зборніку «Прысады» ўзбагаціліся больш глыбокім і шмат-

[1] Гартны Ц. Насустрач сонцу. С. 124.

гранным паказам духоўнага свету савецкага чалавека. Новы чалавек выступае тут ва ўсім багацці і складанасці свайго характару і пачуццяў, поўны аптымізму і веры ў светлую будучыню.

Начальнік раённай міліцыі Астап («Прысады») не падобны на прасталінейнага і аскетычнага вясковага актывіста Платона («Больш за ўсіх»), гэта паэт у душы, улюбёны ў красу беларускіх краявідаў. Ён таксама аддамы справе рэвалюцыі, самаахвярна выконвае цяжкую і турботлівую службу, але Ц. Гартны заўважыў і паказаў у вобразе Астапа новыя адносіны да працы, сапраўдныя клопаты пра чалавека. У раёне яшчэ поўна бандытаў, на кожным кроку яго чакае бандыцкая куля, але ён марыць аб тым часе, калі радасна і шчасліва будзе жыць селянін на беларускай зямлі. І гэта не проста мары і летуценні рамантыка, а рэальныя планы, перакананая вера ў вялікую пераўтваральную сілу Савецкай улады. Едучы па гразкай дарозе і бачачы парадзелыя прысады, гэты рамантык думае не пра небяспеку, якая чакае яго, а пра той час, калі можна будзе заняцца стваральнай працай: «Вось хай адно акрыяем крыху, заменім шляхі шашою. Абсадзім маладымі прысадамі»[1].

У вобразе Астапа пісьменнік раскрывае новыя рысы характару савецкага кіраўніка: яго чулыя адносіны да чалавека, імкненне выхаваць у селяніна гаспадарлівыя адносіны да прыроды, новую свядомасць. Астап гуманна адносіцца да сялян, якія ссеклі бярэзіну, вядзе справу так, каб вінаватыя самі зразумелі, што абакралі саміх сябе, і далі абяцанне вясною пасадзіць маладыя дрэўцы. Нават ранены з кулацкага абрэза, ён не расстаецца са сваёй марай пра новыя прысады, якія ў апавяданні становяцца сімвалам стваральнай працы новага чалавека.

Многа агульнага з вобразам Астапа ёсць і ў дэмабілізаванага чырвонаармейца Вінцуся Шавеля — героя апавядання «Свае блінцы». Праўда, гэта людзі рознага складу, рознага, так сказаць, жыццёвага палёту. Загадчык разбуранага млына Шавель не можа сядзець, склаўшы рукі, і чакаць, калі прыйдзе чарга ўзяцца за рамонт млына, а прымае ўсе захады, каб зрабіць гэта як найхутчэй для карысці народа і на злосць нэпману Хаіму Крокесу. Вінцусь Шавель — гэта ініцыятыўнасць, беражлівасць у адносінах да дзяржаўнага дабра, высокая палітычная свядомасць нізавога кіраўніка. Адбудовай млына Шавель хоча не толькі «стукнуць» па нэпману, але і паказаць, што Савецкая ўлада думае пра простых людзей. Трапна выкарыстана для характарыстыкі вобраза Вінцуся Шавеля сцэнка, калі ён даведаўся пра асігнаванне грошай на рамонт млына: тут і радасць, тут і трывога, што начальства можа перадумаць. Затое радасцю і

---

[1] Гартны Ц. Насустрач сонцу. С. 215.

гордасцю гучаць яго словы, калі нарэшце млын ажыў: «А чуеце, як трашчыць лесапілка, ажно па ўсіх Махаўцах рэха ідзе? Крокеса пабіў, і той на ладан сапе. Мялю і лепш і танней... Пілую да дваццаці хвой у дзень. Вальцую сукно, крупы раблю...» [1].

Па-свойму цікавае і апавяданне «Таварыш інспектар». У дзіцячым доме працуе маладая прыгожая настаўніца Грыпіна Вядзерка. Усё сваё сэрца аддае яна бедным сіротам, як клапатлівая маці, даглядае дзяцей. Але ў пачуццях гэтай працавітай і сціплай дзяўчыны, што знебылася ў адзіноце і чаканні чалавека, з якім можна будзе «падзяліць радасць жыцця», наспявае канфлікт.

У апавяданні яркія партрэтныя характарыстыкі, ёсць дынаміка дзеяння, трапныя мастацкія дэталі і сатырычныя сцэнкі, замест доўгіх і складаных перыядаў простыя сказ з эмацыянальнай афарбоўкай, унутраны маналог, пружыністы і ёмкі дыялог. Наогул, трэба сказаць, што калі ў некаторых творах, напісаных у самым пачатку 20-х гадоў («Больш за ўсіх», «Сымонка-інжынер» і інш.), пісьменнік гераізаваў, уздымаў вобразы, пазбаўляючы іх індывідуальнага ў характары і пачуццях, дык у апавяданнях «Дыягназ» і «Таварыш інспектар» наглядалася «зніжэнне» героя, паказ яго паводзін пад уплывам «вечных» біялагічных законаў прыроды.

Зборнікамі «Трэскі на хвалях» і «Прысады» Цішка Гартны значна пашыраў ідэйна-тэматычны дыяпазон маладой беларускай савецкай прозы, прынёс разам з Якубам Коласам, Максімам Гарэцкім, Кузьмой Чорным вельмі важную якасць — паглыблены псіхалагічны аналіз. Але, праяўляючы вялікую творчую актыўнасць, жыва адклікаючыся на актуальныя тэмы, паказваючы разбуджаную рэвалюцыяй беларускую вёску, праўдзіва акрэсліваючы вобразы новых людзей, пераважна сельскіх актывістаў, пісьменнік не заўсёды знаходзіў тыя разнастайныя стылёва-выяўленчыя сродкі, каб адлюстраваць увесь драматызм жыцця і стваральнай працы савецкага чалавека.

Тлумачылася гэта рознымі прычынамі: з аднаго боку, маладосцю беларускай прозы ўвогуле, а з другога — асаблівасцямі стылю Ц. Гартнага-празаіка. Свядомае супрацьпастаўленне лірыка-эмацыянальнай і сказанай плыні маладнякоўскай прозы ўраўнаважанага эпічнага стылю прыводзіла часам пісьменніка да залішняй дэталізацыі, фіксацыі жыццёвых і бытавых падрабязнасцей, што тармазілі развіццё дзеяння ў творы. Праўда, у зборніку «Прысады» заўважалася больш старанная і патрабавальная праца пісьменніка над мовай, у ім значна менш дыялектызмаў вуз-

---

[1] Гартны Ц. Насустрач сонцу. С. 251—252.

кага ўжывання ці проста «каструбаватых» слоў, цяжкіх словазлучэнняў.

З ростам савецкай літаратуры ўдасканальвалася і паглыблялася майстэрства Гартнага-навеліста. Лепшыя яго апавяданні са зборнікаў «Трэскі на хвалях» і «Прысады» — значнае дасягненне беларускай прозы на шляху сцверджання рэвалюцыйнай рэчаіснасці і праўдзівага паказу характару савецкага чалавека.



Пяру Цішкі Гартнага належыць вялікі эпічны твор «Сокі цаліны» — першы беларускі раман, які складаецца з чатырох квадраў-кніг: «Бацькава воля», «На перагібе», «Крыжавыя дарогі» і «Чырвоныя зарніцы».

«Сокі цаліны» — гэта раман пра вялікія працэсы абуджэння чалавека, пра выспяванне рэвалюцыйнай свядомасці, пра той час напярэдадні Кастрычніка, калі «багатая сокамі цаліна агромністай краіны расціла маладыя пасынкі» — стойкіх і мужных барацьбітоў за новы грамадскі лад. Пісьменнік прасачыў не толькі шляхі рэвалюцыйнага пралетарыя, ён разгарнуў шырокія малюнкі завадскіх будняў, местачковага побыту, закрануў многія праблемы грамадскага і палітычнага жыцця Расіі, што было новым для беларускай прозы.

У цэнтры рамана «Сокі цаліны» вобраз Рыгора Нязвычнага, які выйшаў з местачковага сялянскага асяроддзя і стаў рабочым — прафесійным рэвалюцыянерам. У асобе Нязвычнага Цішка Гартны паказаў кіруючую ролю партыі ў збіранні і гартаванні рэвалюцыйных сіл, самаахвярную адданасць яе лепшых сыноў вялікай справе вызвалення працоўных. Рыгор — натура валявая, арганізатар народных мас, чалавек, поўны бурлівай энергіі; ён заўсёды наперадзе, у самым віры падзей, там, дзе найбольш цяжкі і адказны ўчастак барацьбы.

Рыгор Нязвычны — гэта чалавек з непахіснай верай у перамогу народа, верай, якая акрыляе яго, памагае пераносіць цяжкасці, адольваць перашкоды: «Хто спаў — прачынаецца, а хто маўчаў — пачынае гаварыць: хто цярпеў — пратэстуе, хто паддаваўся — змагаецца, песні жалю змяняюцца песнямі перамогі... Наперад да боек!» [1]. Дзе б ні быў ён — сярод сілцоўскіх сяброў, рыжскіх ці пецярбургскіх рабочых, у турме ці ў высылцы,— рэвалюцыйны аптымізм не пакідае Рыгора, які сваім асабістым прыкладам уздымае «новыя парасткі» на змаганне.

Аднак, паказваючы некаторыя тыповыя рысы новага чалавека, Гартны не змог яшчэ стварыць яркі і жывы воб-

[1] Гартны Ц. Сокі цаліны. Мн., 1957. Т. I. С. 56.

раз рабочага ва ўсёй глыбіні і складанасці яго характару. Справа ў тым, што пісьменнік не пазбавіўся канчаткова той схемы паказу прадстаўніка пралетарыяту, калі рэвалюцыйныя і сацыяльныя рысы засланялі ў ім звычайныя чалавечыя пачуцці. З другога боку, аўтар паставіў перад сабою складаную і адказную задачу — стварыць не проста вобраз радавога барацьбіта, а правадыра, трыбуна рэвалюцыі, што яшчэ больш прымушала «гераізаваць» Рыгора Нязвычнага, адрываць ад рэальных абставін, усяляк і ўсюды падкрэсліваць яго незвычайнасць.

Ц. Гартны шукае і выбірае толькі такія дэталі, якія, на яго думку, павінны падкрэсліваць і сведчыць пра высокую рэвалюцыйную свядомасць Рыгора. Але пісьменнік часам не раскрываў у ім самага важнага — тых непаўторных індывідуальных рыс чалавечага характару, без якіх персанаж не можа стаць тыповым. Таму атрымлівалася, што Рыгор Нязвычны мясцінамі паказаны ў рамане вельмі ілюстрацыйна і статычна, а плакатнасць і ненатуральная выключнасць не ўзвышаюць, а, наадварот, збядняюць яго як мастацкі вобраз.

Але пры ўсіх пэўных недахопах Рыгор Нязвычны з'яўляецца даволі цікавай і каларытнай фігурай. У апошняй кнізе рамана пісьменнік ставіць свайго героя ў такія сітуацыі, якія больш раскрываюць яго пачуцці, чуласць і таварыскую ўвагу. Нарастанне велічных грамадскіх падзей прымушае Нязвычнага задумацца над чалавечым лёсам, бліжэй адчуць людское гора. Ён балюча перажывае трагічную смерць Гэлі, забойства Рудольфа Шульца, памагае ўладкавацца даўняму сябру — Сёмку, дбае пра долю бежанцаў.

Сярод шматлікіх жаночых вобразаў найбольш удаўся вобраз Зосі, яна вабіць шчырасцю і харавством сваёй душы. Але яе лёс і хвалюе нас сваім драматызмам. Яна, дачка даволі заможных местачковых сялян, сябруе не з багацеямі, а з тымі, хто спачувае «дэмакратам». Шчырая і працавітая Зося пакахала ўсім сваім сэрцам сына беднай удавы — Рыгора Нязвычнага. У гэтым каханні раскрыліся і лепшыя рысы яе характару і з другога боку — яе слабасць, нерашучасць ісці супроць бацькавай волі. У Зосі з'яўляецца нават думка кінуць бацькаву хату і паехаць з Рыгорам у горад. Яна на раздарожжы, не ведае, што выбраць: «Там каханне і разам — беднасць, недахваты, праклёны бацькоў; а тут — дастатак, багацце і нялюбы чалавек» [1]. Прыйшлося выбіраць апошняе — багацце і нялюбага, бо ніхто не падтрымаў дзяўчыну, не памог ёй вырвацца з местачковага балота, да канца пастаяць за сваю чалавечую годнасць.

У рамане «Сокі цаліны» створаны каларытныя і яркія

---

[1] Гартны Ц. Сокі цаліны. Т. I. С. 211.

вобразы местачковых багацеяў. Вось самавіты местачковец Васіль Бераг. Скупымі, але яркімі мазкамі даецца ў рамане яго партрэт: «Сутулы і касы, з лёгкім рабаціннем на белым пляскатым твары». Яшчэ лепш відаць яго аблічча ў такой дасціпна выпісанай сцэнцы: «У цэркві ж ён любіў стаяць ад пачатку да канца службы, і кожны чалавек, хто толькі калі ні заходзіў у цэркву, заўсёды мог бачыць Васіля Берага, які стаяў ля правага кліраса, прычэсаны, прылізаны, і шчыра жагнаўся на кожнае слова папа і дзякана, а затым голасна падводзіў дзяку»[1]. Тут, як на далоні, увесь Васіль Бераг са сваёй кулацкай фанабэрыяй, паказным выхваленнем багацця і «бацюшкавай ласкай». Ён самаўпэўнена лічыць, што ніхто з местачковых хлопцаў яму не роўня, тым больш лапатнік і галадранец Рыгор, Васілю Берагу здаецца, што кожная дзяўчына пакваліцца на яго гаспадарку, у тым ліку і Зося. А што яна яго не кахае, дык гэта справа малаважная... Лагічным завяршэннем жыццёвай дарогі местачковага багацея з'яўляецца сцэнка ў чацвёртай кнізе: паліцэйскі Васіль Бераг конна гарцуе на вуліцах у Петраградзе, разганяючы дэманстрацыю рабочых.

Яшчэ больш яркімі сатырычнымі фарбамі акрэслены вобраз дзядзькі Васіля — Хлора Берага, якога ў мястэчку лічаць разумным і хітрым чалавекам. Чаго варты толькі яго партрэт: «Хлор, важна седзячы, закаціўся бясклапотным задаволеным смехам, ажно яго маленькія, кноразавы вочкі, упаўшыя глыбока ў тоўсты сыты твар, заплылі вільгаццю слёз і брыты гладкі падбародак заварушыўся, а на шчоках заметна абмаляваліся роўныя круглыя ямачкі»[2]. Для Хлора сватаўство пляменніка звычайная чарговая камерцыя; як пры куплі каня, ён заядла таргуецца за пасаг. З выглядам знаўцы жыцця ён нахабна і цынічна выкладае свае погляды на людскія пачуцці: «Каханне як туман: перад вачыма стаіць, а збоку зірні — пуста...» У яго ёсць свой погляд на грамадскія падзеі, на іх вытокі: «Усюды пайшлі розныя сацыялісты, басяччо, галадранства — усё з нянавісцю на знатнейшых людзей, з зайздрасцю — узяць чужое, спаганіць, згнюсіць людскую чэсць»[3].

Прага да багацця вызначае ўчынкі і паводзіны Міколы Прыдатнага. У яго свая «мерка» на людзей, варты ўвагі толькі той, хто мае шмат грошай і зямлі, астатнім грошцана: «Тады я за цябе аддам сваю дачку, калі ты будзеш мець у тры разы больш, чым яна мае». Ён прагне парадніцца з заможнымі і знатнымі людзьмі і тлумачыць сваёй дачцэ: «Падумай толькі, нябога! Берагі. Жарты сказаць!

---

[1] Гартны Ц. Сокі цаліны. Т. 1. С. 48—49.
[2] Тамсама. С. 135.
[3] Тамсама. С. 434.

У адным гэтым слове хаваецца столькі паважнасці, столькі самавітасці, што ўсім на завіду...» [1].

Увогуле, трэба сказаць, што ў рамане «Сокі цаліны» вобразы местачковых людзей паказаны ярка і жыва. Пісьменнік знаходзіць трапныя бытавыя дэталі, надзяляе сваіх герояў жывой народнай гутарковай мовай. Сілцы і сілцоўскія жыхары — гэта родны Капыль і дарагія капылянцы. Тут Цішку Гартнаму было з каго «спісваць»; як жывыя, стаялі ў яго перад вачыма землякі.

Іншая справа, калі ён ствараў вобразы рабочых. У распрацоўцы рабочай тэматыкі, у раскрыцці вобраза новага героя Цішку Гартнаму выпала быць першапраходцам, прыйшлося першаму пракладаць сваю сцежку ў беларускай прозе. Гэта, зразумела, надало наватарскі характар раману «Сокі цаліны». Але гэта абумовіла і пэўныя слабасці.

Ідучы ад рэальных падзей, жыццёвых назіранняў, Цішка Гартны не заўсёды, на жаль, выбіраў найбольш істотнае і важнае, без належнага творчага асэнсавання, а падаваў некаторыя падзеі ў «сырым» выглядзе. У рамане побач з яркімі жанравымі малюнкамі местачковага побыту, паказам масавых сцэн (дэманстрацый і мітынгаў у сталіцы напярэдадні рэвалюцыі, паэтычнымі карцінамі вясковай працы — касьбы і жніва) ёсць, на жаль, малавыразныя і прыземлена-хранікальныя старонкі. Гэта ў сваю чаргу абумовіла кампазіцыйную рыхласць рамана, вяло да аслаблення ўнутранага драматызму і напружанасці дзеяння.

Калі ў кнізе «Бацькава воля» недахопы ў кампазіцыі рамана выявіліся не так выразна, бо ў аснову твора пісьменнік узяў востры сацыяльны канфлікт, дык адсутнасць вострай сюжэтнай калізіі ў другой і трэцяй кнігах зрабіла іх вельмі хранікальнымі, апісальнымі. Многа траціць раман (асабліва кнігі «На перагібе» і «Крыжавыя дарогі») ад таго, што, апрача вобразаў сілцоўскіх багацеяў, свет, варожы народу, паказаны чамусьці ў безасабовым, абагульненым выглядзе. Гэта акалічнасць значна абмежавала магчымасці аўтара драматызаваць дзеянне, сутыкнуць характары і паказаць бурлівыя сацыяльна-гістарычныя падзеі праз лёс герояў, праз абвастрэнне класавых супярэчнасцей.

Наватарскі па задуме раман, у якім пісьменнік смела ўзяўся за асэнсаванне новага жыццёвага матэрыялу для беларускай прозы, вызначаўся яркімі рэалістычнымі малюнкамі, публіцыстычнай завостранасцю. Звяртаючыся да багатых жыватворных крыніц народнай мовы, Цішка Гартны ўмела карыстаўся бытавой лексікай з выразным дыялектным каларытам роднага Капыля. Вось жывая мова местачкоўцаў: «Няўжо ж ты думаеш, што Рыгор табе раўня? Хто ж Рыгор з сябе? Лапатнік, балагол, галадранец. Ну,

---

[1] Гартны Ц. Сокі цаліны. Т. I. С. 80.

ушчаміў капялюх, дык ужо, думаеш, і паніч. Невялікая мацыя, невялікі хвэрт, нябось Мікола зразу раскусіў — калі і заікнуцца не дае аб ём...» [1].

З сапраўдным майстэрствам выпісаны пейзажныя малюнкі. Вось пачатак касьбы: «Перш рэдкія нясмелыя стукі паляцелі з аднаго двара, адгукваючыся праз вуліцу ў другім, а пасля часцей і часцей, пераскокваючы з двара на двор, з вуліцы на вуліцу, пакаціліся яны срэбным шротам усцяж вуліц, праз гароды і сады, па ўсім мястэчку... Птушкі, што не паспелі вылецець у поле, гавяда, што асталася пры доме, дзеці і старыя, што не адлучаліся ■ мястэчка — усе замоўклі і прыслухоўваліся да ўрачыстых зыкаў кляпання кос. Нават дзярэўцы ў садах настаражыліся і не трапяталі лісцем; нават ветрык, зранку павяваўшы, прыціх паміж платоў... Толькі цёплае паветра, раскалыханае самым стукам, нервова трапяталася пад асвечанымі капяжамі хат, над зелянінаю гародаў, у шчылінах загарадзі. Мэрам бы ўцякала кудысь к лесу, за мястэчка, на прастор, дзе б не гудзелі гэтыя сталёвыя восы» [2]. Удаліся Ц. Гартнаму і урбаністычныя замалёўкі: «Вось ён, Пецярбург! Горад камення і жалеза! Горад палацаў ды фабрык. Гняздо абсалютызму і калыска рэвалюцыйнага руху. Кузня культуры і засценак сярэдневякоўя... Пецярбург гудзеў кіпучым жыццём. Адзін за другім праносіліся стройныя вагоны трамвая, свісталі аўтамабілі і траскацелі рамізнікі. Паводкаю ліліся людзі ў адзін бок вуліцы і ў другі, насустрач і ў бакі» [3]. Трапна перадае Ц. Гартны ў рамане грамадскія падзеі: «Расія жыла пад знакам вайны. З усіх канцоў краіны накіроўваліся да яе заходняй граніцы сотні эшалонаў салдат, аружжа, адзення, ежы. Па асірацелых сёлах затупала апусценне, заняпад. На свежых пожнях глыбей у зямлю палезлі карэнні былля, дзікатраўя. Загойсала здань недастач, разладдзя ў хатах. Настаражыліся сірочыя сэрцы ў чаканні вестак з франтоў чынных армій. Зацяжна, кружнымі шляхамі паўзлі яны, акрываўленыя, авеяныя смерцю, у белых канвертах, з няроўна выведзенымі літарамі да закінутых вёсак, у сумныя хаты. Цёплыя прывітанні бацькам, жонкам і дзецям ■ далёкіх мясцін стылі ў непрагляднай жудзе, енках і жалю» [4].

Крытыка 20—30-х гадоў высока ацэньвала першы беларускі раман «Сокі цаліны», а Гартнаму-раманісту адводзіла адно з першых месц сярод беларускіх белетрыстаў. З вышыні ідэйна-мастацкіх дасягненняў сучаснай прозы відаць пэўная ўмоўнасць і перабольшанасць такой ацэнкі, але «Сокі цаліны» займаюць значнае месца ў гісторыі развіцця беларускага рамана.

---

[1] Гартны Ц. Сокі цаліны. Т. I. С. 171.
[2] Тамсама. С. 300.
[3] Гартны Ц. Сокі цаліны. Т. 2. С. 98.
[4] Тамсама. С. 192.

* * *

Прозай і паэзіяй не вычэрпваецца творчая спадчына Цішкі Гартнага. Сацыяльна-бытавыя драмы «Хвалі жыцця» і «Сацыялістка», прысвечаныя паказу размежавання класавых сіл на вёсцы, не вызначаліся ні жыццёвымі канфліктамі, ні сцэнічнасцю. Спрошчана і павярхоўна напісаны «сцэны з жыцця прамысловага цэнтра» «Дзве сілы».

Найбольш актыўна і плённа працаваў Ц. Гартны ў галіне крытыкі і літаратуразнаўства. Яшчэ летам 1918 года ён прачытаў у Беларускім народным універсітэце ў Маскве цыкл лекцый пра беларускую літаратуру. Пазней на старонках газет «Савецкая Беларусь» і «Літаратура і мастацтва», часопіса «Полымя» ён змясціў шмат артыкулаў і рэцэнзій. Ц. Гартны пісаў пра творчасць В. Брусава і А. Блока, Л. Талстога і А. Міцкевіча, М. Горкага і А. Пушкіна, І. Бехера і В. Елана (Блакітнага). Вясною 1928 г. друкаваўся з працягам вялікі артыкул «Полымя» на Украіне»[1]. Гэта былі нататкі пра паездку Я. Купалы, Я. Коласа, Ц. Гартнага, М. Чарота, М. Зарэцкага на Украіну, сустрэчы з украінскімі пісьменнікамі А. Вішнем, А. Капыленкам, С. Піліпенкам і многімі іншымі літаратарамі, агляд і аналіз літаратуры братняга народа. У гэтым жа годзе выходзіць зборнік крытычных артыкулаў Ц. Гартнага «Узгоркі і нізіны». Аснову гэтай кнігі складаюць даследаванні манаграфічнага характару, прысвечаныя творчасці Янкі Купалы, Міхася Чарота і Алеся Гурло. Артыкул «Янка Купала»[2] вызначаецца імкненнем паказаць рэвалюцыйны змест і цесную сувязь дакастрычніцкай лірыкі паэта з жыццём і думамі беларускага народа. Цікавыя назіранні пра асаблівасці паэзіі і паэму «Босыя на вогнішчы» Міхася Чарота ёсць у артыкуле «Рэвалюцыйным шляхам».

Шмат фактычных матэрыялаў у крытыка-біяграфічным нарысе пра Алеся Гурло («У надзеях над прасторамі»).

Творчыя інтарэсы Ц. Гартнага-крытыка вельмі разнастайныя і шырокія. Тут успаміны пра супрацоўніцтва ў бальшавіцкай «Правде», першыя сустрэчы яшчэ ў дарэвалюцыйны час з Якубам Коласам, рэцэнзія на раман П. Галавача «Праз гады», гісторыя выдання газет «Дзянніца» 1916 года і 1918 года.

Апрача артыкулаў на літаратурныя тэмы Ц. Гартны актыўна выступаў у друку па пытаннях мовазнаўства, тэатральнага майстэрства і музыкі. Аб чым ні пісаў бы ён — пра адкрыццё тэатра ў Віцебску, удакладненні беларускага правапісу, выдавецкія справы — заўсёды відаць былі яго

[1] Савецкая Беларусь. 1928. № 68, 71—73, 75, 78, 79, 81, 84, 85.

[2] Упершыню друкаваўся як уступны артыкул да Збору твораў Я. Купалы (Т. І. Мн., 1925. С. 5—31).

гаспадарлівыя клопаты аб развіцці беларускай нацыянальнай культуры. Праўда, у асобных артыкулах адчуваўся вульгарны сацыялагізм, спрэчныя ці памылковыя думкі (пазіцыя Ц. Гартнага ў так званай «тэатральнай дыскусіі»).

Вялікае месца ў творчасці Ц. Гартнага займае публіцыстыка. Ніхто з беларускіх пісьменнікаў не быў у гады грамадзянскай вайны і 20-я гады так цесна звязаны з газетай, ніхто так аператыўна і актыўна не выступаў у перыядычным друку, ніхто так не адклікаўся на розныя грамадска-палітычныя падзеі, як Цішка Гартны. На старонках «Дзянніцы» ён выступае шчырым прыхільнікам дружбы савецкіх народаў, вітае барацьбу беларускіх партызан на тэрыторыі, акупіраванай немцамі, выкрывае варожую дзейнасць беларускіх буржуазных нацыяналістаў.

Актыўны грамадскі і дзяржаўны дзеяч Ц. Гартны некалькі разоў ездзіў за мяжу. Наведанне Германіі, Чэхаславакіі, Францыі і Польшчы ўзбагаціла яго новымі ўражаннямі, пашырыла яго творчыя даляглядзы. Асабліва добра пазнаёміўся ён з жыццём і барацьбой рабочага класа ў Германіі, дзе яму давялося ў 1922 г. знаходзіцца ў працяглай урадавай камандзіроўцы (там па заказу Савецкага ўрада друкаваліся беларускія падручнікі). Уражанні і назіранні з гэтай паездкі склалі нарыс «Ад Берліна да Мінска» [1].

Вельмі цікавымі і змястоўнымі атрымаліся падарожныя нататкі «Па чатырох краінах (уражанні і сапраўднасць)» [2]. Цішка Гартны з Міхасём Чаротам і Міхасём Зарэцкім ездзілі ў 1927 г. у Латвію (тады буржуазную рэспубліку), Германію, Чэхаславакію, Францыю для наладжвання культурных сувязей. Пачынаючы з кастрычніка 1927 года і канчаючы студзенем 1928 года ў 32 нумарах газеты «Савецкая Беларусь» друкаваўся гэты нарыс. Тут наведанне Рыгі і сустрэчы з латышскім паэтам Лінардам Лайценам, пасля многа ўвагі Берліну як прамысловаму цэнтру, дзе рабочы клас вядзе барацьбу за свае правы. Ёсць асобныя раздзелы «Спатканне з І. Бехерам» і «Гутарка з песняром Іаганам Бехерам». Цікавыя звесткі пра Чэхаславакію, славуты курорт Карлавы Вары (Карлсбад), дзе іхняя турысцкая група сустрэлася з Я. Купалам і яго жонкай, а ў Празе з вядомым чэшскім паэтам і перакладчыкам беларускай паэзіі Адольфам Чэрным, прафесарамі Мацеем Мурко і Яўгеніем Ляцкім. Амаль трэць нарыса займае апісанне Парыжа.

У часе падарожжаў за мяжу Цішка Гартны — актыўны прапагандыст пралетарскага інтэрнацыяналізму — наладзіў сяброўскія сувязі з Юліусам Фучыкам, Здэнекам Няедлым, Іяганесам Бехерам, Францам Вейскопфам, Ёзэфам Гора і

---

[1] Савецкая Беларусь. 1922. № 195, 199, 203—206, 208, 220.

[2] Савецкая Беларусь. 1927. № 240, 242, 243, 245, 248, 250, 252, 255, 257, 258, 262, 264, 267, 270, 273, 276, 279, 281, 283, 285, 287, 289, 292, 296; 1928. № 3, 5, 7, 9, 10, 14, 15, 17.

іншымі, прыцягнуў іх да супрацоўніцтва ў часопісе «Полымя». У гэты ж час у перакладах на нямецкую, чэшскую і славацкую мовы друкаваліся вершы і апавяданні Ц. Гартнага. Многае зрабіў ён для развіцця творчых сувязей беларускай літаратуры з літаратурамі братніх народаў СССР, перакладаў з рускай[1] і ўкраінскай на беларускую мову. Перакладалі і Ц. Гартнага: у Ленінградзе выходзяць два зборнікі апавяданняў, апавяданні «Штрэйкбрэхер», «Чырвонаармеец Панкел Ліпа», «Трэскі на хвалях» і «Гаспадар» асобнымі кнігамі ў Харкаве, выдаецца кніга і на польскай мове.

Сярод нарысаў трэба адзначыць цыклы «У глыбі Беларусі» і «Са Случчыны», напісаны яны пад уражаннем наведвання роднага Капыля. Гэта нататкі пра жыццё мястэчка і вакольных вёсак, клопаты селяніна пра зямлю і ўраджай.

У іншым плане, больш схематычна напісаны нарысы, прысвечаныя працоўным будням мінскага завода «Камунар» (цяпер завод імя Кірава), сабраны яны ў кнізе «Наступ на горны» (1932). Справа ў тым, што Ц. Гартны меркаваў напісаць раман «Рассечаны вузел» з жыцця рабочага класа, і нарысы былі зборам у нейкай ступені сырога яшчэ фактычнага матэрыялу на гэтую тэму.

Большай увагі заслугоўвалі апавяданні Ц. Гартнага, у якіх ён паказваў простых рабочых, іх радасці, няўдачы і перамогі, нараджэнне новых адносін да працы («Гаспадар», «Касьян Рулін» і інш.).

Трэба адзначыць і тое, што Ц. Гартны адным з першых у беларускай прозе выступіў з апавяданнямі на антыфашысцкую тэму, паказаў жыццё і рэвалюцыйную барацьбу рабочага класа і інтэлігенцыі Германіі («Смерць Германа Васермана», 1931; «Краскі ў памыях», 1932).

Пісьменнік быў повен творчых сіл, ён падрыхтаваў даследаванне пра беларускі дарэвалюцыйны друк, распачаў працу над раманам на рабочую тэматыку, але дзейнасць яго трагічна абарвалася.

Памёр Цішка Гартны 11 красавіка 1937 года.

Цішка Гартны належыць да ліку тых, хто пачынаў будаваць падмурак савецкай літаратуры. Былі на яго творчым шляху значныя мастацкія адкрыцці, былі і няўдачы. Але творчасць Цішкі Гартнага, які ўсю сваю сілу і энергію аддаў умацаванню заваёў рэвалюцыі і развіццю беларускай нацыянальнай культуры, засталася жывым адбіткам часу, калі нараджалася і сцвярджалася новае ў жыцці і літаратуры.

С. АЛЕКСАНДРОВІЧ

[1] Гартны Ц. пераклаў на беларускую мову першую кнігу рамана А. Фадзеева «Апошні з удэге» (Мн., 1932), пачаў перакладаць «Мёртвыя душы» М. Гогаля.



# ВЕРШЫ

1909-1935

## БЯЗДОЛЬНЫ

*Пасвячаю Янку Купалу*

Цяжка жыць без долі,
Што рабіць — не знаю;
Хіба на свет выйду,
Долі пашукаю.

Выйду пад гаёчак,
Крыкну на ўсё поле:
Дзе так запрапала
Ты, без сэрца, доля?!

Можа, ты, зялёны
Родненькі гаёчак,
Схаваў маю долю
Ў цёмны вугалочак?

Эй, скажы, мой мілы,
Пашкадуй дзяціну,
Памажы ты гору,
Паймі сіраціну!

Дарма я пытаю:
Шуміць лес няміла...
Не пачула доля,
Эх, пачуй, магіла!..

Капыль, 1908

## ДА НЁМНА

Эх ты, Нёман-рака!
Ці ты думаў, ці сніў,
Як слязу бедака
Ў свае воды лавіў;
    Як стаяў над табой
    Сын нядолі худы
    І над цёмнай вадой
    Спяваў песні нуды,—
Што надыдзе пара —
Знемажэнне міне,
Вызвалення зара
Над народам блісне?
    Што з балючых грудзей
    Беларусі дзяцей
    Над табой загудзе
    Песня вольных людзей?

Капыль, 1909

## ПАЖАРЫСКА

Вось і пажарыска: агнёвыя сцежкі
    Як гладкае поле ляжаць.
Усюды дымяцца яшчэ галавешкі
    І печы, як страхі, стаяць.
Без толку валяюцца хатнія рэчы:
    Паломаны столік, тапчан,
Саганчык з капустаю вынуты з печы,
    Старэнькі, падраны лахман.
Дзе яблынь шкілеты, дзе ліпы, рабіны
    Нахмурана, ціха тырчаць;
Як рукі старыя, звіслі галіны,
    На попел, на сажу глядзяць.
А вот і хлявок, дзе кароўка рыкала;
    Звуглёная шула дыміць,
А вунь, дзе нядаўна гуменца стаяла,
    У кучы салома курыць.
Трасуцца і плачуць галодныя дзеці,
    А бацька? — вачам хоць не вер,
Без долі у горы век зжыў ён на свеце,
    Што ж будзе з няшчасным цяпер?

Глядзіць ён у жалі на голу зямельку,
    Дзе хатка старая была,
Што грэла яго даражэньку сямейку
    І маткаю роднай была...
І як жа цяпер з гэтым месцам расстацца,—
    Так цяжка яго пакідаць,—
Дзе раптам прапала старанная праца,
    Чаго ўжо не скора дастаць?
Куды ім цяпер адзінокім папхнуцца?
    Дзе помачы вышукаць, дзе?
Ці будзе каму на іх плач адгукнуцца,
    Руку падаць у бядзе?

Капыль, 1909

## СЯВЕЦ

Ўставай, сявец! бяры сяўню,
Аўса, вады давай у волю
Свайму ты вернаму каню
І ўжо рыхтуйся ехаць ў поле.
    Прыйшла вясна, і там цябе
    Чакае вызвеўшая ніва;
    Яна гатовая к сяўбе
    Й сяўца чакае ўжо рупліва.
За зіму ўспрэўшая зямля
Табе аддасць за працу многа!
Ўставай, сявец! Няхай сяўня
Не будзе пуста і убога.
    Рукой зярнят бяры паўней
    Ды кідай мерна жменя ў жменю;
    Са збожжам ў сэрцы думкі сей
    Надзеі, волі, адраджэння.
Ўставай, сявец! І тое знай,
Што думак глеба не абмане,
А дасць багаты ураджай
За пот праліты, за старанне.
    Ўставай, сявец! Ідзі, ары
    Здзярнелай нівы твае гоні;
    Прыйшоў твой час — ужо пара
    Пачаць сяўбу яшчэ сягоння!

Капыль, 1909



Сонейка вечна зіяе,
Нядоля ж не вечна жыве,—
І да нашага любага краю
Шчасце вясны прыплыве.

1909

## ЗАГУДЗІ ТЫ, ВЕЦЕР

Загудзі ты, вецер,
Скалыхні вярбіну;
Заспявай ты песню,
Мілая дзяўчына!

Заспявай як птушка
Летняю парою,
Как было мне шчасна
Пасядзець з табою;

Каб сагнала песня
Ўсю нуду ліхую
І ўвабрала душу
Ў вопратку другую:

Радасці, вяселля,
Шчасця і любові...
Каб нуды сарвала
Моцныя аковы...

Заспявай, галубка,
Заспявай, дзяўчына!
Скалыхні ты, вецер,
Скалыхні вярбіну.

Капыль, 1909

## ВОСЕНЬ

І сумна, і нудна, і вецер пяе —
Асенняя песня жудой аддае...
Прыбрана у полі, і пуста вакруг,
Адзежаю смутна апрануты луг.

Расліны жывое нідзе не відаць,
Ні голасу птушак нідзе не чуваць.
Толькі і ўбачыш па чорнай раллі
Сямейку сяўцоў невясёлых калі.

Ды мучаюць вуха ўсё крыкі варон,
Злятаючых ў кучу з усенькіх старон.
Ды вока яшчэ хіба можна спыніць
На нівах адзетых, дзе рунь зеляніць.

І сумна, і нудна! Пад вечар і з рання
Бялеюць усюды густыя туманы.
І хмаркі, як дзеці заклятай нуды,
Пярэсцяць і смуцяць там неба ўсягды.

І сумна, і нудна! І жаль так бярэ,
Што восень ізноў зажыла на дварэ,
Што так неўспадзеўкі ў негаданы час
Цяпло і прыволле пакінула нас.

1909



Без пары памёр ты, браце,
    Адышоў ад нас,
Не знайшоў ты ў роднай хаце
    Жыцейка пакрас.

Не дала ліхая доля,
Што ж хацеў ты мець,
Каб у пакуце і няволі
Моцна не цярпець.

Ажно скрыдлы тваіх думак
Вецер адсякаў
І смяротны пацалунак
З смехам пасылаў.

Вось змрадованае сэрца
Ў хвалях пачуцця
Запрасіла лепей смерці,
Чымсь пакут жыцця.

## РОДНАЙ КРАІНЕ

Я люблю гэты вобраз краіны,
Дзе відаць на абшары кругом
Курганы, і пустыя раўніны,
І балоты, зарослыя мхом.

Я люблю гэты вобраз краіны,
Дзе Дзвіна й чысты Нёман плывуць,
Між лясоў,
паміж гор,
праз лагчыны
Свае воды у мора нясуць,

Дзе раскінуліcь шэрыя вёскі,
А ў іх родныя песні чутны,—
Песні —
долі людской адгалоскі,
Песні —
жальбы загнанай душы.

Я люблю гэты вобраз бясконца,
Тыя вёскі, балоты, гаі,
Бо радзіўся я ў гэтай старонцы
І памру мо у гэтай зямлі.

Магілёў, 1910

## КРАСУЙ, ЗБОЖЖА!

Красуй, збожжа майго краю,
Каласісь багата!
Жджэ за працу ураджаю
Ад цябе араты.
Хлебароб, аддаўшы сілы
Свайму полю-ніве,
Усміхнецца табе міла,
Што ты урадліва.

* * *

Красуй, збожжа майго краю,
Каб зярно злілося
У адплату аратаю
Ў ядрыя калоссі!
Сонца, з неба шлі праменні,
Залаці чароўна!
Ў зямлю кінута насенне —
Ўродзіць колас поўны.

* * *

Красуй, збожжа майго краю,
Убірай палеткі!
Хай з табою аратая
Весяляцца дзеткі.
Плён за працу верне ніва —
Ўцешыць думкі, вока,
Як паўныя вазы жніва
Пагрымяць да току.

Вількамір, 1910

## У ДАРОЗЕ

Ў небе зоры міргаюць, гараць
Ды зіяе яскравага месяца круг,
Дзе-нідзе кучкі хмарак вісяць,
То сабраўшыся ў колка,
То звіўшысь ў ланцуг.

Паміж лесу расцёгся туман,
Нібы спушчаны з неба дыван.

Між шырокіх зялёных палёў
У'ецца вёрткая вузкая сцежачка-пуць,
Праз лясы каля гор ды равоў
Коні зважна па ёй дробнай рыссю бягуць.

І ў спакойным прасторы кругом
Чуцен водгалас рэзвенькіх бом.

У баку дзесь траскоча дзяргач,
Ды цвыркунчыка рэзкая рэч трапаціць...
«Но, малыя! старайцеся ўскач!»
Паганяючы коні, рамізнік крычыць.

«Паспяшайце старанна, гэй, гэй,
Каб да месца даехаць хутчэй!»

І ахвотныя коні спяшаць,
Чым хутчэй ды праворней ляцець ды ляцець...
І ўваччу маім нівы мігцяць,
Ды вятрыска супроцьны паціхеньку дзьмець!

«Гэй, запой што, фурман, для мяне,
Каб ды спаць не хацелася мне!»

Фурману я паціхай шапчу
І чакаю спявання на гэта ў адказ,
Прытаіўшыся, чутка маўчу,
І вось чую, пяе: «Не апошні я раз

Цябе бачыў, радзімая, там!..»
Яму ж рэха ўтуруе: га-ам!

І так лёгка на возе сядзець
Пад вясёлыя песні рамізніка й бом
Ды удаль за дарожкай глядзець
Пад чароўным нябесным ў агнёх дываном,

Паглядаці, як коні бягуць
У сівую туманную пуць!..

Магілёў, 1910

## ВОСЕНЬ

З поўначы цёмнае, сіверу дальняга
Нудная восень прыйшла.
З поля убранага, з лугу зялёнага
Жыцце-красу прыняла.
Холадам, сцюжаю разам павеяла,
Смерць за сабой прынясла.
З дрэва прыбранага, лісцем адзетага,
Ўборы сарвала, страсла.
Птушак міленькіх з краю радзімага
Ў вырай загнала ад нас;
Песні іх мілыя, дзіўна пяяныя
Ветрам заглушыла ўраз.
Ветрам, навеяным з дальняга сівера,
Хмар прынясла за сабой,
Неба высокае, сінекрыштальнае
Ўсё спавіло туманом.
Восень ты нудная, восень дажджлівая,
Ты немінуча ўсягды.
Ў сэрца балючае, ў душу сіротную
Многа ліеш ты нуды.

1910

## БАЧЫЎ Я...

Я бачыў, як хмары на небе збіраліся,
Як з кожнай часінай яны пагушчаліся,
Цямлівасцю сажы хутчэй фарбаваліся
Й шпарка кудысьці плылі,
Сеючы цем па зямлі.

Бліскучае сонца пад імі закрылася,
Заслонаю, здэцца, вакол зачынілася
Усё, што хоць каліва светлым зарылася,
Стухла і знікла нашчэнт!
Жудасным быў той мамэнт!

Прагучае сэрца ў грудзёх патрывожаных
Як бы скамянеўшы, або пераможана
Замерлым маўчала, жудою абложана;
Думкі снавалі весь час —
Бачучы страшны абраз.

Усё, што ад сонца па шчэлях хавалася,
Уцехаю бурнай святошняй вабралася
І раптам у купу адну пазляталася
    Свята сваё святкаваць —
    Зручны мамэнт карыстаць.

І толькі ўзнялася гульня іх развівая,
Як раптам сапнула вятрыска бурлівае
І з неба пагнала ўсцяж хмары цямлівыя
    Дзесьці далёка, за бор —
    Сонцу даючы прастор.

І следам за цем'ю хутчэй паказалася
Праменне, што ў небе за хмарай хавалася,
І мігам з зямлёю халоднай звянчалася,—
    Ў песнях і неба, і дол
    Рэзвым жыццём забурліла вакол.

А сэрца, спаткаўшыся з хуткаю зменаю,
Змярцвеласць сагнала пакутную, пленную,
Забілася радасцю соладка-пеннаю,
    Чуючы голасна воклічны: «Устань!
    Ўсё, што жыве, аддаць сонцу вітань!»

Капыль, 1910

## КАВАЛЬ

Многа працы ў мяне —
Хоць ўсю пору працуй!
Грэй жалеза ў агне,
Вымай з горыну й куй.
    Молат важкі трымай
    Над кавадлам якраз,
    Знізу ўверх паднімай,
    Зверху ўніз, раз у раз.
Адвярніся наспех,
Як сумееш урваць —
Не забыцца, каб мех
У свой час паддуваць.

Адно іскры ў бакі
І да верху лятуць,
Як паважна з рукі
Малаты важка б'юць.
Раз — другі, і сашнік
Можа ў поле ўжо браць
Гарацешны мужык,
Сваю ніву араць.
Трэба шворан у воз —
Я згатую як след;
Абіць буксу калёс —
Я й да гэтага мэт.
Рукі знаюць настрой,
Молат ўслушны ка мне.
На ўсё жыцце цяжкой
Працы хопіць ў мяне.

Магілёў, 1911

## ДРУЖНА З АХВОТАЙ...

Дружна з ахвотай,
Гэй, за работу,
Брацця, скарэй!

З песняю зычнай
Ў працы прывычнай
Будзе спарней.

Гора з нядоляй
Не знойдуць патолі
Болей сродзь нас;

Весела й хутка,
Мінута ў мінутку
Сойдзе нам час.

Ў стуку і груку
Забудзем мы муку
Працы сваёй.

Шчыра і смела
Гайда да дзела
Цеснай сям'ёй.

Там, дзе цярпенне
Родзіць імкненне —
Стане расці

Семя жывое
Шчасця людскога
Ў нашым жыцці.

Дружна з ахвотай,
Гэй, да работы,
Брацця, скарэй!

Праца рупная
Хай прывітае
Нас ўсіх хутчэй...

Вількамір, 1912

## ПЕСНЯ ЖНЯІ

Пад сярпом маім крывым
Жыта хутка гнецца,
Сноп за снопам у радкі
Покладам кладзецца.

Не баюся спёкі я
Сонца агнявога
І не чую, што баляць
Рукі, крыж і ногі.

Пот ліецца ручайком,
Смага забірае;
Я ж вясёлая ўсё жну,
Жну ды падпяваю.

Час паспешна так ляціць —
Скора вечар будзе,

І я нівачку сваю
Так дажну, як людзі,

Ды паспею мо яшчэ
У снапы звязаці.
Ох, люблю-люблю сваё —
Сваё жыта жаці.

Як сажну яго я ўсё
І звязём дахаты,
Будзем хлеба на год мець,
Будзем мы багаты.

А салодак свой хлябок
(Каб жа быў ён вечан!),
Хоць і чорны, і крупны
І няўмела спечан.

Эх, хутчэй-хутчэй, рука,
Ты з сярпом махайся!
Будзь ты, жыта, ядраным
І ўмалотным ўдайся...

Пад сярпом маім крывым
Хутка жыта гнецца,
Сноп за снопам у радок
Покладам кладзецца.

Вількамір, 1912

* * *

Не хачу забыцця я ў цудоўных чарах,
Каб не мець ніякіх думак ды клапотаў,
А сядзець бязмоўна у салодкіх марах,
Апоены макам ціхае дрымоты.

Не прашу забыцця на зямлі панурай,
Не прашу нямога, дзіўнага спакою,
А прашу я моцна і прашу я буры
Цёмнае, сібернай, страшнае ды злое,

Каб ад ветраў шумных ўкол зямля траслася,
Каб танула неба ў завірушных гулах,
Ад якіх маланка з громамі б лілася
Да зямлі дрымотнай, да зямлі нячулай.

Не прашу спакою, не прашу забыцця,—
Бо жыццё заўсёды ў цішы замірае,—
А прашу я буры, бо ад буры жыццё
З сілаю магутнай біцца пачынае.

Вількамір, 1911

## ПЕСНЯ ГРАБАРА

Я ўсё жыцце свае, дзень у дзень, год у год
Землю цяжкай лапатай капаю, як крот;
Век пад сонцам й дажджом гну пакутную спіну,
Раскідаючы глыбамі торпу і гліну,
Ліпкі глей, бы смалу, ды рассыпчаты жвір;
Я праводжу канавы удоўжкі і ўшыр,
Нібы стужкамі землю абвязваю ўкруг.
Я дарогу гранічу, гранічу і луг,
І спускаю з балотаў я лішнюю воду,
Ды рэжу раўкі для платоў агароду.

Так ўсё жыцце свае варушуся ў зямлі,
Хоць пад сонцам жыву, а калі-нікалі
Толькі бачу я вокам адкрытым яго.
Хоць не змерыць наўкола прастору ўсяго
Неаглядных палёў, неаглядных лугоў,—
А кармлюся красою я іх дзеля сноў,
І у мёртвым сваім, незварушаным сну
Бачу шчасця свайго ў надыходзе вясну.

Я ўсё жыцце свае, дзень у дзень, год у год,
Землю цяжкай лапатай капаю, як крот,
І так многа, я многа яе накапаў!
Направодзіў шырокіх і доўгіх канаў
І прарэзаў я цэлыя мілі равоў:
Шмат, ой шмат я са свету балотаў так звёў,
І багата вады праз равы прапусціў,

А ў ваду тую шмат я крыві свае ўліў
Ды з гарачым сваім яе потам змяшаў,
Пад вадою ж на дне свае гора хаваў.

Я ўсё жыцце свае,
дзень у дзень, год у год,
Землю цяжкай лапатай капаю, як крот.
Натачыўшы абклад я лапаты свае,
Вечна долі шчаслівай шукаю сабе.
У халоднай нячулай зямлі,
Можа, хто захаваў яе, матку, калі
І дагэтуль яна без рухання ляжыць,
А зямля не пускае яе к людзям жыць.
Вось яе тут шукаю цяпер,
І як толькі знайду, пракапаю ёй дзвер,
Нарасхлест перад ёю, слугой адчыню,
Хай нясе яна свету ўсю радасць сваю.

Я ўсё жыцце свае,
дзень у дзень, год у год,
Землю цяжкай лапатай капаю, як крот,
І як многа ужо я яе накапаў!
Што ж за працу сваю я ў адплату дастаў?
Што за плён мне зямля за труды прынясла,
За той пот і за кроў, што сабе узяла,
За бурлівую рэчку гарачых тых слёз,
Што ўсё жыцце мае паабмыў імі лёс?..
О, дала яна мне, ой за працу дала;
З калючковых раслін мне вяночак спляла,
З медзі звонкай, цяжкой даравала шнурок,
А дарогу жыцця ухарошыла ў мрок,
Каб я шоў, як сляпы, каб бясконца я йшоў,
Землю вечна капаў і дабра не знайшоў.

Магілёў, 1911

## Я ЖЫВУ

Я жыву ў квятох валошкі,
Ў спелым жыце між дарожкі,
У пшаніцы спалавелай,
Ў грэчцы пахкай, ў грэчцы белай.

Я жыву ў рэчцы, ў яе мкненні,
Ў лісцяў вербных шалясценні,
У вятрыску ціхавейным.

Я жыву у ясных зорах,
Ў неаглядных тых прасторах,
Што павіслі парасонам
Над квітучаю зямлёю,
Нібы сходзячыся з ёю.

Я жыву у ясным сонцы,
Ў яго праменнай каронцы,
Ў яго сіле незмяранай;
У вясёлцы, ў зордарожжы,
Ў іх нязмераным разложжы.

Я жыву у шчабятанні
Пташак рэзвых цёплым раннем,
Ў шумным бары, ў калыханні,
Дрэў стагодніх ў стройным гудзе.

Жыву ў кожнай з'яве-цудзе,
Непрыкметным і бягучым,
Жыццятворчае прыроды,—
Бо я сын яе свабоды,
Зоркабліснай і магучай!

Капыль, I/IX-1912

* * *

Ўзышоў месяц і паўкругам
Ў цёмным небе засвяціўся,
Па дуброве і над лугам
Срэбным праменем разліўся.

Ў зачараваным адзенні
Спіць трава і спяць кусточкі.
І замёрлі ў шалясценні
Руцяністыя лісточкі.

Украдкай, ціханька гамоне
Мовай свежай і рачыстай,
Нібы грае, нібы звоне,
Ручаёк вадою чыстай.

І ні песні, і ні зыку
Круг-вакол не раздаецца.
Нямой сцішы цыркім блікам
Месяц весела смяецца.

Капыль 31/Х-1912

## Я ЛЮБЛЮ...

Я люблю, калі небны абшар,
Неспадзевана ўсім, нечакана,
Убярэцца ў адзежыну хмар,
Буйным ветрам здалёку нагнаных;

Калі гром над зямлёй прагрыміць,
Аж навокал зямля скалыхнецца,
Ды маланка агнём пачне неба паліць,
Аж яно на кавалачкі рвецца;

Калі вецер свой ўзвей завядзе,
Разбураючы ўсё прад сабою,
І вакол, як ні глянь, ўсё гудзе
Ў несустрыманым буйным развою...

Я люблю гэты час!
Яго ўздым
Непакорнай свабоднай стыхіі!
Нешта блізкае бачу я ў ім,
Што нутро маё радасцю мые!

Капыль, 1912

## ДЗЯЎЧЫНЕ-ТАВАРЫШУ...

Я, як друга, цябе пакахаў
І таварыша маю ў табе,
Бо ў любоў да цябе я ўліваў
Свой гарачы прызыў к барацьбе.

Я у думках гарачых гадаў
Аб нядолі краіны свае,
І цябе я каханым прызваў
Са мной жыццё аддаць за яе.

Вось, дзяўчынка, ты любка мая,
Будзь таварышам вечна ты мне,
І хай праца з маёю твая
Йдзе на шчасце маёй старане.

1912

## ДА НАДЗЕІ

Не пакінь ты, надзея, мяне,
На адну не пакінь ты хвіліну,
Дай глыбокаю вераю мне
У васкросшую верыць краіну.

Напаі маю душу віном
Нестрыманай яскравай свабоды
І кажы мне галосна аб том,
Што заззяе яна для народа,

Які сілай панурлівых дней
З непрыветнаю доляй звянчаны...
Пей жа песні, надзея, мне, пей
Аб васкросшай краіне каханай!

Капыль, 1912

## ВЕТРУ

Вей ты, вольны вецер,
Вей па чыстым полі
І шукай усюды
За мяне ты долі.

Праляці зямлёю
Скрозь па свеце белым
Ды шукай старанна,
Ды шукай умела.

Можа, яна блудзіць
Па лясах,
                пустынях,
Збіўшыся з дарогі,
Ў пустках дзікіх гіне.

Можа, злыя людзі
Дзе яе стрымалі
І ў замкі з жалеза
Яе закавалі,

Ды яна не можа
Вырвацца на волю,—
Усё яе пільнуюць,
Не даюць патолі...

Вей жа,
            вольны вецер,
Вей на свеце гэтым
І шукай мне долю
Ды шукай умела.

А калі дзе найдзеш,
Прывядзі з сабою,—
Я хаця на хвілю
Падзіўлюся ёю.

Пагляджу,
                пабачу,
Што яна за дзіва,

Ці папраўдзе можна
З ёю жыць шчасліва.

А табе ж за гэта,
Вецер, адплачуся:
Перад тваёй моцай
Нізка пахінуся.

1912

## ЗВАНАР

Не праспі, званару!
Толькі з неба гляне
Да зямлі маркотнай ясная зарніца,
Прагані хутчэй ты соннае драманне
І усходзь паспешна ўгору, на званіцу;

Размахні рукою і званова сэрца
Скалыхні сярдзіта.
Хай грымяць удары,
І хто спіць, хто дрэме, ўстане-скалыхнецца
І спяшыць на зовы.
Не праспі, званару!

Ўсякі, хто пачуе, далей спаць не будзе —
На твой бом прызыўны не міне з'явіцца;
Толькі захавай ты у звановым гудзе
Моц сталёвай мовы, каб маглі разбіцца

Аб яе да звання рабскія устоі,
Каб ён гулкім бомам ўскалыхнуў абшары...
Няхай рынуць ў бойку цеснай грамадою
Тыя, над кім віслі цяжкай долі кары.
Не праспі, званару!

Вількамір, 1912

## ПЕСНІ ГАРБАРА

### I

Ах, як стрэлка марудна ідзе,
Бы знарок хоча час працягнуць!
І не ведае болю грудзей,
Што дзяннога канца яны ждуць.
Нібы нехта трымае яе:
А ні ўперад, ні ўзад не спяшыць!
А так хочацца-хочацца мне
Ўжо работу сваю супыніць!
Цэлы дзень я за брудным сталом,
Цэлы дзень скуру цвёрдую скроб,
Стаючы укапаным калом,
Я задухай атрутнаю соп.
Не глядзеў і не бачыў нічуць,
Што там ёсць на дварэ, за акном:
Ці там ветры халодныя дзьмуць,
Ці зямля апавіта цяплом.
Навакола чатыры сцяны,
А на іх запляснелая столь,
У табе захавалі яны
Маю крыўду, жаданне і боль.
Вось і вечар... цяпер я на міг —
На адзін — сабе волю найду,
Кіну-рыну усё і усіх
Ды у поле я к лесу пайду.
Там срэдзь галу зялёных лугоў
Я адкрыю збалелую грудзь,
І мне з пахам прынадным кватоў
Ветры цёплыя ўцехай падзьмуць.
Яны прагную душу маю
Ўпояць воляй шырокіх палёў,
Упрыгожаць пакутную ўсю
Цеплатою пахучай сваёй.
А як сілы — жывіцелькі той
Набяруся даволі ў палёх,
Мне лягчэй стане ў працы цяжкой
У майстэрні, ў сцянах чатырох.

Вількамір, 1912

## II

Сагнуўшыся, я ля варстата стаю —
Скуру весь дзень без спачынку я гну,
    Я скуру ўсё гну,
    Нядолю кляну —
    І песню пяю.
Дзёгаць і лой мае рукі раз'елі,
Шчокі ў гразі ды смуродзе шчарнелі,
    Ружа завяла,
    Шчасце прапала,—
    Скура забрала...
Там, за акном, ціха неба сінее,
Сонца там дзіўна і свеціць і грэе,
    Я ж у спякоце,
    Ў гразі і ў поце,—
    Я на рабоце...
Цягнуцца к лесу чароўныя далі;
Мураўкай, поплавам землю заслалі
    Як дыванам;
    Там ноччу і днём
    Вяселле кругом...
А я адарваны ад гэтай красы,
Запёрты нядоляй ў чатыры сцяны
    З сабачкай, з нажом
    І ноччу, і днём
    Стаю за сталом...

Вількамір, 1912

## III

Гэй, не тамецеся, рукі,
Ногі, пакіньце дрыжаць!
Многа шчэ ўперадзе мукі,
Прыйдзецца многа прыняць...
Гніся ж ты, выцяжка, гніся,
Сілы, брат, болей давай!
Стой ля стала, не хініся,
Часу не траць, не цярай.
    Шоргай, сабачка, паволі,
    Скуру паважна скрабі,
    Нам не пазбыцца нядолі,
    Што ты сабе ні рабі.

Гэй, не глядзі на нічога,
Вока нічым не блазнуй!
Тут твая сходзіць дарога,
Стой жа, браток, і працуй...
Дня хоць не бачыш і ночы,
Плечы хай корчыць, шчыміць,
Пот залівае хай вочы,
Трэба рабіць і рабіць.
Шоргай, сабачка, паволі,
Скуру паважна скрабі,
Нам не пазбыцца нядолі,
Што ты сабе ні рабі.
Трэба рабіць, калі трэба
Кожын дзень голад стаміць
Чорным кавалачкам хлеба,
Трэба рабіць, кабы жыць...
Дотуль рабіць, покуль сілы
Ўжо не пакінуць трымаць,
Кроў не застыгне у жылах,
Сэрца не кіне ўдараць.
Шоргай, сабачка, паволі,
Скуру паважна скрабі,
Нам не пазбыцца нядолі,
Што ты сабе ні рабі.

Вількамір, 1912

## IV

Я рабочы-гарбар,
Рыцар працы цяжкой,
Я з жалезнай душой,
З сэрцам палкім, як жар.
Ў вачох іскры маіх,
А жалеза ў руках,
Скура гнецца ад іх
Ў адзін міг, ў адзін мах.
Ці задушша ці чад —
Усё на сэрцы маім,
Але ўстрашыці нат
Не здалее нічым.
Кроўю цёплай сваей
Абліваю тавар,
А слязою з вачэй,
Што сплывае праз твар,

Харашу я яго,
Дзеля густу людзям...
Не, жыцця я свайго
Для другіх не аддам.
    Я здружыўся з трудом,
    Я ў ём рос, я ў ём крэп;
    Люблю мець за сталом
    Запрацованы хлеб.
Не хачу, не прывык
Склаўшы рукі хадзіць:
Я гарбар — працаўнік,
Я жыву — каб рабіць.
    Маю сілу і гарт —
    Імі грудзі гараць...
    Ды што ў гэтым я варт,
    Што магу працаваць,
    Не гатовае браць?

Вількамір, 1912

## V

Не здавайся, гарбар,
Ты за працай сваей
І на шчасця прыход
Не заплюшчвай вачэй!
    Песню вольную пей
    У дыму, ў духаце,
    І надзея твая
    Няхай кветкай цвіце.
Бо дзе сіла жыве,
Дзе работа кіпіць,
Там насення зярнё
Лепшай долі ляжыць.
    І ты мукай сваёй
    Глебу ладзіш яму
    І сам сееш яго
    Ў заарану зямлю...
Не здавайся, гарбар,
Ты за працай сваей:
Глебу пільна гатуй
І ў ёй шчасце, брат, сей!

Вількамір, 1912

## VI

Я гарбар малады,
Я вясёлы ўсягды,—
Як працую — пяю,
    Цэлы дзень за сталом
    Я з сабачкай, з нажом
    Неутомна стаю.
І вясёл, і рачыст,
Я пад грук і пад свіст
Цяжкі труд прадаю.
    Вось ў дыму, у брыдзе
    Ля братоў, ля людзей
    Шчасце й долю кую.
Хоць ад працы мае
Часам мне не стае
Нат яды даставаць,—
    Не гарую патом
    Я задужа аб том,
    Як іду працаваць.
І працую ад сіл,
Бо труд вельмі мне міл,—
А за працай пяю.
    Я гарбар малады,
    Я вясёлы ўсягды,
    Бо я шчасце кую.

Вількамір, 1912

# ГАРБАР НА ВАНДРОЎЦЫ

*Прысвячаецца Цімоху Гамзе*

Дожджык пакрапляе,
Дзень стаіць халодны,
Шпаламі шагае
Ў пуць гарбар галодны.
    Ногі чуць клыпаюць
    І грабуць нясмела;
    Вочы пазіраюць
    Сумна, асавела.

Апусцілісь рукі
Ад цяжкой утомы...
Дзе ж сканчанне мукі
Яго — невядома.
    Сэрца болем рэжа,
    Сэрца болем плача...
    Ў зношанай адзежы
    Холадна, бядача!
Косці боль ламоча,
Цяжар дацінае...
Гарбар есці хоча,
Хоча — ды не мае;
    Ўчора йшчэ з астаткам
    Грошы ён расстаўся:
    Ў месцы на дзесятку
    Ён падмацаваўся.
І пайшоў на вочы
Холадам, слатою,
Каб дайсці да ночы
Ў месца дзе другое;
    Каб хаця дзе мала
    Працы расстарацца:
    Сэрцу б лягчэй стала,
    Як ісці бадзяцца.
Але што ж, не чуюць
Людзі і не бачуць,
Як браты гаруюць
І ў нядолі плачуць.
    А на крык: «работы!»
    — «Ў нас няма!» — гукаюць,
    І ўнутру з ахвотай
    Далей адсылаюць,
Не спытаўшы брата,
Ці ён есці хоча,
Ці ён знойдзе хату
Адпачыць уночы...
    Вось ідзе памалу,
    А куды — не знае;
    З шпалы ды на шпалу
    Ціханька ступае.
Падбіў ногі моцна
І стаміўся дужа;
На людзей ён злосны,
Злосны і на сцюжу.

З гораду у горад
Блукае, клыпае,
Гоніць яго холад,
Голад падганяе.
А ўслед з імі гора,
Гора следам ходзіць
І ўсяму гавора
Гарбару прашкодзіць,
Каб ён не дабіўся
Сабе лепшай долі,
Шчасця не дажыўся
Навекі ніколі.
А за што? Хто знае,
Чым ён вінаваты?
Доля, бач, такая —
Ёю ён прадаты...
. . . . . . . . .
Дожджык пакрапляе,
Па гразі хлюпоча,
Гарбара пужае,
З гарбара рагоча.
А у тахт начыне
З дажджом песню грае,—
Сэрца ад ёй стыне,
Кроўю ацякае.
Поўны весь клапотаў,
Йдзе гарбар, спяшыцца...
Дзе ж то на работу
Ён прыстаканіцца?..

Магілёў, 1912

## Я ДАЛЁКА...

Я далёка цяпер ад цябе,
Я далёка, далёка — ў чужыне;
І так сэрца няшчаснае стыне,
Што далёка цяпер ад цябе!

Я няведамай сіле падданы,
Ля таго неразлучны з табой,
І жыву я табою душой,
Ўсё няведамай сіле падданы.

Нібы ветрык паважна шуміць
І на волю з сабой завабляе...
Вобраз твой прада мной вырастае
І гавора, як ветрык шуміць.

А хоць сэрца пытае падчас:
Ці не кіне той ветрык шумеці,
Ці захочаш мяне мілым меці,
Верна сэрца пытае падчас,—

Я стараюся думаць адно,
Што няведамай сіле падданы:
Мы з табою навекі звянчаны...
Я стараюся думаць адно.

1912

## ДА КЛЯНІНЫ

Бедная клянінка,
Што ты пахмурнела,
Апусціла ралы,
Лісцем пажаўцела?

Запрапала зелень
Свежасці вясёлай,
І стаіш панура
Над халодным долам!

Эй, скажы, клянінка,
Скажы, дарагая,
Што цябе за гора
Губіць і зніпчае?

Ці благія хмары
Цёмнай грамадою
Надламалі сэрца
Бураю ліхою?

Ці сухія ветры
Шырокага поля
Закавалі душу
Ў дзікую няволю?

Ці маланкі з громам
Цябе разабілі,
Ці благія рукі
Корань падрубілі?

Ці сама ты з тугі,
Бедная клянінка,
Без віны завяла
Ў жыцці сірацінкай?

Ты скажы, клянінка,
Што ты пахмурнела,
Апусціла ралы,
Лісцем пажаўцела?

1912

## СЭРЦУ ВОЛЮ!

Сэрца ў грудзях б'ецца,
Нібы выйсці хоча;
Нудна яму ў клетцы
Цёмнай, як цень ночы.

Сэрца свету хоча,
Яму волі трэба,
Песень, шчасця, красак,
Шырокага неба.

Сэрцу цяжка стала
Скутаму трасціся,
І ад ран з кайданаў
Болі разрасліся.

Дык хоць адну каплю
Волі яму дайце,
Вылецець гуляці,
Эх, не прашкаджайце.

Хутка адапрыце
Пад замкамі дзверы,
Каб яно не ўмерла
Ў муках тых без веры...

1912

## ДА ЖАЎРАНКІ

Жаўранка, жаўранка, пташачка вольная,
Дзетка шчаслівая волі святой,
Доляй прастору і свету бязмежнага
Душу пакутную мне ты напой.

Цёплымі бляскамі сонейка яснага
З ночы цямлівай знімі ты пакроў,
Сілай магучаю песні вясёлае
Шчасця будовіну ёй прыгатоў.

Шпарка на крылейках ў даль паднябесную
К зорам бліскучым душу падымі,
Ў зелень цвітучую краскамі радасці,
Як галаву дзеўчу, ў венчык абві.

Ў сіняй пасцелі прастору шырокага
Землю халодну навекі схавай...
Жаўранка, жаўранка, пташачка вольная,
Просьбу пачуй ты, хутчэй прылятай!..

1912

## РВУСЯ Я

*Галубку*

Рвуся я ў даль, дзе сонца жыве
З жыццятворным светам сваім,
Дзе па небе ракою плыве
Іскракідная пройма агню.

Рвуся я ў тую сінюю даль,
Што хавае ў тумане усё:
Непрытомную радасць, і жаль,
І парывы-жаданні людзей.

Рвуся я з усёй сілы-змагі,
Бо здаецца жыццё толькі там,
Дзе не цісн уць яго берагі,
Дзе яго не паганіць ніхто.

Рвуся я ў даль, дзе сонца жыве,
Дзе усходняе неба гарыць;
Яго свет мяне вабіць, заве,—
З гэтым светам я звязан душой.

1912

* * *

Мець бы жыццё бессмяротнае мне,
Мець бы вечныя свежыя сілы;
Я аддаў бы усё старане,
Старане сваёй роднай і мілай!

На кускі, на крупінкі, як пыл,
З кожным днём я б па ёй разлятаўся
І часціны нязмераных сіл
Ў кожным месцы даваць бы стараўся.

А дзе трэба было б заплаціць
Дзеля шчасця народа сабою,
Я хутчэй пастараўся б там быць
І сваёй адкупіцца душою...

І так з году ў год, да тых дзён,
Па кусочку б ў ахвяру я клаўся,
Пакуль цяжкае долі праклён
З старанoю маёю расстаўся.

Каб жыццё бессмяротнае мець,
Каб мне вечную свежую сілу,
Я аддаў бы усё старане,
Старане сваёй роднай і мілай!

1912

## З ЧУЖЫНЫ

Без цябе, мой родны край,
На чужой старонцы
Нудна, жудасна мне жыць,
Нудна так бясконца!

Сонца быццам не блішчыць,
Зоры не міргаюць,
Ветры буйныя ўсё дзьмуць,
Песень не спяваюць.

Многа бачу тут людзей
І жыву між імі,
Ды назваць іх не магу
Я людзьмі сваімі:

Ані песні той жывой,
Мілай і зычлівай,
Роднай сэрцу і душы,
Долі нешчаслівай;

Ані мовы я сваёй
Роднае не чую,—
Ўсё чужое ля мяне
Круг-кругом пануе...

Ой ты, краю родны мой,
Я цябе пакінуў,
І, расстаўшыся з табой,
Ўсё ж такі не згінуў.

Не забыцца мне цябе,—
Я жыву табою,—
Бо адданы я табе
Целам і душою.

На мінутку на адну
Я не забываю
Той абраз твой дарагі,
Родны ты мой краю!

Прада мною ты стаіш,
Як жывы, каханы,

Полем, нівамі, вадой
Ўсюды разубраны.

Вось шарэюць між гаёў
І ўзгоркаў вёскі,
Ўюцца змейкамі між іх
Вузкія дарожкі.

Чутна песня тут і там —
То начлег у полі;
А там песня злой бяды
І ліхой нядолі.

Мілы краю, родны мой!
Жду я, не даждуся
Таго часу, калі зноў
Я к табе вярнуся;

Калі буду я магчы
Разам з табой жыці
І за шчасце за тваё
Жыцце палажыці!..

1912

## КАСЬБА

Не спадлі шчэ раннія росы
І сонца не стала сіяць,
Як вострыя ў поплаве косы
Вясёла і зычна звіняць.
Бліскаюць рэзва на сонцы,
Свішчуць, шумяць у траве.
Думкі жывым валаконцам
Ўюцца ў касцоў ў галаве.
Росная гнецца травіца
Роўна, пракос у пракос.
Радасць у сэрцы іскрыцца,
Труд нам адплату прынёс.
Гэй, разыдзецеся, рукі,
Косы так востра бяруць,

Цела не ведае мукі,
Ногі спачынку не ждуць!
Сонца яскрава зіяе,
Ветрык нячутна шуміць;
Роўна трава правядае,
Весела сена сушыць!
Песнямі спорыць работу,—
Бабы і хлопцы пяюць.
Поўны працоўнай ахвоты
Сэрцы іх радасна б'юць.
Зыкі сталёвыя клёпу
Песняй срабрыстай звяніць.
Ссохшае сена у копы
Бабы спяшаюць складаць.
Тут жа растуць ўвачавідкі
Тоўстыя копы у рад.
Многа выказвае пры́ткі
Поспех рухавых дзяўчат!
Праменем смуглыя твары
У працы жывой аддаюць.
Многа гадзіны прыпару
Сіл у людзей адбяруць!
Толькі недарма ўсе сілы
Людзі сцяраюць свае,
Праца ўвесь свет ускарміла,
Праца нам шчасце дае.
Працаю сілы прыроды
К людзям у слугі ідуць,
З ёю ж у свеце народы
Лепшае долі прыждуць.

Вількамір, 1912

## ЛІХТАРШЧЫК

Адвячорак. Змрок рассеўся,
Згасла полымя зары.
Гэй, ліхтаршчык, дзе ты дзеўся?
Йдзі запальваць ліхтары.

Не прывыклі да цямноты,
Мы не можам з ёю жыць:

Цень нагоньвае дрымоту,
Цень з пуціны можа збіць.

Цемры рада ўсё ліхое:
Совы, ведзьмы, кажаны.
Нам святло давай святое,
Каб не цешыліся яны.

Хай вакола разліецца
Яго промень па кутках,
Й змрок цягучы расплывецца
Ў яскраблішчучых лугах.

Развей сэрца тады будзе
Пры святле у грудзях біць.
Гэй, ліхтаршчык! Знаюць людзі —
Ў цьме ці святле лепей жыць.

Дык хутчэй бяры драбіны,
Кнот з кудзелі насмалі
І а шарай ты гадзіне
Ліхтары вакол палі.

Вількамір, 1912

## МАЯ СТЫХІЯ

Ў буры, ў навальніцы,
Ў громе, ў бліскавіцы,
У сіберным гуле
Ветранае сілы,
Ў хваляванні мора,
Ў калыханні бора —
Многае мне міла,
Многае мне блізка.
Ўсё вакол трасецца,
Ўсё кудысь нясецца,
Ломіць і знішчае
Вокала прашкоды.
І няма ні звання
Сілам тым стрымання,

Як яны гуляюць,
Як яны бушуюць...
Хочацца пусціцца
З імі мне й пазбыцца,
Што я чую, бачу,
Ведаю і знаю.
І ламаць паломам
З ветрам, з бурай, з громам
Ўсю бяду людскую,
Што ў жыцці пануе
З краю і да краю...

Вількамір, 1912

## ПАЗЫЎ

Я хацеў бы непакорным
Ветрам вольным ў полі стаці,
Каб па галы па прасторным
Безупынна дзьмуць-лятаці.

З верху к долу, з краю к краю
Мерыць шыры хуткім лётам;
Не спыняцца перад плотам,
Не зварочваць перад гаем.

Ад зямлі да сіняй высі
З гудам зычным паднімацца —
Дзе прашкоды асталіся —
Ўшчэнт ламаць і далей мчацца.

Я хацеў бы ветрам быці,
Каб з няволяю расстацца,
Каб ў свабодным шчасным жыцці
Незалежнасцю ўпівацца.

Вількамір, 1913

## МОЙ ВЕРШ

Мой верш — мая душа
І думка шчырая мая!
У кожным слове маё я.
Мой верш — мая душа.
    Яго пяю ўсягды,
    Бы толькі з жальбай расстаюсь,
    Ці зноў калі да ёй вярнусь
    Свой верш пяю тады.
Крышталь слязы у ём —
Гармонны рытм красы,
Спакою мне дае часы
Адблеск красы у ём.
    У верш ўкладаю я
    Істоты палкае быццё,
    Душы хваленне, ўсё жыццё
    У верш ўкладаю я.
Таемны выгляд слоў
Хавае шмат падчас
Цярпенняў цяжкіх без прыкрас,
Ў якіх і боль, і кроў.
    А ўсё ж патрэбен ён,
    Адбітак бурнае душы,
    Што пэнт даволі узрушыў
    А ўсё ж патрэбен ён!

Вількамір, 1913

## ЗВОН

З гары высокае званіцы
Званы прызыўна загулі;
І гуд грамовы іх імчыцца
Абшарам соннае зямлі.

Дрыжыць вакол ціша глухая,
Трасе паветра медны гул,
І ўсё, што спіць, ён паднімае
Вакол сябе, і там, і тут.

«Ўставай, хто спіць! — у звоне чутна
Размова гучных важкіх слоў,—
Скідай свой сон, ліхі, атрутны,
Цягучы сон даўгіх вякоў!»

І ўдар за ўдарам шле званіца,
Спушчае ўніз з сваіх прытул
Шарэнгам роўным, стройнай звіцай,
Ўсё болей гучны звонны гул.

І рэжа ён пласты паветра,
Качае хвалямі бары,
З зямлі нясецца ўзвеем ветру
Да стромы цёмнае гары.

Яшчэ мамент, і гудам звону,
Здаецца, неба страсяне
Ды зоў разгорне свой чырвоны
Па ўсёй зямлі і ў вышыне.

Вількамір, 1913

## МНОГА СІЛ МАЛАДЫХ

Многа сіл маладых
У грудзях у маіх,
Як прастору у полі.

Няма рады адно
Адчыніць ім акно
І даць поўную волю!

Я б тады ў адзін міг
Дабыў шчасце для ўсіх
І дабыў бы ўсім долю...

1913

# НОВАЯ ХАТКА

Будуйце, майстрове, будуйце хутчэй,
Вы гэтую новую хатку,
Цярпліва кладзеце фундамент мацней.
Хоць цяжка бывае спачатку,

Аднак не сумуйце і ўсе грамадой
Пры песні зычлівай, вясёлай,
Майструйце паважна сцяну за сцяной,
Ўзнімайце іх вышай, ўсё вышай ад долу.

Сукі, крывізну абсякайце нашчэнт,
Хай шчыльна майструецца кладка,
І моцнаю будзе, як моцны цэмент,
Нам гэтая новая хатка.

А ў хатцы у новай так люба пажыць,
У вокны яе паглядзецца!
Святло, што ад сонца ў яе забяжыць,
Утомленым сэрцам нап'ецца.

І соладам хмельным пяройдзе нутром
Ажыўшая мара-загадка.
Будуйце, майстрове, сцяну за сцяной —
Будуйце вы новую хатку.

Фундаменту ў меру прарыты равы,
На камені ляжа падруба.
Глядзеце на вытвар, што строіце вы,
Дзівуйцеся толькі, як люба!

За дзень, за другі і чатыры акны
Бадай ужо будуць гатовы,
І толькі рабеце, каб шырай яны
Раздаты былі пры аснове.

Каб новая хатка вясельшай была,
Каб промені буйныя шматы
Жывільнага сонца, святога цяпла,
Ліліся жароламі ў хату.

Ды кроквы, майстрове, ўздымайце вышэй,
Дугою, загнутаю строма,

Каб кроплі сцякалі навальных дажджэй,
Ў страсе не псавалі б саломы.

Гэй, праўда, майстрове, павінны вы знаць
Будову ў канец ад пачатку.
Не раз ужо вам давялося стаўляць
Хлявы і гуменцы ды хаткі.

Будуйце ж па знанню, будуйце, майстры.
Паважна стварайце, старэнна,
Ўстаючы к рабоце ад ранняй пары
І працу канчаючы к цемні.

Вытворчай рабоце так многа падзяк,
Павагі так многа для працы!
Не кідайце ж пэнту вытворчага так —
Энергіі вашай не траццье.

Хто ў хатку ўбярэцца і будзе ў ёй жыць,
Гадкі каратаць папарадку,
Не будзе магчы той, майстры, вас забыць
І шчырае дзякуй вам скажа за хатку.

Капыль, 1913

## ЗМАГАЙСЯ!

Мой браце, змагайся
З нядоляй, з бядою!
Ні крыўдзе не дайся,
Ні суму ў настрої!
    Пакоры, цярпенню
    Упарта спрачайся,
    Да волі імкненнем
    Гары — разгарайся.
Адважна заўсюды
Наперад дарогай
Праз ямы, праз груды
Вядзі з перамогай.
    Адкрытыя ўзрокі —
  У светлыя далі!

Хай бляск іх далёка
Разгойдае хвалі.
Ваяцкай адвагі,
Сталёвага гарту!
Балючыя скаргі
Раздуй у пажар ты.
Цярпення людскога
Ўскалышаш падпоры.
Жыццё там — дзе змога.
Дзе смерць — там пакора.

Пецярбург, 1913

## КАЛЫСНАЯ ПЕСНЯ

Спі, сыночак, ў калыбелі
Ў чыстай, мякенькай пасцелі.
Я калыску пагайдаю,
Песню-казку праспяваю
Аб тваёй, сыночак, долі,
Калі выйдзеш ты у поле
Жыцця труднага, цяжкога —
Калі станеш ты на ногі...
Спі спакойліва, сынок,
Прагуляўшы ўвесь дзянёк,
Бо падросшы — не паспіш...
Стане думка прад табою
Сетку віць з ліхіх клапотаў
І абмые твар твой потам...
Спі, сыночак, ў калыбелі,
Хай збірае сілу цела,
Хай душа гартуе волю
Йсці настрэчу лепшай долі.
Ты дзіця краіны беднай,
Акаванай ў пояс медны
Гора, злыбеды, нядолі,
Мукаў сэрца — цела болі;
Ты дзіця яе народу,
Век цярпячага нягоду
Ў прыгнячэнні, пад'ярэмна,
Непавінна, задарэмна.

Ты радзіўся пад натугам
Сілы змучанай — за плугам,
За сярпом ды за касою.
Ты радзіўся пад пятою
Прыгнятаўшае нядолі —
Пад кустом ці ў чыстым полі.
Будзь на варце, будзь гатовы
Скінуць гора таго ковы
І шырокаю дарогай
Выйсці людзям на падмогу
Ў барацьбе за шчасце й славу,
Ім належныя па праву.
Ў новым вашым пакаленні
Прыйдзе краю вызваленне
Ды багацце і Свабода
Для працоўнага народа.
Спі ж, сыночак, з думкай гэтай,
Марай шчаснай разадзеты,
З верай яснай дачакацца
Пайсці ў бойку і змагацца
За працоўных, іх краіну,
За іх шчасную судзьбіну.
Цябе будзе шанаваці,
Пакуль сталым станеш, маці;
Пашануе ды падбае,
Пакуль сілы на то мае,
Пакуль хопе ў яе змогі
Ўстанавіць цябе на ногі.
Ўстанавіўшы ж, будзе ждаці
Бачыць ў збройнай слаўнай раці,
Ў гушчы ўстаўшага народа
Пры змаганні за Свабоду.

Пецярбург, 1913

## КЛЯНІНКА

Бачыў я, як вецер ў полі павяваў,
Бачыў, як клянінку бедную хістаў:
З болю яе ралкі тонкія гулі
І хіснулісь нізка да сырой зямлі.

А сіберны вецер з сілай набягаў,
Пекныя лісточкі з ралак атрахаў.
І здавалась, раптам ён мацней шугне,
Бы нажом ля корня бедную сатне.

Ўміг, ў адну хвіліну ў маладым жыцці
Перастане дрэўца рэзвае расці...
Але моцы ветру стала не хапаць —
Ён не мог клянінкі ўзвеем даканаць.

Закіпеўшы помстай ветру насустрэч,
Лісцем прашаптала смела яму рэч:
«Захацеў, сіберны, ты мяне скасіць,
Захацеў разрэзаць майго жыцця ніць...

Не, не дамся, вораг, сіле я тваёй —
Выйду з усёй моцай стрэціцца з табой,
І хоць тваіх звеяў мо й не адапру —
Толькі і пакорнай смерцю не памру».

Пецярбург, 1914

## КРАЮ РОДНАГА НЕ КІНУ...

Не паеду я ў чужыну,
Краю роднага не кіну.
Яго поле, яго нівы
Ў маім сэрцы родзяць дзівы,

Што з нязнанай ўласнай сілай
Да краіны роднай, мілай
Мяне крэпка прывязалі.
Я дзіцятка яе жалю,

Яе горкай нуднай долі.
Не паеду я ніколі
З свайго краю дарагога,
Непатрэбна мне нічога.

Сірацінай я радзіўся,
З працай цяжкаю зрадніўся,—

Дык усё жыццё працую
На краіну дарагую.

За работу у адплату
Маю ў вёсцы ціхай хату
І загончык вузкі нівы.
Вось і будзе — я шчаслівы.

Хай ў чужыне — кажуць людзі —
Многа лепей жыці будзе,
Я на гэта ані дбаю!
Шчасце лепшае я маю —
Закаханне к свайму краю,
Ў якім кожная мясціна
Мне прыветным словам кіне;
У шумлівым цёмным боры
Птушка міла загавора,

Ў ручайку вада у мкненню
Разваруша мне натхненне
І абудзе пажаданне
Лепшай долі панаванне.

Ў сваім краю, дзе ні стану,
Ўсюды сілай ровен пану.
Што пачую, то й адвечу.
Сваю вартасць чалавечу

Перад кожным не ўтаю я.
Не, краіну дарагую
Я да скону не пакіну —
Тут радзіўся, тут і згіну.

Пецярбург, 1914

## КАПЫЛЬ

Капыль, Капыль! Маё мястэчка,
Вялікай Міншчыны куток!
Мне міла ўсё тваё: і рэчка,
І хаты, нівы і гаёк...
Вакол яго снуе далінай

Шнурок вясёлы раўчука,
Якога нам, бы матка сына,
Спакон вякоў дала рака,
Што там магутна воду гнала
І чоўны рэзвыя нясла,
Бурлівай хваляй ўзгорак рвала
І крыгай мост стары трасла...
А далей — вокал роўна нівы
Свае шнуркі к гаям вядуць,
Што цёплым летам людзям жніва
За працу цяжкую даюць.
На нівах густа разляглiся
Астаткі шведскае вайны,
Што ў час вяковы не звяліся
У траве зялёнай курганы.
Пад іх грамадаю маўкліва
Ваякаў слаўных косці спяць,
Пайшоўшых смела ў час прызыву
Свой родны край абараняць.
Між тых курганаў, на адгону,
Высокі замак з цьмі вякоў
Ўстае, як сведка ўлады і закону
Старых часоў, сваіх князёў.
Калі ж паглядам далей кінем
Туды, дзе ніў канец ляжыць,—
Хваёвы бор, як вострым клінам,
Сцяной зялёнаю стаіць.
Старыя хаткі сумна зніклі
З зялёным мохам на страсе,
І спяць-маўчаць, нібы прыціхлі,
Як заваражаны ўсе...

* * *

...Люблю людзей тваіх схудзелых,
Іх сумны, змучаны пагляд,
З саломы новай жоўта-белай
Страхі убогіх нізкіх хат.
Працягі пыльных вуліц летам
І зелень рутную садоў;
Зімою ж пекна разадзеты
Наслоем выпаўшых снягоў...

Усё, усё люблю, як толькі
Хто можа так калі любіць!
І точаць сэрца маё болькі,
Што людзям цяжка яго жыць,
Што лёс сібірны на працягу
Сямі з паловаю вякоў
Прыбіў у ім да шчасця цягу,
Заняволіў гордых жыхароў...
А ўсё ж сярод той цёмнай ночы
Яго маркотнага жыцця
Праменне яснае бліскоча
І родзіць хвалі пачуцця.

* * *

Чакай і вер ў настанне лета,
Капылю роднага жыхар!

. . . . . . . . . . .

Калі ў зямлі ляжыць крыніца,
То кверху выб'ецца яна!
Дзе дух жывы не змог стушыцца —
Там смерці тупіцца каса.

Пецярбург, II/IX-1914

## НАПЯРЭДАДНІ

Стуліўся змрок ў глухіх кутках,
Знікае ночка-чараўніца;
Ў нябесных цёмных дыванох
Міргае зыркая Дзянніца.

Замоўкла ўсё. Травы і дрэў
Не хіліць к долу ўзвеў вятрыска.
Чуцён вясёлых птушак спеў,
Чуцён іх воркат прагны, піскі.

Апойны пах плыве з далі
Лугоў, адзетых рунню пышнай,
І дух свабоднае зямлі
Надзею ясную калыша.

Таемны гай гудзе, шуміць,
У неба сіняе глядзіцца
І, здэцца, хоча гаманіць
З вясёлай рэзваю Дзянніцай.

А з неба ўніз яе прамень
У зелень рутную спадае
І кажа ціханька: «Мне дзень
На змену сонца пасылае!»

Пецярбург, 1916

## ДАРАДЧЫКАМ

Вы ўсе кажаце мне,
Што маёй старане
Няма сэнсу сабе дабівацца
Лепшых шчасных дзянькоў
Для вялікіх збудоў,
Каб з краямі другімі зраўняцца;

Што мая старана
Ўжо не ўстане ад сна,
Які лёс на яе ўспеў накласці
І з якога не ўстаць
І не зможа паўстаць
Да святлейшае долі, да шчасця...

О, чакайце, браты!
На размоў ваш пусты
Вам краіна ўсячутна адкажа,
Як на шчасце, на бой
Ўміг вялікай гурбой
Яна люд свой збуджоны знаража,

Паглядзіце тады,
Які ён малады,
Колькі сілы магутнае мае;
І што зробіць яна,
Абудзіўшысь ад сна,
Як яе воля-свет разгайдае.

Не, не верце сабе!
Нам не нікнуць ў журбе,
Гледзючы на свой край доўгаспаўшы.
Дык не думайце, не,—
Што ўжо ён не ўскрасне,
Што ён мёртвы й навекі прапаўшы,

Сон пануе не век,—
Старана й чалавек
Так жа сама не век спачываюць,
Надыходзе чарод,
Устае край, народ,
Як вясною палі ажываюць.

Вось вясну паражыць
Ўсім краям належыць
Пад няўхільным прыроды прымусам.
Адным збыўся ўжо час,
Цяпер чэрга да нас...
Надыходзе вясна к беларусам!

1917

## РАБОТНІЦКАЯ І СЯЛЯНСКАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ

Яна прыйшла ад цяжкіх сох,
Яна прыйшла з цямні куткоў,—
Хто ў муках дні жыцця правёў
І ў жыцці цяжкім век знямог —
Той к нам яе з сабой прывёў.

Пад свіст гудкоў, пад вёрт калёс,
Пад голад-холад, недасон,
Адвагай гордай абнясён —
Ваяк чырвоных легіён
Для бойкі слаўнае узрос!

І грымнуў гром наўкол-наўкруг,
Раздаўся зычны, горды кліч,
І звіс буржуяў з'ядлых біч,

І спаў абцягнуты ланцуг
З тых плеч, каго скаваў паніч.

Гары ж, агонь Кастрычніка, гары!
Свой промень зыркі раздувай.
Няхай ёнззяе з краю ў край!
Хто спіць да гэтае пары —
Уставай!

Пецярбург, 1918

## Я ХАЦЕЎ БЫ ПЯЯЦЬ...

Я хацеў бы пяяць,
Як пяе
Цёмны бор непагодаю,
Каб вакол абуджаць
Зыкам песні свае,
Хто ні кінуў шчэ спаць
Пад нядоляй-нягодаю.
Я хацеў бы палаць,
Як палае
Бліскавіца між хмарамі,
Каб агні запаляць,
Дзе шчэ цемра вітае
Над зямлёй, над абшарамі.
Я хацеў бы гусці,
Як гудзе
Вецер буры-навалы узнятае.
Каб нашчэнт разнясці
Па лясох, па вадзе
Панства долі-нядолі заклятае.
Я хацеў бы ўладаць
Хоць бы мігам адным
Непакорнай, магутнаю сілаю,
Каб змагчы, зруйнаваць
Ўсё ліхое вакол
І ўжыць шчасце над гэтай магілаю.

Харкаў, 1918

## МАЁЙ ПЕСНІ ДАЛІ ТОНЫ...

Маёй песні далі тоны
Мукаў стогны,
Што заўсёды пры рабоце
У смуродзе ды ў духоце
Вылівала маё сэрца.

Маёй веры дало сілы,
Што давіла
Маю душу бессціхання —
Бесканечнае змаганне,
Барацьба за шчасце й долю.

Далі гарт маёй надзеі
Злыя дзеі,
Што гадамі прада мною
Бесканечнай чарадою
Разбіваліся у шчэпы
Аб спрачання майго скрэпы.

Мая песня, мая вера
І мая надзея,—
З вамі йду я поўным ходам
Ў тыя дзверы,
Дзе ліхтарня міргацее
Прад свабодай.

Харкаў, 1918

## Я ЖЫВУ...

Я жыву таму, што маю
Веру моцную у тое,
Што загіне доля злая,
Чорнай сілаю якая
Землю вокал аблягае,
Бы жалезнаю рукою.

Я жыву таму, што сэрца
Спадзеў ясных не губляе,
Як улетку лісцяў дрэўцы,

І ў надзеях, бы праз дзверцы,
Наглядае спацар смерці,
Што нядолю скрозь знішчае.

Я жыву таму, што чую
Душой чулаю адроду,
Тую пору, хвілю тую,
Боганосную, святую,
Што нясе ў свет дарагую
Светазарную Свабоду.

Я жыву таму, што бачу
Панаванне лепшай долі,
Дзе не будзе хутка плачу,
За якую й я даў дачу,
Што адроду прыназначыў
На крывавым збройным полі
Ў барацьбе за шчасце й волю.

1918

## ЧЫРВОНААРМЕЙЦЫ

Ціха рэе —
Палымнее
Сцяг чырвоны.
Пад ім роем
Чынным строем
Рэюць тоны
Песняў волі...
Роўным полем
Грамадою
Йдзе паходам
Звод за зводам
З прагай к бою
Полк чырвоных.
Шчэць стальная
Адбівае
Ў бліскаў цёмных
Промень сонца.
Жар бясконца!
Стома давіць!
Усё ж не ўбавіць

Моцнай прагі
І адвагі,
Што ў іх сэрцах.
Ступ за ступам
Ідуць купай
Ў бой да смерці
За свабоду
Для народу
Легчы з славай.
Ці ж утратна?
Дружна, здатна,
Велічава
Гук нясецца!
Промя ж льецца
Пазалотай
З небнай высі.
Й песень тоны,
Й сцяг чырвоны
Ў ім зліліся!

Харкаў, 1918

## ГОДЗЕ!

Доўга гнулі свае спіны,
Доўга пот мы свой лілі
Ля фабрычнае машыны
І ля панскае зямлі.

Паднявольна мы маўчалі
Паслухмянымі ўсягды,
Другіх вечна збагачалі,
Не вылазячы з бяды.

Доўга-доўга, але потым
Гром свабоды абудзіў
Нас ад цяжарнае слоты
І да бойкі даў прызыў.

Сіла спаўшая паўстала,
Волі промень стаў міргаць,

І сям'я працоўных стала
Жыццем краю кіраваць...

Гэй, дарогу! Ўзрокі ўгору!
Сіле творчай вольны ход!
Хто дагэтуль жыў ў пакоры,
Хто для іншых ліў свой пот,—

Прыйшоў жыцця адбудову
Неадкладную рабіць!
Устрой вольны, устрой новы
Пад фундамент залажыць!

Дзе ліліся пот з крывёю,
Дзе стаяў працоўных стогн,
Над свабоднаю зямлёю
Пераможны ўдарыў звон.

Свет адчынен людзям новым,
Будаўнічым маладым,—
Для вялікае будовы
Жыцце шлях адкрыла ім!

30/X-1918

## ГАДАВІНА 25 КАСТРЫЧНІКА 1917 ГОДА

Абляцеў поўны круг
Сонца вечнага ход,
Скончыў бурны свой рух
Рэвалюцыі год.

. . . . . . . . . .

Струхлы выраз вякоў
Над гвалтоўным гняццём
Ў глыб бяздонны сышоў
Перад новым жыццём.

І на постаць зямлі,
На свабодны прастор

З неба промень злілі
Сотні, тысячы зор.

Закіпеў-загучэў
Абудзіцельны рух
Там, дзе ў шчылінках мрэў
Днёў канаючых дух.

Ў творчым віры жыцця
Ён будынак узвёў
Волі вольнай, быцця,
Ўчорых мар, ўчорых сноў.

Дні за днямі ішлі,
Мацавалі хадой
На свабоднай зямлі
Сацыяльны устрой.

І цяпер паглядзець —
Сэрца пыша агнём!
Якім гмахам расце
Маладое зярнё!

Па руцянай сяўбе
Прамяніся, усход!
Я вітаю цябе,
Рэвалюцыі год!

Масква, 1918

## Я ХАЦЕЎ БЫ...

Я хацеў бы, здэцца,
Ў несціханай спрэчцы
Неразрыўна зліцца
З тымі, хто век біцца
Маюць за свабоду
Беднага народу,
За зямлю, за волю,
За шчасную долю...

Я б хацеў без змогі
Йсці да перамогі
У агні паўстання
Проціў панавання
На зямлі закону
Гвалтаў ды прыгону
Над працоўным людам
Вокала і ўсюды.

Я хацеў бы гартам
Ў бойцы той упартай
Ў камень змацавацца,
Каб не зруйнавацца,
Ў змове несціханай
З варажным мне станам,
Што ў ахове ўласці
Свае, ён не здасца
Доўгімі часамі...

Й будзе адбівацца
Куляй ды зубамі
Да астатняй хвілі,
Да апошніх сілаў.

Я хацеў бы бачыць,
Як агонь адзначыць
Промінам чырвоным
Час вялікі скону
Гвалтаў і прыгону
Ў жыцці чалавечым...

Я б хацеў дажыці,
Каб гардліва выйсці
Волі насустрэчу
Перад яе ўходам,
Жыць вавек з народам
У свяжыстай руні
Вечнае Камуны!..

Мінск, 1920

## РАНЬШ І ЦЯПЕР

Сякеру, молат, серп і плуг
Нам доля з роду даручыла,
За працай цяжкай крэп наш рух,
Расла за працай наша сіла.
    Ад золку к цёмнаму, ў працяг
    Сяклі мы, гваздалі й аралі,—
    Ў крывавым поце ды ў слязах
    Сваіх тыранаў збагачалі.
Ад працы нашай свет паўнеў,
Таміўся, здэцца, ад багацця,
Хто смачна піў, хто смачна еў,
Хто жыў у роскашы, ў палацах —
    Той быў павінен толькі нам,
    Ад нас залежаў той ад роду...
    А нам, працоўнікам, майстрам
    Не мець было й на міг свабоды...
Нуда і голад, недахват,
Нядоля й здзекі ў цесным сплёту,
Вянчалі працы наш пасад,
Прыгонам гналі на работу.
    І мы рабілі... Ці ж цяпер,
    Калі свабодная краіна,
    Патухне палкі наш намер
    К рабоце ўпартай ды няўпыннай?
Ці мы не знойдзем свежых сіл,
Старанняў новых не дастанем?
І наш магутны творчы ўздым
Свабодным духам не ап'янім?
    О, не, бурляць ужо ў душы
    Пазыў, імкненні ды ахвота
    Стальной калонаю рушыць
    На адбудоўчую работу.
Сякера, молат, серп і плуг
Ў руках свабоднага не тое,
Чым раньш тамілі гарды дух,
Ды цела ранілі худое.
    Наш кожны ўзмах, наш кожны стук,
    І ў ніве кожная разора,—
    Ў жыцці працоўных меней мук,
    Жыццю свабоднаму падпора.
Дзе будзе праца наша йсці,—
Адна служыцьме нам дарука

Нядолю цяжкую звясці,
Паставіць крыж над цяжкай мукай.
    За працу ж ўсе! К зямлі, ў завод,
    Размах яе шырэй раскіньма,
    Камуны хай яна прыход
    Кіпучай творчасцю абдыме.

Мінск, 11/I-1921

## ПЕСНЯРУ

Пясняр-званар, чаму заціх
Твае душы салодкі спеў?
Дзе кліч ты свой завучы дзеў
Ў вялікі час, у адказны міг?

    Цябе спужаў грымотны стук —
    Крывавы водбліск барацьбы,
    Якую ўстаўшыя рабы
    Ўзялі ў абоймы сваіх рук?

І бурным віхрам праняслі
Над трупамі катаў крывапіўц,
Адкрыўшы помсты дно крыніц
Супроць прыгону на зямлі?

    Ці бурны, швыдкі, як віхор,
    І моцны, зычны, нібы гром,
    Жыцця старога скрутны злом
    Ідзе табе наперакор?

Ад ўздрыгу, пэўна, думак зніз,
Душы абуранай настрой,
Дасталі цяжкі перабой,
Які балючым ўціскам звіс.

    Ці ты зусім не падглядзеў
    Красы у тым, што гэты час
    Вялікіх дзей, адказных дзён
    Жыццё кіпучае нясе?

Ці творчай чыннасці прадзень
Ў тваю істоту не ўраніў
Здзяйснення мар, здзяйснення дзіў,
Натхняўшых многа пакалень?

Пясняр-званар, здымі з сябе
Часовай мёртвасці натхлань
І песняй радаснай літань
Пашлі працоўных барацьбе.

Сустрэнь ты гімнам бляск зары
Ў змаганні ўстаўшых новых днёў,
Прыход Камуне спрарачы...
Або ў бяспогадзі памры,
Наймючы песням новых слоў...
Ну, толькі далей не маўчы.

Мінск, 29/I-1921

## СЕЛЬСКІ РЭЎКОМ

Найлепшы ў вёсцы цэлай дом,
Нібы знарок, стаіць здалёку,
Вакол абнесены садком,
Каб цешыць станам сваім вока.
Над стрэхай жоўтаю вісіць
Чырвоны сцяг і дні і ночы.
І пры ваходзе паглядзіць
Яго вясковец ды рабочы.
Ад ранку к вечару ў той дом
З усіх канцоў шнуруюць людзі,
Пытацца рады аба ўсём,
Адказ знаходзіць ў перасудах.
Паёк, раскладка, дроў насеч —
На ўсё тут знойдзеш тлумачэнне.
І цэлы дзень гудзе ў ім рэч,
І цэлы дзень к яму імкненне.
У світках шэрых, ў кажухох,
Відаць, начальства шпацыруе,
Дае адказы па бакох,
Прашэнні піша і дыхтуе;

Тлумачыць пільна, як каму
Якую можна мецъ падмогу,
Прыслухна, міла к усяму,
Не крыўдзіць й каліва нікога...
І ўсё так простасцю нясе,
Свабодным духам вокал вее,
Народ, яго начальства, ўсе,
Што ў гэтым доме ўкол віднее.
Пад сцягам, звіслым над страхой,
Над лепшым ў вёсцы цэлай домам,
Камуны час куе сабой
Работа сельскага рэўкома.

Мінск, 3/III-1921

## СЦЯНА ФЕДЭРАЛІСТАЎ[1]

Крывавы чэрвень памятнага году
Хаваў пакутную свабоду
Рукамі Т'ера, дзікага тырана,
Крывёй заліўшага паўстанне.
Апіўшысь ўцехай перамогі
Над храбрых жменяй камунараў,
Сюды вялі парыжскія дарогі
Ваяк захопленых на кары.
Дзесяткі, соткі зможаных на полі
Бойкі доўгае і ўпартае за волю
Варужжам гналіся к сцяне
Знайсці спачынак ў вечным сне.
І дні, і ночы доўга не змаўкалі
Крывавых катаў стрэлы над сцяною —
Сыноў Камуны грамадою
Няўсціхна кулі там нізалі.
Лілася кроў. Адвагай цвёрдай згартаваны
Адважна лёс страчалі ветэраны
Няўспеўшай расцвісці Вялікае Камуны,
Раджонай ў буры, ў бліскаўках ў пяруну...

---

[1] Сцяна федэралістаў — гэта мур на могілках Пер-Лашэз на ўскраіне Парыжа, дзе расстрэльвалі французскія белагвардзейцы парыжскіх камунараў. Камунары зваліся яшчэ федэралістамі — ад слова «федэрацыя» (акруга). Ад гэтага і сцяну празвалі «Сцяной федэралістаў».

Прайшлі гады, і кроў пралітая ваяк
Вякам пакінула на памкі знак
Ў крыві запёклай на жалезе
Й каменях цвёрдых Пэр-Ляшэза.
Вось кожны год у свята Гадавін
К сцяне той йдуць рабочыя Парыжа
Аддаць Камуне свой ўспамін,
Пабыць ўспамінамі з ёй бліжай,
Пры ўзгорках ўзрошчаных магілаў
Ваяк ў іх спячых — камунараў,
Набрацца к бойкам дальшым сілаў,
Падаць адвазе слабых жару.

Мінск, 13/III-1921

## ГЛЯДЖУ НА ПОЛЕ Я...

Гляджу на поле я, на дол,
На нівы вузкія шнурамі,
Што скрозь ляжаць перад вачамі
Раўнінай чорнаю вакол,—

То плён упартай барацьбы,
Дастатак цяжкага змагання,
Якім валодаюць сяляне,
Нядаўна бедныя рабы...

Цяпер вось мары у жыцці!
Зямля — дзяржаўнае багацце...
Пахайце ж, гэй, яе вы, брацця,
Пасеў вялікі багаціць.

Няхай парэжа востры плуг
Абшары гэты на разоры
І збожжа ядрае, бы мора,
Ўхвалюе ветрыкам наўкруг.

За працу ж ўсе, ўжо час наспеў!
Зямля вызвеўшая чакае,
Калі над ёю залунае
Вясны вялікай ваш пасеў!

Мінск, 23/III-1921

## БУДАВАННЕ

То не вецер у пушчы гудзе,
То не хвалі на моры бушуюць —
То грамады працоўных людзей
Сабе лепшую долю будуюць.

Ўкол руйнуюцца ўціску муры,
Ападаюць жалезныя краты;
Дні прыгонныя цяжкай пары
Адыходзяць у вечныя страты.

А слядамі Камуна ідзе,
Панаванне навекі будуе...
І жыццё, нібы пушча, гудзе,
І жыццё, нібы мора, бушуе.

Мінск, 12/VI-1921

## ПАЎСТАННЕ

Над светам рэе Сцяг Чырвоны,
Вакол ўздымаючы паўстанне
Супроць вяковага прыгону,
Супроць няволі панавання.

Пакорны раб ўстае да бою,
Рвучы вакол свае аковы,
І ўжо вітае над зямлёю
Жыцця уклад свабодны, новы.

Глыбокай ночы гінуць стоны,
І свет стары пры тым канае.
А Сцяг паборы, Сцяг Чырвоны,
Дарогу новаму ўбірае.

Настрэчу ж, гэй, яго прыходу
Нясеце шчырае вітанне,
Няхай вакола за свабоду
Расце кіпучае паўстанне!

Мінск, 1921

## ЧЫРВОНЫ СЦЯГ

Чырвоны Сцяг гарыць агнём,
Яго абвеяў дымам порах,
Яго мы ў землю там ваткнём,
Дзе быў твой стан, паганы вораг.

Яго ваткнём пад гул гармат,
Пад гукі песні баявое,
Дзе працу сваю ладзіў кат,
Дзе землю меў крывёй людскою.

Чырвоны Сцяг ў агні, ў дыму
Нясе з сабой канец прыгону
І кару смерцяю таму,
Хто ўзвёў яго на чын закону;

На тых, што меч падняў на блік
Свабоды яркай, светлай волі,
Вядзе ён ў бой ваяцкі штык
Ў руцэ спрацованай, ў мазолях.

Паборы знак — Чырвоны Сцяг,
Ён рэе там, дзе дымны порах,
Яго трымацьмем мы ў руках,
Пакуль не згіне скрозь наш вораг.

Мінск, 1921

## БЕЛАРУСКІ НАРОД

Ён жыў прыгнечаным к зямлі
І слухаў моўчкі свіст савіны,
А думкі чорныя цяклі
Па ўлонні спячае краіны.

Па галах шэрых вузкіх ніў
Саха праводзіла разоры,
І ў іх ён слёзы ціха ліў,
І ў іх захоўваў сваё гора.

Змяняўся год, ішлі ў чаргу
Зіма, вясна, за летам — восень,
А песні цяжкую нудзьгу
Лілі, як дождж, з іголак сосен.

. . . . . . . . . . .

Ў павеях ветру, у віхрох
Сягалі стогны і пакута
Па ўсіх закінутых куткох,
Па кнеях сціснутых і скутых.

Але між гэтым пот, і кроў,
І стогн, і енк, і мукі жалю
Даўгіх гадоў,
                    цяжкіх вякоў
З сябе адмшчэнне выплаўлялі.

Ад шэрай стоптанай зямлі,
Ад потам вылітага долу
Пачаў сягаць да вышыні
Парыў разбуджаны, вясёлы.

І з-пад навісшага цяна
Ўсачыў народ ў святле далечы
Ды гук падаў:
«Вось там яна,
Краіна вольнасці адвечнай!»

Падаў і рушыў ў грамадзе,
Бы хвалі морам ў подых буры...
І грымнуў гром яго надзей
Ды зняў з жыцця выраз пануры.

Гартуй жа сілы,
                    ўстаўшы Сфінкс!
Хай попел вецер вольны сее...
Няволі доўгай рабскі чынш
Знялі ўжо рукі Праметэя.

Мінск, 3/II-1923

## У ЗЯЛЁНЫМ ЛЕСЕ

Я стаю, заварожаны шумам лясным,
І гайдаюся ў рыхт па кірунку дзяроў,
Што схіляюцца нізка пад ветраны ўздым
Да абголеных шчэ нізкарослых кустоў.

Праз кароны з калюк сее сонца прамень,
Як праз рэшата сыплецца ўніз на мяне,
Быццам ў душу стараецца глянуць мне дзень,
Поўны дыху жыцця, якіх шмат на вясне.

Піскам рэзвым з вяршын стройных, гладкіх
сасён
То адтуль, то адсюль пташкі спеў падаюць
І ў музычнасць ад шуму жывую гармонь
Меладыйнай струёю між дрэўцаў ліюць.

Дзесь здалёк — чуць даходзіць ка мне ў шуме
хвой —
Горад-волат ў каменным закуццi гняцця
Не спыняе ўздымаць рух агромністы свой,
Рух людскога, як мора, жыцця.

Рэзкім свістам гудок ад заводаў наўзрэз
Цераз дахі дамоў,
праз уз'юшаны пыл
Мчыцца роўна і проста кірункам на лес,
Колькі мае для лёту з прыроды ён сіл.

Ў гэтым гудзе яго адчуваецца штось.
Чаго шолам лясны не зглушае сабой.
І што ў душу маю прабіваецца скрозь
Ды ўздымае у ёй гардзялівы настрой,

Веру ў палкую творчасць працоўных людзей,
Для якіх покуль сонца і лес — чадны дым
У заводах, але каму хутка ўжо йдзе
Час другі, час інакшы зусім —

Такі час, калі лес будзе песні гусці,
А праменні вясновага сонца зіяць,
Каб заўсёдную весну ў ягоным жыцці
Неабмежнай свабодай ўбіраць...

Я стаю, заварожан шумлівасцю дрэў,
Пазіраю уверх, дзе плывуць аблака,
А тут душу гартуе галосны напеў,
Што шле чадны завод праз гудзенне гудка!

Берлін, 14/IV-1922

## СЕЛЬСКІ МІТЫНГ

Запоўнены стадол, як яблыку упасці,—
Грамада прагная варушыцца, шуміць;
Пытанне носіцца вакола,
а што ўдасца...
Што будуць тут прамоўцы гаварыць?

Ці ўловіць што настроенае пільна вуха
Ў прамовах тых, што мусяць скора пачынаць?
Што скажуць склiканым аб сконе галадухі,
Аб праднaлогу, аб рэвалюцыйным руху

За межамі, аб тым, як зямлю падзяліць?
Мо новых йшчэ навін паслухаці пазвалі —
Пара ж бурлівая і віхрам ходзіць свет,
Авось цару якому голаў абламалі,

А ўладу краем пераняў сабе савет.
Мо трэба ружжа браць і йсці сваю краіну
Ад новых варажных нападаў бараніць?..
Напэўна будзе нейкая асобная навіна —
Нездарма ж сход, як мора бурнае, кіпіць...

Нездарма гушча прагная жаданнем палкім дыша
І сотні йграючых маланкаю вачоў
Кідаюць блiскамі праглівымі туды, к узвышшу,
Адкуль к ім сыпне зараз дождж завучых слоў.

«Пайшоў, вунь-вунь, як быццам ён!» — прайшло
стадолам,
І потым раптам знік той зычны медны гуд...
Й сціша глыбокая, нярушная вакола,
Скавала жданнем вострым мітынговы люд.

«Браты-таварышы! Сюды вас ўлада пасклікала! —
Прамоўца голасна людзям пачаў казаць:
— Краіну вольную, што панства разбурала,
Павінны мы сумесна, разам аднаўляць»...

І стройна з вуст прамоўцы словы палкія прызыву,
Бы іскры зыркія, разносяцца наўкруг;
І зноў стадол, прыўцішаны, прытоены, маўчлівы —
Ўшчынае гуць пад рупны, выбухнуўшы рух...

І ў гудзе тым клякоча помста тысячнай грамады
Да тых, каму ўспадзе на думкі йшчэ калі
Падняць руку узбройную сваю ці мецъ панаду
Зрушаць аднову роднай, вольнае зямлі.

Мінск, 29/Х-1922

## ХТО МЫ?

Мы — сыны
Новых дзён!
Мы праpокі — ваякі за волю.
Перуны
З бліскавіцамі значаць наш шлях
Ад нядолі мінуўшых вякоў
На чырвоны лунаючы сцяг
Усясветнай Камуны.
Нас вядзе
Да яе нестухаючы імпэт адвагі,
Як пяўца — слухаць гучныя струны
Неўміраючай сагі,
Як сцярпеўшага мукі ад смагі —
К вадзе.
Цвёрды грунт
Нам вабіла па шляху цярпенне;
Дакранемся нагамі — ўлягае каменне,
Ночы змрок разлятаецца чорны,
І гуляе прасторны
Вялікі, упорны
Наш бунт.
Дзе відаць,
Дзе стаяць

Векавыя устоі няволі,
Дзе яе уміраюць ахвяры,—
Туды шлём
Буру й гром!
Без спагады-патолі
Аддаем мы заслужныя кары!
    Мы — сыны
    Новых дзён!
Светлай долі працоўным — тварцы.
Мы Ўсясветнай Камуны ганцы —
    Вестуны!

Мінск, 9/V-1923

## БЕЛАРУСКА

Як ідзе —
Шнур кладзе
Лёгкае хады.
    Роўны стан
    Увабран
    Стужкаю ўсягды.
Свежы жар
Крые твар —
Свеціцца пагляд.
    Валасы
    Ў дзве касы
    Спушчаны назад.
Паглядзіць —
Адарыць,
Сэрца ўскалыхне.
    Падысці
    Ў пачуцці
    Да яе кожны мкне.
У руках
Рэзвы мах,
Праца, як гульня.
    Ці з сярпом,
    Ці з цапом —
    Ўсё пяе яна.

Ні жуды,
Ні нуды
Ў песнях не чуваць.
Сонца, квет,
Цэлы свет
Рада б абнімаць.
Кожын верць
Паглядзець —
Погін каласоў.
Сіла, рух,
Вольны дух
З поля ды лясоў.
Хто маляр
Яе чар,
Строю, пекнаты?
Край з вякоў
Ніў, лясоў
Беларусь — то ты!

Капыль, 16/VI-1923

## АДВЯЧОРКАМ

Люблю сачыць, як дзень пагодлівы канае
І шэрасць лёгкая над горадам шумлівым
Памерна ў вуліцы глыбокія спадае,
А над мурамі вісне дымам сівым.

Паветра ціхае паволі рэдне, стыне,
Выразней рэха гулкае ўтуруе:
Гудок фабрычны свіст зацяжны строма кіне,
Й працоўных натаўп рэзва, шумна зашнуруе.

Драты, што сеткамі крыжуюць вулкі, пляцы,
Губляюць ніткі доўгія ў прысценных ценях,
І пэнт нядаўны пільнай творчай дзеннай працы
Прымоўкне, стуліцца ў каменных цесных сценах.

Настрэчу ж месяцу блядному й зорак кучы
Агні электрыкі вакол з акон, з ліхтарань
Паднімуць ўверх прамень сярэбраны, бліскучы,
І зыкі выцісне дзяўчына на гітары...

Крыху пазней — і скрозь жыццё, як дым, знікае,
Адно з куткоў пачуеш парак шэпт шчаслівы...
Люблю сачыць, як дзень над горадам канае,
Лятучы ціха к небу дымам лёгкім, сівым!

1/I-1924

## КАЛЯ БОРУ СОНЦА ХОДЗІЦЬ

Каля бору сонца ходзіць
На высокіх ценкіх дыбах,
Чарадою цені водзіць
Па кустох — густых сядзібах —
Даўгакосых,
Таўстаносых,
Цёмнатварых,
Грозных, ярых
Лесуноў.
З-пад кустоў,
З тайных схаваў,
Вабам, зовам
На палянкі,
На гулянкі,
Насустрэчу светлай ночы
Духаў скрытных зазывае
І ў сляпыя цемні-вочы
Сітам промень рассявае.
Вузкіх шляхаў выгіб ломкі
Машастовай рунню ўбраны,
І шнуруюць скокам ёмкім
Німфы-ведзьмі, феі-панны —
На граніцу,
Да крыніцы,
На гулянне,
Як загляне
Маладзік;
Як з-пад пік
Стройных ёлак
Рысаў голак
Ў блутнай сетцы
Напляцецца

І ўбярэ ваду крыніцы.
Гэй, хавайся, сонца, з неба!
Дай жа ночы-маладзіцы
Адчыніць сваю бяседу!
Вось і месяц
З крэмню крэсіць —
Сыпле крэйду,
Меліць пэндлем
Воду, бор.
Стада зор
Ў гала гоніць
І гамоніць
Шэптам лісцяў:
Гэй жа, выйсце
На гулянку, на вяселле!..
Бор змаўкае — не шапоча,
Ралкай жаднай не шавеліць,—
На крыніцу ўстраміў вочы.
Ў вербалозах, ў пухкім моху
Завіліся карагоды;
Вадзянік адставіў лёху
У крыніцы спадысподу.
Вір віруе
І шнуруе
Градкай лёгкай,
Лентай вохкай
Грэбень хваль.
Плецень-валь
Дымкай шарай
Туліць твары
Фей-русалак,
Што ў прагалак
Між кустамі над крыніцай
Распусцілі бросні-косы;
З хітрай мінаю глядзіцца
Ў іх лясун доўгавалосы.
Жаб капэля
Іх вяселіць
Мнагалікім
Хорам-крыкам
Певуноў,
Покуль зноў
З па-над бору
Кроўным морам

Пачне ўсходзіць
І заводзіць
Сонца спацыр жыццявейны,
Стаўшы ціха ўверх на дыбы...
І пражэцца крохкай ценню
Ўсё начовае — ў сядзібы.

Капыль, 31/V-1924

* * *

Над шумным палацам, над курнаю хатай,
Над вуліцай цеснай, над полем прасторным
Вяшчун праляцеў,— агнязыркі, крылаты,
Здарэнняў вялікіх нязменны дазорны.

Бурлівага лёту сляды незмярымы,
Бязмоцным жыццё супыніць завіруху!
Палае агнямі абшар прад вачыма,
Калоцяцца палі ад бурнага руху.

Угору высока, да фарбаў блакіту
Нямоўчнага рэха шыбаюць прыбоі,
Адвечная мука няволі — разбіта,
Паломаны веры заўзентай устоі.

Ракетаю зыркай блёснулі імкненні,
З сярпом скрыжаваўся гартованы молат,
Вялікасць сусвету ў касмічным спляценні
Спусціў да зямлі разняволены волат.

Мільён у адным і адзін у мільёне
Закрэплены гартам завабнае мэты.
З грашыма багач, валадар у кароне,—
Ўрачыстыя песні для вас перапеты!

Глыбока зіяе бяздонне правалу,
Апушчаны нізка пад сонцам завесы,
Дымучай слатою вам выглядзяць галы,
Над днямі былога лёс хмары павесіў.

У вулках вястовых, над вёскай прасторнай
Лунае нязменна ў мірганні бліскучым
Вяшчун агнязыркі — свабоды дазорны,—
Працоўных людзей да Камуны завучы.

Мінск, 7/IX-1924

## ВОСЕННАЕ

Мне кажуць: нудзіць лес згалелы
І вецер песняю сумлівай
Над нівай шэрай, амярцвелай
Жуду пяе над соннай нівай;
Гракі крычаць, як б'юць у труны
Цвякі, каб ўздзець на доннік века.
Жалейка лье нястрымным сумам,
І плача тым жа сумам рэха.
Мне кажуць: гіне ўздым душэўны
Ў тумане слотным, ў хмарах шэрых,
Настрой ападае няпэўны,
Няпэўных думак будзіць шэраг.
Мне кажуць: восенню завецца
Вось гэны вобраз, гэты тэрмін...
А я кажу: то вам здаецца,
То боль у вас сапсутых нерваў.
Бо ў чым нудлівыя калёры,
Што сэрца ваша там сумуюць?
Ў зялёнай руні, што прасторы
Палёў раскінутых ліцуе?
Ў дажджы, што нівы развільжае
Ды глебу поіць жыўным сокам?
У хмарах мяккіх, што зганяе
Іх вецер рэзвы к нам здалёку?
Ці ў шоўку шамкім — ў пухкім лісці,
Што лес раздзеў і дол стаптаны
Старанна ўбраў, гасцінна выслаў,
А сам пяе зіме вітанне?
Ці ў стуку гучным ў поўных гумнах
Цапоў сялянскіх па збажыне,
Ці ў песнях стройных, ў песнях шумных
Вячоркі, дбайнае дзяўчыны?

Мне кажуць: восень — заміранне,
Жуды глыбокай час ўрачысты...
А я кажу: хто глыбей гляне,
Той жыцця ўгледзіць промень, іскры!

Мінск, 1924

## ЧЫРВОНАЯ РАДЗІМА

### I

### СЛУЧЧЫНА

*Прысвячаецца Язэпу Дыле*

Распасцерлася раўнінаю,
Стройнаю распласталася...
Беларускаю Ўкраінаю
Нездарма ўсё ж назвалася.

Лугам-поплавам мурожнымі,
Полем-нівамі ўроднымі,
Як ядвабам разложаным,
Пазіраеш ты, родная.

Паглядзець скрозь — неасяжная,
Вісне неба паземамі,
Шмат палеткі твае ўражая
Абсякала рука крэменем.

Йшлі грамадамі нязлічнымі
Белапанскія коннікі,
Руйнавалі нашчэнт, нішчылі
Хаты, поле і хвойнікі.

Дымам-полымем курылася
Праца цяжкая, чорная!
За свабоду шчыра білася
Вёска скрозь — непакорная.

І крываваю мяжынаю,
І крываваю істужкаю.
Пан граніцу ды раўнінаю
Пралажыў наўсцяж Слуцкаю.

«Не загоіцца, не, шарая,
Беларусь бальшавіцкая;
Пакараў яе бог карамі
За бунтоўнасць мужыцкую».

Гэтак думалі, так радзілі,
Але думка — дарэмная!
Зноў адыме, што пакрадзена,
Наша Случчына зрэбная.

Працай цяжкаю — сялянскаю,
Працай ўпартаю — рабочаю,
Яна гоіць здзекі панскія,
Выжывае аброчанасць.

Ўся садамі поўна, бэрамі,
Поўна жытам, пшаніцаю,
У наступнае ідзе з вераю,
Б'е адвага крыніцаю.

Не загіне, ды не вечнае —
Што ўрэзана, адлучана.
Будуць, будуць яшчэ злечаны
Беларусь і ты, Случчына.

Слуцак, 18/II-1925

## II

### СЛУЦАК

Прытуліўся, прылёг пад садамі,
Новых дзён ды вякамі ждучы.
А цяпер вось старымі дамамі
Мову іншую кажа Случы.

Ад князёў, ад паноў, ад няволі
Успаміны — гіньце ў пустэчы!
Не, не будзе, не будзе ўжо болей
Аб пары той ягонае рэчы.

Над будынкамі шэрымі сцягі
Свету новаму значаць цуды;
Разлятаюцца пекныя сагі,
Звоніць гімн працоўнаму люду.

Ядранее, як лес, жыта ціха,
Нахіліла калоссе удала...
Старадаўняя можа ткачыха
Вызваленне працоўным пры ткала?

Ад усходу на захад далёкі
Яе вокліч звоніць завуча:
Сустракай, Слуцак, новыя векі,
Шумі радаснай рэчкай Случчу.

22/III-1925

## III

### КАПЫЛЬ

З сівых вякоў выглядае даўнасць:
Замчышча, роў, курганы...
Ў казках-байках туманная слаўнасць
Дзеяў яго старыны...
Вёрсты адгону, межы-дарогі
Мералі гала-абшар;
Сэрца не чула дбалай трывогі,
Жыцце не мела ахвяр...
Праўда таму, ці мо дымная здань?
— Байкі ўсё гэта чыесь...
Ведама, ведама добра, што пан
Ценгля меў муштры свае.
Меў тую дзікасць, якую после
Доўгія векі ўжываў;
Долю пакутную едкаю бросняй,
Долю яго спавіваў.
Ведама, замчышча князя-пана —
Гэта быў страшны куток!
Плён свае працы ў яго сяляне
Доўга насілі ў аброк.
Слесара браклі ў крыві мазолі,
Мучыла боль катляра.
Колькі пагарды, здзеку, няволі
Неслі князём да двара!..
Белыя коні пекнае княжны —
Чорная праца сялян.
Чуе-чуе андарак сярмяжны
Болі старых капылян.

Нёс свае хвалі бурлівы Нёман,
Мыў замкавы сцены ён.
Ліпы ж нашэптвалі: будзе зломан,
Будзе, ой, зломан прыгон...
Капля за капляй точаць каменні,
Іскра разводзіць пажар...
Колькі свабодзе ўжо пакаленні
Колькі прынеслі ахвяр!
Ўгору высока раслі магілы,—
Нёман у бок пахіліў,
Покуль над сівым буйным Капылем
Волю вяшчун пратрубіў.
Дымам на лес сухастой спусціўся
Блутнае байкі павер...
Яў прыгажэйшы яе нарадзіўся,
Яў, які бачым цяпер.
Ў Янкавым лесе хвоі шапочуць
Новаму часу напеў...
Ўзрокам як змерыць, не бачаць вочы,
Дзе бы палац забялеў.
Роўнымі стужкамі поле-нівы,
Ворыва, сеўба, жніво...
Плёны ад працы ратай руплівы
Звозіць сабе ў гумно.
Едзеш дарогай — пан не староніць —
Проста, хай курыцца пыл!
Чуе ўсё ж, чуе і добра помніць
Горкую праўду Капыль.
Помніць ён: вось канчаецца поле —
Ранай крывавай мяжа;
Там жа, там за ёю — няволя,
Панскага здзеку цяжар.
Топчуць капыты ніву-збажыну,
Рэжуць сялянскі загон.
Мараць дашчэнту знішчыць краіну,
Тую, што наша спакон.
Помніць Капыль і, поўны трывогі,
Ўголас пытае: калі
Звяжуць суцэльна шляхі-дарогі
Часткі парванай зямлі?
Покуль жа будуць з гэтым гадзіцца
Родны Слонім, Нясвіж?
Ціха, нядоўга! Можна дзівіцца —
Промін чырвоны імжыць.

Паліць ён, паліць краты-завесы,
Туліць ён... чорную быль...
Скора руку працягне на крэсы,
Грозную руку, Капыль...
Мые-мые граніцу рэчка Мажа,
Рэжа, як грунт капачы...
Час прадраканні добрыя кажа...
Хто ў іх не верыць, ждучы?
З сівых вякоў выглядае даўнасць,
Нікне на светлай мяжы...
Беражы, беражы, Капыль, дбайнасць,
Волю сваю беражы!

Мінск, 22/VII-1927

## ЗАВАЁВЫ

(На выстаўцы)

Адзін ля другога —
Ў рады павільёны —
І іскрамі ў сэрца
Ўдараюць аншлагі,
Будоўлі вялікай,
Будоўлі развойнай
Вяшчаюць паспехі
Чырвоныя сцягі.

На цвёрдым падмуры
Калгаснага руху
Узростае буйная
Скрозь гаспадарка;
Мінулыя з'явы —
Іх вецер раздзьмухаў,
Ім песню адходжую
Воран адкаркаў.

Разгорнутым строем,
Сустрэчнасцю планаў
Ўсё вышай ды вышай
Растуць дасягненні.

Іх зрокам празрыстым
    Увечар і ўранне
Аглядае мудра
Важаты наш
    Ленін.

Указна рукою
    Ён шлях адмячае:
Наперад!
    Наперад!
З ваёўным задорам!
    Разворвайце межы,—
Хай трактар ступае,
    Распальвайце
Працы натхнення
    Горан...

Адзін ля другога
    Ў рады павільёны
У высі кідаюць
    Жывыя імкненні...
Мы чуем твой голас
    Прызыўны,
    Кіроўны,
Наш мудры настаўнік,
    Важаты наш —
    Ленін!

Мінск, 12/IX-1930

## ПЯТНАЦЦАЦЬ

Пятнаццаць славутых гадоў,
Пятнаццаць высокіх уступаў.
    Кастрычнік Вялікі
    К пабедам нас вёў,
Здабыткі іх плённыя купіў.

Часы грамадзянскай вайны,
Патугі да змору блакадай —
    Згаворы прадаўнікаў,

Кайзер, паны,
Бароны, бандыты і
Рады —

Ў адзіны спляталісь клубок,
Адзіную мэту ўганялі —
Заняць пераможны
Наперад наш крок,
Спыніць барацьбы нашай хвалі.

Ды дарма патугі!
Як змрок,
Як дзікія зданныя цені,
Іх змыў, спаласкаў
Рэвалюцыі цёк
Сваім пераможным імкненнем.

Рабочага класа парыў,
Чырвонае арміі мужнасць —
Вярнулі магчымасць
Да фабрык, да ніў
Нам творчую ўвагу
Напружыць.

І цяжкія раны вайны,
І царскае спадчыны плямы —
Спалілі няшчадна,
Рашуча гарны
Рабочае справы агнямі.

Над полем калгасным гудзе
Мелодыяй трактар
Чыгуннай!
Нас партыя Леніна
Мужна вядзе
Туды,
Дзе святлее Камуна...

Гары ж, разгарайся, уздым
Будоўнае творчае працы!
Кастрычніка вокліч,
Над светам усім
Гучы перамогай ваяцкай!

1932

## РАДЗІМЕ

Прымі, савецкая радзіма,
Адданасць шчырую табе,
Любоў віруючую ўздымам,
Гатоўнасць легчы ў барацьбе
За цэльнасць злітую, стальную,
За моц нярушных рубяжоў,
За радасць, дадзеную мне, тую,
Што лучыць сонца нашых днёў.

Я чую гоман перамогаў
У бурным поступе тваім
Над льдом паўночным, над парогам,
Над дзікім лесам векавым...

Мяне хвалюе і пястуе
Грымотны згон старых вякоў,
Той бурны тэмп, з якім будуе
Атрад стальны бальшавікоў.
Жыццё, няведамае свету —
Прыгожы яў адвечных мар,
Натхнёнай песняю апетых —
Якіх з нас кожны гаспадар...

Стагналі жудасцю гнятлівай
З сахой у полі, пры станку,
І сумна пеў пясняр пра нівы,
Пра смуткам ўбраную раку.

Даволі, годзе слоў і мыслі
Аб тым, што ўзяў адвечны скон,
Над чым заслонаю павіслі
Праменні сонца нашых дзён.
Мой шлях стары пераацэнен,
І пыл яго развеян з ім...
Ўвянчаў цябе, радзіма, Ленін
Высокім ордэнам сваім!..

Табе, савецкая радзіма,
Я працу й душу аддаю...
Прымі і мой аброк ты сынны —
Адданасць шчырую маю!

1935





## ЛИШЬ ТОЛЬКО ФАБРИЧНЫЙ ГУДОК ПРОГУДИТ

Лишь только фабричный гудок прогудит —
Из корпусов мрачных уйти я спешу
За город, где бор молчаливо стоит —
Здесь воздухом свежим я жадно дышу.

Здесь взор мой ласкает открытый простор,
И синяя даль так зовет и манит!..
О чем-то вздыхает задумчивый бор,
О чем-то своем затаенно молчит.

То бодро вперед по тропе я иду,
То с думой глубокой средь бора стою,
То тайные с ним я беседы веду,
То смелые песни рабочих пою...

Ни жизнь без просвета, ни цепи судьбы,
Ни горе раздумья меня не гнетут.—
Но ясные мысли и радость борьбы
Все глубже, все шире, смелее растут!..

1912

## ПЕСНЯ КУЗНЕЦА

Посмотри на мой горн, как пыхтит,
Будто кузница жаром облита!
Разлетаются искры сердито,
И железо с угрозой шумит!

Наковальню стальную свою
Приготовил давно под удары,
Из железа — смягчилось от жара —
Острый меч для себя я кую.

1912

## ГОВОР ВОЛН

Чувств тоскливых, назойливых полн,
С гордой думой, как с призраком споря,
Я прислушался к говору волн
Расходившейся бури на море!

И средь гула сердитых валов
Мне шумела в лицо непогода:
«Нам не надо нигде берегов,
Были б только простор и свобода!»

1913



# АПАВЯДАННІ

## 1909-1927

### НА ЎСХОДЗЕ СОНЦА

*Ахвярую «Нашай ніве»*
*і ўсім яе супрацоўнікам*

...Мне не спалася. Прачнуўся пасярод ночы, падышоў к акну, уталопіўся ў яго і пільна пачаў глядзець на вуліцу.

На дварэ стаяла пекная чароўная ноч! Неба цемнавата-сіняе, глыбокае без меры, доўгае і шырокае без канца, густа патыканае мігатлівымі яснымі зоркамі, як вялізны дарагі купал, аблягала круг-кругам чорную грэшную зямлю. Зоркі весела мігацелі. Кожная з іх дадзена асобнаму чалавеку і свеціць датуль, пакуль той не сыдзе з гэтага свету. Тады зорка падае на зямлю і лье па дарозе свае жаласлівыя агнёвыя слёзы, каторыя на момант як бы застываюць на небе, а пасля раптам прападаюць...

— Памёр чалавек — значыцца, патухла і зорка яго! — Гэтак кажуць цёмныя людзі, у гэта некалісь верыў і я...

Эх, колькі гэтых зорак тухне на нашых вачах, брацця мае! Зоркі шчаслівых і нешчаслівых, зоркі багатых і бедных, зоркі паноў і мужыкоў!..

І я ў гэту цёмную душную ночку пачаў шчыра, не мігаючы вачыма, пільнаваць, сачыць за кожнаю зоркаю, ці не спадзе адна з іх на маіх вачах? Сон зусім пакінуў мяне.

І вось — там далёка, на ўсходнім краю неба, як прымха якая, раптам адарваліся разам тры зоркі і мі-

гам апалі на зямлю! Чые яны? Ці беднага мужыка-працаўніка, ці пана вяльможнага? Ці сіроткі гаротнага, ці пестуна шчаслівага? Не ведаю! Толькі ўсё ж такі нечыя яны ды ёсць!.. Можа, гэта на маю карысць абарвалася жыццё тром чалавекам?!

Пры гэтай думцы я хацеў апусціць вочы, калі ізноў мне прыйшлося быць сведкаю спадання дзвюх зорак. Тады я раптам, не па сваёй волі, апусціў не толькі вочы, а і галаву і пачаў разглядаць шэрую, нудную, акрытую цьмою зямліцу, сцены і стрэхі цёмных, нізенькіх, падобных адна да адной мужыцкіх хацін. У галаву палезлі думкі, каторыя на вуха шапталі мне: «Нашто табе гэнае неба? Што табе яго пекнасць дзіўная, яго хараство святое?.. Ты — сын зямлі, нуднай, чорнай зямлі; ты — нявольнік жыцця, цяжкога, горкага, паднявольнага; ты — ахвяра бяды, няшчасця і нядолі!.. Не на тое ты радзіўся, каб дзівавацца хараством прыроды, пазнаваць яе, а пасля ў кніжках чыркаць аб ёй, каб і твае брацці вучыліся любіць яе!.. Ты — дзіця люду цёмнага, забітага, спрацаванага, дзеля каторага няма нічога другога, апроч працы цяжкой, нязможнай, якую ён сам апявае ў песні нуднай, зложанай яго балючым сэрцам, яго клапатлівым мозгам і напісанай чыстаю памяццю на шэра-чорных лістах часу, каторы бяжыць без канца... Усё, што жыве на свеце, што яго цікуе, ён знойдзе на гэтых лістах, прачытае... і пойме... Гэта яму знаёма — другога, інакшага пісьма пакуль што ён не ўмее чытаць... Яму найперш трэба таго, што датыкалася б яго вушэй, вачэй, яго ўсяе істоты, што ўскалыхнула б ім, збудзіла ад векавога сну, расплюшчыла яму вочы; тады ён падымае іх к небу!.. Тады з яго сям'і выйдуць свае родныя песняры, каторыя ў роднай мове апяюць усе дзівы свету, другім народам даўно вядомыя...»

І чым далей, тым болей і болей думкі апутвалі мяне ўсё шчыльней, налазілі ўсё новыя і новыя, ды ўсё заядлейшыя, цяжэйшыя, рабілі з мяне бязвольнага іх слугу...

Пад іх цяжарам я асунуўся, прысеў на лаве ля акна і задрамаў...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

...Колькі часу я спаў? Што я сніў — не ведаю! Толькі як ізноў падняў галаву, ужо свежую, вольную

ад цяжкіх думак, і кінуў вокам на двор, дык над зямлёй ужо свяціла сонейка.

Гэтым разам узышло яно надта дзіўнае і чароўнае!

Смела і хутка выйшла сонейка з-за лесу і памаленьку пачэсне прыгалубіла прачнуўшуюся зямлю і ўсё жывое на ёй. Усё затрапяталася, заварушылася і звонка заспявала ў адзін голас шчырую літаню ўзышоўшаму сонейку!

«Вітаем цябе, цар свету, цар усяго жыцця на зямлі! Вялікае і слаўнае сонца! Ты прыйшло да нас, разбудзіла нас ад сну! Мы ўсталі на твой прыход і дружна, хутка пойдзем да працы! Не сходзь жа навекі ты з гэтага неба і агнём шчасця асвячай грэшную халодную зямлю! Вітаем цябе, сонца!»

Нейкая радасць і лёгкасць напоўніла маё сэрца; абярнуўшы вочы на ўсход, спяваў і я разам з усім жывым святую, дзіўную, шчырую песню ўзышоўшаму сонцу!..

1909

## ДУМКІ

*Пасвячаю Якубу Коласу,*
*песняру народнаму*

Я стаяў на вузкай-вузкай мяжы, абросшай рэдкай высокай травой; а абапал яе, крышку шырэйшыя за мяжу, цягнуцца мужыцкія шнуркі жыта. Круг-кругам — зялёнае, пекнае, як дарагі аксаміт,— мора зелені. Пахне нечым свежым, лёгкім!..

Пад самым недзе небам, чыстым, ясным, пяе-заліваецца рэзвы звонкі жаваранак, верціцца, як лёгкае пёрка ў паветры, і быццам весяліцца. Унізе ж над жытам цэлыя мільёны мошак, жучкоў, матылькоў!

Якая свабода, як лёгка!..

Чаму ж, нягледзячы на ўсё гэтае хараство, агарнулі мяне вялікія, цяжкія, вострыя думкі, каторыя разам заўладалі маю душу і сэрца? Я бязвольна схапіўся за галаву, апусціў яе к зямлі, прыплюшчыў вочы і пачаў думаць...

«Вось гэтыя палоскі, гэныя вузкія шнурочкі,— гэ-

та багацце мужыка; яны кормяць і гадуюць яго, сям'ю, даюць хлеб усяму свету. Гэта ж тая самая зямелька, палітая крывёй і гарачым потам мужыцкім, на каторай бачыў я сам, як леташняй восенню, хмурным, сумным днём,— калі сыпаў малюсенькі, дробненькі дожджык, што прамочваў суконную світку мужыка-хлебароба, наскрозь дабіраўся да яго потнага цела, пускаў па ім дрыготку,— калі к яго шырокім патрэсканым, апэцканым нагам прыліпала цяжкая, ліпкая зямля,— ён, гэны цёмны, гаротны мужык, цягнуўся разорай за плугам, каторы цягнула яго худая, змардаваная Буланка — сцёбаў свайго супрацоўніка вернага канаплянай пужкай, панукаў яго і пяяў сабе пад нос нудную, жаласлівую песню, поўную слёз і гора!

Ці ж не можна было дагадацца тады па яго смутным, жоўта-зялёным касцістым твары, па яго сухіх жылістых руках, па ціхай, няспешнай паходцы — па ўсім гэтым ці ж не можна было дагадацца, што ён думаў тады?! Э, можна, дый лёгка! Пэўне, маўчалівы пакорны хлебароб стараўся чым найясней разгледзецца ў густой сетцы бесканечнай чарадой плыўшых дзён — смутных, марных, нез'яснёных! Што нясе яму хваля часу? Кожны дзень, кожная гадзіна нават ля яго невядомы... А мо ўся яго праца, уложаная ў гэту ніву, вырваўшая шмат жыцця і сіл, у адзін момант разам згіне, не вярнуўшы і крыхоткі адплаты за працу. Вось не перастануць ліць дажджы, затопіць вадой нівы, знясе насенне, уваб'е ў зямлю — і жытцо не ўзыдзе... А мо раннія замаразкі пашкодзяць?!. А мо так ні адсюль ні адтуль выпадзе град, паб'е яго ці бура паломіць — і ўсё прапала!.. Альбо згніе ад дажджу, пажаўшы, альбо згарыць, звазіўшы... А калі дабрыцо і падыдзе акуратна да канца, прадасі яго, каб толькі падаткі і нядоімку заплаціці! Ох! Нельга не плакаць, нельга не нудзіць! Брыдкае і дрэннае ты, жыццё мужыцкае, жыццё хлебароба! Мучыцца чалавек дый усё чакае, збедаваны, яшчэ горшае бяды! Жыве і не ведае, што яго спаткае заўтра, дзе ён будзе тады? Жыве і не жыве!..»

І разам я пакінуў думкі горкія, праўдзівыя думкі, падняў галаву, падняў вочы к небу і загледзеўся ў яго вышыню, у яго глыбіню, без дна, каб забыцца, што жыву я, чалавек, на зямлі, на гэтай грэшнай, заклятай зямлі, над каторай стопудовым молатам вісіць гнеў

цяжкога лёсу — нядолі, таго страху, што сочыць цябе, каб падпільнаваць момант і разам схапіць цябе ў свае вострыя, жадныя зубы!..

І нудна, і горка, і цяжка!..

І кажаш ты, разувераны, хмурны, што няма спакою, шчасця на зямлі,— няма волі чалавеку ні ў горадзе шумным, ні ў мястэчку цішэйшым, ні ў вёсцы спакойнай, ні ў шырокім чыстым полі?..

1909

## АДВЯЧОРКАМ

Стаяла летняя цёплая пара. Дзень выпаў вельмі харошы і пагодлівы. Неба ад самай раніцы да змяркання было чыстае, яснае.

Пасля цэлага дня цяжкай працы ў цеснай, душнай майстэрні надумаў я адвячоркам выйсці ў поле — на волю, туды — к невялікаму хваёваму хмызнячку, што раскідаўся недалёка мястэчка, на невысокай, заросшай дзірваном горцы.

Я часта любіў хадзіць у гэты ціхі і мілы вугалок, садзіцца на пакрытым мохам каменьчыку ці на гнілым пянёчку і думаць. Найбольш я любіў думаць аб жыцці і аб долі-нядолі працавітага беднага люду, бо я сам працаўнік, сам бяздольны...

І вось на гэты раз, калі я прыйшоў к хмызнячку і прысеў там на вузенькай сцяжынцы, мяне зразу ахапілі неадчэпныя думкі-гадкі. І я ім паддаўся. У маёй змучанай галаве пачалі рысавацца такія вобразы: я чалавек такі, як і ўсе другія людзі. Я працаўнік шчыры і верны, зжыўся са сваёй майстэрняй,— дык чаму ж мне так міл гэты зялёны лясок, гэтае шырокае, нязмернае вокам поле, гэтыя вясёлыя пташкі? Чаму я так ірвуся сюды — да гэтай прыроды? Я рвуся, а мяне стрымліваюць, не пушчаюць. Іншыя здаволены ўсім, ім гэта непатрэбна... Чаму ж мне няхват? Чаму мне мала? Чаму?

А проста затым, што я бязвольны, слабы раб; затым, што я скаваны па руках і нагах кайданамі нядолі; затым, што я прымушаны цяжкім лёсам сваім, як

пташка ў клетцы, сядзець дзень і ноч у цесных, халодных сценах апрацівеўшай майстэрні, у задусе, у дыму. Затым, што я, як адрэзаны ад свету, волі, сонца і людзей, вельмі рвуся на прастор, на волю, да прыроды... А там, у балючых грудзях, б'ецца маладое, гарачае сэрца, ірвецца да свабоды... А дарога загароджана, завалена... І за што? Чаму? Ці затым, што я чалавек працоўны, што я працую для другіх, што свет жыве з гэтай маёй працы... Зачым? Недзе адазваўся звон, і думкі абарваліся. Быццам са сну схапіўся я, агледзеўся ўкруг,— ці не відаць дзе жывой душы, каб падзяліць з ёю мае цяжкія, дакучлівыя думкі і гадкі жыцця... Нікога нідзе. На дварэ змяркалася. Сярод цішы гулка несліся з мястэчка зыкі звону, раўняліся са мной, міналі мяне і прападалі недзе далёка, далёка...

Услед за імі ляцелі і мае думкі...

1910

## РАСПУСНІЦА

— Злодзей ты, злодзей! Шэльма ты, шэльма! Да чаго ты мяне давёў! Ах, закляты!

І Аўдоцця палажыла на стол асадку, падперла рукою бараду і пачала думаць. Бледны, змучаны яе твар выказваў сабою тыя мукі яе душы, якія Аўдоцця перажывала за астатнія два гады: бач, з таго часу, калі яе гаспадар, Хірысон, пакінуў ёй пісаць з Амерыкі, адрокся ад яе і, як перадавалі, сышоўся там з нейкаю другою кабетаю... З упалых вачэй Аўдоцці каціліся па яе бледных шчоках адна за адною, зліваючыся, буйныя, як каралі, чыстыя слёзы, росячы сваёю цёплаю вільгаццю яе кашульку.

Алеська, васьмігадовая дачушка Аўдоцці, заморанная, пакрыўджанай сіроткаю сядзела супроць мацеры, сачыла ўвесь час за ёю ды ўсё мерылася плакаць.

— Сціхні, дачунька мая, сцешся, любка,— супакойвала Аўдоцця дзяўчынку,— пайдзі лепш, родненькая, паглядзі, дзе нашы Сёмачка з Еўкаю. Пайдзі, котка мая.

Але Алеська не адыходзіла ад маткі, мэрам бы баючыся яе адну пакінуць.

— Ах, ах, што мне болей яшчэ яму напісаць? — папытала сама ў сябе Аўдоцця, гледзячы на дачушку.

Алеська пацягнула плечыкамі і адразу ж адказала:

— Напішы, матулька, што я лічу яго нашым згубіцелем, катам нашым.

Аўдоцця, нярадасна ўсміхнуўшыся, мэрам бы згадзілася з дачушкаю, і трасучаю рукою вывела на бруднай паперы высокімі, крывымі літарамі прадыктованыя Алеськаю словы. Вывела іх, паглядзела на паперу, падумала крыху і паднялася з месца.

— Што, ці ўжо скончыла пісаць, мама? — запыталася Алеська.

— Не, дачушка, я яшчэ не скончыла, я так адхілілася,— адказала Аўдоцця дзіцяці.

У гэты момант пачуўся бразг дзвярыма, Аўдоцця хутчэй хапіла са стала недапісаны ліст і сунула яго за пазуху, пасля адвярнулася, села на ўслоне і стала чакаць.

Хвіліны праз дзве ў хату ўвайшла Паруля, Аўдоццына маці, старэнькая, маршчлівая, але яшчэ рухавая бабуля.

— Добры вечар, дачушка! — прывіталася яна.

— Вечар добры! — адказала Аўдоцця,— прысядзьце, вось,— падаючы зэдлік, папрасіла яна,— вы так замарыліся, няблізкі свет ідучы сюды.

— Але, дачушка, такі дужа стамілася. Вядома, старасць сваё бярэ,— охаючы і крэкчучы, казала Паруля і прытым нядужна прысела на зэдлік.

Села і глыбока ўздыхнула.

— Ну, што добрага чуваць у цябе, Аўдоцця? — запытала Паруля.— Мо часамі Хірысон піша што?

— Не, мамачка, нічога не піша, хай яго горліца зарэжа — прападаць мне даводзіцца з-за яго.

Уваччу маладзіцы паказаліся слёзы.

— Мама, не плачце,— папрасіла мацеру маленькая Алеська і сама заплакала.

— Сціхні, мая котка,— суцешыла яе Паруля.

— Калі бо наш татка вельмі брыдкі. Мы з мамаю пісалі яму ліст, і я дапісала, што ён — згубіцель наш.

— Ліст пісала? Аб чым жа хаця? — з цікавасцю запытала Паруля ў Аўдоцці.

— Ой, мамачка, я ўжо і сама не ведаю, што яму пісаць. Няхай ён там голаў сабе падверне, гадзіна за-

клятая! Гэта ж не жартачкі, да чаго ён давёў нас... Хоць з голаду прападай. На вошта падобны сталі дзеці... Людзі смяюцца, гавораць усяк, калі ты стараешся здабыць кавалак хлеба тым ці іншым спосабам... Людзям няма жалю, а баўтаць языкамі — дык з любасцю.

Заламаўшы рукі, Аўдоцця заплакала. Паруля, гледзячы на дачку, таксама заслязілася і выцерла падолам каравага фартуха запалыя вочы.

Тым часам на дварэ цямнела. Апошні промень сонца знік з хаты, дзе па кутках пачаў туліцца шэры змрок.

— Алеська, Алеська,— абярнулася Аўдоцця да дачушкі,— пайдзі, мая котка, пашукай дзяцей, а то яны, небаракі, цэлы дзень не еўшы. Пайдзі, дачушка.

— Добра, добра, мамачка,— пралепятала дзяўчынка і хутка выкацілася з хаты, моцна стукнуўшы дзвярыма.

— Аўдоцька, Аўдоцька! — праз плач вымавіла матка, азірнуўшыся па хаце,— скажы ж мне, дачушка, ці то праўда, што аб табе людзі балхвяць, нібыта ты... дачушка, мужчын да сябе прымаеш? Скажы мне, дачушка, ці не злыя языкі распускаюць пра цябе гэтыя чуткі? Ах, напускаюцца бог і людзі!

Аўдоцця ўздрыганулася ўсім целам, рухава захадзіла па хаце і не ведала, што адказаць мацеры: сазнацца — не казала сумленне, а стаіцца — таксама балюча. Памаўчаўшы нейкі час, Аўдоцця рашыла ўсёткі схлусіць і сказала мацеры:

— Мамачка, усё — адна брахня. Плюньце ў вочы таму, хто будзе брахаць вам аб гэтым. Гой, ды якія ж заразы ёсць у нашым мястэчку! Вочы б павыколвалі табе, каменнямі б закідалі, каб прымелі. І завошта яны на мяне накідаюцца? Што я ім дрэннага зрабіла? Ці я мяшаю каму, ці стаю папярок дарогі?

— Ды яно ж так, Аўдоцька, ужо свет такі. Сочаць за табою, як за злодзеем... Трэба, дачушка, так жыць, каб ніхто і падкалупіць не мог нічым...

Аўдоцця не магла далей нічога сказаць: яна паківала галавою, моцна і глыбока ўздыхнула і паглядзела ў акно.

— Што, няма дзяцей? — запытала яе Паруля.

— Няма. Прыйдуць зараз... Яны і ўпоцемку патрапяць... Пэўна і вам, мама, прыйдзецца ісці, пакуль яш-

чэ зусім не сцямнела. Пакуль заклыпаецe памаленьку...

Паруля мэрам бы і забыла, аб чым толькі што размаўляла з дачкою, і рухава паднялася з месца.

— Але, але, Аўдоцька, я пайду-такі,— вымавіла яна і зазірнула ў акно.— Ой, ды ўжо ж зусім цёмна на дварэ,— дабавіла яна і рухава выйшла з хаты.

Аўдоцця правяла мацеру на вуліцу, папрасіла яе наведацца ў нядзелю і, узяўшы на рукі клыпаўшага да хаты разам з Алеськаю Сёмачку, вярнулася з дзецьмі ў хату.

У хаце было зусім цёмна. Аўдоцця засвяціла газнічку. Маркотным, смуглым святлом асвяціла яна хату, пусціўшы па сценах чорныя лахматыя цені.

— Вось і святло, вось і святло, мае вы маленькія дзеткі,— ні то прапяяла, ні то прамовіла да дзяцей Аўдоцця.— На, пазабаўляйся ■ Сёмачкаю,— абярнулася яна да Алеські,— а я пашукаю што-кольвечы з'есці вам.

Аўдоцця падышла к печы, адчыніла засланку і вынула два маленькія гаршчочкі.

— Вось, наце, ешце! — выказала яна, падаючы дзецям адзін гаршчочак з трыма лыжкамі ў ім і па кавалачку хлеба.

Згрудзіўшыся каля прыпеку, дзеткі прагна пачалі ўвіхацца з гаршчком, мэрам яны тыдзень нічога не бачылі ў вочы.

Праз некалькі хвілін гаршчочак апусцеў, а ад хлеба асталіся макавыя крошкі.

Сама Аўдоцця нічога не ела.

— Ну, укладайцеся, дзеткі,— прыказала яна, узяўшы меншае і палажыўшы яго ў запечку ў нейкіх брудных пыльных лахманах. Старшыя паслухмяна паўскоквалі на пол і спакойна ўляглiся абапал свайго браткі... Аўдоцця абцерла лаву, прысела тварам да газніцы і, дастаўшы з-за пазухі недакончаны ліст, прыладзілася на прыпечку яго дапісваць.

— Як жа яму канчаць? Якое слова ўставіць, каб яго там, заклятага, яно праняло наскрозь?.. Але ж ці кране ўжо тую прадажную душу хоць што! — падумала яна сама сабе і зараз жа прынялася адшукваць у памяці тых ці іншых слоў. Адно за другім, цэлаю чарадою завіліся яны ў Аўдоццінай галаве, мэрам просячыся кожнае адбіцца на паперы. Аўдоцця вылучыла

некаторыя і ўжо прыгнулася над прыпечкам, каб пісаць, як раптам у акно хтось застукаў. Аўдоцця міжвольна схамянулася, але хутка супакоілася і падбегла да акна.

— Хто там? — запытала яна.

— Я... Я... Лукаш... Пусці, Аўдоцця, пусці-ы!

— Табе чаго?.. Ці ж не сорамна, звечара...— упікнула яна прыцішаным голасам.

— Пусці, пусці, Аўдоцця, я... з грашыма... Я... я тры рублі прынёс... і за старое расплачуся...— данёсся з двара просячы голас.

Аўдоцця адхілілася ад акна і ўзрадавана прагаварыла: «Тры-і-ы! рублі-ы! Тры рублі! Гэта ж на два тыдні жыць з дзяцьмі!» — і рухава, не думаючы больш нічога ні аб чым, кінулася ў сенцы, адчыніла дзверы і пазвала:

— Ну, ідзі! Ідзі, ну, Лукаш...

П'янаваты, але цвёрды на нагах, хутка апынуўся ў сенцах здаровы, грубы чалавек.

— Аўдоцця, дзе ты? — запытаў ён, не бабачы Аўдоцці.

Яна не адказала, але стукнула засаўкаю.

Лукаш, разняўшы рукі, зрабіў колькі крокаў на стук і абмацаў Аўдоццю.

— Пачакай, чаго ты...— хацела штось выказаць яна, але Лукаш аберуч прыцёг яе да сябе, пераняўшы гутарку, пачаў заблутана, адрыўна прасіць...

А ў яго кішэні звінела серабро.

1918

## «ЛАЙДАК»

Ужо падыходзіў канец дзесятае гадзіны раніцы, калі Палута вярнулася з травы. Ёй і на гэты раз пашанцавала: стражнік не ўбачыў, і яна нажала два вялікія дапаўна мяшкі добрае паплаўное травы. Янкель, рамізнік, стрэўшы Палуту з травою, нічога не кажучы, адкупіў у яе абодва мяшкі і яшчэ нават падзякаваў.

Гэта Палуту дужа ўзрадавала, бо яшчэ дагэтуль яна ні разу так удачліва не зарабляла.

Вясёлай ды здаволенай вайшла яна ў хату.

— Ну, цяпер крыху супачыну. Ужо сёння болей нікуды не пайду. Дзякуй богу, утаргавала, і хопіць для мяне на нейкі час. Вось толькі трэ было б збегаць на рынак ды купіць хаця кавалачак сітніцы Хведарку,— уголас сказала яна сама сабе.

І, успомніўшы аб Хведарку, Палута кінула паглядам у запечак. Кінула паглядам і раптам сумелася, паціснуўшы плячыма: замест Хведаркі яна ўгледзела старэйшага свайго сынка, Янку, які, скурчыўшыся абаранкам, ляжаў прытоена ў запечку. «Што то мае быць? — прабегла ў Палуцінай галаве.— Толькі тыдзень мінуў, а ён ужо і дамоў наведаўся».

— Янка, Я-а-начка-а! — уголас пазвала Палута і хутка падбегла да полу: — Ці ж гэта, Саначка, ты-ы? Чаго ты вярнуўся дадому, мой сынок? Можа, збег ад пана Замыжнага?

Але хлопчык нічога не адказаў на мацерыны запытанні: ён моўчкі, потайна ляжаў, баючыся паварушыцца, і відно было, як спуджана паморгвалі яго прыплюшчаныя вочкі.

— Ці ты чуеш, ці не? — гучней і злей гукнула Палута на сынка і штурханула яго рукою ў бок.

Янка раптам узварухнуўся, выпрастаўся і мігам падняўся.

— Мамачка, толькі не чапайцеся. Я вам сазнаюся — я збег ад пана Замыжнага. Вельмі ўжо там з мяне здзекаваліся: не кармілі зусім, білі, папіхалі, спаць не давалі. Я не мог сцярпець і... збег. Не беце, матачка-а... Не магу я служыць у Замыжнага, нізашто не магу і... не буду.

— Брэшаш, распуснік!

— Не, мамачка, дальбог, не,— стукнуўшы кулаком у грудзі, пакляўся Янка.

Палута замаўчала і некалькі часу нічога не казала, але скора да яе надышло сумненне, і яна вымавіла да сынка:

— А калі ты хлусіш, што тады будзе? Вось я толькі папытаю ў аканома Сідара, чакай...

— Не, ні каліва не хлушу, ні беднага... Папытайцеся сабе ў дзядзькі Сідара...— умольна гледзячы Палуце ў вочы, апраўдваўся Янка.

Але не паспеў ён дагаварыць свайго апраўдання, як пачуўся стук у акно, а за ім і голас знадворку:

— Палута! Палута-а, га?

Палута кінула Янку, барзджэй падбегла да акна і ўгледзела ў ім Сідара, аканома Замыжнага.

— Ага-а! Сіда-ар! Чаго ж гэта вы? — запытала яна Сідара, прачыняючы акно.

Сідар усміхнуўся і адказаў:

— Чаго! Да ты, пэўна, і сама дагадалася.,. Гэта ж...

— А што? — запытала Сідара Палута.

— Да, простая рэч, за хлопцам прыехаў. Узяў учора ноччу і збег. Кінуў-рынуў у полі стада, а сам, займаздароў, драла. І ліха ведае, колькі ўчыніў шкоды: у сенажаць, ведаеш, рынула ўсё стада і нашчэнт здратавала з дзесяціну поплаву. Эх, такі ўжо, галубка, распусны ён у цябе, такі мудрагельны хлопец, што не дай ты рады. Пэўна, заснуў у пасецы, выпусціў з ваччу стада і з пярэпалаху ўцёк дахаты... Напэўна ж, я думаю, ён у цябе ў дому?

Сідаравы словы не былі наўдою для Палуты: яна зразу, толькі што ўгледзела ў хаце Янку, думала гэта. Да кляцьбы і запэўнення свайго сынка Палута аднеслася з поўнаю няўвагаю. Нават і думкі не дапускала, што яе сынок запэўняе шчыра. Чамусьці яна верыла словам аканома Сідара. Толькі ён скончыў запытанні, як Палута адвярнулася да запечку, дзе насуплена стаяў Янка, і злосна прыкрыкнула на яго:

— Ці ты чуеш, адшчапенец, што дзядзька кажа? Каб цябе паралюш задушыў. Ну ж, я табе пакажу, зараза.

— Ша-ша! — перапыніў Палуту Сідар.— Крычаць — то ўжо ты не крычы на яго... Па-добраму лепш скажы, угавары яго болей так не рабіць...

— Го! не! Я-а яму пака-ажу! Эх, эх! І што мне рабіць з гэтым разбойнікам... светам круціць, на яго ліха...

Яна злосна скрывіла міну, сашчапіла кулакі і намерылася кінуцца на хлопчыка.

— Янка-а! Га, Янка-а! Хутка адзявайся і мігам з дзядзькам Сідарам назад да пана Замыжнага. Барзджэй! — прыказала яна хлопчыку.

— Мамачка, родненькая, што хочаце са мною рабеце, куды хочаце пасылайце — толькі пазбаўце ад пана Замыжнага. Ён замучыць мяне... Там я з голаду памру. Не адпраўляйце мяне з дзядзькам Сідарам... Я з ім не паеду; ён вам няпраўду пра мяне наказаў...—

з плачам у голасе, з мінаю на твары, якая выказвала глыбокую просьбу, умольна казаў да мацеры Янка.— Я ўсё роўна там не застануся, калі мяне туды сілаю завязуць. Уцяку, кіну... павешуся лепей ці ўтаплюся, а не ўслужу...— ужо з пагрозаю дадаў ён.

— Як?! Ты мяне яшчэ страшыць уздумаў? Вось я табе дам — павешуся! Бяры андарак ды шапку і гайда назад! — узлаваўшыся да чырвані, крычала Палута.

Янка спужаўся мацеры і паслушна злез з полу, зняў з кручка халацік, ды шапку і, уздзеўшы іх, паслужна выйшаў з хаты.

У двары сустрэў яго Сідар. Хапіўшы за руку Янку, ён жартліва сказаў:

— Кінь журыцца, нябожа; пакуль жаніцца — загаіцца... Вось забывай усё, лезь на воз, і паедзем.

Янка нічога не адказаў Сідару. Галодны ад учарашняга і аслаблы, але не могшы папрасіць у мацеры есці, ён пайшоў да воза і ўсеўся на мяшку з саломаю.

— Янка, Яначка! — радасна кінуўся да яго Хведарка, прыбегшы аднекуль і ўгледзеўшы брата на возе: — Вазьмі і мяне з сабою, я хачу пад'ехаць — я так доўга не катаўся.

Янка нічога не адказаў і братку: ён мэрам і не слухаў, што яму так рад і так шчыра сустрэў яго зусім нявінны ні ў чым Хведарка. Нават і вокам не кінуў на яго, калі пакрыўджаны Хведарка адышоў ад воза, сеў на прызбе і набочыўся.

Не зважаючы на дзяцей, Сідар каля пяці хвілін аб нечым пашаптаўся з Палутаю, а пасля адвязаў каня і крануў з месца.

— Бывай здарова, Палута! — сказаў ён да Палуты і паківаў галавою.

— Бывайце здаровы, ягамосць Сідар...— дабрадушна адказала Палута і следам дабавіла: — Вы ўжо там не патурайце яму, ушчувайце добра, калі трэба; я яшчэ падзякую вам за гэта... Што з ім цырымоніі разводзіць!..

Сідар засмяяўся і пагнаў каня.

— Што ж, Янка, засмуціўся? Баішся ехаць? Кінь нудзіцца! — абярнуўся ён да Янкі.

Янка маўчаў. Гурток цікавых дзетак, якія сабраліся вакол воза, а цяпер расступіліся і глядзелі, як той аддаляўся, крычалі ўслед Янку розныя выказы: «Вяр-

ніся, Янка», «Прывязі яблык, як паспеюць», «Прыязджай на Пётру». У грамадку дзяцей замяшаўся і Хведарка.

Палута ж, толькі Сідар пагнаў каня, пакінула надворак і вярнулася ў хату. Усё, што здарылася з яе сынком, мэрам і не было — адышло на задні план, забылася.

Удачлівы заработак і чародныя клопаты жыцця нахлынулі ёй у голаў і запаланілі Палуту.

І толькі спусціўшы якую гадзіну,— ужо паспеўшы натупацца, збегаць на рынак і вярнуцца назад,— яна выпадкова звярнулася думкамі да Янкі; звярнулася і тут жа ўспомніла, што яна нічога не дала яму есці. Палуту ахапіла мацерына пачуццё спагады да свайго дзіцяці, і яна тужліва прамовіла сабе:

— Ах, на дзіва, на ліха мне! Я ж і перакусіць яму нічога не дала! Можа, і сам ён нічога не браў? Пэўна, што не. Пэўна, што галодным паехаў, небарака, бо што ж ён мог знайсці? Ах, і прыгнала яго нядобрае, гэтага заразу Сідара!..

Прайшоў цэлы тыдзень пасля гэтага. Была нядзеля. Палута, заклапочаная штодзённым жыццём і яго вымаганямі, ні разу не ўспомніла пра Янку: не бачыла перад сабою, і здавалася ёй, што малы спакойліва і памяркоўна нясе сваю службу.

Але ў нядзелю зранку, зусім знянацку, штосьць нейкае перавяло Палуціну думку на Янку: «А маладзец, сынок! Бадай, прыладзіўся і цяпер паслухмяна выпаўняе службу. Не пашкодзіла, нябось, што ўшчунула добра».

І толькі Палута выпусціла гэту думку, як знадворку данёсся ў хату знаёмы голас:

— Палута-а! Палутка-а!

Палута ажно здрыганулася ўсёй постаццю і мігам кінулася да акна. Зірнула — і разам падалася назад, нібы яе хтось адпіхнуў. «Ізноў Сідар!» — прамігнула ў яе галаве палахлівая думка. А Палуце падумалася, што гэта не думка, а непрытомны міжвольны выгук...

— Сідарка-а, чаго-о вы ізноў?! — праз які час стрэла яна Сідара, які пераступаў парог у хату.

— Я... я... і нават з дрэннаю весткаю...— з нарачытаю асцярогаю, працягваючы рукі да Палуты, гаварыў Сідар.

— А што, што, што??! — не могучы ўстаяць на нагах, запытала асавелым голасам Палута.

— Палута-а... Шша-а... супакойся-а... бедная... Твой Янка-сь... утапіўся-а... Вунь на возе яго целца... Ідзём узяць. Учора вынялі з сажалкі... Толькі і знайшлі, што ўгледзелі недаплецены кошык на беразе...— казаў Сідар, бязмоцны, каб спыніцца, ад горнасці і спагады да кабеты.

Палута ж ужо не магла нічога казаць: плач сціснуў ёй сэрца да болі.

Сідар кінуўся да яе, каб падтрымаць, але і сам чуў, як калаціліся яго рукі і поцем засцілаў вочы...

А з усходняга канца мястэчка, праз тры дробных акенцы, даносіўся ў хату гучны трызвон: то званілі на абедню.

1918

## ШУКАЮЧЫ ПРАЦЫ

Падыходзіў вечар. Сонца спускалася за лес, і з-пад зялёных куп ялін і хвой выглядала доўгімі, тонкімі космамі праменняў нешырокае гала, перакроенае дарожкаю, якая вілася выкрутасамі праз гала к лесу. З аднаго боку дарожкі ўпярэмежку — то калдобістай, гразкай, то сухой, па калені пяску,— гэта гала было з поплаву ў куп'ю, вытаптанага гавядаю, а з другога — з іржышча, дробнага і нізкага.

Дарожка выходзіла з-за пясчанае горкі і, верцячыся, у другім канцы гала хавалася ў лесе. На граніччы гэтага лесу, якраз у тым самым месцы, дзе дарожка пахільвала за першыя хвоі, тырчалі два пенчукі,— відаць было, што з нядаўна ссечаных ялін.

— Ну, вось, гэтта мы і спачы́нем! — прысядаючы на адным пні, сказаў Цімох да таварыша Ігната.

Ігнат спыніўся і старанна адсопваўся, азіраючыся вакол і на сонца.

— Не ра́джу садзіцца, а то спознімся! можа, ужо параход прыйшоў... Лепш хадзем на прыстань, а то яшчэ пакуль зойдзем...— не згаджаўся Ігнат.

# БЕГУНЕЦ

## I

Была цёмная-цёмная ноч, хоць вока выкалі. І ціхая пры гэтым. Неба несціхана слязілася ні то драбнюсенькім дожджыкам, ні то буйною вільгаццю. Было пранозавата-холадна, нібы вецер калоў іголкамі. Выбітыя сотнямі ног сцяжынкі праз збожжа і між лесу, гладкія і цвёрдыя нядаўна, зрабіліся гразкімі і слізкімі. Мокрае вецце дрэў і густая зелень травы ды збожжа, нахіліўшыся над сцяжынкамі, злівалі ваду.

Франусь Доўбня, здаравенны, высокага росту чырвонаармеец, адзеты няблага, у чорны, яшчэ мала пацёрты шынель, порткі брызентавыя з галіфом і цэлыя рыжыя чаравікі, паспешна ішоў з лесу між густога, ужо красуючага жыта. Раз-поразу ён азіраўся назад і ў бакі, хоць нельга было нічагуткі ўгледзець перад сабою, і ўсё прыгінаўся як найніжэй. Азіраючыся, ён спатыкаўся, трапляў у лужыны каля межаў, на межы і хрустаў зламанымі камлямі жыта. Некалькі разоў, яшчэ каля лесу, Франусь хлюпнуў у нейкую канаву, поўную вадою, і захапіў чаравікамі вады, якая, здавалася, не мела сабе меры. Абы спатыкаўся, дык ногі выціскалі пырскі, якія ляцелі пад порткі і студзілі разгарачанае цела.

Франусь Доўбня злаваўся, ажно скрыгатаў зубамі, праклінаючы то чаравікі, то сцежку, то жыта, то клунак, што раз-поразу штоўхаў яго ў плечы, у бок, па руках.

Усяго прайшоў каля трох вёрст, а паганая дарога да таго яго стаміла, што чуўся цяжар на ўсім целе; пад пахамі і ў поясе папрэла, а з ілба цурком каціліся фасоліны поту.

Франусь падымаў казырок шапкі, перакладаў лепей рэвальвер у кішэні і ў думках лаяўся: «Каб ты згарэла, каб ты! Замучыць, ды годзе. Гэта ж за ноч не ўбярэш гэтых пятнаццаць вёрст... Чаго добрага, каб не нагналі адно, а то...»

Страх хапіў яго за горла і не даваў дасказаць выразу. З дрыгатам, які ахопліваў усю яго постаць, Франусь азіраўся назад, у бакі, угору.

Посвіст ветру здаваўся гутаркаю многіх галасоў, якія несліся да яго, к яму навыперадкі.

Францусь падбягаў, сціскаючы зубы і сэрца.

— Няўжо-такі ўспадуць на след? Ці ліха ім! — суцяшаў ён сябе, нібы расціскаючы жалезныя абручы сполаху і даючы целу выпрастацца, разгарнуцца.

— Не трапяць, дарэмна! — разгортваў ён самаўцеху далей.— Не на таго напалі. Тут мне кожная мясціна знаёма; кожны кусцік свой — не выдадуць... Мы згавораны з маленства... Ваявацьl.. Ваюйце, калі маеце ахвоту, а я...

Пасля гэтакіх думак Францусю рабілася весялей, браў вадзёр пасмяяцца з дурнога кампрота, з палітрука, з цэлае роты чырвонаармейцаў, з Савецкае ўлады... Сполах, які пхнуў яго на ўцёкі, падпраўляўся нялюбасцю да новага ладу, зашавельваў гаспадарска-шляхецкім пачуццём.

— Удалося, як лепш не трэба! Шыта-крыта! Канец усім мукам. Хай іх пярун спаліць!.. Вось прыйду дамоў, спачну крыху, а там, глядзі, праз дзень-другі і палякі прыйдуць — і жыві спакойна.

Францусь патрошку забываўся, як і што з ім, адкуль і куды ідзе, з якою мэтаю. У цемры ночы малявалася хата, абставіны дому, сям'я, спакой... і ногі зацішалі хаду, прыліпалі да глейкае зямлі ды прытрымліваліся ёю...

Пасля пацягло прысесці, перасапціся. Францусь Доўбня напружыў пагляд і пачаў мацаць нагамі ці камень, ці грудок, не пытаючыся, ёсць ён тут ці няма.

Пад нагамі хлюпала вада, трашчэла жыта.

— Не буду садзіцца... Гой, што я?.. Гэта спакуса,— парашыў Францусь Доўбня, пратаптаўшыся з паўгадзіны.— Пайду, а то наляціць дзень, і тады...

З посвістам ветру рассыпаліся знаёмыя галасы, прабеглі спіною мурашкі, сціснулася сэрца. Зачасцілі самі ногі.

Раптам — каўдобіна. З разгону апынуўся ў вадзе па пояс.

— Што за трасца! — вылаяўся Францусь Доўбня і хутчэй выскачыў на дарожку...

Яшчэ праз гадзіну несупыннай хады — і ён прымеціў у цемры ночы якіясьці будынкі. «Нарэшце і Драбінкі»,— мільганула думка ў галаве, і прыемная цеплата разбеглася па ўсім целе.

Францусь Доўбня, прыпамінаючы план вёскі, падаў-

ся ўправа і выйшаў да платоў гародаў. Прыгледзеўся — то быў Вінцэнтаў капуснік.

— Дзякуй госпаду,— прашаптаў ён,— я дома!

Цішком, між платоў, дайшоў да гумна.

У суседнім двары забрахаў сабака. Францусь Доўбня прысеў з боку кастра дроў.

Сабака не ўнімаўся брахаць. Паўзком, стараючыся не шамаць, Францусь Доўбня мінуў два другія гумны і апынуўся пры сваім двары.

Густы садок усцяж пляца калыхаўся над дваром, дзеручы галінамі дрэўцаў салому на страсе.

— Не чакаюць! Пэўна старыя і надзею ўсякую згубілі мяне дачакацца. Вось ім — неўспадзеўкі, прымхаю. Як з мёртвых...

Францусь Доўбня з загумення пералез у двор, паўз сцену падышоў да дзвярэй і паспрабаваў адчыніць. Дзверы былі замкнуты. Тады ён падышоў к акну і дробным ціхім стукам прайшоў па шыбе.

— Хто там? — пачулася з-за акна.

— Я, Францусь... адчыніце-э...— зычным шэптам падаў ён з двара.

## II

Украдкаю, перашэптваючыся з бацькам, Францусь увайшоў у хату. Панясло цяплом і спакоем. Захацелася сесці.

— Як жа ты, сынок, умудрыўся так? Цёмнаю ночкай! — пытаў бацька.

З ляжанкі злезла маці. Старэйшы брат, Платон, зашавяліўся на лаве. Пайшлі запытанні.

Францусь прысеў на лаве між двух акон і, седзячы, расказваў, як і што ён рабіў, каб уцячы з палка. «Падгаварыў камандзіра ўзвода, каб той дазволіў мне адлучыцца на нейкі час, а ўсё ўжо было раней сабрана. Камандзір даў дазвол, і я паціху, як бы за справаю, пакіраваў у лес. Клунак жа, гэты вось, яшчэ заўчасу прыхаваў у надзейным месцы. Пайшоў і — пайшоў...» — што слова, то гучней, выказваў Францусь.

Бацька прыняў ад яго клунак, шынель і боты і ўсё гэта разлажыў кожнае паасобку, што на лаве, што на ляжанцы. Маці пільна ўглядалася ў твар сына, хочучы выгледзець яго рысы ў цёмным хатнім змроку.

— Я захапіў нават з адзежы што-кольвек,— казаў

далей Францусь,— і пару чаравік для бацькі. Прадаваў таварыш, а я пераняў. Цяжка да таго, што хлопцы апошняе прадаюць... Нямерна цягло ўцячы, і цяпер я так задаволен, што...

— Цішэй вы троха,— пераняў Платон, не падымаючыся з лавы,— можа, у двары хто слухае...

Францся запалохала братняя перасцярога. Раптам вярнулася нядаўняе пачуццё страху. Ён павярнуўся да акна, каб паглядзець у двор, але тут жа апамятаўся і адхіліўся назад. Чаго добрага — угледзяць знадворку, і тады... Раптам цяпло, хатняя гасціннасць адышлі дзесьці назад. У вачах, у гушчы змроку замігалі цудоўныя нарысы нейкіх падазроных вобразаў. З акон, якія стаялі супроць вачэй, нібыта хтось падглядаў. Брат не падымаўся з лавы, дзе спаў, і гэта непакоіла Францся. А мо Платон асцерагаецца?

— Што ж у Драбінках чуваць? — запытаў ён цішком.— Чакаюць палякаў ці не?

— Пэўна, скора прыйдуць, бо бальшавікі вывозяцца. Усё-ўсё пазабіралі з рэўкома ды з маёнтка. Некалькі падводаў выправілі,— растлумачыў бацька.

— І яшчэ ўсё збіраюцца браць,— дадала маці.

— А самі як? Выехалі ці засталіся яшчэ? — дапаўняўся Францусь.

— Не, дзеткі,— яшчэ процьма іх тут. Нядаўна найшло, што ў маёнтку памясціцца не могуць. Караулаў — поўна вёска...

— Лажыцеся ўжо вы,— недавольным голасам падаў Платон,— найшлі час гэткую гутарку весці.

Якраз на вуліцы пачуўся свіст. У адказ забрахала некалькі сабак. Францусь мігам прылёг на лаве, дрыжучы ўсім целам. Бацька адышоў к печы, а маці прыгнулася к зямлі.

— Вось кожны раз нешта бунтуюць ды бунтуюць,— шэптам выказалася яна,— няма ім зводу, гэтым паганым бальшавікам. Хай бы ўжо хутчэй яны ўцякалі...

Між хаты прабегла некалькі чалавек. Дзесьці, ля рэўкома, два разы стрэльнулі. Як быццам бы нехта крычаў, стукалі калёсы фурманак.

Францусь калаціўся, як у трасцы. Колькі было магчымасці, ён туліўся да сцяны. Бегатню каля хаты ён прыняў за самую страшную адзнаку. Хаця б не пагоня за ім? Уцячы б з хаты? І хацелася, і баяўся. А калі

хто стаіць каля хаты? Што тады? Не, лепш заставацца ў хаце.

Жадалася мець раду ад бацькоў, ды нешта трымала язык. Нельга гутарыць ні ў якім разе.

У хаце стаяла ціш, нібы нікога не было ў жывых. Можна было бзынканне мух прыняць за посвіст ветру.

Так працягвалася каля гадзіны. На вуліцы даўно заціхла трывога. Вёска мэрам замерла ў спакоі, а ў хаце Доўбняў ніхто не падаваў жыцця.

## III

Золкам на вёсцы трывога аднавілася. Часты стрэл абняў яе жалезным паясом з усіх канцоў. Стукатня і крыкі напоўнілі паветра.

Нельга было спакойліва сядзець у хаце. Трэба было шукаць якое рады.

Уся сям'я Доўбняў узварушылася і зарухала па хаце. Ніхто не ведаў, што пачаць, хоць чулі аднакава ўсе, якая прыгода напаткала іх вёску.

Старая Доўбніха намерылася выскачыць на двор, але гаспадар, хапіўшы яе за рукаў, супыніў.

— Куды ты, саматугам на ражон?! — вылаяўся ён.— Кладзіся лепш на зямлю ды моўчкі чакай канца.

Гэта рада падала знак усім: сталі хавацца хто куды. Франусь, не даючы сабе адчоту ад спалоху, кінуўся к падпечку, але нешта затрымаўся і падлез пад пол. Старэйшы брат схаваўся ў куце пад сталом; дзеці асталіся на печы.

— Святы божа, перагані ты гэту навалу хутчэй! — малілася ў шэпт старая Доўбніха.

Гаспадар яе спыняў:

— Маўчы ты ўжо... ша-а... Ці не чуеш, што бегаюць паўз хату.

Старая змоўкла, але нейкая балючая цікавасць заставіла яе падняць вочы і паглядзець у акно.

Чырвоны пук святла кінуўся ёй у вочы і тут жа як прыбіў на месцы. Старое цела ахапіў паралюш.

— Гарымо-о! — адзічэлым піскам, сабраўшы ўсе сілы, выгукнула Доўбніха.

Зразу ўсе ачуліся ў вокнах.

Вуліцаю вёскі ішла купа польскіх салдат, як бы ведучы за сабою адзнак свайго нападу — шырокую палатніну агню, які з'ядаў будынак рэўкома.

Дзесь, у процілеглым ад іх канцы, чуваць было па зыку, што за алешнікам адбывалася частая ажыўленая перастрэлка.

У Доўбняў закоўзала на тварах здавальняючая ўхмылка. У нядаўна дрыготных нагах пачуўся ўстой, нібы хтось падлажыў пад іх знарочыстыя падстаўкі.

— Глядзі, Франусь, як добра ты трапіў! Цяпер будзь смелым! — пацешыў сына стары Доўбня.

Франусь маўкліва парадаваўся.

— Перабыў... так...

— Ото ж, дзякаваць богу, добра. Як бы спрыязна нябесная падышла.

З многіх хат, асмеліўшыся, выйшлі на вуліцу кабеты і дзеці. За імі паказалася некалькі старых.

— Хаця парадак які будзе! — паважна выказаўся стары Доўбня.

## IV

К поўдню, калі страх крыху прайшоў, у хаце Доўбняў канчаткова супакоіліся. Пасля перажытага не верылася, што ўсё добра абышлося. Тым болей цешыла ўсіх за Франуся, што ён вылузаўся ад бальшавікоў і не астаўся адрэзаным ад бацькоў. Цяпер, калі прыйшлі палякі, яны разлічвалі на поўны спакой. Водлуг гэтага разлічэння Доўбні і строілі планы на будучае, радзячыся ўсёю сям'ёю. Франусь меў першую скрыпку і ў сямейнай радзе настайваў рабіць па ягонаму разуменню.

— Ты ўжо не спрачайся, Даніла,— перабівала гаспадара Франусёва маці,— Франусь не абмыляецца, калі так кажа.

Бацька згаджаўся, згаджаўся і Платон.

— Франусь свецкі чалавек!

Па гутарцы, у якой не прамінулі ніводнага хатняга пытання, нацешыўшыся ўволю нечаканым прыбыццем Франуся, Доўбні прыбраліся да полудню.

Зарухалі па хаце, заклапаціліся.

Франусь з аблягчэннем на сэрцы, разважным тонам у другі раз пачаў апавядаць аб сваім «паходзе на пабыўку», як ён ахрысціў свае ўцёкі з Чырвонае Арміі.

Хітрасць і смекалка, чаго не шкадаваў для сябе Франусь, цешылі бацькоў да смеху.

— Ды ты ў нас ведамы,— прыгаварвала маці,— абы з якім розумам не ашукаць цэлае роты бальшавікоў. Сядайце ж за полудзень,— звала яна ўсіх.

Але не ўспелі засесці за стол, як на двары за акном пачулася польская гутарка. Чуваць было, што палякі робяць нейкі абход па хатах.

— Пэўна, рэгістрацыю вядуць,— заспакоена сказаў Францусь, прымаючыся за міску.

— Так скора? Мо хіба на пастой? — недаверна дадаў Францусёў брат.

Ніхто не паглядзеў у акно.

А Доўбніха пайшла к дзвярам, каб адчыніць і сустрэць палякаў.

— Тут чыя кватэра будзе? — пераступаючы парог, запытаў адзін з траіх палякаў.

— Гэта хата Данілы Доўбні, проша пану,— адказала старая.

Трое ўвайшоўшых агледзелі хату і раптам спыніліся на Францусю.

— А то што за салдат? — робячы крок да стала, запытаў адзін.

Францусь міжвольна ўстаў з-за лавы і, не знайшоўшыся, што адказаць, палахліва запыкаў:

— Я... учора я вярнуўся-а... з чырвонае...

— Як, як, як!!! — падхапілі ўсе трое палякаў і, абураныя да злосці, кінуліся на Француся, крычучы:

— Бяры да офэнзывы!

— Страляй яго!

— Бальшавік паганы!

— Шпег!

Запалоханыя Доўбні згрудзіліся ў кучу і, наперабой путаючы словы і іх сэнс, пачалі разважаць абураных палякаў.

— Паночкі-ы,— сказала Доўбніха,— Француська мой толькі ўчора ноччу прыбег ад бальшавікоў... Ён іх ненавідзіць сам... Не чапайце яго, паночкі-ы...

— Ён будзе вам служыць... ён...— прасіў бацька.

Але палякі не зважалі на нічога: схапіўшы Француся, яны моцнымі таўхачамі папхнулі яго да дзвярэй.

Старыя бацькі кінуліся цалаваць рукі палякам — тыя іх сярдзіта адпіхнулі, зачыніўшы дзверы.

— Страляй яго! Да офэнзывы! — не сціхалі крычаць яны ў сенцах і вывеўшы Француся на двор.

К хаце Доўбняў збеглася грамада вяскоўцаў. Многія пачалі закідаць за Франуся словы. Але яны былі гарохам у сцену: палякі, не зварочваючы ні на кога ўвагі, павялі Франуся на расправу.

1920

## СЫМОНКА-ІНЖЫНЕР

### I

Сымонку Кеплю было дзесяць гадоў ад роду; ён быў старшым дзіцем у сваіх бедных бацькоў, гарбара Андрэя і Луцэі Кепляў. Апроч Сымонкі яны мелі яшчэ дзвюх дзяўчатак: Параску — старшую і Марыльку — малодшую. Як першука́ Сымонку любілі і бацька, і маці дужа шчыра і крэпка, ды было завошта яго любіць. Сымонка быў хлопчык рэзвы, дасціпны, заўсёды вясёлы і, галоўнае, паслухмяны да сваіх бацькоў. Ніколі ён не адказваўся выпаўніць бацькава ці матчына даручэнне і ні словам не пярэчыў іх прыказанням. Ці пашлюць Сымонку ў краму купіць што, ці да суседзяў — што-колечы пазычыць, ці прыкажуць вартаваць хату, пайшоўшы самі ў заработкі,— Сымонка да дробязі выпаўняў наложаную на яго павіннасць.

Да ўсіх іншых якасцей меў ён і розум ды здольнасць не па гадах.

За гэта Сымонку бацькі ставілі ў прыклад, калі заходзіла ў іх гутарка аб дзецях. «Наш Сымонка, будзь ён здароў, удаўся хлапчук»,— казалі яны.

А між сабой у вольны час разважалі Андрэй і Луцэя Кеплі так:

— Ведаеш, Луцэя, мы свайго Сымонку вучыцьмем і вучыцьмем. Аж пакуль сілы нашае хопіць. Скончыць ніжэйшую школу, аддамо вышэй, а там яшчэ вышэй і да канца...

— Вядома, што там было б вельмі добра, каб выстарчыла нашых сіл. Але тое блага, што гатова стацца нам не пад сілу. Заработкі нашы невялікія — толькі што пражыць сяк-так хапае. Ды то, бачыш во, на зняпад ідзе тваё рамяство. Умяшалася гэта рэва-

люцыя і як ёсць усё ўверх дном паставіла. Чакалася аднаго, а напаткала другое. Тым часам сілы тваё пакрысе растаюць... Няведама, Андрэй, як яно выйдзе.

Луцэя судзіла па-свойму, як і заўсёды, а ў нутры сваім думала: «Будзем старацца з усіх сіл».

— Кінь ты, дурная, сваю няверу,— перабіваў Луцэю Андрэй,— ну, хай пакуль і цяжэй чуецца, але гэта часова так... Гэтая цяжкасць мінецца, пяройдзе, і нашаму брату-рамесніку куды лягчэй зажывецца. Мала што бывае... Паглядзі, колькі ўсякіх труднасцей прыйшлося спаткаць рэвалюцыі на сваім шляху: тут і немцы, і палякі... Апошнія ўжо болей паўгода, як топчуцца і дратуюць нашу зямлю. А прагонім іх — інакшай пойдзе. Будзе навука нашай — і сродкаў не так шмат патрабуецца на Сымонку, каб яго вучыць... Навучым, за інжынера вывучым...

Калі так казалася пры Сымонку, то ён пільна слухаў бацькоў, здавальняюча ўсміхаўся і падрастаў на некалькі каргоў. «Буду інжынерам! Буду інжынерам!» — пераказваў ён па некалькі разоў сам да сябе, а бацькам хваліўся:

— Мяне, татачка, мяне, мамачка, вельмі любіў настаўнік: заўсёды казаў, што я старанны і здольны яго вучань, паслухмяны хлопчык, што з мяне могуць выйсці людзі.

— Ай, ды ты мой разумнік,— гладзіў Андрэй па галоўцы свайго сынка,— выйдуць, выйдуць з цябе людзі! — і цалаваў.

А Луцэя дадавала ўслед:

— Трэба, Сымонка, быць чалавекам, трэба. Выйдзеш сам у людзі і сваіх сястрыц выведзеш.

Параска і Марылька згодна і рашуча заключалі бацькоўскія гутаркі па свайму разуменню і дапаміналі бацькам:

— Як Сымонка паедзе вучыцца за інжынера, хай нам лялек прышле.

## II

Мястэчка Ступа, у якім жыў Сымонка з бацькамі і сёстрамі, стаяла пры рэчцы Плаўні. Пачынаючы з пятнаццатага года, яно ўвайшло ў вадакрут вайны і не пазбаўлялася яе ажно да прыходу на Беларусь баль-

шавікоў. Праз чатыры гады ўсякія страхі абымалі Ступу і ступаўцаў жалезным колам страляніны, чырвоным полагам пажараў. Забываліся падлічыць, колькі разоў пераходзіла мястэчка з рук у рукі: адны прыходзілі — бралі, выдавалі свае законы, пасля аднекуль з'яўляліся другія — адбіралі ад першых, адмянялі іх законы і парадкі. І кожны раз у гэткіх выпадках ішла страляніна, валяліся па вуліцах раненыя і забітыя людзі, стаяў шум, траскатня. Міжвольна ступаўцы прымірыліся да гэткай сваёй долі. Найбліжэй зрадніліся з неспакоем дзеці. Іх цікаваму задзёру хапала досыць яды, а на дзіцячую чулую душу было чаму ўплысці.

Захапіла ваеннае паветра і Сымонку. Ён частагуста станавіўся правадніком у дзіцячых гульнях у вайну. Гэта да таго падабалася Сымонку, што ён і слухаць не хацеў бацькоўскай гутаркі аб інжынерстве. «Зрабіце з мяне лепш афіцэра, і я буду з палякамі ваяваць»,— адказваў бацькам Сымонка. Тым болей яго падбівала вайсковасць, калі бацькі, гутарачы аб забраўшых Ступы і ваколіцы палякаў, праклікалі іх і чакалі скорага збаўлення.

Сымонкаў бацька больш сямі месяцаў пры палякаx не меў работы і два разы быў заарыштаваны за лаянку польскіх парадкаў. З вялікімі труднасцямі прыйшлося ўсадзіць Сымонку ў школу. «Кепля — бальшавік»,— казалі палякі і рабілі яму ўсякія злачынствы. За гэта Сымонкавы бацькі і клялі, і лаялі палякаў. Ды не адны бацькі! Сымонка бегаў да таварышаў і чуў, што таварышавы бацькі таксама точаць зубы на «паноў-захопнікаў». Запала і ў яго чулую дзіцячую душу гарачае пачуццё крыўды і помсты да агульнага ворага. І з гэтага часу ў сваіх гульнях ■ дзецьмі Сымонка пераманіў характар і выразнасць дзеяў, ахрысціўшы немцаў — палякамі, а расійцаў — чырвонаармейцамі. Кожны раз ішла бойка ў іх між двума гэтымі станамі. Сымонка заўсёды быў начальнікам чырвонаармейцаў. Ён чуў, як бацька цішком паведваў мацеры аб хуткім іх прыходзе ў Ступы і сам з нецярплівасцю чакаў. Абы раніца — выходзіў з хаты на вуліцу, узлазіў на шула і глядзеў на ўсход, за рэчку, ці не ідуць чырвонаармейцы. Сымонка чакаў, што яны прынясуць яго бацьку работу, а дзеля ўсіх вызваленне — штосьці вялікае і каштоўнае, бо вельмі ўсімі пажаданае.

— Татачка, ці ж скора прыйдуць чырвонаармейцы? — часта пытаўся Сымонка ў бацькі.

— Скора, скора, сынок. Ты толькі маўчы, нябож, не плявузгай, дзе не трэба,— перасцерагаў бацька.

Сымонка слухаў бацькі — баяўся каму-кольвечы казаць пачутае ад яго. Але затое сам-насам ні на хвілю не мог звольніцца ад думкі аб чырвонаармейцах; яны здаваліся яму на кожным кроку. А далей сталі сніцца. Абы лёг на пасцель, заплюшчыў вочы і сумеўся, як адразу цэлыя грамады людзей перад ім з песнямі, са сцягамі, з падарункамі для ступаўцаў. Уваходзяць у Ступы, праганяюць палякаў, надзяляюць імі яго бацькоў, бацькоў Якава, Грышкі і Мікіты і ўсіх-усіх.

Раніца ў раніцу прачынаўся Сымонка вясёлы і задаволены, падбягаў да бацькоў і пераказваў ім свае сны; а скончыўшы расказваць, дадаваў:

— Хай толькі сапраўды прыйдуць чырвонаармейцы ў Ступы, дык я разам з імі пайду біць паноў.

Андрэй усміхаўся, гладзіў Сымонку па галаве і казаў:

— Ваяка мой залаты, рэвалюцыянер мой адважны!

— А вы пойдзеце? — пытаўся Сымонка ў бацькі.

## III

Адной раніцай, якраз у сяродку лета, разбудзіў Сымонку гучны стук гармат. Ён сумеўся ад страху і выгукнуў на хату:

— Тата! Мама! Што гэта?

Але ў хаце нікога, апроч сястрыц, не было. Тады Сымонка хутка начапіў на сябе порткі і кашульку і пабег з хаты. Выбег у двор і жахнуўся: была поўна вуліца войска. Ішлі, ехалі вярхом на конях і на вазах. А дзесь за местам, ля могілак, на адгоне двух-трох вярстоў ад іх хаты, ішла частая страляніна. Па мястэчку стаяў шолам, як у лесе, як у дні вялікіх кірмашоў. Усё гэта ўз'юшыла Сымонку, прыдало яму бадзёрасці, імпэту, пацягнула з двара на вуліцу.

— Сымонка-а, куды-ы ты прэшся? — супыніла хлапчука маці, запрымеціўшы, куды той бяжыць,— ці ты ашалеў, ці якое ліха? Бачыш, страляніна гэткая, што не давядзі госпад...

— А дзе наш тата? — запытаў Сымонка ў мацеры.

— Тата? Не глядзі на тату... Ён пайшоў з цёмнага, дык і цяпер няма. Можа, таксама дзе-кольвечы кулю атрымаў...

Пачуўшы гэта ад мацеры, Сымонка больш нічога не сказаў, а як уюн порстка шмыгануў з двара і захаваўся ў гушчы чырвонаармейцаў, падводаў.

— Куды-і ты, абармоціна-а! Сто-ой,— выгукнула ўслед Луцэя і кінулася к вешніцам, каб супыніць хлапчука. Але, выбегшы на вуліцу і акінуўшы ўзрокам шэрагі чырвонаармейцаў, якія неперарыўнаю чарадою выходзілі з аднаго канца вуліцы і накіроўваліся ў другі, яна не ўгледзела Сымонкі. Маладзіца ажно садрыгнулася ад пярэпалаху, але не ведала, што зрабіць, і ў нерашучасці прастаяла хвілін з дзесяць на адным месцы, а пасля вярнулася зноў у двор.

Сымонка ж апукаю каціўся ўздоўж вуліцы к рынку. Яму ўвайшло ў голаў, што яго бацька павінен быць там, дзе адбываецца бойка з палякамі. Ён успомніў бацькавы словы, якія блеснулі яму чырвонымі іскрамі. Дзіцячае нутро, запаленае ад іх помстаю да паноў, да праціўных паноў, якія праз цэлы год так ліхамысна здзекаваліся з яго бацькоў, свідравала Сымонку, пхала яго бегчы на тое месца, дзе чынілася ім адплата.

— Куды ты, пастралёнак? — перапынялі Сымонку чырвонаармейцы, хапаючы яго за руку.— Там цябе застрэляць, варочайся.

Сымонка вырываўся і праныраў далей ды далей. Ужо каля рынка ён спыніўся. Страляніна падалася ўлева, за касцелішча. Каб бегчы да яе, трэба было звярнуць з вуліцы, пакіраваць на гароды, а далей — у луг к могілкам. Сымонка задумаўся, памеркаваў і раптам марзкануў у бліжэйшы двор. Не азірнуўся ні разу на чырвонаармейцаў.

## IV

Праз некалькі хвілін ён ужо быў у лагу, у густой мяккай траве, на адгоне вёрст паўтары ад могілак.

Між кустоў і ўзгоркаў, дзе хаваліся крыжы, не сціхалі раздавацца то частыя, то аднаразовыя стрэлы. Паміж імі чуліся людскія выгукі. Сымонку памарылася, што ў агульным голасе «ўра» адмецен голас яго

бацькі. Ён узорыўся ў адну прагаліну між нізкага густога куста арэшніку і стромага покату ўзгрудку. Прытуліўшыся шчыльна да зямлі, ляжаў там чалавек і мерыўся з стрэльбы наўскасяк. Палкае выабражэнне Сымонкі стварыла з чалавека яго бацьку: рудаватая шапка на галаве, кароткі чорны курцік — акурат. Хлапчук нязмігутна ўзіраўся і ўсё паўней і выразней адзначаў бацькавы рысы. Сэрца трапятала вострым жаданнем хутчэй апынуцца каля яго, каб хоць раз стрэліць у пана. Жаданне гнала Сымонку ўбежкі. Адмігцелі белыя ножкі ў высокай мятліцы, путаючыся ў дзяцельніку і свірэпе. Сагнуўшы ручкі на востры вугал і падняўшы іх роўна з плячыма, ён рытмічна, як на гімнастыцы, пасоўваў іх то ўзад, то ўперад. Часта сапучы, Сымонка ціха шаптаў адны і тыя словы: «Хутчэй бы дабегчы! хутчэй бы дабегчы!»

Праз паўгадзіны ён ужо быў на грудку, за якім ляжалі могілкі. У вочкі кінуліся крыжы, жоўты пясок на могілках, бегатня людзей.

— Тата-а! тата, дзе ты? — гукнуў Сымонка.

Зусім недалечка, як бы над самым яго вухам, раздаўся гулкі залп: аглушыў Сымонку, ажно збіў з ног. Хлапчук упаў, але раптам падняўся і кінуўся ўбок. Знаёмая прагалінка нібы вынікла з зямлі перад яго вачыма і нявызнанаю сілаю пацягнула Сымонку да сябе.

— Та-та-а! — выгукнуў ён, бегучы, і з радасці разняў рукі. Той жа чалавек, якога ён бачыў здалі ў прагаліне і які выдаваўся Сымонку за бацьку, глядзеў яму насустрач, выставіўшы вінтоўку.

— Тата-а! — пераказаў выгук Сымонка, прабегшы яшчэ некалькі крокаў. І не паспеў адсапнуцца, як штосьці грукнула і адначасова моцна стукнула яму ў пах, паваліўшы яго ніцма на зялёную мураўку. У вушах зазвінелі кусочкі раструшчанага шкла, а па ўсяму целу расплылася цеплыня і санлівая ўтома. У паясніцы да таго моцна закалола, што Сымонка хапіўся рукою, думаючы, нібы яго хто рэжа. Вочы заплюшчыліся самі, і як ні тужыўся ён адчыніць іх — не мог. У вушах стаяў працяжны бразг...

## V

Праз нейкі час Сымонка пачуў над сабою чыйсьці голас, які пытаў:

— Хто ты, малы?

— Я... я Андрэеў...

— Чаго ты сюды папаў?

— Тут бацька мой...

Пяцёра чалавек з вінтоўкамі — два паўстанцы з мястэчка Ступы, а тры чырвонаармейцы — стаялі над хлапчуком, які ад болю шоргаўся па зямлі, і з бацькоўскаю спагадаю суцяшалі яго. Але Сымонка ўжо не чуў іх слоў — памяць пакідала яго.

Не маючы адказу на свае словы, двое стаяўшых каля яго паўстанцаў паднялі Сымонку на рукі і пайшлі з ім да бліжэйшых кусцікаў, дзе асцярожна паложылі яго на зялёную мураўку.

— Ты пабудзь з ім, Сідар, а я пабягу к курганам, пазаву Андрэя, павінен быць з левага фланга,— сказаў адзін паўстанец да другога.

Сідар згодліва кіўнуў галавою, узяў на плячо вінтоўку і паціху затупаў каля Сымонкі, другі хутка, бягом кінуўся праз могілкі да курганоў. Сідар чуў, як ён, адбегшыся мо на гоні, гукнуў: «Андрэ-эй! Андрэй!» — і пахіліўся да хлопчыка, каб зазірнуць яму ў вочы.

Сымонка спакойна ляжаў, як бы без дыху, пабляднеўшы, схудаўшы. Чырвоная, запечаная кроў малюнкавым нарысам засушаных пацёкаў пярэсціла радняныя замурзаныя порткі. Правая рука, зложаная ў жменю, як бы не пускала скатвацца на траву новым каплям крыві.

— Дарма хлапчук прапаў! — парашыў сам з сабою Сідар.— Как карысць якую зрабіў?! Бацькам гора набыў...

Ён адвярнуўся ўбок курганоў і пільна паглядзеў, зрабіўшы пальцамі казырок над вачыма.

— Не відаць нікога! Дзе ён дзеўся? Пакінуў тут аднаго...

Сідар зрабіў некалькі крокаў узад і ўперад, адцягнуўшыся ў думках зусім на другія рэчы і выпусціўшы з галавы Сымонку.

— Сідар, га, Сідар! — раптам перабіў яго роздум нечы вокліч.

Сідар азірнуўся — то аклікаў яго таварыш.

— Няма, брат, і Андрэя! — матнуў той рукою з нейкім азлабленнем.— Ляжыць вунь пад курганом. Кінуўся, кажуць, пярэднім на польскі раз'езд і адразу ж атрымаў кулю. Толькі-толькі я паспеў дабегчы. Можа, чуў, як стралялі?

— Ды ўвесь час страляюць... Вось скажы, што з малым рабіць?

— Давай панясем да бацькі! — парадзіў Сідар.

Пачапіўшы вінтоўкі цераз плечы, паўстанцы схіліліся над Сымонкам і асцярожна ўзялі яго на рукі.

— А мо ён яшчэ не дайшоў?

Сідар крануў рукою Сымонкавага лба, пасля прылажыў вуха да грудзей.

— Ды ўжо па ўсім. Вечны пакой... Удваіх ляглі за святую справу... Хадзем, брат Сымонка, да бацькі...

Паўстанцы спешна панеслі нежывога Сымонку к курганам.

1921

## НА РУІНАХ

### I

Цягнік падыходзіў к станцыі Зябы, ход яго памаленьку сціхаў.

Несцер Грэбень ляжаў на верхняй лаўцы ў вагоне і думаў. У галаве збіраліся розныя думкі і ўспаміны аб тым, што ён бачыў і перажываў, пачынаючы ад дзіцячых гадоў і да апошняга часу. Выразней усяго ўставалі перад ім вобразы пéражытага за доўгія гады вайсковае службы: спачатку ў царскай арміі, а потым у Чырвонай. Перад ім прамігнулі: царская вайна з усімі сваімі страхамі, першая і другая рэвалюцыі, паўстанскія атрады, вайна з Калчаком, Дзянікіным, Юдзенічам і, урэшце, з Урангелем. Усяк здаралася. Шмат разоў жыццё вісела на валаску. Тухла вера ўбачыць бацькоў, брата, сястру. Што рабілася там, у яго краіне, Несцер толькі дагадваўся з тых кароткіх і няпэўных чутак, якія вычытваў з газет ці даставаў выпадкова ад таварышаў. Весткі гэтыя адрыўна, патрошку далятаўшыся да яго, казалі, што там далёка, на бацькаўшчыне, дзеецца нешта страшнае, што немаведама, ці застануцца жывымі бацькі, сваякі.

Кожны раз, дастаўшы свежую вестку з Беларусі, Несцера ахапляла жаданне вырвацца на які час з войска і наведаць сваю краіну, але ён не хацеў дзеля гэтага выкарыстаць нячэсны спосаб — прыкінуцца хворым ці стаць дэзерцірам. Не! Несцер быў чэсным чалавекам і чэсна адданым справе рэвалюцыі салдатам. Думаючы аб доме і бацьках, ён чакаў гэткага выпадку, калі можна будзе без усякай шкоды для свае часці выпрасіцца дамоў. Такі выпадак падышоў у той час, як Чырвоная Армія аслабаніла Крым ад Урангеля і іх полк супыніўся ў Севастопалі, каб далей несці мірнае жыццё. У адзін дзень Несцер напісаў заяву паліткому і копію камандзіру і праз нейкі час дастаў паўтарамесячны водпуск. З якою радасцю ён сабраўся ў дарогу! Яго не палохалі ўсе клопаты далёкага пераезду, не задумваўся ён і над тым, ці ўдасца яму наогул дастаць удому тую душэўную суцеху, да якой ён так доўга прагся...

Звязаўшы клункі, Несцер ушчапіў іх на плечы і пайшоў на вакзал. І як толькі сеў у вагон, зараз жа пачаў выабражаць сабе ўсе падрабязгі свае наступнае стрэчы з бацькамі, братам, знаёмымі. У яго галаве мімавольна паўсталі пытанні: а што там удому? Як жывуць бацькі? Мо ўжо забылі мяне... А мо ўжо іх няма? Столькі часу не быў ён там! А колькі розных дзеяў начаўплося там за гэтыя гады! Гэта ж свет мог перакруціцца ўверх галавою...

## II

Чым бліжэй Несцер пад'язджаў да роднага месца, тым болей і болей забірала яго нейкая трывожнасць, перамешаная з салодкасцю ўцехі, з адчуваннем цеплаты спаткання, з прыемнасцю пабачыць родную глебу пасля доўгай разлукі. Бацька і маці, мабыць, старэнькія цяпер — нявыказна абрадуюцца і з абслезенымі вачыма кінуцца цалаваць, абнімаць, будуць уміляцца. Бо не жарты — цэлых сем гадоў іх не бачыў — усё служыў ды служыў у войску. Праўда, у першыя гады службы Несцер шмат пасылаў лістоў дадому: стараўся паведамляць бацькоў аб сабе, суцяшаць іх весткамі. Але, мяркуючыся з тым, што яму толькі разоў тры ўдалося дастаць на іх адказ, ён вылічваў, што яго лісты не даходзяць дадому ці дома, мабыць, нешта нядоб-

рае здарылася. Далей прычыну таго, што бацькі не адпісвалі на яго лісты, Несцер бачыў у тэй агульнай завірусе, якая ўзнялася з пачаткам царскае вайны. Гэта яго непакоіла і наводзіла на розныя думкі. «Хто яго знае, што магло стацца з бацькамі, жывучы каля фронту,— думаў Несцер,— немцы наступаюць, тысячы і дзесяткі тысяч уцекачоў бягуць з краю куды вочы глядзяць. Сотнямі мруць штодня. Ці ж не магло стацца, што і мае бацькі рушылі з месца і па дарозе дзенебудзь згінулі? А калі не сталася так, то ці мала іншых здарэнняў траплялася за гэты час? І немцы, і паны, і балахоўцы... Разбоі, здзекі. Чаго добрага — і бацькі папалі ў лік гэтых ахвяр. Столькі часу такога буйнога, неспакойнага і трывожнага жыцця! Што найду я цяпер дома? Хто з родных яшчэ жывы, а хто памёр? Калі жывы, то ці ёсць у іх які-небудзь прытулак і ці там ён стаіць, дзе яго калісьці я пакінуў?»

Скрозь радасны настрой і вясёлае пачуццё, якія ахапілі Несцера, упарта прабіваліся ўсе гэтыя сумныя пытанні. Ахоплены імі, Несцер пачуваў сябе ў нейкім надзвычайна маркотным становішчы, нудзеў і невыразна глядзеў на ўсё тое, чым жыў да гэтага часу і да чаго імкнуўся.

— Таварышы, якая станцыя? — запытаў ён без адрасу, калі машына спынілася.

— Зябы! Зябы! — адказала разам некалькі галасоў.

Несцер хутчэй падняўся і паспешна пачаў збірацца: надзеў шынель, падперазаўся, узлажыў шапку і старанна завязаў два клункі, потым праверыў на лаўцы, ці не забыўся чаго, і, развітаўшыся з суседзямі, хутка выйшаў з вагона.

## III

На станцыі перад вачамі Несцера паказаўся цяжкі малюнак. Калісьці, ён помніць, гэта станцыя была шумнай і бойкай. Новы, з чырвонае цэглы, па-мастацку зложаны будынак станцыі цешыў сваім прыгожым выглядам. Высока паднімалася, як вежа, вадакачка. Народу заўсёды там кішэла. А цяпер... Ох-ха! Як нейкі забыты вартаўнік, стаіць пабітаю, пашарпанаю, з паваленай страхою тая ж вадакачка, а ад будынка станцыі — адны разбітыя падмуры. Для прыпынку

праязджаючых збіты наспех дашчаны барак. У вагонах месціцца і білетная, і камендант, і начальнік станцыі. Зусім выпадкова засталіся непрыметныя лямпавыя ліхтары, якія маркотна свіраць то там, то сям на пушчэльным абшары. Несцер, акінуўшы вачмі гэты абшар, жахнуўся. Праўда, ён скеміў, што гэта плён вайны, але хацеў праведаць, чыіх рук гэта праца: немцаў ці палякаў. Ён падышоў к двум чыгуначнікам, якія гутарылі паміж сабою, і запытаў:

— Скажыце, дзядзькі, хто так пастараўся?

Адзін з чыгуначнікаў, рыжы дзядуля, ухмыльнуўся і адказаў:

— А ласне ты, нябожа, нічога не ведаеш?

— Не, дзедку, я здалёк вяртаюся і нічога не ведаю,— адказаў Несцер.

— Польскія паны, нябожа, усё гэта нарабілі. Не толькі адны Зябы, а скрозь усе станцыі ў нашым краі дашчэнту знішчаны і зруйнаваны імі. Вось хоць бы паехаць к Мінску і далей — дык быццам ток навокал. Не толькі станцыі, а ўся наша Беларусь цяпер — тыя ж самыя Зябы — пустыр, руіны, ток. Паны, нябожа, пастараліся. Ой, як! Пакінулі аб сабе добрую памятку ў нашым народзе...

— Ах, погань ліхая! — абурана праказаў Несцер.

Тым часам на дварэ пачынала рассвітаць. Смуглыя ліхтары пачалі сумець і тухнуць адзін за другім. Цягнік, прамарудзіўшы хвілін з трыццаць, няспешна рушыў далей.

Несцер некалькі часу прастаяў на адным месцы каля пахіленага ліхтара, потым пахіліў убок.

Зрэдку снавалі на платформе пасажыры. Бегалі клапатліва служачыя станцыі.

— Куды ж ісці? — запытаў ён сам сябе.— Няўжо пусціцца пешкі сорак вёрст да Верацён?..

І не паспеў вырашыць, як да яго падышоў нейкі мужчына, з вялікай чорнай барадою, з адрослымі лахматымі бакамі на яшчэ нестарым, але змучаным твары. Адзеты ён быў у паношаную вопратку напалову цывільную, напалову вайсковую. На руцэ ў яго вісеў паўпусты мяшок, а збоку торбачка.

— Ці няма закурыць? — запытаў ён Несцера.

— Няма, браточку,— адказаў той.

— А куды едзеш?

Несцер пільна агледзеў падышоўшага з ног да галавы, крыху памаўчаў, потым адказаў:

— Нашто табе?.. А сам куды едзеш?

— Я прыехаў сюды, а адсюль трэба сцягаць вярстоў сорак да Верацён.

— Да Верацён? За Хрэпы?

— Але.

Несцер пільна ўставіўся ў незнаёмага, паглядзеў на яго і тут жа падмеціў: незнаёмы выглядзеў знаёмым чалавекам, якога Несцер дзесьці і калісьці бачыў.

— Я таксама іду ў Верацёны,— адказаў Несцер,— а ты адкуль прыехаў?

— Я... я...

І гэты, з свайго боку, штосьці знаёмае запрымеціў у Несцеру.

— Слухай, таварыш, як тваё прозвішча? Мне здаецца, што я цябе дзесьці бачыў? — запытаў Несцер.

— Я — Гарасім Грэбень,— рашуча адказаў незнаёмы.

Перад Несцерам як бы адчынілася неба.

— Братка мой, родны мой, дык гэта ж ты! Як жа ты змяніўся! Ажно і не пазнаць цябе... Я... твой брат Несцер. Якое нечаканае спатканне! — растрывожана праказаў Несцер.

— Ці можа ж то быць? — са слязьмі ў вачах праказаў Гарасім.

Далей ніводзін з іх не мог гаварыць, і яны міжвольна, ахопленыя радасцю, кінуліся адзін аднаму на шыю і моцна ды шчыра пацалаваліся. Выпадковыя падарожныя кідалі на іх свае погляды.

— Ну, дык ідзем, брат,— пасля некаторага часу запрапанаваў Несцер.

Гарасім нічога не адказаў: ён быў згодзен.

## IV

Узрушаныя нечаканаю стрэчаю, браты Грэбені моўчкі крануліся з месца і, ідучы, доўга не знаходзілі слоў да аднаўлення гутаркі. А тым часам кожнаму здавалася, што ён бы бесціхання гутарыў з братам, апавядаючы яму ўсе здарэнні жыцця ў часы разлукі; думкі нястрымным роем націскалі ў галовы, словы заміралі на языках.

Браты перайшлі рэйкі і выбраліся на дарогу, якая ад станцыі вяла на павятовы горад.

Рэдкія будынкі станцыйных служачых, раскіданыя паабапал шашы, сумна глядзелі на іх цёмнымі, закрэпленымі шэранем вокнамі.

У некаторых вокнах яшчэ свірэлі агеньчыкі; траха не ва ўсіх доміках палілася ў печы, і з комінаў гнаў слупамі дым.

Між будынкаў віднеліся вогнішчы з высокімі комінамі і чорна-белымі камлямі дрэў.

Пры шашы наўскосак валяліся пакіданыя драцяныя загарадзі, вывернутыя слупы з тэлеграфу, пападаліся зламаныя вайсковыя драбіны-вазы, кускі колаў.

Грэбеняў гэта не цікавіла: знаёмыя вобразы, такія надаедныя, такія агідныя...

Яны ішлі далей, уталопіўшы наперад свае празрыстыя вочы, якія ззялі невыразнай радасцю, і маўчалі...

Доўга ніводзін не мог ці мо не асмельваўся першым пачаць гамонку, нібы баючыся зварушыць тую ўрачыстасць іх раптоўнай стрэчы, якая вітала над імі.

Але скора як у Несцера, так і ў Гарасіма ўсё іншае адышло на задні план, а вынікла вострая патрэбнасць гутарыць, казаць, спяваць.

К таму ж акалічная абшарнасць, якая ўставала са змроку, пачала ў іх абуджаць старыя ўспаміны. Колькі разоў ім абодвум траплялася ісці гэтым гасцінцам, глядзець і любавацца прыгажосцю родных вобразаў. Праўда, цяпер, пасля вялікіх перамен, звязаных з перажытым, многа чаго ў вобразах змянілася. Дуброўкі і гайкі высечаны, толькі зрэдку сіротамі стаяць адзінокія дубкі ды бярозы. Здаецца нават, што і шмат якія вёскі згінулі, а якія засталіся ляжаць ціха, спакойна, прытуліўшыся да зямлі, каб не быць прымечанымі. Аднак смутак акалічнай мясцовасці не перашкодзіў Грэбеням перайсці да ажыўленае гутаркі.

— Гарасім, браток, скажы ж ты мне, адкуль ты трапіў сюды? — неяк нерашуча пачаў Несцер.

Гарасім зрабіў мяккую міну на твары, паглядзеў на брата і адказаў:

— А як ты думаеш?

— Як думаеш? Як ты цяпер будзеш думаць! Усё шыварат-навыварат цяпер робіцца. Столькі ўсякае прымхі, столькі выпадковасці, што губішся ў іх дашчэнту. Хацеў бы думаць так, хацеў бы гэтак дагад-

вацца, а глядзіш, яно зусім іначай складаецца. Так і гэта. Як я магу думаць? Я баюся думаць...

— Праўду, браце, кажаш, зусім праўду. Ніколі табе не дагадацца, як і што са мною траплялася апошнімі гадамі і якім выпадкам я папаў сюды, каб сустрэцца з табою. А цікавага так многа, што табе не лішне будзе паслухаць.

Несцера забрала цікавасць. Ён крыху памаўчаў. Потым сцішыў хаду і сказаў брату:

— Гарасім, давай перакусім чаго-небудзь, а тады ты мне ўсё раскажаш аб сабе і аб сваім жыцці.

— Вось трэ пашукаць, на чым сесці.

Яны ўваходзілі ў лясок. Шугаўшы злёгку ветрык заціх. Высокія абеленыя шэраняй хвоі і густыя, лахматыя елкі стаялі ціхутка, нібы прытаіўшыся, нібы зачараваныя.

Абодва хадакі кінулі навокал вачыма і разам угледзелі з левага боку дарогі тоўстую бураломіну.

— Давай прысядзем,— сказаў Гарасім.

Яны звярнулі з дарогі, падышлі к лежаку, змялі з яго снег і паселі.

Несцер зняў клунак, развязаў яго, дастаў акраец хлеба і невялікі кусок сала.

— Хахлацкае, брат, еш! — падаючы брату сала, сказаў Несцер.

Гарасім быў галодны і прагна хапіўся за страву. Гледзячы на яго, не адставаў і Несцер. Хутка аддзеленая порцыя была кончана.

— Давай цяпер пойдзем цішэй і па дарозе пагутарым аб нашым жыцці,— сказаў Гарасім.

Яны падняліся, выйшлі на шашу, зірнулі на неба і пайшлі.

Тым часам неба стала праясняцца, і праз рэдкую хмару ўхмыльнулася сонца.

— Весела будзе ісці,— сказаў Гарасім.

— Так,— адказаў Несцер.

## V

Грэбені прайшлі моўчкі яшчэ сажняў з дзесяць. І толькі на граніцы ляску Гарасім рашыў пачаць сваё апавяданне.

— Цяпер, браточку, то яно і цікаўна ўсё ўспомніць ды расказаць, а перажываць было не так лёгка. Про-

ста дзіўлюся я, як так удалося выхаяцца і вось цяпер ісці з табою.

— Ну, ну, кажы спачатку,— прасіў Несцер.

— А спачатку было так. Праз два гады, як цябе здалі, вайна выцягнула з дому і мяне. Як другаразраднік я быў забраны ў пятнаццатым годзе, якраз перад наступам немцаў. Пакінуў жонку сваю і трое дзетак і як выйшаў з Верацён, дык два з паловай гады неадлучна сядзеў то на фронце, то ў тыле, то зноў на фронце. Тры разы быў ранены і выцерпеў пекла мук. Думаў, што не быць мне і жывому, але акрыяў і пасля Акцябрскае рэвалюцыі вярнуўся дадому. Быў вельмі рад гэтаму, бо ўбачыўся з бацькамі, [redacted] жонкаю, дзеткамі... толькі з двума з іх, бо трэцяе памерла ў маю адсутнасць. Ой, Несцерка, колькі яны за тыя два гады працярпелі бяды! Перш сабраліся выехаць, як і іншыя, частку дабра распрадалі, частку павезлі. Потым стары раздумаў, угаварыў жанок, і засталіся. Пад вёскаю і ў самых Верацёнах была бітва. Палавіна вёскі згарэла, але наш будынак неяк уцалеў.

— Ну, скажы ж, Гарасім, а ты не пытаўся бацькоў,— ад мяне лісты яны дасталі ці не? — перабіў Несцер.

— Не, брат, ніякіх лістоў. Лічылі цябе прапаўшым. Маці плакала, бацька нудзеў. Я іх суцяшаў, хоць і сам не верыў... Але слухай, брат. Пражыў я дома каля трох месяцаў. Думаў перш аставацца і надалей, а мо і назаўсёды. Але якраз нашым месцам пачаў наступаць немец. Напалохаўшыся яго, я, доўга не думаючы, прылучыўся да нашых атрадаў і з імі адступіў. Бацька крычаў на мяне за гэта, кляла жонка, але нянавісць да немцаў і ваяўнічы запал узялі верх. Такім чынам, я адступіў да Смаленска. А ў Смаленску я захварэў на тыфус. Праляжаў блізка два месяцы і ледзь жывы, адзін шкілет, устаў пасля вялікадня. Служыць больш я не мог, пайшоў да начальства і кажу: «Пускайце дадому, а то не выжыву...» — «А як жа ты дабярэшся?» — пытаюць. «Дабяруся»,— кажу. Вось мне далі водпуск на тры месяцы. Узяў я лахі пад пахі, сеў на цягнік, прыехаў да Воршы, а там рознымі выхілясамі, праз вёскі ды праз ляскі і — дабраўся дамоў. Прыходжу, а там ужо мяне чакаюць, чакаюць не толькі бацькі, а і немцы... Ух, нагаварылі на мяне ўсе гэтыя Цвіркі, Ласы, Цмені, што я не толькі бальшавік-камі-

сар, але і самы старэйшы з бальшавікоў. А немцам было гэта наруку; ды яны ўжо да майго звароту забралі ў бацькі карову, дзве авечкі, дзесяць пудоў збожжа і яшчэ грозіліся далей «падчышчаць». Дык вось, не паспеў я ўвайсці ў Верацёны, як мяне, раба божага, так і абламзалі. Замест дому я мусіў першую ж ночку начаваць у каменданцкай. А далей... Пайшлі дапыткі, адпраўка ў лагер, жыццё ў лагеры чуць не цэлы месяц. Ай-яй! — Гарасім за галаву хапіўся,— колькі мукі перанёс... А потым, не знайшоўшы віны, узялі і выпусцілі. І я жыў пасля гэтага ажно да наступу палякаў. Аралі з бацькам два гады поле, кармілі жывёлу, і толькі. Немцы мала чапалі, а прыйшла Савецкая ўлада, мы ўзялі яшчэ панскіх пяць дзесяцін засеялі. Так бы яно мо і ішло б, ды на бяду — гэтыя паны. Якраз у самае жніва так і пайшлі яны наступам. Усе ўцякаюць, савецкія работнікі выбіраюцца. Не ехаць мне страшна, бо да гэтага і ў Савет, ведаеш, мяне выбралі, і камісарам Зліхоцкага маёнтка назначылі, ды ўададатак, як казаў ужо, пяць дзесяцін панскае зямлі я для сябе падрэзаў і дрэва на гумно навазіў. Як жа тут застацца?

— Вядома, вядома,— паддакваў Несцер.

— І я выехаў разам з іспалкомам. Прыехалі зноў у Смаленск, дзе я пражыў з месяц, а потым рашыў пайсці ў Чырвоную Армію, на фронт, каб біцца з палякамі. Ведаеш, братка, неяк абуяла мною помста к панам за іх напад на наш край, і я ажно цэлы год быў у войску. Заўсёды меркаваў быць у першых радах. Хадзіў часта ў разведку, ніколі не адставаў, каб не пайсці ў наступ, з нейкай, ведаеш, нязведнай ахвотай пёрся на паноў. Страляў з асобнай уцехай. Бывала, у разведцы напаткаеш паноў, і ўжо хіба, на іх шчасце, куля праміне або паспеюць схавацца. Заўсёды, як ішоў у наступ, прыпамінаў дзедавы сказы, як паны былі прыгоншчыкамі і здзекаваліся з нашых сялян. Эх, толькі гарыць, бывала, помста, чэшуцца рукі! Ніякага страху не маеш, ідзеш. Пазнаў я ўсе мясцовасці і каля Барысава, і каля Ігуменя, і каля Бабруйска. Часамі пройдзе тыдзень-другі без чыннасці, і сам не ведаеш, дзе дзецца ад нуды. Падыдзеш к камандзіру і дурыш яму галаву: «Таварыш камандзір! Ці ж ужо вайна скончылася, што мы так доўга аддыхаем? Ці мо мы рашылі аддаць панам да Барысава і толькі далей не

пускаць іх, чакаючы, пакуль яны пачнуць наступаць?» Так скажаш камандзіру, а ён толькі ўхмыльнецца і адкажа: «Пачакай, Грэбень, яшчэ панюхаеш пораху. Вось ідзе вясна, пачнецца дзела». Мне то было вялікай уцехай. З нецярплівасцю чакалі вясны... І... дачакаліся. Праўда, то ўжо было ў маі ды чэрвені. Як пачалася гарачка — дык толькі трымайся. К гэтаму часу я папаў пад Полацак, адкуль нашы наступалі. Вось як ударылі раз на палякаў — дык к Маладзечну загналі зразу. Потым яны, гады, аправіліся і нас назад к Полацку адапхнулі. Затое ў другі раз як пайшлі мы, дык толькі трымайся. Не спыніцца. І я ў першых радах дакаціўся ажно да Варшавы, дзе і быў перахвачаны панамі. Ледзьве ўцяклі к немцам.

Гарасім закашляўся і сплюнуў. Несцер азірнуўся навакол.

Яны ішлі цяпер шляхам, які замыславата вярцеўся то сюды, то туды, нібы шукаючы лепшых мясцоў для сябе. Наўкруг ляжала белае поле, перасечанае ўзгоркамі. То сям, то там віднеліся засценкі, фальваркі і сіне-цёмныя плямы невялікіх ляскоў. Шляхам, на дзіва, ніхто не ішоў і не ехаў. Зрэдку праляталі вароны і перабягалі ім дарогу па адным, мабыць, заблудшыя сабакі.

— А скажы, браток Гарасім, ты не запісаны ў партыю камуністаў? — запытаў чамусьці Несцер.

— Не,— адказаў Гарасім,— але ўсё роўна я камуніст. Мо нават лепшы яшчэ за тых, якія і запісаны. Ведаеш, братка, я вельмі спачуваю цяперашняму ладу, бо бачу, што толькі ён дае магчымасць нашаму брату-мужыку стаць сапраўдным чалавекам, і калі мы гэтага не патрапім выкарыстаць для сябе — дык мы нічога не варты. Савецкая ўлада нас прызвала к дзяржаўнаму экзамену, дала нам, як кажуць, матэрыял у рукі і сказала: рабі. Вось мы і павінны паказаць, што мы рабіць умеем, што мы такія самыя людзі, як і нашы абіраццелі — сябе ў крыўду не дамо...

Несцер паддаваўся братнім словам і цешыўся, што брат яго дайшоў да разумення ўсяго таго, аб чым яму тлумачыць. У яго сэрцы расла ўцеха, што ён мае сабе гэткага слаўнага і разумнага брата.

— Я таксама, браце, стаю жыццём за цяперашні лад,— паспяшыў і Несцер выказаць сваю думку,— і таксама, дарагі мой, шмат панёс за ахову свабоды.

Дасталося ўсяго, усяго, што і казаць... Толькі мне вельмі добра, я вельмі рад, Гарасім, што і ты маіх дувмак. Пацярпелі многа, ну толькі ж ёсць завошта...

— Дык паслухай, Несцер, я дакажу табе да канца, што пачаў,— перапыніў брат Гарасім.

— Кажы, кажы.

Яны абмінулі яміну, якая раптам устала перад імі, адначасова азірнуліся назад і па баках, і Гарасім загутарыў:

— Вось, калі мы папалі на нямецкую зямлю і немцы нас раззброілі ды парассылалі па лагерах, я, ведаеш, занапаў духам. Як тут сядзець бяздзейна ў цяжкіх варунках, галоднаму, і толькі чуць, як там на ўсходзе ідзе змаганне за край і свабоду. Дзеравяннаму трэба быць чалавеку, бяздушнаму... Стала браць мяне нецярплівасць. Зарухалі думкі ў галаве, забудаваліся розныя планы. «Уцяку»,— парашыў і стаў чакаць удачнага выпадку. Праўда, ён хутка сам мяне знайшоў... Не аднаго мяне, а нас некалькіх. На шчасце, у нас якраз змянілі варту. Папаўся немец — свой чалавек. Пазналіся з ім, пагутарылі раз-другі, а на трэці — «бяжыце», кажа. І мы ўтраіх сярод дня ўлучылі хвіліну і далі ходу. Праз дзень з лішнім былі ў Літве, а яшчэ, спусціўшы дзён тры, я апынуўся, як бачыш, вось дзе. У штабе арміі мне далі пропуск дамоў, і я з гэтым пропускам еду. Глядзі, на вошта я падобен: валацуга, ды і годзе. Вось парашыў наведаць дом і сям'ю, супачыць крыху і зноў на фронт...

— Так, так... Здорава дасталася, браце. Ну, цяпер ужо патрэбна супачыць месяцаў колькі. Ды на фронт, бадай, мо і не давядзецца: з Польшчаю замірэнне.

— Э! Якое там замірэнне? Ворагаў, брат, у нас гібель. Кончылі з Польшчаю — новыя знойдуцца.

## VI

Тым часам на двары падыходзіла к вечару. Грэбені за гутаркаю не прымецілі, колькі яны прайшлі дарогі і ці многа ім яшчэ асталося ісці. Аднак яны абодва пачалі адчуваць утому, крыху дзеля таго, што ўжо яны многа сягоння прайшлі, а болей таму, што доўгі дарожны час адабраў у іх сілы і звярэдзіў іх. Хацелася таксама абодвум есці. Якраз яны падыходзілі к Галапечачнай карчме, якая стаяла ў дваццаці вярстах ад



Цішка Гартны з сёстрамі Лізаветай
і Кацярынай. 1912 г.



Цішка Гартны з жонкай
Надзеяй Сцяпанаўнай. 1916 г.

Верацён. Гаспадары карчмы калісьці былі знаёмы абодвум братам. Калі яны і цяпер там жывуць, то можна разлічваць паесці і супачыць. Ды хоць і іншыя гаспадары — усё роўна карчма карчмою. І Грэбені ўскорылі хаду. Выйшаўшы на ўзгорак, яны ўбачылі ў вокнах старой, уросшай у зямлю будыніны цямлівы агеньчык. Зачуўшы іх набліжэнне, забрахаў асіпшым голасам карчомны сабака. Відаць было ім, як у стадоле адчыняліся вароты і знадворку ў стадолу ўехала колькі падводаў. З коміна карчмы ішоў дым, які фарбаваўся ў чырвоны колер ад праглянуўшага на захадзе праменю. Ваддалёк карчмы, вярсты за дзве злева, ляжаў засценак.

— А як мы зробім, Несцер, заначуем тут ці пойдзем дадому, спачыўшы? Яшчэ цэлых дваццаць вёрст, а тут хто яго ведае, мо і небяспечна? — запытаў Гарасім.

— Праўду табе сказаць, я ўжо ўтаміўся. Еду з Севастопаля, і вось болей тыдня, як не паспаў і не паеў па-людску. Па-мойму, варта было б супачыць, калі знойдзецца на чым. Гэта выгадней і таму, што мы прыйдзем днём, а не ноччу,— адказаў Несцер.

— Нічога проці не маю.

Яны падышлі к карчме. Сабака сціх брахаць. Ля варот стадолы стаяла маладая яўрэечка і пільным поглядам агледзела Грэбеняў. Несцер з хвіліну ўпарта паглядзеў на яе і ў яе твары ўгледзеў штосьці знаёмае.

— Можна зайсці да вас? — дабрадушна запытаўся ён.

Дзяўчына ўхмыльнулася і мякка, гасцінна адказала:

— Калі ласка!

— А мо і пераначаваць можна будзе?

— Там пабачым,— ахвотна адказала яна.

Грэбені ўверана адчынілі дзверы і ўвайшлі ў карчму. Ім дыхнула густым цёплым паветрам, перапоўненым дымам. Была пятніца, і зайшоў шабас, так што на стале гарэлі свечкі, і стары гаспадар карчмы, як пазналі яго з першага ж погляду Гарасім і Несцер, згорблены Шмуйла слібізаваў модлы. За сценкаю ў каморцы крахцела яшчэ адно старое. Два хлапчукі, адзін ужо дзяцюк, і дзве сталыя дзяўчыны бегалі з каморкі ў каморку. Лазіў па хаце і віляў хвастом пярэсты сабака, той самы, што брахаў на Грэбеняў. На лаўках

сядзела з пяць сялян у жоўтых кажухах, падпяразаных саматканымі паясамі; усе яны трымалі ў зубах люлькі, маўчалі і пускалі на хату гібель дыму ад свойскага «багданчыку» і «мультану». Раз-поразу сяляне азіраліся ў вокны і адзін другому нашэптвалі штосьці на вуха.

— Дзень добры ў хату!..

— Добры вечар! — паправіў Гарасім.

— Добры вечар! — адказаў Шмуйла, не пакідаючы маліцца.

Месца сядзець хапала, і абодва Грэбені ўселіся.

— Ці нельга было б папрасіць гарбаткі? — пераняўшы дзяўчыну, запытаў Несцер.

— Можна, зараз,— адказала тая, мякка ўхмыльнуўшыся. Несцер пачаў развязваць клунак. Гарасім моўчкі сядзеў і сачыў незмігутна за гарэннем свечак.

Тым часам Шмуйла кінуў маліцца і сеў за стол. Адна з дзяўчат падбегла к сталу, заслала абрус і пачала гатавацца к вячэры. Шмуйла адламаў кусочак хлеба і жуючы пачаў глядзець на хату.

Вочы старога, яшчэ зоркія і празрыстыя, шпарка бегалі па ўсіх баках, не прапускаючы самых дробных рэчаў. Потым яго погляд спыніўся на Гарасіму, аглядаючы яго постаць зверху ўніз. Шмуйла штосьці замармытаў, павярнуўся і сказаў:

— Ці я абмыляюся, ці то так і ёсць: здаецца, ты будзеш Янкаў сын, Грэбеня?

Гарасім усміхнуўся і адказаў:

— Так, Шмуйла, угадаў. Добрая ў цябе памяць.

— Але, добрая памяць,— дадаў Несцер,— але мяне дык, бадай, не пазнае.

Ён пытальна паглядзеў на Шмуйлу.

— Не, цябе не помню. Мо калі і ведаў, толькі выйшла з памяці,— адказаў Шмуйла.

— Ну, і дзіва няма,— умяшаўся адзін з сялян, паважна раскурваючы люльку,— наша рэч старыкоўская: што дзень — памяці меней.

— Вядома, вядома, дзядзька. Вось і таму дзіва, што Шмуйла мяне помніць. Таксама гадоў з чатыры не сустракаліся,— сказаў Гарасім.

— Гадоў чатыры — то глупства. Затое раней я добра знаўся з вашай раднёю. Бывала, Янка штотыдзень у мяне, а я ў яго. У нас, дзякуй богу, шмат чаго хаўруснага рабілася. Го, твой бацька, то чалавек, якіх ма-

ла знойдзеш. Разумніца, хітры, смікалісты, прайдзісвет, не вам раўня. Бывала, што мы з ім ні вытваралі, якіх дзялоў ні вялі. Хай сам скажа!

Гарасім і Несцер усміхаліся.

— Чаму ж не, бываюць такія, удаюцца,— ваткнуў сваё слова той жа селянін.

— А вось хоць бы наш Нічыпар, чым не такі? — дадаў яго сусед.

— Старасвецкія людзі ўсе хітрэйшыя за сучасных, няма чаго казаць,— згадзіўся трэці.

Пакуль ішла гутарка, на стале апынулася вячэра, і сям'я Шмуйлы, сямёра душ, сядзела за сталом. Старэйшая дачка, тая, што сустрэлася з Грэбенямі на вуліцы, была за гаспадыню і падавала на стол.

Звычайная шабасовая вячэра адзначалася багацтвам страў. Суп, цымус, бульба, мяса, рыба, кугель, кава і інш., нягледзячы на цяжкія часы, у той жа порцыі, як і ў бывалашнія гады, напаўнялі стол. Недахват яды, голад, з якім добра пазналіся і Гарасім, і Несцер, тут не чуліся. Вось, пазіраючы за зменай страў, абодва Грэбені пераглядаліся між сабою, праводзячы ўзрокам на стол кожную міску. Сялянам жа гэта было нецікаўна.

— Адкуль вас бог нясе? — пасля некаторага часу маўчання, скончыўшы вячэру, запытаўся Шмуйла. Далей, не чакаючы адказу, ён звярнуўся к дачцэ:

— Вялі паставіць людзям самавар, яны замерзлі з дарогі.

— Добра, зараз, зараз! — адказала дзяўчына.

— Адкуль вас бог нясе? — перапытаў Шмуйла ў другі раз.

— Ох, з усяго свету! — адказаў Гарасім.

— Здалёку, кажаце?

— Дый што казаць, вядома, што здалёку,— пацвердзіў Несцер.

— Вось парадуйце нас, што гэта ў вас чутно?

Шмуйла пагладзіў бараду, замармытаў нешта і сумна адказаў:

— Ды ў нас не вельмі добра. Эх...— Ён матнуў рукамі.

У гэты час папасчыкі-сяляне штосьці перагутарылі між сабою і пачалі збірацца к выхаду.

— Што, едзеце, мужчыны? — пацікавіўся Шмуйла.

— Так, пара, коні досыць супачылі і папасвіліся. А нам трэба к раніцы быць у Сажным. Пойдзем, браткі,— адказаў адзін з сялян.

І ўсе яны выйшлі з хаты. За імі ў стадолу, запаліўшы свірэлку, выйшаў і хлапец Шмуйлы. Скрып дзвярэй і пацягаўшае з стадолы халоднае, пахнучае гноем паветра напоўнілі карчму.

— Зачыняйце хутчэй! — гукнуў Шмуйла.— Дроў лішніх няма, павінна быць дарага цяпло.

І потым загутарыў ні то з сабою, ні то з Грэбенямі:

— Ні дроў няма, нічога няма. Знішчылі, агалілі край уканец. Як ток зрабілі. Каб тут і колькі было ўсякага дабра, дык выкрадуць, выхапаюць. Жарты — цэлых шэсць гадоў нішчыць — то і зямлю можна расрасці ўсю. Адзін прыйдзе — бярэ сабе, сцягае, другі прыйдзе — бярэ далей і вязе к сабе, трэці і дзесяты — бяруць і бяруць... А аддаць — ніхто.

— Кепска, кажаш, Шмуйла? — перабіў Гарасім.

— Яшчэ як, браток, дрэнна, выказаць нельга. Можа, прыглядаліся, ідучы дарогаю: слупы павернуты, дрот валяецца... Так і па ўсяму краю — усё павернута і ўсё валяецца... Сапраўды кажучы — валяецца толькі тое, што нікому не трэба, як не вартае. Усё тое, што мела хоць малую цану, падабрана нашымі «прыяцелямі» немцамі, палякамі, балахоўцамі і чорт іх ведае кім. Падабрана і падчышчана, як належыць.

— Усюды гэтак, усюды адны руіны,— загаварыў Несцер.— Вось я еду з Украіны і каб вы бачылі толькі, што там робіцца: масты паўзрываны, чыгункі папсаваны, вёскі папалены...

— Так, вядома... Але ж у нас гэта зроблена куды мудрэй. Там прайшлі раз-два, і толькі. А ў нас тут — несціхана шэсць гадоў тое і рабілі, што бралі, шукалі, даставалі і звозілі. Проста сэрца рвецца на кавалачкі, калі паглядзіш на край, якім ён стаўся...

— І якім бы мог стаць, каб яго пакінулі ў спакоі і аддалі людзям на адбудову,— уставіў Гарасім.

— Во-во, і я хацеў гэта сказаць,— падхапіў Шмуйла.

— А я бачу, што гаспадар карчмы ненарокам любіць наш край, хоць, здаецца, і няродны ён яму,— нясмела праказаў Несцер, баючыся, каб гэтым не пакрыўдзіць Шмуйлу.

Але той нават і намёку не даў на крыўду: наадва-

рот, гэта яго вызвала на выказ тых думак, якія, бадай, ці былі б ім выказаны без Несцеравых слоў.

— Братка ты мой,— поўным шчырасці голасам завёў Шмуйла,— ці ж можна наш край не любіць? Дзе ж ты найдзеш лепшых, спакайнейшых і працавіцейшых людзей? Дзе ты сустрэнеш выгляд лепшы, дабрату большую? Праўда, я родам не згэтуль, але, дзякуй богу, жыву тут болей трыццаці гадоў. Ці ж нельга прывыкнуць і параднікцца? Я ўжо пасля першага азнаямлення з людзьмі стаў яго сынам. Каму ці льга зжыцца, а чалавек нязлослівы, памяркоўны, ужыўчывы — хутка зжываецца. Так, я скора параднiўся і з краем, і з людзьмі. Скора і палюбіў іх.

## VII

Несцер пільна выслухаў Шмуйлу, крыху памаўчаў, а потым звярнуўся к брату з гэткімі словамі:

— Вось чуеш, Гарасім, як людзі кажуць. Што ж за наўда, калі я праз увесь час так моцна смуткаваў па бацькаўшчыне. Так, браце, смуткаваў і жалеў, што і выказаць нельга. Ні грукат гармат, ні жар змагання, ні страх перад смерцю не маглі заглушыць ва мне гэтага болю. Ідзеш у наступ, вакол сыплюцца кулі, разрываюцца снарады, смерць глядзіць у вочы, а сэрца так і ные, так і ные — дадому імкнецца: хоць бы паглядзець на сваіх людзей, пагутарыць на сваёй мове, пабываць у лясах, на палях... Хоць бы сабе і смерць — але пасля пабыўкі дома... І гэтак праз увесь час, праз цэлыя чатыры-пяць гадоў. Ссох, спятрэў у журбе па дому...

У гэты час дзяўчына прынесла самавар.

— Прачакаліся, мужчыны,— сказала яна, ставячы яго на стол.

— Нічога, нічога,— адказаў далікатна Несцер, якому сапраўды дакучыла чакаць.

Абодва Грэбені паспешна распрануліся, дасталі з клункаў яду, вылажылі яе на стол. Потым уселіся за вячэру.

Шмуйла вылез з-за стала і пачаў маліцца.

На нейкі час у хаце стала ціха. Толькі крэкт бабулі ў запечку казаў, што ў карчме ёсць жывыя людзі. За акном свістаў вецер. Зачыненыя аканіцы хавалі панадворак... Аднак Шмуйла пачасту ўзіраўся ў вуліч-

нае акно, выбіраючы шчылінку. Нагнецца, прыгледзіцца, потым зноў адыдзе.

— Цямноцце на дварэ,— праказаў пад канец Шмуйла.

— Мы думаем начаваць у вас,— сказаў Гарасім.

— Чаму не, зрабіце ласку, месца хопіць,— адказаў Шмуйла.— Куды ж ісці гэтай цемрай? Ды, нябось, здарожыліся?

— Так, патаміліся, не спаўшы колькі ночак... Хоць яно і вельмі хочацца скарэй папасці дамоў, праведаць бы, што і як там, але...

— Паспееце і заўтра,— угаварыў Шмуйла.— Невялікае шчасце вы дома знойдзеце, дзень раней ці дзень пазней.

— Ну, а скажы, Шмуйла, ты часамі не чуў пра Верацёны нічога? Ці ціха ўсё там, ці мо што і нядобрае траплялася? — пацікавіўся Гарасім.

— Праўду скажу: не ведаю. Штосьці баялі аб Верацёнах, але я, прызнацца, не прыслухоўваўся. А самому, вось, не здаралася быць... Хто яго ведае, тут усякай усячыны было, розных здарэнняў... І пагромы, і граберствы, і забойствы, пажары. Вядома — як на вайне... Магло ўсё стацца і з вашымі.

Словы Шмуйлы занепакоілі Грэбеняў. У іх абодвух зашчымела вострае хаценне забыць і спачынак, і начлег і спяшаць дамоў. Але ўтома і санлівасць моцна сціснулі іх.

Дрымота сплюшчвала іх вочы, балючая вяласць расплывалася па ўсёй істоце, моцна шчымела боль у нагах і ў паясніцы.

— У нас ноччу хадзіць мала бяспечна,— чыстасардэчна прамовіў Шмуйла.— Усякіх людзей на гасцінцы трапляецца: і балахоўцы нейкія, як кажуць, і дэзерціры, і проста жулікі-бандыты. Калі ўжо нельга ні ў якім разе адлажыць — тады мусіцьмеш ісці. Дый то можна як-кольвечы скруціць... Не... лепей зробіце, калі пераначуеце... Хая! — пазваў ён дачку,— пасцялі мужчынам.

— Добра,— пачулася з суседняе каморкі.

Хутка дзяўчына паслала дзве пасцелі — адну на тапчане, другую на канапе.

Шмуйла сам убавіў у лямпе агонь, і Грэбеняў пакінулі адных. Як Несцер, гэтак і Гарасім раздзеліся, бы дома, і палеглі.

Палёгшы, яны паправабавалі яшчэ аб сім аб тым перагутарыць, але з таго нічога не выйшла: словы ў горле гразлі. І яны, сціхшы, хутка паснулі.

## VIII

Назаўтра, чуць свет, Гарасім прачнуўся і пабудзіў брата. Шмуйла ўжо таксама не спаў: ён чагосьці клапатліва хадзіў па каморцы і мармытаў сабе пад нос.

— Будзем збірацца ў дарогу,— сказаў Несцер.

— Гарбаты пап'еце,— параіў Шмуйла.

— Куды ўжо там: няхай дома,— адказаў Гарасім.

Яны хутка ўсталі, адзеліся, памыліся і сталі збірацца.

— Дваццаць вярстоў лёгка ўбяром,— пахваліўся Несцер.

— Так, адпачылі крыху,— згадзіўся Гарасім,— гадзін з восем паспалі.

— Толькі перакусіць не шкодзіла б,— раіў Шмуйла.

Аднак Грэбені гэтага не думалі: ім рымсціла як найхутчэй паспець дадому і праведаць аб дамашніх. Сабраўшыся акуратна, надзеўшы клункі і падперазаўшыся, яны падзякавалі Шмуйле за начлег, расплаціліся і выйшлі з карчмы.

На вуліцы было ціха. Браў добры мароз, і за ноч выпала багата шэраню. Кусцікі лазняку і ядлоўцу, асабалачкі, кускі дроту і рэдкія платы былі пекна ўбраны белымі пухкімі анталяжамі. Чыстае паветра свяжыла і бадзёрыла. Лёгкі туман, заўсёды справодзячы шэрань, гусціўся па баках, робячы навокал Грэбеняў неразрыўнае кольца. Уверсе, якраз над іх галовамі, віднелася прагаліна сіняга неба з рэдкім налётам туману, а на ўсходзе ад праменняў узыходзячага сонца туман быў чырвоным. Убітая дарога аблягчала пуціну, і Грэбені лёгка, з новымі сіламі, маршыравалі па ёй.

— Хаця б сапраўды чаго кепскага там не сталася,— сумняваўся Несцер.— Усе мукі чаканняў і хаценняў — разляцяцца дымам...

— Кінь думаць дрэнна,— суцяшаў Гарасім,— чаму ты думаеш, што нядобрае трапіла к нашым?

— Ой, дзіўны ты, а хто разбіраўся? Прыяцеляў такіх досыць маецца, якія ахвотна б падказалі, нацкавалі ці палякаў, ці балахоўцаў. Стараста Ёрш, сальнік

Сёмка ці яшчэ які гад — ад іх доўга не чакаць. «Іх два сыны бальшавікі, распраўцеся з імі першымі». Напэўна, брат, там магло стацца штосьці ліхое,— неяк занадта ўжо трывожыцца маё сэрца.

Несцер кідаў смутны пагляд на твар брата і нібы перадаваў таму мукі сумнення і трывогі.

— Магло стацца, гэткія ўжо часы,— з няпэўнасцю загаварыў Гарасім.— А сталася — што зробіш, не паправіш. Тады аб іншым прыйдзецца думаць: кідай усё і ўсіх — на памшчэнне.

— Толькі так. Усё жыццё пасвяціць непазбыўнаму змаганню за свабоду і бязмернай помсце за здзекі і глум з краю і людзей.

— Так-то яно, мо і так. Толькі ўсё роўна, браце, не вернеш таго, што табе дарага і што цягне цябе за тысячы вярстоў, бы магнесам... Вось у чым хаваецца сэнс,— разважаў Несцер.

Тым часам яны ўвайшлі ў лес. Гэта пачынаўся ў сямі вярстах ад Верацён вядомы ў тых месцах лес, быўшы Кіслячага, вялікага багацея і маёнтніка. Калісь, помняць абодва Грэбені, у Кіслячынскім лесе вадзіліся мядзведзі, ласі і гібель ваўкоў. Не раз на ваўкоў рабіліся аблавы, і тады зганяліся на іх сяляне ўсіх ваколічных вёсак. Верацёнаўцы хадзілі разам з іншымі. Даводзілася некалькі разоў прымаць удзел у аблавах Несцеру і Гарасіму. Пасля, у 1905 годзе, верацёнаўцы разам з іншымі ездзілі самачынна ў Кіслячынскі лес сячы дровы. Многа ў тыя часы высеклі сяляне памешчыцкага лесу. Затое многа і караў прыйшлося панесці. Каля дзесяці чалавек адсядзелі па два гады ў астрозе, а траха не ўсе разам з сялянамі суседніх вёсак мусілі плаціць пану Кіслячаму стратныя. Казакі і жандары часта наведвалі Верацёны і добра даліся ім у знакі. Далей, яшчэ помніць і Несцер, памешчык Кіслячы памёр, лес яго застаўся ў спадчыну далёкім родзічам, якія хутка прыняліся яго распрадаваць. Надышоўшая вайна перашкодзіла ўканец спляжыць Кіслецкі лес, але нямецкая акупацыя, а потым польская — многа выцерабіла гэтага багацтва: і цяпер прадаўжалі работу палякаў зноў тыя ж сяляне ваколічных вёсак. Аднак, нягледзячы на ўсе гэтыя старанні, лесу яшчэ было досыць. Паабапал гасцінца, хоць і рэдка, але многа яшчэ паднімалася ўгору тоўстых, мнагавечных хвояў і елак. Між іх, па-сяброўску,

блізка і наводдаль стаялі тоўстыя развіслыя дубы, ясені, высокія, стройныя, белыя бярозы і шэрыя алешыны. Іх кароны, сплятаючыся ўверсе чуць не пад самым небам, рабілі густую сетку, хаваючы неба і сонца... Ніжэй, між рэдкіх устояў старога лесу, гушчэў маладняк. Падгалістыя, роўныя елкі, галіністыя дубцы арэшніку і альшанніку толькі і пачулі сабе разгарненне, калі людзі пастараліся над высечкаю старога лесу. Затое дасталося маладняку: падаючыя ж дрэвы няшчадна яго ламалі і ўсцілалі ім свае магілы; секлі яго таксама і сяляне — на калы, а то і так, каб пралажыць дарожкі.

Грэбені нейкі час моўчкі ішлі лесам, пазіраючы абапал дарогі. Урачыстая ціша, зрэдку зварушваная стукам дзятлаў у дуплістыя дубы і патрэскваннем ад марозу сучкоў і галінак, наводзіла іх на спакойны роздум і ўспаміны. Зрэдку ўставалі зусім чужыя перажыванаму пачуццю думкі і згладжвалі вострасць бягучага перажытку. Ішлося дарогаю міжвольна, бязмэтна...

Але гэткі настрой нядоўга ўладаў братамі. Выходзячы з лесу, яны ўбачылі поле і гал. Зусім ужо блізка ад іх заставаліся Верацёны. Мэта іх дарогі з рэзкай выяўнасцю адбілася ў думках, а далей захапіла сабою і пачуццё, расплыўшыся па ўсёй істоце. Нейкая дрыготка нецярплівасці падганяла Грэбеняў, каб яны паспяшней ішлі.

— Ну, як ты адчуваеш, Гарасім, добра будзе ці не? — першы зварушыў маўклівасць Несцер.

— Ведаеш, браце, я неяк супакоіўся: як будзе, так няхай будзе. Вось ідзі, і толькі,— адказаў Гарасім.

— А я страшэнна непакоюся.

— Дарэмна, Несцер. Калі што сталася — дык мне болей і дастанецца, бо ў мяне жонка і дзеці ў дадатак да бацькоў.

Несцер нічога не адпавёў.

Яны выйшлі з лесу. Ранішні туман намнога парадзеў. Сіняе, пацягнутае бялесым палотнішчам неба было заліта праменнем халоднага, нізка сядзячага сонца. Нібы ад таго, што яму было разгарненне асвятляць зямлю, Грэбені пачулі большую цеплату. Зменевае гэтым пачуццё яшчэ болей прымала новыя ўплывы, калі іх вачам ухмыльнулася белая цэркаўка, што стройна стаяла на ўзгорку, за якім ляжалі Верацёны. Грэбені

мімавольна ўскорылі хаду, не спускаючы вочы з царквы. Роўная лажбіна наабапал гасцінца, пачынаючы ад граніцы Кісляцкага лесу, пекная сваёю зелянiстаю коўдраю ўлетку, цяпер не цікавіла нічыйго вока. Укрытая снегам, запярэшчаная рэдкімі кусцікамі, яна засмучвала сваёю аднакасцю і мярцвечынай.

— А цэркаў, бачыш, Гарасім, стаіць, як вартаўнік нязменна, так, нібы яе ўчора паставілі,— сказаў Несцер.

— Калі ўсё ў такім становішчы, тады і добра,— адказаў Гарасім.

Але, падыходзячы к грудку, на якім стаяла царква, яны не маглі не прымеціць, як гэты грудок навокал быў акопаны ровам і агароджаны рэдкімі каламі, пераплеценымі калючым дротам. Загарадзь жа вакол царквы была зламана, і ў самай царкве кінуліся ім у вочы пабітыя і застаўленыя дошчачкамі вокны. На бярозках і лазінках вісеў дрот тэлефону, у некаторых месцах перарэзаны.

— Відаць, сляды завірухі,— сказаў Гарасім.

— І яшчэ якой! — падмацаваў Несцер.

Далей гутарыць яны не маглі. Выглянуўшыя Верацёны аднялі ў іх гэту мажлівасць. Ды і сапраўды, навошта ім было дагадвацца, перадсказваць і гэтым толькі раздражняць у сабе больш няпэўнасці, калі яшчэ хвіля, яшчэ момант, і яны ўсё пачуюць ад жывых сведак. Вось жа, як рукой падаць, і дом. Старыя, а дзе і новыя хаткі родных Верацён, закінутых у лагчыну вялікай Беларусі, па-старому стаялі на сваіх месцах. Летам яны абрасталі дзірваном, з кожным годам гусцеючы, і садамі ўнізе, а мохам на стрэхах, цяпер жа былі акрыты снежным прасцірадлам...

## IX

Яшчэ была раніца. Грэбені ўвабралі дваццаць вярстоў блізка што за тры гадзіны. Але Верацёны ўжо жылі поўным жыццём. З комінаў хат нёсся празрысты сівы дымок; у гумнах чуўся стукат цапоў, скрыпелі вочапы калодзезяў, рыпалі вароты ў дварах і дзверы ў хатах. Праўда, звычайнасць вобразу нарушылі пажарышчы з левага краю, акурат у тым месцы, дзе стаяла калісь і хата Грэбеняў. Кожнаму, хто падыходзіў к Верацёнам, выразна кідаліся ў вочы голыя печы з пахі-

ленымі комінамі, чорныя абсмаленыя шулы і раскіданыя па зямлі абгарэлыя галавешкі.

Гарасім і Несцер спыніліся сваімі поглядамі на пажарышчах, і відаць было па кожнаму з іх, што сэрцы іхнія балюча забіліся: ногі затрасліся і ўсцішылі хаду. Ніводзін з іх не мог выказаць і слова, ажно пакуль не ўвайшлі ў самую вёску.

Параўняўшыся з крайняю хатаю, іх стрэў сам дзядуля Сук, стоячы ў дварэ ля вешніц, нібы чакаючы іх.

— Го-о-о! Гарасімка, Несцерка! — завёў ён.— Адкуль жа вы, небажаткі, з'явіліся, ды ўдваіх разам?

Дзядуля падбег к Грэбеням і па чарзе пацалаваўся з імі. Сукі заўсёды жылі з Грэбенямі ў ласцы і памяркоўна. Лічачыся далёкімі сваякамі, яны даражылі гэтым сваяцтвам і ставілі яго ў прыклад другім. Вайна, немцы, а потым палякі, якія прынеслі столькі бяды краю і іх родным Верацёнам, шмат вастрэй датыркалі Сукоў яшчэ і таму, што забралі з дому Грэбеняў, ад старых бацькоў і дзяцей, двух мужчын. Доўгія гады няведання аб іх, і ў асобку аб Несцеру, трывожыла разам з старымі Грэбенямі і сям'ю Сукоў. Шчаслівыя тым, што іх сям'я блізка, што ўся складалася з дзяўчат і з гэтае прычыны незачэплена была вайною, Сукі вялікую ўвагу аддавалі Грэбеням. Часта хадзілі яны к старым, суцяшалі іх, памагалі, чым маглі. Вось не дзіва, што стары Сымон так радасна спаткаў Гарасіма і Несцера. Абрадаваліся гэтаму і абодва Грэбені. Спыніўшыся з дзядулем Сукам, яны на момант забылі пра сваіх, пачуўшы прывітальную гутарку і звязаныя з ёю роспыты аб тым і аб другім. А пакуль кончылася гэта цырымонія, да іх збеглася яшчэ колькі мужчын, жанок і дзяцей. Кожны прывітваў Грэбеняў, але ніхто не казаў ім аб іх дамашніх справах.

— Пойдзем у хату, дзеткі,— пазваў іх стары Сымон.

Гарасім і Несцер пайшлі за ім, а ўсе іншыя пачалі расходзіцца па хатах.

— Вось што, небажаткі,— сказаў Сымон, ідучы ў хату,— невясёлыя весткі вас стрэцілі дома.

— Што-о-о? — У адзін голас трывожна запыталі Несцер і Гарасім.

— Захадзеце ў хату, там скажу аба ўсім.

Грэбені раптам пасумнелі і прыгатаваліся к горшаму. Гарасім мала нерваваўся і выглядаў спакайней,

Несцер жа вельмі блізка прыняў вестку Сука да сэрца і ажно змяніўся ў твары.

Тым часам яны ўвайшлі ў хату.

Хата была прасторная, але траха не палавіна яе была застаўлена цэбрамі, бочкамі, карытамі і рознымі гаршкамі ды чыгунамі.

На стале ляжала некалькі баханоў хлеба.

Гарасім і Несцер прыселі на лаве і пачалі азіраць хату. Кінуўшы вачамі ў запек, яны адначасна ўгледзелі на палку ляжаўшую матку і раптам схамянуліся.

— М-м-а...— хацелі пазваць Грэбені, але Сымон іх перабіў:

— Яна вельмі нядужая. Няхай спіць. Вось сёння ранкам ёй стала лягчэй. Увесь час толькі і думала аб вас, толькі і марыла. І ноччу і ўдзень несціхана заве: Гарасімка, Несцерка...

Грэбені супакоіліся.

— Чаго ж яна ў вас? — запытаў Гарасім.

— А бацька дзе? — дадаў Несцер.

— Чакайце. Перш усяго раздзеньцеся. Хутка Паруля згатовіць абед...

Аднак Грэбені незварушна сядзелі.

— Будзьце рады, небажаты, што хоць маці можа вас угледзець. Куды там думаць аб большым?..

## X

У час размовы ўбеглі ў хату зараз трое дачок Сымона. За імі ўвайшла жонка, старая Юзя. Усе яны чынна падышлі перш к Гарасіму, потым к Несцеру, пацалаваліся, перакінуліся пытаннямі і адышлі к мыцельніку. Бабуля ж села на ўслоне і пачала пільна азіраць гасцей. Сымон падагнаў Парулю, каб яна хутчэй запаліла ў печы і гатавала абед.

— Дык слухайце, небажаты,— прадаўжаў Сымон, раз-поразу вымаючы з рота люльку і пазіраючы ў запечак,— такоўскія справы. Як бачыце, думаю, што вы прымецілі — хата ваша згарэла разам з другімі. Насілу выбавілі мацеру — усё знішчылася. Яшчэ толькі твае Васіль ды Саламея сумелі Матруны-пакойніцы куфэрак выцягнуць з агню.

— Мае? Васіль і Саламея? — здзіўлена запытаў Гарасім.

— Так, сынок, яны цяпер у школе ў Сцяпанічах,—

уставіла Юзя,— заўтра нядзелька, і яны прыбягуць дадому.

— Ну, а Матрунка дзе? — трывожна запытаўся Гарасім.

— Ох! — сашчапіла рукі Юзя,— няма чаго і казаць... Ведаеш, Гарасімка, замучылі паны. Так-такі і замучылі: жыўцом загналі ў магілу. Наказалі, вядома, ім вашы прыяцелі, і ноччу за месяц да адходу іх увалілася ў хату дзесяцёра легіянераў. Глуміліся, здзекаваліся з Матруны, ажно і выказаць нельга... Напаўжывую зрабілі. Пасля гэтага яна ледзьве пражыла тыдзень. У муках цяжкіх умерла, небарака...

— А дзе пахавалі? — з каменным спакоем запытаўся Гарасім.

— У Сцяпанічах. Прасіла гэтага,— адказала Юзя.

— Ну што ж зрабіць, вечны пакой ёй,— поўны адчаю, праказаў Гарасім.

Сымон яго пераняў:

— Так, толькі так, небажаты. Не думайце, што з вамі аднымі гэткае няшчасце... Не. Гэткая доля сустрэла шмат каго. У кожным сяле, ва ўсёй губерні, у цэлым краі... Польская навала ішла з агнём і мячом, грабавала, паліла, забівала, руйнавала... Знарок было пастаўлена панамі — знішчыць дашчэнту край, зруйнаваць яго ўканец... Але, вы думаеце, паны гэтым многа выйгралі? Нізвання, ні беднага. Увесь народ страшэнна на іх абураны. Нядарам многа хто кідалі дом, сям'ю, бралі зброю, якая пападалася, і ішлі на фронт. Старыя, малыя, сталыя, здаровыя і хворыя...

Сымон крыху спыніўся.

— Пайшоў і ваш бацька,— іншым голасам праказаў ён.— «Сыны, кажа, па некалькі гадоў змагаюцца за свабоду, можа, ужо іх абодвух і ў жывых няма. А чым я горшы ад іх? Ці ж менш іх пацярпеў на сваім вяку здзеку і прыгнёту? Ці мала перанёс усякае крыўды за сваё мужыцтва, за паднявольнасць чорных працоўных людзей? Ці мала выбалеў няволі?» — разважаў ён; паблагаславіў вашу матку, унучкаў, папрасіў у выпадку вашага прыходу — перадаць вам ад яго благаславенне і... пайшоў...

— Няўжо? — ні то ўзрадаваўся, ні то спалохаўся Несцер.

— Так... маці ўпрашвала астацца, я не раіў пакідаць яе адну, а ён як намогся — ні рады. «Больш не

магу чакаць. Можа, кажа, затым і дастаецца краю і яго людзям, што яны вельмі падатлівы, пакорлівы і маўчалівы. Можа, кажа, затым і бяды столькі на яго валіцца, што няма ў нас ахвоты і храбрасці яго абараняць». Узяў і пайшоў з атрадам чырвонаармейцаў... Вось ужо больш двух месяцаў... Расказвалі надоечы, што хтосьці яго бачыў пад Калыгамі: біўся побач з чырвонаармейцамі. Адважны, кажа, усіх заахвочвае, і толькі. Няведама цяпер, жыве ён ці не...

— Бачыш ты! — ні то зрадавана, ні то здзіўлена праказаў Гарасім Несцеру.

— А што вы думаеце? Чым гэтак жыць, дык лепей слаўна ўмерці,— сказаў Сымон.— Нам, старым, дзела такоўскае, а вам тое і рабіць, што шукаць лепшага і шчаслівейшага жыцця. На вашым месцы не сядзеў бы я спакойна... Хто ж за вас пастараецца? Шукайце, дабівайцеся самі...

У запечку пачуліся крэкт і стогны хворай.

Гарасім і Несцер аднача́сова падняліся з месца і падышлі к мацеры. Юзя разгарнілася і заплакала.

— Го-о-спад мой! Сы-ын-кі-ы вы-і мае-э-э! — пачуўся яе голас.

— Дзе ты, Янка, чаму не бачыш у гэты момант сваіх сыноў? Плакаў колькі па іх — вось яны...— ціхім стогнам выказала хворая, раздымаючы схудзелыя рукі.

— Нічога, яны знойдуць і бацьку,— з пэўнасцю праказаў Сымон, гледзячы, як матка цалуецца па чарзе з Несцерам і Гарасімам.— Яны знойдуць бацьку, знойдуць і лепшае жыццё...

— Дарагі-ыя мае дзеткі, як я шчаслівa... Як рада, што хоць перад... смерцю ўгледзела вас... Несцерка мой, Гарасімка...— з перапынкамі, ахопленая глыбокім уміленнем, казала хворая Тэкля.

Празрыстае сонца ўлівалася сваімі праменнямі ва ўсе чатыры акны хаты, змываючы са шкла шыбаў прыгожыя ўзоры марозу.

1923

# ТРЭСКІ НА ХВАЛЯХ

## I

У канцылярыі Вікурскага іспалкома, падзеленай на дзве палавінкі, таўклося процьма людзей. Адны забеглі выясніць справу з падаткам, другія зайшлі папрасіць у прадсядацеля дроў, трэція наведваліся за дапамогаю, а некаторыя так, проста сабе, зайшлі. Гамонка дзелавітая, просьбы са слязамі на вачах, спрэчкі, выкрыкі ўмольныя, ласкавыя словы знарочыста «прыніжаных» напаўнялі дзве невялікія каморкі, брудныя, з разбітымі вокнамі, неапаленыя, з пашарпанымі, замурзанымі абоямі. Некаторыя з прыйшоўшых выказвалі сябе смелымі і вялі гутаркі са служачымі іспалкома развязна, запанібрата, другія ж, па старому звычаю, чулі сябе ў іспалкоме, як бы ў якой канцылярыі царскае воласці або станавога, і падыходзілі да сталоў дзелавода ці загадчыка аддзела з нейкай палахліваю асцярогаю, з аглядкамі навокал і назад, з падазронасцю.

У дзвюх каморках, якія складалі канцылярыю іспалкома і разам чуць не ўсе аддзелы, за вылучэннем «кабінета» прадсядацеля і «кабінета» ваенкома, стаяла па кутках каля шасці сталоў. На кожным стале ляжала па некалькі «спраў» у сініх і жоўтых вокладках, вылупленых у памёршых канцылярыях старога ладу. У суседстве са справамі стаялі разнаколерныя чарніліцы з невялічкім запасам вадзяністага чарніла. Добрая колькасць гэтага чарніла апынулася на паверсе сталоў, размаляваўшы іх большымі і меншымі плямкамі. Але і таго запасу, які меўся ў бутэльках, для дзелавода і для загадчыкаў аддзеламі было даволі. Яны спакойна раз-поразу мачалі асадкамі ў пляшачкі, прыгінаючы іх на бок, каб больш насыціць пёрка, і з перабоямі між гаворкаю выводзілі нямудрыя запісы на кавалачках рознага сорту і гатунку паперы. Часта, абмачыўшы пёрка, яны не дакраналіся да паперы, а, гаворачы з просьбітамі, хвілінамі трымалі асадкі напагатове да пісання, а потым мачалі іх зноў у чарнілы.

Ды сапраўды, куды там было да спакойлівае пісаніны, калі нельга было вольна ўздыхнуць ад людзей, якія ўсё прасілі і пыталі. Здавалася, з нецярплівасцю можна было многіх вылаяць за назойлівасць і ачамер-

нае прыставанне, можна было са многімі пасварыцца. Але гэта не было навіною для іспалкомаўцаў. Штодня праз паўтара года ад часу палякаў у іспалкоме панаваў настаяшчы кірмаш. На ўсю воласць трэ было раздаваць прыказы, кіраваць зямельнаю, лясною, працоўнаю справамі, судзіць, радзіць, памагаць, уладаваць, наводзіць парадак і ўмацоўваць Савецкую ўладу, і з усіх канцоў воласці, з яе мядзведжых куткоў накіроўвалі за раз'ясненнем кожнага пытання ў іспалком.

Як толькі пачыналася раніца, ужо не зачыняліся дзверы; мэрам на станцыі — яны хадуном хадзілі ўзад і наперад, з прычыны чаго бясконца стаяў стук і бразганіна. У іспалком ехалі ахвотна і смела, а таму кожная маленькая, зусім нязначная справа адводзілася ў яго на абгавор. Чаго ж! Свае людзі, без крыку, па-суседску могуць усё абсудзіць і вырашыць. Ды не толькі заязджалі з простымі пытаннямі, а нават так, без дай рацыі, заходзіла ў іспалком штодня шмат людзей, найбольш мяшчан-вікураўцаў, якія любілі парадзіцца аб розных пытаннях свайго куту і аб навінах у свеце. Іспалкомцы хоць і камуністы ў большасці, але свае людзі, выгадаваныя на вачах,— чаго ж іх саромецца ці баяцца? Не выжануць. І кожнага дня паміж дзелавымі заезджымі было шмат проста зайшоўшых. Іх ужо можна было адмеціць па нядбайнаму, спакойліваму выгляду твару, па шырока выказанай суседскасці. Многа з гэткіх праз частае наведванне пазналіся з унутранымі распарадкамі іспалкома і часта падавалі тую ці іншую раду не знаёмым з нічым, рэдка ці ўпершыню прыязджаўшым.

Сідор Браварка, адчыніўшы дзверы, зразу трапіў на аднаго з гэткіх дарадчыкаў і запытаў:

— Скажыце, дзе тут займаецца Андрэй Камель?

— А? Гэта загадчык асветы? Вунь у тым куце. Прайдзіце. Каля яго, здаецца, менш усяго людзей, ён вас выслухае.

Сідор Браварка павёў носам у дымным згушчаным і злёгку смуродным паветры, кіўнуў нездаволена галавою і павярнуў к паказанаму кутку. Гурток сялян, што перагароджваў дарогу, расступіўся, і ён вольна падышоў да стала, за якім сядзеў загадчык асветы Андрэй Камель.

— Здароў, калега! — прывітаў Сідор Браварка зняnaцку.

Андрэй Камель хутка адняў вочы ад папераў, здзіўлена паглядзеў у твар Браваркі і адказаў:

— Якім гэта чынам? Вось дык не чакаў, брат! Калі прыехаў? Як надоўга? Што ў цябе новага чуваць? Як здароў? — засыпаў Камель прыяцеля шэрагам запытанняў. І, не чакаючы, пакуль той пачне адказваць, абгледзеў навакол стала, мэрам бы чаго шукаючы. Пасля, спыніўшыся вачмі на паламаным зэдліку, праказаў да Сідора:

— Сядай і расказвай.

— Што, брат, расказваць! Ці варта, наогул, гаварыць?

— Чаму?

— Ды таму! Аб чым цяпер будзеш гаварыць? Ласне можна найсці што-кольвечы цікавае...— Сідор матнуў недаверна рукою і яхідным позіркам абвёў канцылярыю іспалкома.— Вось так, як гэта,— усюды. Што ты будзеш казаць... Гніль, смурод, чад... Эх, не тое, брат, аб чым мы калісьці марылі! Помніце, калега?

Сідор дастаў з кішэні сярэбраны партабак, спрытным замахам пальцаў адчыніў яго і працягнуў да Андрэя. Гэты міжвольна падаўся да партабака ўсім целам і нясмела двума пальцамі выняў пахучую надушаную папяросу.

— Бач, яшчэ маеш... Не тое, як мы тут... Самасейку глумім.

— Да гэтага пакуль яшчэ не дайшло. І думаю, не дойдзе. Трэба меркаваць, дарагі, каб не апынуцца пад абцасам гэтага тыпу... Вось трымаюся сяк-так. І не скажу, каб давялося цярпець, як другім...

— А цікава, бок, ты дзе цяперака ўстрэмлен? — пацікавіўся Андрэй.

— У прадкоме ў Проўску.

— Даўно ўжо?

— Ды вось амаль не паўтара года... Ці ж ты не атрымаў майго ліста? Я ж паведамляў цябе аб гэтым... Як выйшаў з асветы, дык зразу і паступіў у прадком... І, знаеш, павязло: устроіўся добра. Ну, а ты тут?

— Як бачыш, усё тут. Важдаюся, брат, са шкрабамі ды з мяшчанамі. Па вушы працы. І, прызнацца, цікавай працы.

— Ай, кінь ужо ты з яе цікавасцю: я ведаю яе! Перанёс на сабе і трудавыя школы, і двухступянёўку, і... беларусізацыю... Пачуў увесь смак...

— Таварыш Камель,— перабіў Браварку якісь мешчанін, не падыходзячы блізка да стала.

— А што, дзядзька?

— Вы там, таварыш, наказвалі, каб я зайшоў да вас наконт майго хлопца. Вось я і прыйшоў. Вы, калі ласка, дазвольце вам усё раз'ясніць...

— Нічога, дзядзька... Я ўжо ўсё ўладзіў: я зазываў да сябе настаўніка і наказаў яму, каб другі раз ён без саюзу так не рабіў. Нічога, будзьце супакойны — справа залатвена.

— Дзякую, таварыш. Вельмі дзякую, а то мне столькі клопату паддаў ён, што...

Андрэй матнуў рукою, і селянін замоўк, схінуўся перад ім і завярнуўся ад стала.

— Вось гэта табе цікава? — пасмяяўся Сідор.— Не ведаю, хіба ты змяніўся, а як судзіць па-ранейшаму — то наўрад ці могуць цябе зацікавіць гэткія справы... Трэба, наогул, напалову адрачыся ад самога, каб з цікавасцю аддацца гэткім справам... Я не ведаю, як ты, ну, а я ўсё яшчэ не магу згадзіцца з усім гэтым.

— Што ты, Сідор, узапраўды? Здаецца ж, ты не горай мяне жывеш, а...— вымавіў Андрэй і супыніўся, угледзеўшы, што ў канцылярыю ўвайшлі настаўнік і настаўніца вікурскае школы.

— Я табе скажу: гэта не тое, каб даводзілася дрэнна з матэрыяльнага боку. Не! Галоўнае...

Настаўнік з настаўніцаю, пасмейваючыся над чымсьці, падышлі да стала і запанібрацкі павіталіся з Андрэем. Настаўнік абгледзеў навокал стала, каб найсці на чым-колечы прысесці, і, не ўгледзеўшы нічога, пасмяяўся:

— Хоць на падлозе... Па-турэцкаму...

Сідор пахіліўся да настаўніка і, пазнаўшы ў ім знаёмага — нават калісьці таварыша, уставіў ад сябе:

— Цяпер не навіна: альбо пад сталом, або на стале.

Настаўнік, пакуль не зважаўшы Сідора, цяпер глянуў яму ў твар і весела-здзіўлена завёў:

— Га-а! А вы ж, Сідор Гарасімыч, якім чынам да нас? — і працягнуў яму руку.

Сідор патрымаў працягнутую яму руку і адказаў:

— А вось у госці заехаў. Няма бацькоў — пачастуюся ў сястры. Захацелася наведаць родны кут.

— Пазнайцеся: Марыля Слой, настаўніца вікураўскага вучылішча,— паказваючы рукою на настаўніцу, запрапанаваў Сідору настаўнік.

Сідор далікатна прыўстаў з зэдля, схінуўся крыху і пацінуў ужо працягнутую яму руку настаўніцы.

— Паўлюк, а ці ж Марылі таварыш Сідор не ведае, што ты іх знаёміш? — здзіўлена запытаў Андрэй, паглядаючы пазменна на кожнага з іх.

— Штосьці я не помню,— адказаў Сідор.

Настаўніца не то ганорна, не то сарамяжна прапусціла тварам лёгкую ўхмылку.

— Дзе там іх прыпомніш! — уставіў Паўлюк.— Іх тут за час адсутнасці Сідора Гарасімыча з Вікур нарасло як грыбоў. Дзявочае семя ўрадлівае.

— Ах, каб цябе, каб цябе...— Настаўніца замахнулася на настаўніка рукою, але той спрытна ўхіліўся і ўголас зарагатаў.

Яго рогат звярнуў на сябе ўвагу многіх прысутных у іспалкоме, якія павярнулі галовы ў іх бок. Андрэй з прычыны гэтага нездаволена кіўнуў галавою і хутка азірнуўся ў бок «кабінета» прадсядацеля. Сідор падмеціў асцярожлівасць таварыша і прамовіў:

— Чаго азіраешся?

— Нічога... Так сабе...— уверыў Андрэй і тут жа пачаў збіраць свае паперы.— Трэба збірацца дахаты. Заўтра будзе дзень. Усё роўна сёння ўжо не будзе работы.

— А начальства не баішся? — пажартаваў Паўлюк.

— Трэба на гэты раз адважыцца.

— На гэты раз можа ўважыць. Не так многа часу засталося да канца,— дадала Марыля.

— Ах, менш бы яго яшчэ засталося,— яхідна праказаў Сідор і паглядзеў на загарак.

— Ну пойдзем, калегі,— пазваў Андрэй.

— А куды? — запытаў Паўлюк.

— Падумаем...

Яны выйшлі з іспалкома на двор і пайшлі праз пляц напрамкам да вуліцы.

— Што ж, Андрэй, трэба будзе адмеціць прыезд Сідора Гарасімыча,— запрапанаваў Паўлюк.

— Так, добра б было... Але дзе і як?

— Калі ласка, да нас заходзьце,— пазвала настаўніца.

— Вось добра,— сказаў Паўлюк,— згодны, Сідор Гарасімыч? У Марылі Палікараўны зацішна і добра. Мы там заўсёды збіраемся. Можна і пагаварыць аб усім...

— Давайце, мне цікава разведаць, як у вас тут жывецца, што чутно, які ваш настрой,— адказаў Сідор.

Як толькі яны выйшлі на вуліцу, іх нагнаў настаўнік Плаха.

— А-а! Я дык ледзьве вас знайшоў,— выгукнуў ён, забягаючы ўсім наперад і па чарзе вітаючыся.— Мне цікава пабачыць Сідора... Здароў, брат! Як і што ў цябе? Ці надоўга да нас?

— А вось пагляджу, як спадабаецца... Спадабаецца больш — прабуду даўжэй, а не спадабаецца — хутка ўцяку,— адказаў Сідор.

— Гэ-э! У нас не горай, як усюды,— падаў Плаха.

— Да горай ужо нідзе не бывае. Усюды роўна — усюды горай. Адны парадкі — адны законы... Чаго тут лепшага шукаць.

— Пэўна! Праўду кажаш, браток,— згадзіўся Плаха, не думаючы, да чаго кажа.

У гутарцы прыняла ўдзел уся кампанія. Але меней усіх выказваўся Андрэй. Таксама рэдка закідала словы і Марыля, якая больш слухала Сідора. Апошні, скора яна яго ўгледзела, паказаўся ёй дужа прыемным і прыгожым, і яго словы здаваліся ёй ад пачатку да канца праўдзівымі. Калючкі і ўпінкі ў Сідоравай гутарцы, накіраваныя на савецкі лад і яго парадкі, падабаліся Марылі яшчэ і таму, што яна таксама не спагадала бальшавікам... На кожны выказ Сідора Марыля адказвала ўхмылкаю і ліслівым зазіраннем яму ў твар. Гэта, з свайго боку, заахвочвала Сідора на большую адкрытасць у сваёй гутарцы.

Гэтак гутарачы, яны прайшлі ў канец усю вуліцу і павярнулі назад.

— Ну, хіба цяпер разыдземся, а пасля сыдземся зноў... калі не прагоняць, то ў Марылі Палікараўны,— парадзіў Сідор.

— Што вы, аброць вам на язык,— перапыніла Марыля.

— Добра, добра,— згадзіўся Паўлюк.

Параўняўшыся з перавулкам, яны разышліся хто куды.

## II

Сідор Браварка прыйшоў да сястры на кватэру і, не застаўшы нікога ў хаце, прысеў каля стала і пачаў выяўляць і пераверваць сам-насам першыя свае ўражанні. Выгляд мястэчка, іспалком, яго таўкатня, спатканне з таварышамі, іх настрой сціслым шэрагам панесліся перад яго ваччу адно за другім. Пранесліся перш несустрымна, хутка, а пасля, мэрам бы зрабілі паўкруг ублізку ад яго, павярнулі назад і зноў кранулі яго думкі. Затым раптам зніклі, даўшы месца мінулым адчуваннем. Перад Сідорам усталі вобразы яго студэнцкага жыцця, гульні з паповымі і станавога дочкамі, пачосткі, балы, вечарыны. Прамігнулі палкія летуценні, жаданні і мары, якія выглядалі перад ім якімсьці раем. Тады, прыпомніў Сідор, многае што абгаварвалі яны з Андрэем і Плахаю, будавалі шмат смелых планаў. Вікуры не мелі месца ў іх жыцці. Пецярбург — вось дзе лунаді іх думкі... Яны лічылі сябе вялікімі людзьмі, перад якімі ўсіх бы вікурцаў спадалі шапкі. «Колькі часу таму? Многа, многа! Здаецца, цэлыя вякі! Ды страшнага якога часу, каторы пераламаў усе мае планы, усе задумы перастроіў. Якія змены зрабіліся! Цяжка ваабразіць! На ўсім і на ўсіх, як ні паглядзі»,— прашаптаў Сідор сам пра сябе.

Сідор прыўстаў з месца, паглядзеў у акно, ці не ідзе хто, каб не памяшаў салодкасці і заўзятасці яго думак, і зноў адвярнуўся ад акна, але ўжо не прысеў, а пачаў тупаць па хаце.

«Перамена на ўсім, адно толькі я астаюся тым самым, якім і быў. Я адзін краплюся і стаю на сваім. І выстаю... Ды мала таго, што выстаю, а мушу і другіх прытрымаць на тым жа месцы. Бо што з таго, калі мне аднаму давядзецца займаць сваю пазіцыю? У гэтым мала радасці і мала карысці... Важная карысць — другіх утрымаць... Так, важная, але ці ж хопіць сілы?.. Штосьці задалёка ўсё адышло... Дзіўлюся. Ці то мне здаецца, ці сапраўды яно так: мэрам бы і Андрэй зусім другім стаў. Відаць па ўсяму: патайны стаў, малагаваркі, падазроны... Няўжо і яго пераламала ўжо? За гэтыя два з лішнім гады ці ж мог ён адцурацца сваіх поглядаў — гэткіх цвёрдых, здавалася, і пераконаных?.. Цікава!.. Што ён выкажа далей? Трэба пацяг-

нуць яго на адкрытую... Бо штосьці не верыцца, каб ён са шчырасці казаў, што «работа цікавая»... Забачым... А шкода будзе, калі Андрэй паламаў погляды, шкода... А гэта можа стацца, бо жыццё ломіць... Ломіць упарта і крэпка. Паглядзець — падзівіцца! Узяць бы і ў мяне на службе... Ліха іх ведае: кожны стаў нейкім асобным і незразумелым. І чым далей, тым кожная душа становіцца невыразнейшай... Але там — горад. Горад — то іншае: шум, рух, кіпатня... Дзіўней тое, што вось і ў гэткія куткі, як гэтыя Вікуры, так шырока ўсё пралазіць. Чаго б, здаецца, тут уважваць бальшавіцтва, а потым паглядзець — прывыкаюць. Повен іспалком мужыкоў; згодна ды спакойліва гутараць... як дома, як у суседа... А Андрэй кажа, што «работа цікавая».

Сідор не зварачаў увагі на тое, што ў хаце было цёмна; ён размеранымі крокамі, пакіўваючы галавою, тупаў па хаце, малюючы розныя выкрутасы: то крыжы, то петлі, то ўкосныя фігуры. З акон супрацьлежнага дома выпадалі пукі праменняў і прабіваліся ў хату, кладучы адбітак акон на печы. Вуліцаю праходзілі людзі, скрыпучы па снягу нагамі. Сідор, калі хто праходзіў, на хвілю прыпыняўся і міжвольна прыслухоўваўся, пакуль прахожы не мінаў хаты. Пасля зноў пачынаў хадзіць.

Гэтак ён пратупаў каля гадзіны. Нарэшце спыніўся, падышоў да стала і намерыўся прысесці, але ў гэты момант пачуў стук дзвярэй.

Праз хвілін пяць у хату ўвайшла гаспадыня, яго сястра Юста.

— Ці ёсць хто ў хаце? — запытала яна ўпацёмку.

— Я, Юста, я ў хаце! — адказаў Сідор.

— Чаму ж ты ўпацёмку сядзіш? Ласне не ведаеш, дзе запалкі?

— А хто іх ведае... я ж яшчэ не агледзеўся...

Юста запаліла газніцу.

— Ну, а дзе ты хаця сёння быў,— пацікавілася Юста.

— Дзе... Вось у іспалком схадзіў да Андрэя, пасядзеў там трохі, пасля прыйшлі настаўнікі, і мы прайшліся крыху па вуліцы. Так дзень і мінуў.

— А мой Юрка часамі не прыходзіў?

— Як я ў хаце — то не.

— Ах на яго ліха, бадзяецца цалюткі дзень. Няўжо ён яшчэ справункаў сваіх не скончыў? І ведае, што госць дома, а сам, як цюцька, лётае дзесь... пэўна, таксама забраўся дзе ў іспалком і сядзіць,— не здаволілася Юста.

— А ён у цябе наведвае іспалком? — здзіўлена запытаў Сідор.

— Так! Кожны дзень сядзіць там. Назбіраецца іх мо з дваццаць чалавек, набяруць паўнюткія капшукі тытуню і дурацца да поўначы. Ушалопаў, ведаеш, і не адвучыць...

— Няўжо яму так падабаецца іспалком?

— Ліха яго ведае! Бачыш, што так.

— І бальшавікоў ён любіць? — пацікавіўся Сідор.

— Не кажа выразна, але, гутарачы, заўсёды іх хваліць,— адкрылася Юста.— Я ўжо яму кажу: «Што ты людскае ў іх бачыш — пакінуў бы іх хваліць», а ён мне: «Як-ніяк, а нам пры бальшавіках лепей. Усё можна смела сказаць, можна зямлі браць дарам, лесу дастаць можна... З усімі проста — запанібрата».

Сідор яхідна засмяяўся і сказаў да сястры:

— Бач, зусім нечакана і ты для сябе бальшавіка знайшла.

— То-та ж, але! Ліха яго ведае! Некалі як быццам бы і не любіў іх, а цяпер вось перамяніўся. Ды не толькі ён адзін... Амаль не палова нашай вуліцы так... З другіх вуліц — дык ёсць колькі чалавек, што і слухаць не хочуць аб Саветах, а гэта за бальшавікоў...

— Гм! — выказаў сабе пад нос Сідор і прайшоў раз па хаце.— Мяняецца час, і мяняюцца людзі... Што ж, бязвольныя, слабыя...— невыразна выказаўся ён.

Юста нічога не адказала, думаючы, што брат будзе гаварыць далей. Але, пачакаўшы хвілін колькі, яна загаварыла а другім:

— Мо ты есці хочаш, Сідор? Мо збіраешся пайсці куды, дык кажы. Павячэраем удваіх. Юркі чакаць не будзем, горліца яго бяры...

— Так, я ўмовіўся быць у Марылі Слоевай... Там у яе зборня, ці што!

— Так, гэта ж там збіраюцца ўсе вікураўскія інтэлігенты, як на іх кажуць,— паясніла Юста і тут жа дабавіла: — Ну, дык я табе выму вячэраць, ды ідзі.

— Не варта, не клапаціся,— паспрабаваў адгава-

рыцца Сідор, але Юста не далася далей спрачацца, а паспешна прыгатавала вячэру і ўбрала стол.

— Садзіся! Навошта тыя цырымоніі!

Сідор усеўся за стол і прыняўся вячэраць.

## III

Павячэраўшы, Сідор зразу адзеўся і сабраўся ісці.

— Ты ўжо, Юста, не засоўвай дзвярэй, хоць я спазнюся,— папрасіў ён сястры, выходзячы з хаты.

— Не бойся, не астанешся начаваць на дварэ,— пажартавала Юста.— Вось калі і засунуты будуць дзверы, дык ты працягні ў аконца руку, абмацай вяроўку і адчыніш.

— Добра... Адно была б вяроўка.

Юста правяла брата ў двор і паказала яму ўсю смікалку з засоўкаю дзвярэй.

— Ідзі гуляй з богам,— пажычыла яна Сідору.

Адказаўшы «дзякуй», Сідор пайшоў з двара. Да Слояў дарогу ён ведаў добра, як наогул добра ведаў амаль не кожную мясціну Вікураў. Але, пусціўшыся ісці, ён спярша не выясніў перад сабою яскравага жадання няйначай рабіць гэта. Штосьці — ён пакуль не цяміў — трохі астудзіла яго тыя спадзевы, з якімі ён уязджаў у роднае мястэчка. Чакалася ў ім знайсці часовы адпачынак пасля скрутнага, вакол варожага яму жыцця; чакалася адкапаць памятныя старыя моманты і супакоіцца на аднаўленні іх з сваімі, як ён чакаў, незачэпленымі бегамі часу, таварышамі. А тут вось! Толькі сустрэўся з лепшымі з іх, як адразу ўбачыў, што Андрэй — не той. Не той Андрэй, і не той Плаха. І чаго крыўдней — гэта тое, што і ў хаце сястры, як выявілася, таксама няжданае. Жарты, Юрка таксама абальшавічыўся!..

Пайсці да Марылі Слоевай мела б рацыю для Сідора тады, каб яму сустрэць там блізкую і мілую кампанію. Але ці ўдасца гэта — брала Сідора вялікае сумненне. Гэтае ж сумненне і сцішала яго хаду, застаўляючы праз кожныя пяць крокаў прыпыняцца і азірацца назад.

Ужо прайшоўшы ў канец усю вуліцу, Сідор пры пávароце ў завулак супыніўся на месцы і пачаў канчаткова вырашаць сам сабе — ісці ці не? У яго нутры

вынікла раўнавага доказаў за патрэбу пайсці і супроціў гэтага, і ён ажно злаваўся на сябе, неспакоячыся.

Нарэшце штосьці яго падтаўхнула на тое, каб ісці, і Сідор маладзецка, ганорна замахаў уперад левую нагу, пачуўшы, мэрам бы з плеч спала колькі пудоў. «Пайду і паспрабую, у выпадку чаго, пазмагацца»,— парашыў ён і прыняўшы, ідучы, паспешна абдумваць, як і што яму трымацца. Але не паспеў ён якраз абдумаць і адзін манеўр, як ззаду пачуў вогук:

— Сідор Гарасімыч?

— Я самы! — здзіўлена адгукнуўся Сідор і прыпыніўся.

— А я ўжо бегаў па вас да вашае сястры,— падыходзячы да Сідора, паясніў Плаха (то быў ён).

— Ласне так? Ці ж ужо позна?

— А ўжо дзесятая гадзіна. Я думаў, што вы не трапіце да Слояў.

— Нічога, не заблуджу.

Далей яны дайшлі да Слояў моўчкі.

— Вось куды мы вас завабілі,— пажартаваў Плаха, заварочваючы ў двор.

— Праўда, што завабілі!

Яны прайшлі ў хату.

Звычайная мяшчанская хата Слояў выглядала чыста і акуратна прыбранай. На покуце вісела бліщчастая ікона, убраная белымі фіранкамі, а перад ёю лампадка. На дваровай сцяне вісела вялікая люстра, а на вулічнай — гадзіннік.

У мыцельніку на лаўцы, склаўшы на прыпол рукі, сядзела Слоіха Агнэса, маці Марылі, і ўмільна пазірала на покуць, дзе наўкол стала сядзелі Андрэй, Паўлюк, Мірон — быўшы валасны пісар, а цяпер дзелавод у лясніцтве, і Габрусь — каапературар, а перад люстрай вярцелася Марыля з таварышкаю, таксама настаўніцаю, Варвараю Касач.

Сідор, пераступіўшы парог, павітаўся перш нізкім уклонам з Агнэсаю, пасля весела пацікнуўся рукамі з Паўлюком і Андрэем.

— А вось і мая таварышка Варвара Касач і таварышы — Мірон Бізун і Габрусь Пуга,— паказала Марыля на Варвару, Мірона і Габруся.

Варвара першая з прыскокам працягнула Сідору руку, сарамяжна ўхіліла галаў і расплылася ў адкры-

тую ўсмешку... Далей Сідор пазнаўся з Міронам і Габрусём.

— Тут у вас цэлая зборня. Больш нічога і не трэба,— падаў Сідор кампліment.

— А такі і гэтак,— пасляшыла згадзіцца Варвара.

— Сядайце вось, Сідор Гарасімыч,— папрасіла Марыля. Сідор прысеў пры ражку стала, выняў партабак і закурыў цыгару.

— А ўсё ж, скажу вам,— пускаючы рызыкоўна дым у бок ад стала, пачаў казаць Сідор,— мне падабаецца вось гэткая кампанія. Сабе збярэшся сваёю хэўраю, шчыра пагутарыш пра што захочаш, павесялішся ўспамінамі — і часу шмат адшвырнуў. Усё менш жыць у гэтым пекле, якім цяпер стала наша жыццё... Ці ж не праўду кажу?

— Вось чыстая праўда, Сідор Гарасімыч,— падмацавала з мыцельніка Агнэса,— шчыра праўда, сынок. Я таксама часта спрачаюся і з Андрэем і з Макарам Плахаю, што цяпер куды горай ранейшага. А яны — гаварыцца не даюць.

Сідор пры апошніх словах зірнуў у бок Андрэя, і яму стала ніякавата, калі яны стрэліся сухімі сур'ёзнымі поглядамі.

— Я не ведаю, як хто, а мне дык нудна цяпер стала жыць... І ўстроен я на добрай службе, не цярплю холаду ні голаду, маю мажлівасць адзецца — а вось чагось не хапае. Як прыпомню старыя думкі, планы ды жаданні, дык сэрца дратуецца... А там, у нашым горадзе, скрозь чужыя людзі, якія з усім згадзіліся і, церпячы недастачы, у запой абараняюць сучаснае становішча. Слова аб іншым сказаць нельга. І я адным-адзін, як струк, увесь астатні час прабадзяўся. Чуць нуда не зарэзала... Страшэнна пацягнула сюды, у Вікуры, да старых таварышаў, далёка ад надаедлых мне сходаў і дэманстрацый... Мне думалася, што тут, у вашым кутку, жыццё не пачэпана так, як у горадзе.

Сідор сказаў гэта з нейкім запоем, горда і ўважліва гледзячы толькі на Агнэсу. Тая ж з цікавасцю незмігутна выслухала яго і мэрам бы зачаравалася яго словамі, бо, калі ён кончыў, яна засталася сядзець моўчкі і нерухома.

Марыля з таварышкаю таксама ўважліва выслухалі Сідора. Спакойна выслухалі яго і Паўлюк з Міронам.

Зусім іначай паглядзелі на яго словы Андрэй, Плаха і Габрусь. У асобку Андрэй, які не мог сутрымацца ад смеху, і толькі Сідор скончыў, як ён падняўся з месца і сказаў:

— Дарэмна ты, Сідор, наракаеш на сучасны лад, зусім дарэмна. Мяне і дзівіць, чаму ты так кажаш? Паглядзець на цябе,— нельга падумаць, што ты пакрыўджаны. Сам нават сазнаешся. У чым жа рэч? Не выйшла так, як калісь мы разлічвалі? Не ходзім мы панамі, а перад намі шапак не скідаюць? Не блішчаць у нас на грудзях масянджовыя гузікі? Гэта — праўда. Але падумай сам, ці ж у гэтым сэнс жыцця? Ці гэта — устоі для яго? Мне думаецца, Сідор, што мы ашукваем сябе, калі марым аб нашых былых планах і намерах. Сапраўды — то былі толькі пустыя мары! І той, хто грунтуецца на іх, грунтуецца на пяску, на саломінцы... Па-мойму, пакуль вецер не выдзьмуў канчаткова з-пад ног гэтага пяску — трэба сысці з яго, каб не праваліцца ў бяздонне...

— Паглядзі, паглядзі, Сідорка,— перабіла з нецярплівасцю Агнэса,— паглядзі, што пяе Андрэй! Ці ж можна было падумаць на тое?

Сідор прынагнуў галаў, штосьці напісаў пальцамі па стале, пасля сказаў:

— Што ж, усякае бывае. Ёсць людзі з рознаю воляю... Па-мойму, зусім іначай малююцца здарэнні бягучага жыцця, і я,— ён падняў галаў,— у толк сабе не вазьму, чаму людзі таго не бачаць! Чаму яно іх асляпляе... Проста — губляюся разумець... Не магу згадзіцца ні за што — штосьці не дапускае мяне.

— А я скажу вам, Сідор Гарасімыч,— уставіў Плаха,— і вы згодзіцеся. Нельга не згадзіцца. Толькі падумаць трэ, разабрацца дасканала ўва ўсім — і тады згодзіцеся... Нас выхоўвалі на буржуазнай маралі — таму і атруцілі нам ясны сэнс жыцця... Сапраўды — ці ж мы не з таго дрэва, якое цяпер разраслося і пакрыла ўвесь край? Кроў у нас — кроў былых рабоў, але атручаная зменаю да іх... Ведаеце, Сідор Гарасімыч, я нядаўна сам трымаўся вашых поглядаў, але пасля, калі разабраўся ў іх, разгледзеў іх па часіне, дык пазнаў, што яны зусім несправядлівыя погляды... І я з імі расстаўся назаўсёды. Расстаўся з імі і пачуў сябе новым, здаровым і свежым. Свежым, бо мяне асвяжаюць тыя дзіўныя здарэнні, якія ўскалыхнулі

Дзень у дзень, вось ужо з трэцяга траўня, яны вараць на пяцьдзесят душ дзяцей у калоніі абеды і вячэры; раніцаю гатуюць у катле гарбату. Адно і тое: сушаную садавіну ў гнілаватай вадзе замест гарбаты і пратухлую пшонную крупу ў крупніку ды ў кашы. Прыкрасы — так скупа, так ашчадна, што ў крупніку — ні скалачкі, а каша — перасыпаецца пяском — пэўна, не вельмі смачна. І галоднаму трудна ў рот убіць — не лезе. Ці ж кухаркам гэта невядомая рэч? Варылі, гатавалі, дзякаваць богу, абедзве не адзін дзесятак гадоў. Знана, добра знана, як смачна і калі нясмачна. Што ж дзіўнага, калі ў гэтай вось калоніі згубіўся смак у страве. А дзе масла, а дзе сала, мяса? Страва любіць тлустасць. Ясна як на ладоні. Дык не, быццам гэта якая злачыннасць, вось за смак ды за патраўнасць няйначай яны, кухаркі, павінны адказваць. Тадора і Юзя. Упікае за гэта Грыпіна Вядзерка, упікае Саламея Кублік, бухгалтар Ахрэм Маркавеня... Усе, хто толькі тым або іншым стыкаецца з кухняю, каго нялёгкая прыгнала ў калонію. Быццам згаварыўшыся...

Няйначай згаварыўшыся... Праўдзівей падгавораныя. Падгавораныя, бо і дзеці — за адно. І падгавораныя — кім? Грыпінаю Вядзерка.

Вось чаму кухаркам надаела цырымонія з абедам, і вось чаму і Тадоры і Юзі зненавісна кожнае слова Грыпіны Вядзерка. Чамусьці кожны раз яна, Грыпіна, адказвае за дзяцей, судзіць яду за іх, таксама камандуе падачаю стравы і ўборамі са стала. Што за парадак гэткі — узялі ды паставілі над імі гэтага фельдфебеля? Кара нейкая, думаюць кухаркі і точаць на Грыпіну Вядзерка зубы.

А Грыпіна Вядзерка добра разумее, у чым справа; улічае ўсе недахваткі з боку матэрыяльнага забеспячэння калоніі, ведае, чаму і што яны. І за гэта нікога не вінаваціць — тым болей кухарак. Як-ніяк, а дзеці паправіліся, ды нават добра. Нагуляюцца і ядуць у смак, кампаніяй. Не так ужо дрэнна і дарослым. Так што яна не наракае — кухаркі пераўвялічваюць. Калі Грыпіна Вядзерка і кажа аб ядзе, то яна адмячае тыя хібы, якія выходзяць з нядбайнасці кухарак у час гатавання. Сапраўды, і Тадора і Юзя глядзяць на сваю працу, як на малазаработную, дачасную, ненавідзяць яе і адносяцца да яе — між тым ды іншым. І выхо-

дзіць, што амаль ні штодня ці падгарыць каша, ці ў крупнік вугалле насыплецца, ці не даварацца крупы, ці з крупніку выйдзе другая каша, і дзеці — з'ядуць кашу ды кашаю закусваюць... Няўжо гэтага нельга адмеціць? Або нельга за гэта ўпікнуць? Гэтае права Грыпіна Вядзерка прызнае за сабою і строга яго аберагае... Тым болей што дзяцей яна шануе і стараецца дагляцаць, мэрам бы родная маці. Праўда, крычыць на распусных, ушчуе мудрагельных, але дзеці ёй даруюць усё. Бо тут возьме накрычыць, а дзіця супакоіцца — і цётка Грыпіна яго прыласкае. Але што тут агульнага ў адносінах Грыпіны да кухарак і да дзяцей?

Дзеткі чарадою, як гусяты з гускаю, ладзяць са сваёю настаўніцаю.

Саламею Кублік забываюць, і мала якое адварочваецца паглядзець назад, ці «цётка Саламея таксама тут». Ходзяць і просяць дзеці хадзіць з імі, галоўным чынам, Грыпіну Вядзерка. Бо яна — яна кіраўніца — вучыць іх пяяць, расказвае казкі, знаёміць з назоваю кожнага дрэўца і кожнае красачкі. За дзяцей, за іх здароўе адказвае Грыпіна Вядзерка, і яна ж іх абстойвае перад усіма.

Грыпіна Вядзерка любіць дзетак не за службу, а з пачуцця. Яна ўглядае ў малых тое бесклапотнае, рэзвае, маладое жыццё, якім нясе ад дзяцей. У вобразе дзесяткаў дзяўчатак і хлопчыкаў, смехуноў, крыкуноў яна бачыць адбітак таго хараства, якое заключаецца ў фармаванні будучага чалавека, асобы, цэлага свету. Вось чорненькая, трапяткая Матрунка — які досціп, якая жвавасць, зацікаўленне да кожнае з'явы! Вуньдзека з правіловай, нібы адточанай формай твару чарнавокі Юзік. Ніжа поглядам, як шылам. Думае, майструе ўсякія штучкі, цацкі, мадэлькі. Задуменная Гэлька. Неўгамонны Яська... Усе, як каралькі з разнастайных дарагіх каменьчыкаў на вясле, у перабіўку. Кожная фарбачка азвыклася ў Грыпініным ваччу, знайшла сваю мясціну. Гэтак ніжацца людская гісторыя спакон вякоў — да гэтага дню, да моманту, калі вось дзесятага ліпня ў сераду дзеткі з калоніі ядуць абед.

На гэты раз абед без вады. Кухаркі мякка перагля-

даюцца адна з другою; не верацы, што ўсё ціха адбудзецца. З'елі дзеткі крупнік — абышлося. Хутчэй бы з гэтаю цырымоніяй! Надаела! Тадора і Юзя не верацы, каб Грыпіна Вядзерка спакойліва, але ябедліва не папікнула: «Ізноў сапсаваны абед». Ім не ўцярпеж падаць каму, прыбраць: няхай дзеці спачываюць, а Грыпіна Вядзерка бяжыць да рэчкі на купанне.

— Ужо падаваць кашу?

— Давайце.

Грыпіна Вядзерка сказала і выбегла на ганак. Дзеці не заўважылі, а кухаркі — прыкмецілі. Было навіною, што яна не сядзела, як заўсёды, пры стале да канца абеду, не ўглядалася за кожнаю ложкаю кожнага дзіцяці, а сарвалася і, як каза, мерсканула на ганак. Тадора з Юзяю, носячы лаханькі кашы з пякарні на стол, перашэптваліся адна з другою. Паглядалі ў бок Саламеі, якая, замест абеду, прылягла на ложку і прынялася чытаць, напэўна, ліст, і не абміналі ганка.

— Што б гэта было?

— Цікава.

Гэта — да канца абеду, які зацягнуўся больш звычайнага. Рупела кухаркам ведаць прычыну, чаму сёння Грыпіна Вядзерка зусім інакшая,— і яны спяшылі памыць пасуду ды выйсці на двор.

— Глядзі,— казала Тадора,— Саламея адна дзяцей укладае.

— Але, але.

Саламея Кублік усё яшчэ чытала ды перачытвала адзін і той жа лісцік. Гартала над галавою, шоргаючы паперай. Сонца прабівала шэрую паперу, і чырвоны атрамант свяціўся дробнымі рыскамі. Дзеткі спалі ціха-ціха, як-то ў летні поўдзень спіць трава. Зрэдка выкажа іншае скрозь сон невыразнае слаўцо і зноў замоўкне. За акном, у воддалі, на дзядзінцы, чуваць гутарку — то прайшлі цеслі з абеду. Загукаў певень, і апошняе «ку» заглушыў лісцем кустоў. У пякарні, дзе на паложаных на козлікі дошках сушацца лаханькі ды ложкі, шэрагам, пад роем мух, мушак і вос, нікога. Тадора і Юзя не паспелі скончыць з пасудаю, як вышмыгнулі на двор. Зараз яны пачнуць гатавацца да вячэры — гадзін праз тры забягаюць па пякарні. А цяпер пайшлі, каб пачуць, можа ёсць якія навіны, паглядзець, куды пайшла Грыпіна Вядзерка.

У самы абед прыехаў інспектар соцвыху. Якраз тады павяртаў вазок да стайні, калі Грыпіна Вядзерка стаяла на ганку, пакінуўшы дзетак адных есці кашу. Яна зранку пачула, што ў калонію маюць прыехаць на агляд. Бухгалтар праведаў і ёй давёў. Вось чаму сёння яе трывожыла гэта і вось чаму, абедаючы, яна не зважала на якасць стравы, а спакойліва, нядбайліва перакідалася словамі з кухаркамі. Трывожыла не так баязлівасць перад начальствам, як цікавасць — якое яно з сябе...

Грыпіна Вядзерка чула раней, што ў акрузе адбылася змена інспектара. Як быццам бы паставілі на месца ранейшага — Мікалая Барбарука, яе знаёмага.

Даўнейшага знаёмага, ад 15 году, з часу, калі яна спаткалася з ім у Лідзе настаўніцаю двухкласавае школы. Барбарук быў падпаручыкам аднаго з сібірскіх стралковых палкоў, які ішоў на фронт. Усё, як заўсёды, было выпадкова: і спатканне, і знаёмства. Надта бягуча, а таму суха ды чэрства. Мэрам бы не заўважна для маладога, спраўнага афіцэра, перад якім стаяла здань смерці і закрывала сабою не толькі яе, Грыпіну Вядзерка, а і ўсё на свеце, нават бляск сонца. А між тым сёння зранку вобраз Барбарука — у форме афіцэра — затуліў ад яе тое, што дагэтуль яна бачыла. Чаму так нагальна? І так пякуча распаліла яе нутро? Ажно не выпаўніла зранку двух нумароў праграмы і на дзесяткі пытанняў дзетак: «А гэта што, цётка, а чаму так, цётка?» — не адказала. А стукнулі калёсы аб каменні бруку — трэба было пачуць і выбегчы на ганак. Злез чалавек, мігнуў між ваччу па дарозе ў кантору калоніі, і ўваччу — стаіць Барбарук. Гэта толькі трывожыла Грыпіну Вядзерка.

Бачылі кухаркі, паспеўшы выйсці на ганак, як Грыпіна Вядзерка стройнаю хадою, калыханкаю, прайшла між вокан будынка, калісьці дома ўпраўляючага маёнткам пана Драўлянскага, а зараз кантораю калоніі. Чаго не было, а таму і не маглі ўбачыць — дапісалі: быццам яна зрабіла гэты манеўр знарочыста, каб пахваліцца сваёю постаццю, каб кінуцца ў вочы начальству, быццам бы ішла і ўсміхалася, наватківала рукою.

Бабскімі плёткамі залілі кухаркі ўсю сцяжынку, ад будынка калоніі да рэчкі. Ябедна, упічліва, дакорна.

Тайком перадавалі гэты свае думкі іншым — каб мацней уразіць Грыпіну Вядзерка. А сапраўды — нічога такога не было ў яе павядзенні. Не было, не! Грыпіна Вядзерка прайшла між канторы калоніі не незнарок, не для дэманстрацыі сваіх якасцяў, а міжвольна, пад націскам крэпкага пачуцця цягі да новага чалавека. Трэці месяц адна, калі не лічыць Саламеі Кублік, зусім іншае па думках ды настрою. У глушы, сярод паплавоў, лясоў, поля. Вясною ды летам, калі ўсё цвіце, буяе, калі столькі паху, хараства, любасці, калі, як ніколі, цяжка аднэй. Маладой. Дзяўчыне ў саку. З натураю, што нямерна любіць хэўру, грамаду, людзей.

Успомніла Грыпіна, як ёй не хацелася выязджаць з акругі, з якою кампаніяй расставалася. Але адказацца — ці ж добра? Паехала. Абяцалі і таварышкі і таварышы прыязджаць у госці. Меркавалі ўладзіць маёўку. Але дзе ўсё тое? Забылася... ды не ёй забылася. Яна глушыла ўспаміны і не давала волі думкам. Але штораз, кожны дзень, нават некалькі разоў на дзень яе думкі пераносіліся ў акругу, бегалі там і па класным пакоі і ў кватэрах таварышак і ў гарадскім скверыку, па вузенькіх панелях Савецкае вуліцы. Цвіў бэз і какалуша, пукаліся сады, а зараз вось — расцвілі высокія лахматыя ліпы. Рoі пчол пяюць сімфонію, розных пташак — мэрам бы знарок хто наганяе на спакусу — нямоўчныя галасы. Жыццё — кіпучае, на вачох, у кожнай травінцы. Калі па каліву перальецца ў тваю істоту, колькі хаценняў, якое прагі набярэцца ў тваім сэрцы! Ці ж можна ўлажыць яго ў рамкі, падпарадкаваць розуму? Грыпіна Вядзерка, як краскі да сонца, цягнулася да супольнасці, да істоты, з якою бы можна было падзяліць радасць жыцця.

Можа прыехаў часамі Барбарук? Прапусціла думку гэту, паглядзеўшы на акно ў канцылярыі калоніі, і пайшла на рэчку.

Ці рэчка цякла, ці стаяла ў ёй вада на месцы — цяжка было разгледзець. Хоць бы адзін пасок хвалькі, хоць бы адна зарубінка, як то бывае на стромным цёку. Толькі плюхне верхаводка і пусціць булбанку па ровені вады або муха з разгону парушыць яе смуглае шкло... Нясло парай, мэрам бы ўсю рэчку запоўнілі цёплым лугам, толькі што вынятым з грубкі. Маніла рэчка ў сваю глыбіню, у аерную гусцеч.

Грыпіна Вядзерка з стромага берага, абрывістага пры вадзе, сачыла на ваду. Думала. Пара, калі штодня купалася, мінула. Больш гадзіны. Але яна не спынялася на думцы, каб на гэты раз прапусціць заўсёдашні параграф праграмы.

Цягнула ў ваду, а думкі, раз'юшаныя ўпершыню за два месяцы, быццам бы прывязалі яе да зямлі. Вось кіне трэсачку, паганяецца поглядамі за роўнымі кругамі вады — і зноў непарушна. Гэтак блытаецца клубок, калі ты яго незнарок асыплеш. Няма нідзе канца, а здаецца — кожная нітачка да яго вядзе: паспрабуй і абманешся. Так было з рашучасцю ў Грыпіны Вядзерка...

Прыйшлося дачакацца тае хвіліны, калі раптам, мэрам бы чужая сіла, штосьці стукнула ўнутры і падняло яе зямлі. Тады Грыпіна Вядзерка шпарка разьдзелася і скочыла ў ваду. Засаб колькі разоў пераплыла рэчку, нырнула галавою ў ваду і выбегла да адзежы. Умомант абцерлася, нядбайліва зусім, без увагі да загару — ці пабольшыўся,— на чым спынялася штоpазу — адзелася і пайшла. Дзеці пераняла яе думкі і пацягнулі яе погляды ў бок калоніі. У вочы лілося сонца, калі яна ўзіралася ў прагаліну ліп, ці не вядзе часамі дзяцей Саламея Кублік сюды, да яе. Як быццам бы мітусілася штосьці, пярэсцілася ўваччу. Няўжо дзеці?

Саламея Кублік стрэла Тадору з Юзяю і запытала іх:

— Ці вы не бачылі, куды пайшла Грыпіна Вядзерка?

— Можа з начальствам дзе-колечы спацыруе.

Тадора ўсміхнулася, а Юзя дадала:

— Мы бачылі, як яна праходзіла між канцылярыі, мэрам бы салдат паўз генерала.

Дзеці гулялі на палянцы, за садам. Дагэтуль не было, каб гулялі адны, без Грыпіны Вядзерка, толькі з Саламеяй Кублік. Напэўна, нешта здарылася. Саламея не баялася, каб здарылася што-колечы благое, але дзеці паслалі Саламею праведаць пра цётку Грыпіну. Саламея мусіла пайсці паглядзець на «той бок дома». Сустрэла кухарак і запытала. А сама дагадвалася, ці не заснула толькі Грыпіна, пакупаўшыся. Звычайная рэч. З якое рацыі ёй клапаціцца наконт

рэвізіі! Падумаеш! Хваліцца не трэба, а ў справе выхавання дзетак ды іх дагляду не падкапаешся. Калі ўжо Грыпіне Вядзерка папікнеш у працы, то трэба быць альбо злым, альбо выразна староннім чалавекам — ну, не па справядлівасці... Саламеі рупіла, каб ды тая рэвізія хутчэй — усё ж цікава, бо напэўна яна дадатным кончыцца.

Хацелася памяняцца думкамі з Грыпінаю Вядзерка, ды вось — недзе дзелася.

Кухаркі згаварыліся паскардзіцца інспектару на «непаразуменні» з боку кіраўніцы.

— Абы чапіў інспектар нашае справы — трэба ўсё вылажыць наверх,— казала Тадора.

Юзя згаджалася:

— Абавязкова трэба выясніць усё гэта.

— А баяцца — пляваць.

— Чаго ды каго баяцца? Усюды гэткую ласку знойдзеш. Бяды вялікай!

Прыезд інспектара ўз'юшыў кухарак. Абедзве думалі, што іх правяраць нечага, што ўся справа начальства аднясецца выключна да Грыпіны Вядзерка; яна — старшая, а кухарскае дзела — дзесятая вада на кісялі. Вось выявіць суадносіны між імі і кіраўніцай — гэта следуе.

— Толькі адно,— сумнявалася Тадора,— ці захоча інспектар лезці ў нашу справу?

— Хто яго ведае,— не давярала і Юзя.

— Думаеш, гэта вітлюга завабіць да сябе інспектара і ўвесь час змурзае.

— То напэўна. Бачыш, як хітра павяла сябе. А інспектару што трэба...

— Паглядзі — хлопец!

Яны ішлі гатаваць вячэру. Не думалі, ці ёсць у пякарні дровы, ці старчыць крупы. Не клапаціла гэта кухарак. Займалі навіны дню. І калі ў руках адчулася пасуда, а перад вачыма — кацёл, то рукі міжвольна, несхаць перабіралі кожную рэч, якая ў іх пападала. Як бы само сабою ішло варыва. Ні Тадора, ні Юзя не клапаціліся аб тым, як зварыцца каша. Не хацелі думаць: хай лішняя муха ў міску, хай больш падгару — што ім сёння да небяспекі ў спакоі?

— Глядзі ты, ці ўжо не сышліся яны.

— Ты думаеш?.. А...

Юзя не дасказала, бо раптам між акна прайшла Грыпіна Вядзерка. Хутка. Заклапочана. Кухаркі заварушыліся, змоўклі, заняліся лаханькамі, нажамі.

Грыпіна прыйшла ў пякарню непрыкмечанай імі.

— Тадора! — пазвала першую кухарку,— можа б сёння інспектару крыху смачней зварылі? Можна?

— Адкуль яго ўзяць, Грыпіна Якаўна!

— Няўжо такі ў вас нельга вылучыць лішняе скварачкі?

— Вы б даведаліся, колькі даюць нам на гэтыя скварачкі!

— Я ведаю... Але інспектар жа... так нельга, абы... як-небудзь вымеркуйце, Тадора. Абавязкова...

І пайшла.

— Ізноў каманда! Гатова запрагчы ў воз...— не здаволілася Юзя.

— Абы чапіцца...

— Каб яна пачапілася на асіне... Падумаеш, скварачкі! Ласы на гэтыя скваркі, нябось, а даюць — людзям на смех.

— То-та і ёсць... Адкуль ты яе возьмеш?..

— Няхай сама будзе за падкрасу...

Кухаркі ліхамысна зарагаталі. Рэхам аддаўся іх рогат па сталовай, праляцеў у двор. Ажно саміх перапалохаў, і кухаркі адначасна затулілі раты фартухамі... І суцішыліся... Суцішыўшыся, перамовіліся шэптам.

— Хаця б не пачула.

— Можа яшчэ не паспела выйсці.

Юзя падбегла да дзвярэй з пякарні ў сталовую і асцярожліва паглядзела направа-налева.

— Няма нікога? — шапнула Тадора.

— А каб і чула, то што яна нам зробіць?

— Харкаць на яе...

У катле кіпела вада, паднімаючы высокі каўпак шуму. Палалі смалякі ў печы, і куравыя языкі полымя лізалі чорную сопуху коміну.

Дзеці гулялі ў ката і мышку. Колькі смеху і радасці было ў іх! Крычалі, бегалі адно за другім, вязалі рукамі кола, разрывалі яго. Адны ў каўпакох з казакоў ды кураслепу, другія ў шапках з лістоў конскага шчаўя, трэція ў вянкох з канюшынавых смактушак, з цюцюпану, з крывянак. Саламея Круглік каманда-

вала гэтым роем шалуноў, ушчувала непаслушных, гразілася на мудрагеляў, суцяшала пакрыўджаных. Пад высокімі ліпамі насіўся рэзкі голас.

Ніводнае дзіцё не прыкмеціла, калі падышла да палянкі Грыпіна Вядзерка. Яна спынілася ў разоры, злёгку затуліўшы сваю постаць лістамі шчавельніку. Цешылася рэзвасцю дзетак, умілялася іх бесклапотнасці... Многія без бацькоў, без родных, што іх чакае ў будучыні?

Посная аднастайная яда, брудналатыя пасцелі, саламяныя падушачкі — хоць бы што! Вось сонца ды трава, вось чыстае паветра ды кампанія... Сёння, цяпер, а заўтра?.. Аднакія пытанні ■ дзесяткаў вуснаў: ці свеціць сонца? Шустрыя вочкі, толькі паднімуцца вейкі, кідаюць узрокі ў вокны. Гарбата — між іншым. Нямытымі, неадзетымі, толькі паднімуцца з пасцелі — на двор. Не сабраць да снедання, не прымусіць пяці хвілін аддаць на мыццё. Якая глыбіня жыццёвых праяў! Які імпэт жыцця!

Грыпіна Вядзерка захапілася думкамі і не ўважала, дзе, чаго і навошта яна стаіць. У вачох мігацелі дзеці. Усё роўна, нібыта пралятали вераб'і ці вароны. Таксама — стварэнні крыклівыя.

Але раптам яна ўбачыла, як гуртам, навыперадкі дзеці панясліся да яе. «Цётка Грыпіна! Цётка Грыпіна! Цётка Грыпіна!» Зашамацела лісце шчавельніку, працягнулася капа ручак да яе постаці. Як пчолы калоду, абляпілі яе дзеці з усіх бакоў. Распытвалі, дзе была, звалі гуляць, падавалі вянкі, каўпакі, дубчыкі, лісткі.

Ці ж трэба большае атэстацыі для настаўніцы, як агульная любасць да яе з боку дзяцей? Інспектар бачыў гэту сцэну і адчуваў яе сэнс. Ажно спыніўся сярод сцежачкі ў садзе, ідучы да дзяцей. Пастаяў, паглядзеў нейкі час і падышоў да Грыпіны Вядзерка, калі тая заняла дзяцей казкаю. Дзеці сціхлі, разявілі раты і слухалі настаўніцу. Інспектар пачуў апошнія словы казкі, прыпыніўся моўчкі — няхай настаўніца канчае. Кіўнуў рукою, каб Грыпіна Вядзерка не смуцілася перад імі... Ды куды ж там было. Змяніўся настрой — зразу прысох язык, заблытаўся ў роце.

— Дзеткі, сёння ўжо годзе,— праказала Грыпіна Вядзерка дзецям.

— Добра, добра, добра...— паняслося некалькі дзесяткаў галасоў.

Інспектар павітаўся з малымі, запытаў некалькіх, як і што яны жывуць, ці весела ім, ці хочуць у горад, ці не галодныя. Дзеці адказвалі, пазіраючы на настаўніц. А настаўніцы глядзелі на інспектара.

І Грыпіна Вядзерка, забываючы рэчаіснасць, паднімала ў памяці вобраз Барбарука. Перабірала драбнейшыя рыскі яго твару, азірала постаць, выглядала колер вачэй. І Барбарук — і не Барбарук. Не гэткі роўны, здавалася, як быў тады. Без вусоў. Заўпалыя шчокі. Задуменнасць. Раскудлачаныя валасы — замест гладка прычэсаных, з прадзелам на левым баку галавы. Вальнейшыя рухі, вялыя і ціхія... Але нос — той самы, да каліва падобны; але вочы — яго; мяккі, плаўкі погляд — быццам мошастам павядзе па твары, глянуўшы. Столькі гадоў! Век! Запытаць?!

Цяжка рашыцца. Ці ёмка вось гэта, зразу, пры першым спатканні? Замест сур'ёзнае гутаркі аб справе — пра асобу. Што падумае? Як паглядзіць Саламея Кублік? Не! Нізашто! Трэба ўстрымацца. Трэба!

Грыпіна Вядзерка пусціла ў хаду ўсю сілу волі, ажно тупнула нагою, сцепанула плячыма. Апусціла вочы, каб не глядзець узапой, каб нават не даць выгляду, што зацікаўлена ім, інспектарам, як мужчынам, а не начальнікам.

— Дзеткі,— перабіла іх цікавасць да інспектара,— пара дадому; там ужо, напэўна, вячэра гатова. Пойдзеце?

— Гэй, у шэрагі! — падаў адзін хлапчук. І хутка дзеці вывелі выгінастую істужку з сваіх фігурак. Саламея Кублік падраўняла іх, прыгразіла, каб яны не мудраваліся, і праказала да Грыпіны Вядзерка:

— Я хіба адна іх завяду,— а вы...

— Калі ласка.

— Дзеткі, айда наперад! Развітвайцеся з дзядзькам інспектарам.

— Бывайце здаровы! Дабранач! Бывайце... дзядзька інспектар!

— А ў вас тутака добрае месца! Сад, рэчка! Лес недалёчка.

— Нудна, таварыш інспектар. Дзіч.

— Няўжо ткі вам нудна?

— Не верыце?

Яны прайшлі вакола палянкі. Грыпіна Вядзерка паглядзела на інспектара і, наважыўшыся штосьці запытаць, абарвала на слове. Пачырванела ад няёмкасці.

— Смялей, смялей,— падбадзёрыў інспектар.

Куды ж аднеквацца далей? Грыпіна натужна засмяялася і рашыла:

— Выбачайце. Я не пачула вашага імя.

— Не пачулі?

— Сапраўды.

— Маё імя — Мікалай.

— Скажэце, вы часамі не той Барбарук, які ў 1915 годзе быў падпаручыкам аднаго з сібірскіх палкоў?

— А вам як здаецца?

— Мне цяжка рашыць. Вы вельмі падобны.

Інспектар памаўчаў крыху, пасля запытаў:

— А як вы мяне ведаеце?

— Ліду помніце?

— Ліду?! Вы былі настаўніцаю?.. Чуць-чуць прыпамінаю... У пятнаццатым годзе, вясною.

На гэтым тэма вычарпалася, хоць у абоіх было жаданне перайсці да ўспамінаў, да апісання прыватнага жыцця на працягу мінуўшых дзесяці гадоў. Але і Грыпіне Вядзерка і інспектару паказалася, што іх гутарка перайшла не на той шлях, як трэба, што і першае перамаўленне занадта было звычайным, абітым манеўрам — каб можна было разварочваць гэту тэму далей.

Барбарук вярнуўся да спраў калоніі.

— А я, прызнацца, і не прымеціў, дзе ж ваша вывеска?

— Знялі, таварыш Барбарук. Была набіта на браме пры ўездзе, а зараз мы хочам перанесці на будынак.

— Чаму гэта? Баіцёся людзей?

— Гэта наш бухгалтар закамандаваў. Ён у нас адміністратар і распарадчык.

Барбарук засмяяўся:

— У вас зусім не нудна, як я бачу.

Грыпіна Вядзерка пачырванела.

Яна не цікавілася вывескаю і нават прыпамінае няўверана, што гэткая была. Не разумела, чаму прыпляла бухгалтара; можа хто ёй сказаў. Стала раздумоўваць!..

— Кіньце, таварыш Вядзерка,— заўтра выяснім. Мне, вядома, цікава не вывеска, а становішча калоніі і матэрыяльнае і з боку выхавання дзяцей. Як у вас в гэтым?

— З боку выхавання — заўтра пабачыце, а з матэрыяльнага боку — цяжкавата. Сяк-так перакідаемся. Сонца і паветра замяняюць многае з таго, чаго не хапае...

— Вялікая рэч — сонца! З мілаю ахвотаю падзяліў бы вашу долю.

— Вам так здаецца.

Дзеці паўкладаліся спаць. Гоман сцішэў. Моўчкі варушыліся на ложках непрыапранутыя галоўкі. Ад саду прычынілі акяніцы. У пакоі пацямнела. Саламея Кублік адшукала маленькую лямпачку і засвяціла агонь. Куравае, прышчэрбленае шкелка сцірала і тую зыркасць святла, на якое мела сілу лямпачка. Па кутох калыхаўся змрок. Доўгі стол кідаў у два разы даўжэйшы цень. Кухаркі выцерлі кухню, памылі пасуду і выйшлі. Выходзячы, несхаця мармытнулі развітальнае слова. Саламея не дагадалася аб тым, ці прыгатавалі яны што-колечы для інспектара. Прыпомніла, калі Тадора з Юзяй ачуліся на дварэ. Тады сумелася сама перад сабою і выбегла з памяшкання.

— Тадо-ора! — пазвала.

— Чаго табе? — пачула з-за вугла будынка адказ Грыпіны Вядзерка.

Яна ішла з інспектарам у памяшканне. У Саламеі справа раскідалася.

— Мне была патрэбна Тадора...

І калі Грыпіна ўзышла на ганак, а інспектар крыху адстаў, Саламея падшапнула:

— Я наконт вячэры госцю.

— Ага! Той праўда. Кухаркі пайшлі?

— Пайшлі.

Грыпіна Вядзерка звярнулася да інспектара:

— Таварыш інспектар, адну хвіліначку пачакайце на ганку. З Саламеяй Кублік.

— Калі ласка, таварыш Вядзерка.

Саламея заняла інспектара гутаркаю пра калонію, пра яе жыццё, пра яе матэрыяльны стан. Інспектар даваў ёй цэлы шэраг пытанняў, спраўляўся падрабяз-

на, як і што ідзе праца, як папраўляецца здароўе дзетак.

А ў гэты час Грыпіна Вядзерка збегала ў пякарню, наведала да бухгалтара і сяк-так састроіла вячэру з каўбасы з хлебам, з сыру, з яешні ды гарбаты; дастала кіслага малака гладышык. Прынясла ад бухгалтара два падламаных крэслы, ахаяла каморку. З нейкай нязмкасцю падбегла да інспектара з Саламеяй і пазвала:

— Прашу на шклянку гарбаты. Чым хата багата.

— Дзякую. Навошта было вам турбавацца?.. Эх, гэта начальства!..

— Будзем мець вялікую прыемнасць, калі не адмовіцеся. Зойдзем, Саламея.

Саламея ад сябе запрасіла інспектара:

— Вы ўжо не пагарджайце.

Яны пайшлі.

Ноч глядзела на зямлю мільёнамі зор. Чорны полаг яе туліў надворак. Праз адчыненае акно падаў смуглы жоўты промень на мяккую мураўку. Ціха шыпеў самавар. Некалькі хвілін не чуваць было жаднага крыку, ні гуку. Пасля дзесьці падала свой голас сава. Па гасцінцы затарахцелі калёсы падводы. На іх стук адазваўся зацяжным брэхам сабака. Яшчэ нечы крык умяшаўся ў гэта. Гоман стаяў каля дзесяці хвілін...

А калі крыху аціхла, інспектар пачаў гутарку:

— Мне падабаецца гэта.

Грыпіна Вядзерка не згадзілася.

— Вы, таварыш інспектар, толькі суцяшаеце нас.

— Даю слова.

— Як каму,— уставіла Саламея Кублік, наліваючы гарбату ў шклянкі.

— З першага разу можа ўпадабацца.

— Толькі не гэта,— стаяла на сваім Грыпіна Вядзерка.

Пры гэтым яна сарамліва затуляла сабою бедна засланы драўляны ложак. Неўпрыкмет для Барбарука прыкрыла голыя берагі шарачковага матраца. Асцерагалася, каб не таўхануць чуць-чуць стаяўшы стол.

— Колькі паху! Я за сённяшні дзень паздаравеў на год. Ліпы, канюшына, грэчка, краскі.

— Гэтага хапае.

— А чаго вам больш трэба?

— Адны мы, таварыш інспектар.

Грыпіна Вядзерка ўлажыла ў гэтыя словы не толькі праўду, а і спагаду. Яна не хацела паказаць Мікалаю Барбаруку голы факт, а выказала тым сваю радасць да яго прыезду.

— Паху — пагэтуль,— правяла рукою пад падбародкам,— і таму, што вельмі багата паху, мы задыхаемся ў ім, няма з кім яго падзяліць.

Барбарук паглядзеў на Грыпіну вокам далёка не інспектарскім. Але ўспомніў акругу, вуліцу... дом № 6, кватэру трэцюю. Ці ўжо ў гэты час вярнулася дамоў Таццяна?

— Дык ешце, Мікалай Рыгоравіч... Можа б малака вам? — пытала Саламея.

— Калі ласка — не клапацецеся. Навошта ўсё гэта?

— Не думайце, што мы нагэтулькі бедныя, каб і малака не дастаць...

Барбарук паглядзеў на каморку.

— Непрытульная, скажаце?

— Баюся, каб не разысціся з рэчаіснасцю.

Інспектар засмяяўся.

— А як жылі ў 1920 годзе?

Тадора з Юзяю сядзелі на лаўцы пры свіронку. У двары не было больш нікога. Будынкі выдзяляліся чорнымі плямамі ў шэрані ночы. Ні ў адным — святла. Толькі з трэцяга акна калоніі — жоўты промень.

Туды, да яго, прагліся ліхамысныя пагляды кухарак. Вакол тых, хто сядзеў за акном, ішлі шэпты. Віўся загавор, якому б дай сілу — свет перавярнуў бы, хоць асяродак яго сходзіўся ў тым жа будынку, шасцю вокнамі ўлева.

— Не казала я табе? — шаптала Юзя.

— Сышліся, як належыць.

— Гэта, лічыцца, іх справа. Прыехаў на рэвізію, а папаў...

— Вяртуха гэтая ўсякага з панталыку саб'е.

— Я заўтра перайму яго на дарозе і не адпушчу, пакуль не выкажу ўсяго.

— А думаеш, ён слухаць будзе?

— Тады можна на яго скаргу паслаць...

— Дастукаешся ты, пахвалішся!

Абмывалі Грыпіну Вядзерка памыямі. Не шкадавалі і Саламеі Кублік. Інспектар у кухарак — ні да

чога не гадзіўся. І Тадора, і Юзя толькі адны былі дбайцамі аб дзецях, аб калоніі, чуць не аб усёй асвеце ў акрузе. Іх языкі кранулі спалком, начальніка міліцыі, Наркамасветы. За апошняга кухаркі наймацней учапіліся. Сталі камбінаваць, меркаваць, выдумоўваць, як і што дайсці да гэтае асобы, каб расказаць яму сваю крыўду і настаяць на перамене кіраўніцы — Грыпіны Вядзерка.

Навошта гэткая, калі ім, нізавым работніцам, спакою не дае, чапляецца за ўсякую дробязь.

А сама — толькі і ведае, што з інспектарам балавацца. Ёй дзеці — хай прападаюць. Ці ж мала ў гэтым доказаў яе нягоднасці?.. Там, у Мінску, мусяць прыслухацца да іх голасу... А сёння яны прыпільнуюць... Агеньчык нездарма за поўнач свеціцца... Во, там...

Кухаркі хвілін з пяць не глядзелі на святло ў акне, і калі паднялі ўзрокі — то ўбачылі, што святла няма.

Тадора штурханула Юзю — і абедзве падняліся.

Саламея Кублік пакінула ў Грыпіны Вядзерка Барбарука аднаго. Заенчыла дзіця — і ёй трэба было пабегчы справіцца, у чым рэч. Замарудзела і не вярнулася. Чаго ж, павячэралі, а мала што можа цікавіць інспектара пытаць у кіраўніцы? Яна, Саламея, другая спіца ў калясе... Ды, апроч таго...

Кожны раз Саламея Кублік скардзілася на сваю долю. Грыпіна Вядзерка мае болей ад яе шансаў перад мужчынамі. Нельга адказаць у Грыпінінай здатнасці, у асабліва ўмелым падыходзе да іх, ва ўсім строі яе постаці... Саламея ўжо пераканалася ў гэтым. Грыпіна цягне да сябе мужчын, як магнэс — голку... Завісліва Саламеі, але Грыпіна Вядзерка невінаватая, не... У даным выпадку ясна, што адносіны паміж інспектарам і Грыпінай не сёння пачаліся... Нездарма Грыпіна даведалася пра яго імя. У гутарцы з ім заходзіць да сяброўства. Аднаго і другога цікавіць мінулае ў прыватным жыцці кожнага... Грыпіна — глядзеце — як уважліва праслухала Барбарукову аповесць з пачатку да канца.

Знедаволілася, калі Барбарук крануў сваіх сямейных спраў... Перамянілася... Знедаволілася — гэта відаць хоць бы па тым, што спярша Грыпіна вынаходзіла месца, дзе б яго палажыць спаць, а пасля згадзіла-

ся, каб інспектар пайшоў да бухгалтара... Наперакор... Цудная, аднак! Варта ёй узнімаць мінулае! Навошта затуляць ім сёнешняе. Усё ж Барбарук — начальнік. Прыехаў з службоваю мэтаю... Вось не ўгодзіць і выйдуць іншыя скуткі. Абмовіцца лішнім словам у акрузе — і непрыемнасць... Няхай бы ўжо ўладзіла з начаваннем... У прыгрэбіцы канюшына ж ёсць.

Думалася Саламеі Кублік, што будзь бы на яе, не зрабіла б па Грыпінінаму. Але наогул яе менш усяго датычыць... Можа заўтра перайначыцца?

— Ш-ша-а, дзеткі, спеце.

Прылягла сама і заснула, не пачуўшы, калі выходзіў ад Грыпіны Вядзерка інспектар, Мікалай Барбарук.

— Ведаеце, Мікалай Рыгоравіч, як я рада, што вы прыехалі да нас! Трэці месяц без новага чалавека. Гэта ж з розуму можна зысці! Слухаць палявую цішу, дзень у дзень, ноч у ноч — адное і тое ж. Вось гэтак нібы трымаеш у руках дошчачку — з аднаго боку чорную, з другога — белую і варочаеш перад вачыма. Днём — бела, ноччу — чорна... Вы скажаце, што днём пташкі пяюць, сонца, бурліць рэчка каля заставак... Зелень — ну, і пах, прастор. Але ж ён адзін-аднакавы! Бачыш — неабмежны, а ісці няможна... Па-мойму — лепш сядзець у чатырох шчыльна зачыненых сценах...

Грыпіна Вядзерка спавядалася перад Барбаруком упоцемку, калі згасла лямпа. Не хапіла газы, і Грыпіна Вядзерка балюча хвалявалася, падкручваючы кнот. Авось хопіць, авось яшчэ хвілінку пагарыць. Але кнот не згаджаўся гарэць сухім. Пасмяецца Мікалай Рыгоравіч і падумае: «Якія нядбайныя дзяўчаты».

Дагадвалася Грыпіна Вядзерка, што справа павінна так пайсці, сама ж дапускала месца палахліваму жаданню: няхай сабе тухне. Патухне лямпа, а яны ўдваіх — хто перадугледзіць розныя мажлівасці?

Каму, сапраўды кажучы, патрэбна цьмянае курава мізэрнай лямпачкі? Усе спяць — толькі зоры калышуцца ў небе.

Але якавы думкі таварыша інспектара? Ці не ашукваецца яна ў сваім разлічэнні? Няўжо Мікалай Барбарук дарэшты забыў пра свае інспектарскія мэты і стаў чалавекам, які выпадкова апынуўся сам-насам з Грыпінаю Вядзерка, калісьці выпадкам напатканай? А мо Барбарук гэткім манеўрам яе выпрабоўвае толь-

кі? А мо яна, паддаўшыся жаночаму пачуццю, пападае ў крэпкае сіллё?

Няпэўнасць, заўсёды трапяткая, звязаная з адчуваннем, прыемная рэч, калі за ёю не стаіць разувер'е. Што прывядзе яна ў даным выпадку?

Грыпіна Вядзерка не паспела ні на чым спыніцца, калі лямпа стухла. Малюпаткі пакоік мэрам бы кінуўся ў якуюсь чорную прагаліну, і перад ёю міганулі каляровыя колы. Разняліся, пацямнелі і згінулі.

— Даруйце,— усяго і выказала Грыпіна Вядзерка.

Барбарук яе заспакоіў. І як сядзеў на паламаным крэсле, гэтак і астаўся сядзець. Аб тым, каб ісці — не заікнуўся. Тады толькі Грыпіна Вядзерка пасмялела, абнадзеілася і скеміла, што многа лішніх думак прапусціла ў галаве... Не варта было... «Ці ж на ўсякую дробязь»... Яна з гэтага хацела вывесці, што над многім чым лішне хвалявацца. Але тут жа адказалася ад вегэткага рашэння. Прайшло з пяць хвілін, а яна не ведала, што далей рабіць: ці стаяць на адным месцы, нерухома, як захапіла яе цем, ці прысесці. Ізноў гатова выйсці няёмкасць. Ізноў — гаданая рэч. Тым болей што на другі раз цяжэй прыплесці выпадак...

Інспектар выручыў — хацеў паправіцца на крэсле і пахіснуўся. Незнарок, у поцемку, працягнуў рукі і злавіў Грыпініну фігуру.

— Даруйце.

Грыпіна Вядзерка прытрымала Барбарука за руку і следам жа прысела каля яго, не прымаючы свае рукі з яго калена. Праз хвілю, другую стала спавядацца інспектару...

— Вы дарма сумуеце, таварыш Вядзерка! — разважаў Барбарук.— Вы гэтак добра выглядаеце, што на вас міла паглядзець... Ад вас нясе кіпучым маладым жыццём. Сонца і зелень — напаўняе вашу істоту... Гэта дала вам калонія... Не абмыляюся, калі скажу, што вы напалову паздаравелі проціў ранейшага. Як мне помніцца — вы былі худзенькай, блядою. А можа і няясна сабе прадстаўляю вас?

— Так, я папраўілася... Я адчуваю сябе настолькі моцнаю, настолькі здароваю, што недзе дзяваць здароўя... Так, так. Недзе дзяваць здароўя. Увайду гэта ў лес і, здаецца, хвоі вырывала б... Я хварэю ад здароўя... Паверыце?

— Не расказвайце — мне страшна робіцца,— паіранізаваў Барбарук. А памаўчаўшы, дадаў: — Дзіва адно: скардзіцеся на тое, што сумна, што дрэнна забяспечаны з матэрыяльнага боку, а тым часам...

— Вось-вось... І самой мне дзіўна ўсё гэта. Ядою нельга пахваліцца — крупнік ды каша ды крупнік... няўдала звараныя к гэтаму.

— Усё ж я спагадаю вам, цётка Грыпіна. Каб я быў нежанаты, каб меў болей волі, я б ахвяраваў месяц-другі на жыццё ў калоніі...

— Вы не жартуйце, Мікалай Рыгоравіч... Я вам кажу праўду... Каб гэта яшчэ ды не дзеці — звар'яцела б. А то — дзеці выручаюць... Люблю дзяцей... так люблю дзяцей, што няма слоў выказаць гэта... не хвалюся перад вамі, таму што вы начальнік мой, не... Але вам не падшукаць гэткае, як я, другое... не падшукаць, Мікалай Рыгоравіч... Для мяне дзеці — вобраз жыцця, бясклапотнага, віруючага жыцця, да якога мяне таўхае нейкая невядомая мне сіла...

— Мне казалі пра вас... Ды я ўжо бачыў, калі вы расказвалі дзецям казку. Малыя глядзелі на вас з гэткаю ўмільнасцю, як глядзяць анёлы на мадонну — на карціне Рафаэля... Так, так...

— Вы не лісцеце мне... Вы ўсё ж... заядлага мужчыну... мужчыну, кажу вам, малюеце з сябе.

— Ці ж тое дрэнна, па-вашаму?

— Го, не... Ці ж без гэтага мажліва тое хараство ў жыцці, тая радасць існавання, што запаўняе вашу істоту... Я... я скажу вам... бессаромна, адкрыта... ці ж мы дзеці?.. Мне так хочацца мужчынскае кампаніі, прысутнасці іх усюды і заўсёды, пара ў пору, гэтак па гадзін дзесяць у дзень... Не ведаю чаму, але ў апошні час іменна абурае мяне гэтае пачуццё... Можа б тады маё здароўе пайшло б на карысць, можа тады б іншым зместам напоўнілася б маё сэрца... А цяперака?

Рука інспектара мімавольна каўзанула па Грыпіным плячы і, здавалася Барбаруку, бязвольна прыліпла да яе мяккага цёплага цела,— але Грыпіна Вядзерка найшла ў гэтым прычыну, каб пахіліцца да інспектара, і ўмомант яе галава апала на яго плячо... Барбарук не паварухнуўся... Мэрам бы разлічваў сваю чыннасць на бліжэйшую хвіліну.

— Ах, Мікалай Рыгоравіч, прашу выбачэння, я й

забыла, што вы жанаты, што ваша жонка ў гэты момант... думае аб вас нешта іншае, лепшае, чым...

Грыпіна Вядзерка ўмомант выпрасталася на крэсле, не аддаючы сабе адрахунку, чаму і што гэта робіцца; пасля праказала:

— Дык вы, таварыш Барбарук, пойдзеце спаць на канюшыну? А як з ключамі?

Барбарук нічога не адказаў і падняўся з крэсла.

Кухаркі падышлі да ганка ў той момант, калі стукнулі дзверы і Барбарук пераступіў парог з памяшкання. Тадора з Юзяю перапалохаліся дашчэнту, брусамі пападалі з боку ганка і прытаіліся. І надало ж ліха! Апоўначы пад дзвярыма! Абедзве ціснуліся к ашарпанаму таркаванню сценкі, затойвалі дых, душылі пазывы да кашлю і калаціліся, як у трасцы. З няцерпам чакалі, калі пераступіць інспектар ганак і адыдзе крокаў пяць-дзесяць ад будынка. Тады яны паўзком аддаляцца за рог будынка і праз сад схаваюцца да сябе ў кватэру. Але Барбарук выйшаў на ганак і стаў. Прайшло даўжэразных пару хвілін, і следам выйшла Грыпіна Вядзерка. І вось замест таго каб ісці ўдваіх, інспектар і кіраўніца затупалі на адным месцы і перайшлі да гутаркі...

— Я вас правяду, Мікалай Рыгоравіч,— набівалася Грыпіна Вядзерка.

Інспектар далікатна адгаворваў: цёмна, адной няёмка ды страшна хадзіць па надворку, да гэтага ён сам ведае, дзе паветка, умовіўся з бухгалтарам, як і што адкрыць, як з сярэдзіны заперці.

— А можа вам не паслана?

— Пераначую...

Грыпіна Вядзерка ўглядала ў словах Барбарука памсцівую халоднасць; прыпісвала гэта таму, што няўдала абышлася з ім... І вельмі жадалася ёй адкупіцца за сваю няёмкасць... Чым? Хоць чым.

Каля дваццаці хвілін гутарылі Барбарук з Грыпінаю — для кухарак паказалася вечнасцю.

Адлежалі бакі, не хапала сцерпу ляжаць, і кожная па сабе парывалася падняцца і бегчы ад ганка. Але сполах перад тым, што на іх паглядзяць, як на якіх злачынцаў, паднімуць гвалт, нагоняць і тады прыйдзецца свяціць вачыма,— сполах перад гэтым супыняў

кухарак. Яны натужваліся да апошняга, крапіліся і ляжалі.

Кожны момант рабіўся для іх доўгім кавалкам часу, якому не відаць было канца. Тадора злавалася на сябе самую і разам на Юзю — чаго іх пагнала нялёгкая на гэткую справу. Юзя згубіла ўсякую цікавасць, якая гнала яе ўвесь дзень падглядаць за Грыпінаю. Абедзвюм Грыпіна Вядзерка стала самым лютым ворагам, чалавекам, які сабраў ва ўсім свеце ўсю бяду і няшчасце ды абрынуў іх на кухарак.

Каб яны прымелі — жыўцом праглынулі б яе... Але папалі ў гэткі стан — што ні так, ні гэтак, ні тое і ні сёе. Кухаркі са злосці скрыгіталі зубамі, раздражняліся няўмеру, вось-вось будучы не ў моцы сутрымацца і выдаць сябе... Тадора зарухала і скрабанула чарапком аб камень.

Можа і ціхутка, але ёй здалося, што Грыпіна Вядзерка з інспектарам пачулі... Гэта надало большае смеласці, і Тадора працягнула ногі ды кранула Юзінай галавы. Юзя шэптам пераняла таварышку... Магчыма — мінула б адна хвіля, як кухаркі сябе выдалі б... Але на ганку затупалі зразу чатыры нагі: інспектар з Грыпінаю Вядзерка сышлі з ганка і накіраваліся ўправа...

Кухаркі, як шалёныя, усхапіліся на ногі і далі драла. Павяртаючы за рог будынка, яны нарабілі стуку, разбіўшы якуюсь пасуду.

— Цішэй,— пераняла Юзю таварышка.

У садку абедзве прыпыніліся, адсапліся і, рашыўшы на тым, што ўсё ж яны Грыпіну ўлічылі ў праступку, пайшлі дахаты. Ні інспектар, ні Грыпіна не звярнулі жаднае ўвагі.

— Дабранач! Не бойцеся, ніхто вас не ўкрадзе...

Грыпіна Вядзерка міжвольна падняла ўгору руку, хочучы паслаць паветраны пацалунак, але раптам рука затрымалася ў невыразнай позе, а пасля апусцілася.

— Прыемных мараў,— пажадала Барбаруку і адышлася на адгон, каб быць мала ўбачнай; сама прыглядалася, хочучы прымеціць, ці не азіраецца інспектар. Няўжо ён, як каразлівая дзяўчына — так зладумны? Альбо не лічыцца з абставінамі?.. Не хацела згадзіцца Грыпіна Вядзерка, што яна супроць аднаго, што навакола нікога-нікагусенькі...

А ліпы так пахнуць, гэтак урачыста свецяць зоры і так смачна ўсе спяць!.. Яшчэ не было ў жыцці Грыпіны Вядзерка гэткага моманту. Колькі помніць — ні разу, ні разу.

Скрыпнулі дзверы ў паветцы, бразнула клямка, стукнула штосьці аб нешта іншае, мэрам бы паленам па пустой бочцы... Гэта ўзварушыла цішу, разнеслася далёка ў бакі. Грыпіна баялася, каб ніхто, апроч яе, не пачуў. Думала, а мо знарок Барбарук зрабіў гэта. Мажліва яго манера такая, выпрабаваць. Ліха іх ведае, мужчын, на якія яны хітрыкі пускаюцца... Чамусьці гэтыя дагадкі Грыпіне паказаліся грунтоўнымі, ажно яна асцярожліва, затаіўшы дых, зрабіла некалькі крокаў у бок паветкі... Стала на пальчыках, выцягнула голаў наперад і настаражылася... Але ўсё маўчала, маўчала...

Пасля рашуча кранула з месца і цвёрдым крокам пайшла к будынку, у які схаваўся інспектар... Прыглядзелася — варота зачынены. Было ясна — Барбарук пайшоў і лёг спаць. Было ясна — яна папала ў няміласць. Было ясна — яна пакрыўдзіла інспектара... Але чым, чым, чым? — Бестактоўнасцю. Грыпіна Вядзерка са злосці скрывіла твар, затупала на адным месцы і выразным шэптам прамовіла:

— Якая ж я дурніца! Што мне да таго, калі ён жанаты... Дурніца я, дурніца... Гэта ж начальства, інспектар, чалавек амбітны, а я... Не, нельга, каб ён з крыўдаю на мяне заснуў...

Гэта была ноч, ужо позняя ноч. Была ноч на дзіва спакойная і цёплая-цёплая, нават душная. Рабілася цяжка сапці. Няўжо гэткая ноч нікому нецікавая? Альбо ёсцека людзі, што на іх не ўплывае ніякае хараство?.. Або ёсьцека людзі, якім непатрэбна гэтае хараство?

Грыпіна Вядзерка прытулілася да варот паветкі, прыслухалася. Ёй хацелася пачуць, ці спіць Барбарук, моцны ці не яго сон... За варотамі нешта шарпела, шамацела. Не разабраць — сапе інспектар ці не. Нешта шаптала Грыпіне Вядзерка на вуха, што Барбарук не можа спаць. Ёй хацелася верыць гэтаму шэпту. Бо чаму ж не паверыць, калі не павінна быць, каб мужчына... каб мужчына баяўся кабеты... Не можа быць, каб яго холаду не распарыла гэткая цёплая ноч... Жывуць жа людзі і на далёкай поўначы... Мажліва з ім, Барба-

руком, што-колечы здарылася? Занядужаўшы чым або што?

Думкі віхрыліся ў галаве кабеты, тузалі яе нервы, неспакоілі. Пачуццё мянялася штохвілінку: то цягнула вярнуцца і бегчы да сябе, то нешта прыкоўвала да месца... Пасля, раптам выскачыла настойнае, упартае жаданне — пастукаць у вароты. Мэрам бы гэтыя вароты супынялі яе пасярод дарогі і мяшалі ісці, куды яна выбралася — выразнаю мэтаю. Не павінна яе, маладое ды адважнае, стойкае ды смелае, хоць бы што затрымаць.

Ён не спіць? — праверыла яшчэ раз Грыпіна Вядзерка, прытуліўшыся да варот. Але нічога не вызнала — той жа шам і шоргат... Тады яна без усякай цырымоніі — стукнула кулаком раз, пасля другі раз, трэці... Па двары разняслося гуллівае рэха, якое скрала нясмелы голас:

— Хто там?

— Мікалай Рыгоравіч, даруйце, я адно слова... адно толькі слова хачу сказаць...

Барбарук не пачуў і ўдвойчы запытаў:

— Хто там?

— Гэта я — Грыпіна Вядзерка... я перапрашаю вас... я не магу згадзіцца, каб вы асталіся пакрыўджаным на мяне.

Не прайшло і хвіліны часу, як рэзкі скрып засведчыў адчыненне дзвярэй. Грыпіна Вядзерка кінулася ў цёмную прагаліну шчыліны і ўголас прамовіла:

— Якое ж мне дзела, што вы жанаты, Мікалай Рыгоравіч. Даруйце мне за маю дурную неасцярогу...

Ці адказаў што Барбарук на гэтыя словы Грыпіны Вядзерка, ці можа маўчліва зачыніў вароты і, калі зачыняў вароты, ці скрыпнулі яны, ці не — Грыпіна не чула...

1926

# ДЫЯГНАЗ

## I

— Так, грамадзянка, вашы почкі здаровыя... Не баліць?.. Сапеце, калі ласка... мацней, вальней... На двор штодня ходзіце?..

— Так... штодня... гм...

— Пасля абеду, кажаце, значна горай?.. Гм... Выключна адно можа быць... Вам не хапае...

Сярэдніх гадоў мужчына, на выгляд малады, здаровы, заўсёды з вясёлаю мінаю, «доктар па жаночых хваробах», Ясь Дыднік адрыўнымі сказамі вымаўляў гэтыя словы, лісліва ды аўтарытэтна паглядаючы хворай у вочы. У руцэ ён круціў чорную трубку, другою хвіля ад хвілі перабіраў ланцужок ад гадзінніка. Раздумоўваў, як быццам бы правяраючы самога сябе і свае веды, нядаўна пушчаныя ім у практычнае ажыццяўленне.

Ужо пяць месяцаў, як ён скончыў практыку пры універсітэце, папоўніўшы ёю ранейшыя веды, пяць месяцаў, як адчыніў свой кабінет і прымае хворых. Нельга сказаць, каб гэта быў доўгі тэрмін, усё ж ён, Ясь Дыднік, паспеў нажыць сабе нядрэнную вядомасць. Аб ім, як аб добрым доктару, пачалі гутарыць не толькі тыя, што яго ведалі, што былі з ім знаёмы, а досыць шырокія колы гараджан. Гэта відаць было хоць бы з таго ліку, дзень ада дня ўсё большага, наведывачоў, якія да яго прыходзілі за радамі. Дыднік прыкмячаў сваю пераважнасць над старэйшымі дактарамі па гэтай спецыяльнасці, якія дзесяткамі гадоў жылі ў горадзе, і матаў сабе на вус. З-пад цішку выбіваўся ў яго гонар, а побач расло самаўпэўненне, што ён сапраўды можа стаць незвычайнаю знатнасцю. З гэтымі думкамі цяжка было расставацца доктару, і ён іх цешыў у сваім нутры беспрасціханку. Думаў аб адным, а ў галаў лезла ўсё гэтая каразлівая доктарская ганарлівасць. Часта яна шкодзіла Ясю Дыдніку, хоць ён і не прыкмячаў таго, але часта і дапамагала. Галоўным чынам дапамагала яна Дыдніку ў адным, менавіта — давала цвёрдую ўпэўненасць у самога сябе, у свае веды, і ад гэтага заўсёды бадзёрыла доктара.

Вось і на гэты раз, калі ён аглядаў хворую Парулю Сталовіч, маладую прыгожую маладзіцу, тая ж думка

панавала ў доктарскай галаве. З-за гэтае думкі Дыднік раскідаўся словамі, не сачыў за іх лагічнасцю і нават за іх зместам. Праўда, пацыентка ў яго была арыгінальная, упершыню з падобнаю хваробаю. За ўвесь час практыкі, у якую ён перапусціў да 300 жанчын, падобнае, як помніць, яшчэ не было. Гэта не значыць, што гэткага з'явішча ў медыцыне не наглядаецца. Дыднік яго ведаў, нават адзін час цікавіўся ім і абяцаў вывучыць яго як найлепей, асабоваю спецыяльнасцю. Але практыка зацёрла вострасць асабовых момантаў у шэрагу людскіх хвароб, якія падлягалі яго ведам, і разам думку аб гэтай спецыяльнасці; ён мусіў абхопліваць яе сваёю ўвагаю пастолькі, паколькі гэта датычыла поўнага комплексу абраных ім хвароб. І вось выйшла так, што, лечачы людзей, ён ні разу не спаткаўся ні з чым такім, што наглядалася ў Парулі Сталовіч... Як быццам бы знянацку яна падаспела... і зацікавіла Дыдніка. Вось загэтым доктар зацікавіўся не толькі «местом поражения», а і ўсёю постаццю хворае. Выслухоўваў, выстукваў, прыглядаўся да кожнае мясціны на Паруліным целе. Зацягнуў агляд на паўгадзіны, забываючы пра іншых пацыентаў, якія чакалі за сценкаю яго кабінета і ўголас нездавольваліся. Паруля Сталовіч таксама тамілася гэткім пільным прыёмам, хоць і лічыла доктара надзвычайна заўважным, шчырым, і ахвотліва падавалася малейшаму доктарскаму намеру, кожнаму яго вымаганню: мяняючы позу, агаляючы цела, сапучы цішэй і мацней, адказваючы на ўсякае запытанне.

— Дык вы кажаце, грамадзянка, што гэта ў вас даўно?..— перапытваў Дыднік.— Сапеце яшчэ мацней... Во. Во, так... Вышэй кашулю... не саромейцеся... Пад грудзямі не баліць?..

— Не, доктар... што вы, я не саромеюся... Я ж кажу, доктар, толькі ў жываце... Коле-коле, што часамі не ведаеш, дзе дзецца... Вось-вось смерць... Тутака, пад грудзямі... Змізарнела за гэты год, апала вагою да пятнаццаці фунтаў...

Хворая паглядала на доктара і ўкрадкаю затуляла аголеныя грудзі, апускала ніжэй на пояс паднятую да шыі кашулю...

— Дык кажаце, грамадзянка, вы замужам не гэтак даўно? Га?

— Год, доктар... Другі пайшоў...

— І горш стала, як выйшлі замуж, ці горш было да замужу?

Доктар Дыднік зрабіў сур'ёзную міну.

— Што далей, то горш...

— Так, мілая, так... Пасля замужу горш?..

Доктар Дыднік яшчэ раз пацiснуў у розных мясцох жывот хворае, агледзеў у поясе, з бакоў, у паясніцы і, крыху памаўчаўшы, рашуча сказаў:

— Уставайце, галубка... Вядомая рэч... так, так... Па-моему, вам патрэбна адно... дзеці... Скажэце мужу, не саромейцеся...

Паруля Сталовіч злёгку ўсміхнулася,— чаго саромецца мужа,— але зараз жа зрабіла спакойную міну. Яна нібы не паверыла зразу ў сур'ёзнасць доктаравых слоў і падумала, што Дыднік жартуе... Пасля сама сябе папікнула за гэта — доктар меў сур'ёзны выгляд, цвёрды тон і спакойліва сеў пісаць рэцэпт. «Ды няўжо ткі ён так дасканала выследжваў усю постаць, гэтак уважліва мацаў кожную мясцінку, каб кончыць жартам? І хто, доктар Дыднік, аб якім з гэткаю павагаю расказвала ёй Варвара Агневіч? Не павінна таго быць»,— заключыла Паруля і спынілася на доктарскім дыягназе. «Бадай, што праўда». Умомант узбунтавалася Паруліна пачуццё: расхвалявалі думкі, надалі плойму новых жаданняў, імкненняў, заставілі перабраць ды праверыць свае ранейшыя дагадкі і вывады наконт гэтага балючага, несціхана трывожыўшага яе пытання аб дзецях... Было ясна і зразумела, што доктар Ясь Дыднік — надзвычайны доктар, разумны і практычны да дзіву, калі сумеў адчыніць яе нутро і ўгадаць яе захаваныя жаданні.

Паруля Сталовіч, хвалюючыся, паспешна адзявалася і наўскос паглядала на доктара Дыдніка, які пісаў рэцэпт. І нешта патаемнае стукала ёй у галаву, пытаючы: «Няўжо доктар складае рэцэпт на гэткае лякарства, ад якога... будуць дзеці?..» Свядомасць не дапускала жаднае надзеі на гэткія безгрунтоўныя думкі, але... і свядомасць даходзіла да абсурду...

Паруля Сталовіч не мела сілы ўтрымацца ад пустых, абманных забабонаў, якія з'яўляліся да яе на падмогу... «А можа дактары ўжо і дадумаліся да чагокольвечы гэткага?..» Паруля Сталовіч не скончыла думкі — доктар перабіў. Даючы ёй рэцэпт, ён сказаў:

— Вось гэта мікстура — для супакаення болі...

Прымаць тры разы ў дзень па чайнай лыжцы на шклянку перагатаванае вады перад ядою... Паўжывайце пару тыдняў — паглядзіце... Але галоўнае астаецца... у дзецях...

Доктар ці наўмысля, ці не знарок не дасказаў і павярнуўся да стала. Паруля Сталовіч нервова выцягнула з-за абшлагу рукава ў жакеце трохрублёўку і запытала ў доктара:

— Выбачайце, доктар, колькі вам належыцца?..

Доктар Дыднік адказаў:

— Колькі не шкада...

І ў той час, калі ён праказаў услед за гэтым «бывайце здаровы, грамадзянка», Паруля Сталовіч спрытна палажыла яму на стол тры рублі, абярнулася да дзвярэй і шпарка выбегла з кабінета. У пачакальні яна нават не азірнулася на людзей, што сядзелі ў два рады і ў адзін голас, угледзеўшы яе, выгукнулі: «вось нарэшце», а моўчкі накіравалася ў дзверы.

## II

На вуліцы, у шэрані адвячорку, Паруля Сталовіч чамусьці спынілася на момант каля агародчыку перад кватэраю доктара Яся Дыдніка, глянула ў акно, асветленае агнём, і мерным крокам пайшла дамоў. Без усякае думкі, нібы аставіла іх у доктара, яна прайшла два кварталы, да першага завулка. Таксама бяздумна завярнула ў завулак, на гэты раз поўны работніцамі, якія ішлі з тутуннае фабрыкі, гукалі, рагаталі, і выйшла на пляц Свабоды. Якраз управа ад яе паднімаўся высокі трохпавярховы дом, у якім працаваў яе муж, Павал. Паруля Сталовіч міжвольна кінула поглядам на асветленыя вокны другога паверха. «Няўжо яшчэ Павал працуе?» — невядома для чаго запытала яна сама сябе. І не паспела адказаць на гэтае пытанне, як раптам важкім камяком нахлынулі ў галаву словы доктара Яся Дыдніка. Паруля Сталовіч ажно прыпынілася на хвілю, нібы яе хто затрымаў, і задумалася: ці казаць Паўлу аб доктарскім дыягназе. Тут жа, толькі гэта думка акрэслілася як належа, выніклі два аднаважкіх матывы: адзін за тое, каб аб усім перадаць сёння ж вечарам Паўлу, другі — каб не казаць мужу нічога. За тое, каб перадаць, былі: і завярэнне доктара аб гэтым, і любасць ды давер'е да Паўла, і патрэба

зрабіць уплыў гэтым на тое ці іншае пачуццё мужа. Але зайздрасць Паўлава ў адносінах да яе, яго каразлівасць пры агаворы падобных пытанняў — перасцерагалі Парулю Сталовіч. Яна бачыла, як у люстры, усю карціну дзеі, якая амаль не штодня адыгрывалася ў іх на кватэры ў хвілі ўзвароту Паўла са службы. Затурбаваны, ён прыходзіў дамоў, і, калі ўсё добра, яна была здароваю, адна ў дому, цалаваў і лашчыў яе, гаварыў аб усім, што чуў за дзень на службе, што бачыў у горадзе па дарозе дамоў; а калі заставаў яе «з жыватом», або з выпадкова зазірнуўшым падсуседам Хірысонам Сталаўчуком, а то часта і без дай прычыны,— рабіўся несцярпімым чалавекам. Зазлуецца, замоўкне, насупіцца — не падыходзь, не вымаўляй слова. «Пэўна, скажы яму аб словах доктара — прыме на свой шчот, і будзе бяды. А не сказаць? Сёння і пасля? Чаго ж таіцца? Баяцца ці сароміцца свайго мужа? Якая я цудная!»

І, разважаючы над гэтым, перабіраючы ўсё да дробязі, Паруля Сталовіч прыйшла да свайго дома. На вуліцы ўжо зусім змеркла. Ва ўсім доме, дзе была іх кватэра, блішчалі ў вокнах агеньчыкі. Толькі цямнела двое акон у другім паверсе — гэта іхніх. Яна задаволілася гэтым — пабудзе адна і яшчэ колькі разоў перадумае сваю думку, пакуль вернецца Павал. Паруля хутка перабегла дзядзінец, лёгка паднялася па ўсходах на другі паверх і ачулася ў кватэры. Раптам ёй стала лягчэй: яна здзела жакет, каторы цяжыў яе, ідучы ад доктара, паправіла косы на галаве і падышла да акна. Аб агні занядбала, толькі тады ўспомніла, калі ўгледзела, як ліхтаршчык запаліў ліхтар над брамаю. Пры гэтым яна схапілася, што будзе дрэнна, калі наскочыць Павал і застане яе ў цёмнай кватэры: яго зайздрасці не будзе ўпынку. Паруля Сталовіч зараз жа адышла ад акна і засвяціла электрыку. Святло рэзанула ёй у вочы і пацягнула нейкай прыкрасцю па пакоі. Як быццам бы разам выйшла наповерх уся таемнасць, што дагэтуль цішком хавалася ў яе сярэдзіне. Паруля Сталовіч затупала ўзад ды ўперад па пакоі, гледзячы ў адну кропку, якая насілася ўблізку яе вачэй, і не мела жаднага ўстою ні на сценах пакоя, ні ў паветры між полам і столлю. «Зараз прыйдзе, а я не вырашыла, ці сказаць яму, ці не...» несупынным ланцугом пераказваліся гэтыя словы, то крыху аслабя-

ваючы ў сваім напоры, то молатам б'ючы ў галаву... «Не скажу»,— голас, злосна выказала праз нейкі час Паруля Сталовіч сваё вырашэнне і падышла да акна. У гэты момант з крыкамі, з разухабістым галасам убегла з вуліцы на дзядзінец каля тузіну дзетак. Дзядзінец ажыў, напоўніўся рухам. З многіх акон дому пачуліся радасныя выгукі ды воклічы да дзяцей мацярок, нянек, пакаёвак. Пачуўся ўпярэмежку вясёлы смех і выгукі. А праз некалькі хвілін яны разбегліся па чацвярых усходах, хаваючыся ў мурах вялікага будынка.

Паруля Сталовіч усёю істотаю аддалася пачуццю захаплення дзецьмі. Іх рэзвыя ценкія галаскі, іх смех і выгукі скалыхнулі яе нутро і заказыталі, заказыталі да болю кіпучым жаданнем: мець сваё дзіця. Мець сваё дзіця і гэтаксама, як іншыя мацяркі, сустрачаць яго прыход, гледзячы ў акно і цешачыся яго гульнёю, яго рэзвым маладым рухам. Вось прамігнула ў яе вачах цэлая грамадка іх,— чужых, не сваіх. Чаму сярод іх няма ніводнага яе, яе з Паўлам... ці хоць бы без Паўла...

На апошняй думцы Паруля Сталовіч не супынілася і не заўважыла яе значнасці. Пазыў, жаданне мець сваё дзіця глушылі ўсё іншае. Яшчэ ні разу не пападала яна ў гэткі стан, як цяпер. Яшчэ ні разу дагэтуль не стыкалася яна з гэткім вострым, пякучым, непераможным хаценнем. Усе частачкі яе постаці нылі ім, прагнулі. Уваччу стаяў доктар Ясь Дыднік і несціхана дудзеў у вушы: «Вам патрэбны дзеці». «Я скажу Паўлу, скажу... я не магу сцярпець»,— перарашыла яна і падышла да дзвярэй, прыслухалася.

Па ўсходах стукалі шагі, як быццам бы Паўлавы. Не пачула, калі ён прайшоў дзядзінцам. «А можа то не ён?..» Але хутка пазванілі. Паруля Сталовіч адчыніла дзверы, забыўшы запытаць, хто звоніць. То быў Павал.

Пераступіў парог і паглядзеў моўчкі жонцы ў твар. Пэўна, прымеціў на ёй неспакой, бо раптам перамяніў міну на сваім твары і з трывогаю ў голасе запытаў:

— У цябе ізноў жывот баліць, Паруля?..

Паруля ў першы момант не ведала, што адказаць, і змаўчала.

— Га-а? Кажы-ы! Ты выглядаеш змардаванаю, Паруля.

Павал, не прышчапіўшы дзвярэй, хапіў яе за руку і пацягнуў да сябе.

— Нічога... Не непакойся... Так, нейк злёгку галава забалела... Дзе ты быў так доўга? — перапытала яна, каб адцягнуць Паўлаву ўвагу ад сябе.

Ён пусціў жончыну руку, прышчапіў дзверы і падышоў да стала. Гледзячы на Парулю, адказаў:

— Працаваў... Працы, ліха яе бяры, бясконца. Душыць — няма рады... Вось-вось кончыш, вось-вось, а глядзіш — усё новая... А платы — гэтыя няшчасныя сто рублёў.

Павал прайшоў пакоем, зазірнуў у акно, прычыніў яго і сеў на крэсле.

— Пэўна, есці хочаш? — паклапацілася Паруля.

— Прызнацца, не хачу. Хацеў, ды па дарозе зайшлі ў сталоўку з Ахрэмам Шарым і выпілі па шклянцы кавы. Ведаеш, замарыўся і гэтак аслабеў, што не ведаў, як хутчэй дайсці дамоў... Ахрэм запрасіў, і мы зайшлі ў кафэ...

— Ты кожны раз з гэтым Ахрэмам... А я прыгатавала табе пудзінгу, і ўжо астанецца.

Паруля праверыла шафку і адвярнулася да Паўла.

— Дык сама еш.

— Я не хачу нічога...

— Не здаровіцца?.. Тваe вочы пасумнелі. Паруля?! Ты не хочаш сказаць мне праўды?

— Кінь, Паўле. Я ж кажу, галава крыху забалела...

— А больш нічога?.. Ты занадта ўжо хмурая стала.

Паруля хвілінку прамаўчала і зазірнула нечага ў спальную. Пасля нясмела сказала:

— Ведаеш, Паўлік, я толькі што вярнулася з надворку. Выйшла крыху прасвяжыцца і вось, ідучы назад, сышлася з грамадкаю дзетак, якія ішлі, напэўна, з кіно... Усе вясёлыя гэткія, рэзвыя, прыгожанькія, адно ў адно — не нацешыцца... Кіраўніца іх вядзе, расказвае ўсё, а яны наперабой — пытаюць у яе ўсяго ўсялякага, расказваюць, трашчаць галаскамі, як птушкі вясною...

Павал не дачакаўся, да чаго Паруля прывядзе сваю гутарку, і перабіў яе на сказе запытаннем:

— Ну, дык што?..

— Што-о... Вось што: і мне гэтак моцна захацелася мецць дзіця, ажно я... эх, Павал!

Яна не даказала і адхілілася ад мужа. І ёй стала ніякавата перад Паўлам — ні то сорамна, ні то боязна. Што ён адкажа?

Аднак Павал не падаў выгляду, што яе словы былі для яго поўнай нечаканасцю, а спакойліва, сціснуўшы зачэплены жонкаю эгаізм, адказаў:

— Парулька, ты нездарова, я бачу. Ідзі супачынь, ужо позна, мая мілая... ідзі...

Ён далікатна яе абняў і правёў у спальную. Спакойліва і моўчкі пасобіў раздзецца і, калі яна лягла, апрануў яе капаю. Паруля ўгледзела ў мужавай ласцы яго дабрату і няўразлівасць за адкрытую яму думку і нічога не сказала.

Павал паглядзеў на яе і выйшаў са спальнае.

«Што з ёю робіцца?» — запытаў ён сябе і пацiснуў плячыма: «Нехта ўжо ёй надауміў. Так... Дзеці... Я разумею гэта... Я сам так моцна люблю дзяцей. Але, ці ж я вінен, што яна хворая?..»

## III

Назаўтра гэта было забыта: Парулі было сорамна да гэтага вяртацца. Павал таксама не хацеў раздражняць ні сябе, ні жонкі. Зранку, як і ў часы звычайнага настрою, Павал адыграў ролю ўважлівага мужа і добрага сем'яніна: абгаварыў з Паруляю бягучыя справы ў хатнім жыцці, разам удваіх папілі гарбаты, расцалаваліся, і ён пайшоў на службу, а яна засталася дома. Нават калі Павал выйшаў у двор, Паруля папрасіла яго праз акно, каб ён сёння паспяшыў раней кончыць працу і вярнуцца дамоў. Павал паабяцаў гэта зрабіць, палісціўшыся ўважлівасцю жонкі, і спакойліва выйшаў з двара. Паруля правяла яго поглядам на вуліцу.

Сённяшняю раніцаю ў яе нутры як быццам бы склалася цвёрдая раўнавага, на якую не маглі ўплыць ніякія хвалюючыя думкі. Гэткі настрой ці можа ўтома ад учарашніх перажыткаў прыцягалі яе да аднаго непарушнага стану. І яна мо з гадзіну прастаяла, абапершыся грудзямі на аконнае шуляванне, гледзячы ў двор. Дваром праходзілі то з вуліцы ў дом, то з дому на вуліцу мнагалікія яго жыхары. Кожны меў свой клопат, свае намеры, якія яго цягалі за сабою, куды

хацелі. Паруля Сталовіч неяк адчувала пакуль што ў сябе жадных пазываў і клопату. І немаведама, колькі б часу ёю валодаў гэткі нядбайны настрой, каб яна не прымеціла ў праходжых дваром свае мацеры. Але яе з'яўшча ў Парулінвм ваччу вывела маладзіцу з раўнавагі. Парулін настрой раптам перамяніўся: яна адвярнулася ад акна і стала чакаць мацерынага ўваходу. То былі анямеўшы і цела, і думкі, і язык, а гэта ўсё зарухала, зашавялілася. Яна рашыла расказаць мацеры пра доктарскі дыягназ. У тыя некалькі хвіль, пакуль маці ўзышла на сходы і пазваніла, Паруля надумала план гутаркі з ёю і форму сказу, якім можна перадаць доктарскія словы.

Калі маці адчыніла дзверы ды ўвайшла ў кватэру, Паруля сустрэла яе словамі:

— Я вас чакала, мама. Так хацелася, каб вы прыйшлі, што я не ведала...

Старая Грыпіна ажно сумелася ад доччыных слоў і здзіўлена запытала:

— Чаму? Жывот баліць, дачушка?

— Не, мама, так сабе... Проста адной было сумна...

— Можа пасварылася з Паўлам?

— Таксама не...

Грыпіна глядзела на дачку і недаўмявала: ёй не верылася, каб гэта так, без дай прычыны, Парулі было нечага нудна; прынамсі, колькі разоў яна ні прыходзіла да яе, дачка на гэта не скардзілася, а калі скардзілася, то што-небудзь у яе здаралася: ці пасварыцца з мужам, ці нядобра ў яе са здароўем, ці якая-кольвечы прымха напаткае яе ў горадзе.

«Чаго ж яна так прагна чакала мяне?» — падумала старая.

— Сядайце, мама,— далікатна папрасіла Паруля, каб перабіць мацерына сумненне.

Грыпіна села, але не адцягвала вачэй ад дачкі.

— А мне ўсё здаецца, што табе, дачушка, не па сабе, нешта блядая ты зусім...

— Няўжо такі я збляднела, мама?

— Так, так, галубка... Гой, мілая... Замучыць цябе жывот... Гэта ўсё, пэўна, праз яго... Ну, як жа ў цябе з ядою, хоцькі? Маеш ахвоту есці ці не?

— Ем, чаму не...

Паруля знарок засмяялася і зрабіла на твары здзіўленую міну.

— А што дактары кажуць, родная? — запытала маці.— Ды ці ходзіш хоцькі ты, галубка, да іх? — дадала Грыпіна.

— Хаджу, мама... Надаелі ўжо яны мне...

Паруля выказала гэта з намерам, каб мець падгатоўку перайсці да ўчарашняга выпадку з доктарам Ясем Дыднікам.

— Чаму, дачушка?

— Таму, што кожны доктар кажа па-свойму; сама не ведаю, якому іх верыць...

Яна тупала па пакоі, перастаўляючы то крэслы з месца на месца, то выціраючы анучкаю пыл на стале. Маці ўслед ёй паводзіла поглядам.

— Вось і ўчора: зайшла да самага славутага доктара... Агневіч парадзіла... І што ж вы думаеце, ён мне сказаў...

Старая з цікавасцю паднялася з месца.

— А што, што, дачушка?

— Сказаў... сказаў... ведаеце...

Паруля прыцішыла голас і, нібы не адважваючыся, упаўголасу праказала:

— Сказаў, што мне... дзеці... трэба... Былі б дзеці, не балеў бы жывот, і я была б здароваю... вось што сказаў.

— Былі б дзеці!..

Старая не даказала сказу, ні то здзівіўшыся доччыным словам, ні то знайшоўшы ў іх разгадку сваіх ранейшых думак.

— А што ж ты думаеш, дачушка, гэта можа быць... Але, скажы мне...— старая прыцішыла голас,— каторы вас віною... не сказаў?..

— Па-мойму, мама, доктар ліха ведае што балхвіць: што ні доктар, то свае лекі...

— А ты б праверыла ў іншых... Хоць бы яшчэ ў аднаго... Га, Парулька?..

— Праверыла б... гэта ж грошы... Ласне можна выстарчыць на сто рублёў? І так чуць-чуць зводзім канцы з канцамі... Павал весь час супіцца на мяне... Гэтая праклятая хвароба столькі грошы паядае...

— Вядома-вядома, дачушка; але што ж парадзіш... лепей на чым іншым скараціцца, а здароўе трэба даглядзець... Трэба раз назаўсёды вырашыць...

— Пэўна, ужо мне і ўмерці прыйдзецца гэткай... Звядзе мяне жывот...

Паруля на гэтым перарвала гутарку, і абедзве кабеты нейкі час маўчалі. Кожная перадумоўвала аб адным і тым — як жа выйсці з таго стану, які засуцэльваў жалезнае кальцо вакол Парулі.

## IV

Праз два дні пасля гутаркі з мацераю Паруля Сталовіч выпытала яшчэ аднаго знатнага доктара па жаночых хваробах. Гэта ўжо быў прафесар Кірш, немец, які не так даўно прыехаў у горад з Ленінграда і пакуль мала даваў аб сабе вестак. Парадзіла да яго звярнуцца адна Паруліна суседка па кватэры. Суседка прывяла некалькі прыкладаў, калі прафесар Кірш вельмі добра вылечыў трох кабет ад пахожае на Паруліну хваробу. Паруля паслухала рады суседкі і звярнулася да немца. І вось немец з цвёрдаю ўэўнасцю і доктарскай халоднасцю падмацаваў дыягназ Дыдніка.

— Вам не дастае аднаго... Вам трэба радзіць...— сказаў ён.

І сказ прафесара Кірша ашаламаніў Парулю. Пасля гэтага яна не магла шукаць іншае прычыны свае хваробы... Але тут жа паўставала пытанне — як ад яе вылечыцца. Гэта адкідала ўсякае сумненне наконт таго, казаць Паўлу пра дыягназ ці не. Паруля менавіта як найхутчэй прагла гэтага зрабіць. «Можа і не спадабаецца яму, але скажу... Ці не ўплыве яно на яго зайздрасць, гэткую надаедлівую і ўжо стаўшую для мяне ачамернай, прыгоннай»,— падумала яна.

Рашучасць зрабіць гэта падганяла яе, ідучы дамоў, і разам з тым хвалявала яе нутро. Парулі рабілася млосна і цяжка. І ў гэтых млоснасцях і цяжару танулі, як у цемні ноч, мажлівыя быць прыкрымі тыя вынікі, якія атрымаюцца ад яе спаткання з Паўлам.

Адчуваючы гэта, Паруля ўвайшла ў дзверы дома і стала паднімацца па ўсходах. Ужо паднімаючыся, яна пачула першыя прыступы болю ў жываце. У кватэры боль узмацнілася.

Пад іх уплывам у Парулі змянілася пачуццё.

Думкі аб доктарскім дыягназе зніклі.

Хацелася, зусім па іншых матывах, каб Павал хутчэй прыйшоў: вось ёй прыйдзецца легчы, і некаму будзе падаць вады, нагрэць бутэлькі.

Паруля паглядзела ў акно: дваром прайшло некалькі чалавек; усё рабочыя з металічнага завода. Паўла не было. «Дзе ён падзеўся? Прасіла ж, каб сёння раней прыйшоў, а ці яму стаецца ад мае просьбы. Нібыта той», занедаволілася яна і адвярнулася ад акна. Рашыла легчы, а перад гэтым праверыла, ці прышчэплены дзверы, ці ўсё ў кватэры на сваім месцы. Паглядзеўшы на стол, каля кастру кніжак, яна раптам, нeспадзявана ўгледзела ліст. Было відаць, што нехта знарок палажыў яго акуратна, навідоку. Паруля ўзяла яго і прачытала адрас.

«Няўжо гэта прыходзіў Павал?» — падумала яна і стала шукаць іншых прыметаў. Усюды ўсё было ў парадку.

— Каб іх халера парэзала гэтых дактароў,— вылаялася яна і раззлаваная пайшла ў спальную. У спальнай яна адчыніла святло, лёгла і прачытала ліст. Ліст быў ад Таццяны Цяцеркі, яе добрае таварышкі з дзявочых гадоў.

Таццяна жыла з Паруляю па-сяброўску, адна другую наведвалі, а калі якая адлучалася з горада, пісалі адна да другой лісты. У апошні год Таццяна была ў павеце, у гасцях у мужавае сястры. Выехала яна туды ранняю вясною, на адпачынак. Адтуль на першых часах яна таксама пісала да Парулі, але не часта, а астатні месяц чамусьці зусім не было ад яе лісту. Паруля ведала аб усіх абставінах таварышчынага жыцця, пра яе здароўе, нават пра яе настроі. Чаму Таццяна доўга не пісала, яна часткаю таксама ўгадвала; аднак ліст ад яе Паруля, не патураючы на ўзмоцненую боль, прачытала з захапленнем. Ён быў кароткі і напісаны з горада. Таццяна паведамляла таварышку аб тым, што ў яе радзіўся сын, з гэтае прычыны яна, Таццяна, запрашае Парулю з мужам на акцябрыны.

«Якая шчаслівая», паківала галавою Паруля і хацела супакоіцца і ад думак, і ад болю, уныраўшыся тварам у падушку і падкурчыўшы ногі. Але толькі крыху сцешылася, як зараз жа целам перабегла нейкая цяжкая, ліпкая млосць, а пад ёю сабралася вострая завісць да Таццяны, ажно Паруля ўголас вылаялася: «Няхай бы яго агонь спаліў гэта маё жыццё... Няхай бы яно скрозь зямлю правалілася! Ачамярэла яно мне, абрыдла... якія людзі шчаслівыя!»

Яе думка зноў пераляцела да доктара Яся Дыдні-

ка і да прафесара Кірша. І вось адзін і другі выраслі перад ёю ў выглядзе неміласэрных, бесспагадных разбойнікаў. Як яна іх не любіць цяпер! Выдзерла б ім вочы, каб яны паказаліся ёй. Брахуны, бязмоцныя, каб ашчасліваць чалавека.

Яна ўспомніла пра мікстуру Яся Дыднік ды парашкі прафесара Кірша і сплюнула. «Не, больш не пайду ні да воднага... і не буду прымаць іх лякарства. Грошы — як у ваду», праказала яна, хапаючыся за жывот. І злосць ды нервовасць, ахапіўшыя Парулю, прабеглі па яе твары.

Цэлую гадзіну Паруля знаходзілася ў нервовым стане. І толькі тады, калі яе нутро адранцвела ад вострых мук ды болю, стаўшы як бы неўразлівым, ёй удалося прыдрамнуць і моўчкі праляжаць да Паўлавага прыходу.

## V

Яе абудзіў зычны званок, паданы Паўлам.

Паруля хутка паднялася з ложку і пайшла адчыняць.

Каля дзвярэй спынілася і перапытала:

— Хто там?

— Я, Павал, адчыні,— пачула адказ.

У яго голасе адбівалася нервовасць.

— Гэта ты, Паўлік?

— Я, хто ж іншы.

Паруля адчыніла дзверы і стала ў двух кроках ад парогу.

— Ну і спіш жа як пшаніцу прадаўшы. Гэта ж увесь дом можна панясці — і ты не чула б,— і ён напружана паглядзеў ёй у твар.

— Ізноў ты нездарова?

— Нездарова... крыху...

— Ізноў жывот?

— Жывот... Паскаўзнулася на ўсходах, ледзьве дайшла да дзвярэй... Думала — ты дома...

Павал прайшоў на сярэдзіну пакою.

— Я быў дома, але цябе не было... Кінуў працу і прыйшоў, а ты як назнарок і не пачакала мяне...

— Ведаеш, не магла... Ну, я прашу ўбачыць... Ой, ссы-ы...

Яна ўзялася за бок.

— Куды ж якраз наспела ў той час пайсці? — з прыцiскам у голасе запытаў Павал.

— Была ў прафесара... Я ўжо зранку пачула лёгкую боль і рашыла наведацца да прафесара... Ты ж ведаеш, як цяжка мне цярпець.

Яна прысела. А Павал, не зважаючы на яе мяккі, нават уважлівы одцень у гутарцы, нервова затупаў па пакоі.

— Так... Гм... Прафесара... Памогуць яны... Толькі звод грошай. Пара было вылечыцца дагэтуль...

Паруля пачырванела ад крыўды, паднялася з крэсла і пайшла ў спальню. На хаду сказала:

— Ужо ізноў забрала... Рад быў бы, каб збавіцца...

Праз хвіліну стала ўсхліпваць, гаворачы адрыўнымі словамі:

— Сам дык усе ночы... недзе цягаецца, а гэта... не застаў выпадкова... у хаце, дык...

— Маўчы ж ты, здых...

Павал мігам падбег да спальні і стукнуў кулаком у сценку, ажна тая здрыганулася.

— Ты кожны мой крок гатова абмываць памыямі!..— крыху памаўчаўшы, праказаў ён і адышоў ад спальні.

Паруля нічога не адказала. І можа таму, што яна змаўчала, Павал хутка змяк і таксама замаўчаў. Тупаючы далей моўчкі па пакоі, ён пацiху ўраўнаважыўся ў настроі і, нарэшце, папікнуў сябе за сваю непатрэбную гарачнасць ды зайздрасць.

«Фактычна, усё гэта дарэмна. З майго боку — нават грэх... Падумаць — так я сам усяму віною. Навошта было мне сплятацца з гэтым Ахрэмам і ісці... Цьфу! Гэта ж брыдка падумаць... Мужчы-ы-ны... З маладымі жонкамі, а цягаюцца начамі [illegible] курвамі... Цьфу... Людзям на сорам...»

Павал пацяў плячыма і двойчы сплюнуў.

## VI

Назаўтра раніцою Павал перапрасіў Парулю за ўчарашняе і даў ёй сваю згоду паехаць на акцябрыны да Цяцерак.

— Ты адпачынь, Парулька,— сказаў ён ужо з усходаў: — а я зайду па дарозе і паклічу мацеру.

— Дзякую, Паўлік, за ўвагу,— адказала Паруля ў акно.

І, застаўшыся аднэю, яна, успакоіўшыся, ляжала ў ложку ды раздумоўвала аб акцябрынах у Цяцерак. Найболей яе цікавіў падарунак, які патрэбна завезці паражаніцы. Чамусьці Парулі хацелася прывезці Таццяне што-кольвечы асаблівае, гэткае, што б магло задаволіць яе і разам з гэтым выказаць асабовую Паруліну любасць да навароджанага. Што б за рэч была гэта, Паруля не магла дадумацца. Перабірала па чарзе розныя штукі, ад цацак ды лялек да кніжак і ўбораў, але ўсё ў яе воку выглядала звычайным, нецікавым. Яна, Паруля, усёю істотаю сваёю аддана Таццяне, і народжанае таварышкаю дзіця — гэта і яе радасць. Трэба ж гэту радасць выказаць тым ці іншым адмысловым падарункам.

З усіх перабраных рэчаў Паруля нарэшце спынілася на красках: «Што можа быць прыгажэй за махрастыя чырвоныя ружы. Бач, краскі адзначаюць сабою жыццё, яго хараство, яго вечнае квяценне. Жывая краска — сымболь жыццёвага крынічання. Так, я куплю Таццяне букет з чырвоных ружаў. Павал павінен гэта дазволіць мне», задаволена пераказала сама сабе Паруля. І пасля гэтага нейкі час паляжала без усялякіх думак.

Далей яна ізноў вярнулася да Таццяны. Стала выяўляць сабе, як і што будуць наладжаны Цяцеркамі акцябрыны, хто там будзе на іх, якаво яны пройдуць. І, перабіраючы мажлівых гасцей, Паруля ўспомніла знянацку пра Васіля Кудравага, агульнага яе з Таццянаю знаёмага.

«Няўжо і Васіль будзе ў нядзелю ў Цяцерак на акцябрынах?..» Чамусьці апошняга паўгоду яна яго не бачыла, а ў Таццяны запытаць не было як. «Добра было б з ім убачыцца», выказала Паруля ўголас аформленае ўнутры пажаданне.

У разважаннях яна не прымеціла, як надышла дванаццатая гадзіна, і ў кватэры зрабілася душна. Праменні сонца залілі сабою ўсю спальню. Ці пераляжыць яна цэлы дзень?

Паруля павярнулася з боку на бок, некалькі разоў памяняла позу і пачула, як бы нічога не балела. Але салодкая гультайнасць, пад уплывам разгойданых думак, прыцягала яе да ложка, не даючы ахвоты пад-

няцца... Тады яна ўзяла для сябе заданнем паляжаць да таго моманту, пакуль хто мусам заставіць яе паднЯцца. Гэта магло трапіцца незадоўга, бо мусіла прыйсці маці. Паруля праверыла час і здзівілася, чаму так доўга няма мацеры. «Няўжа Павал не паведаміў яе? Не можа таго быць, бо Паўлу не трудна, ідучы на службу, забегчы да яе».

Парулін напамін аказаўся сучасным: не мінула і пяці хвілін, як маці была ўжо ў кватэры і перапрашала дачку за спазненне:

— Выбачай, дачушка, што крыху запазнілася: ніяк нельга было пакінуць дому... Бацька недзе пайшоў і забавіўся. Як жа ты сябе чуеш, хаця?

Паруля супакоіла мацеру.

— Я адчуваю сябе нядрэнна, мама; жывот на гэты раз памілаваў мяне...

Грыпіна зрадавалася гэтаму і замест таго, каб сесці і пагутарыць, завіхнулася каля гатавання абеду. Паруля прыадзелася і злёгку стала пасабляць мацеры.

Нейкі час яны абгаворвалі розныя будзённыя справы, якія датычылі бягучага жыцця... Пасля, калі збольшага абгаварылі гэта, Паруля расказала мацеры аб лісту Таццяны і пахвалілася, што ў нядзелю яны з Паўлам паедуць да Цяцерак на акцябрыны. Аб учарашняй сварцы ■ Паўлам яна змаўчала.

## VII

Да нядзелі ў сямейным жыцці Парулі і Паўла Сталовіч нічога надзвычайнага не здарылася. Наадварот, усё ішло ладам, уважліва і спакойна. Павал трымаў сябе да наўды далікатна ў адносінах да жонкі, а жонка старалася нічым не ўразіць мужа. Надумоўвала пайсці ў сквер пагуляць — прасіла Паўла раней вярнуцца дамоў; той слухаў і кропля ў кроплю ў назначаны тэрмін з'яўляўся перад вочы Парулі. Адзін раз удваіх наведалі яны Парулiных бацькоў, шчыра, як ніколі да таго, па-сямейнаму пагутарылі з імі. Другі раз яны пабывалі ў Летнім садзе на гастрольнай аперэце і сустрэліся з даўнымі знаёмымі; разам зайшлі ў рэстарацыю, павячэралі там і, развітаўшыся каля першае гадзіны ўночы, вярнуліся дамоў. Гуляючы ў садзе і седзячы ў рэстарацыі, Павал не звяртаў

жаднае ўвагі на тое, што Паруля занадта пільна раскідала навокал погляды і сачыла за прыгожымі мужчынамі. Як быццам бы Паўла гэта не датыркалася. Нават ён сам два разы паказаў ёй на двох нэпманаў, стройных ды багата адзетых. Нарэшце Павал вельмі прыхільна выслухаў Парулiну атэстацыю праведзенаму часу і месцу, дзе гэты час праводзіўся. Калі ж яна знайшла шмат недахопаў, Павал і ў гэтым згадзіўся з яе думкамі.

За ўсё гэта Паруля адплачвала мужу, паміма ўсяго іншага, яшчэ і поўнаю маўчанкаю аб дзецях. Як на добрае ішлося — ні разу не забалеў ёй жывот. Чамусьці ёй думалася, што Павал апошні свой выбрык зрабіў у помсту ёй за надазольванне хваробаю...

Але ўсё гэта, увесь наступіўшы між імі лад, зусім не значыла таго, што Паруля адраклася ад свае думкі аб дзецях, што яна заглушыла да іх любасць у сваім сэрцы. Куды там! Думкі гэтыя ў яе чым бліжэй к нядзелі, тым рабіліся астрэйшымі, актуальнейшымі; яны проста абварочваліся ў надазойлівасць, у складаную частку яе фізічнага і разумовага я. План спаткання з Васілём Кудравым на акцябрынах у Цяцерак — не астываў у Парулінай галаве, а ўсё ўскладняўся, шырыўся і рабіўся завабнейшым. Дзеля раздумаў над гэтым Паруля мела досыць часу: днямі, калі Павал ішоў у свой «Земаддзел», яна заставалася адна. Пры ім жа яна навучылася маўчаць і глыбока таіць свае намеры і хаценні.

На працягу чатырох дзён, якія аддзялялі сварку ад нядзелі, у якую прадстаяла ехаць на акцябрыны, Паруля тое і рабіла, што выключна будавала розныя безгрунтоўныя ды марныя планы наконт балючага пытання аб дзецях. Думкі не шкадавалі абмінуць ні аперацыі ў якой-кольвечы знатнай лякарні ў Маскве, ні спробы паехаць за граніцу, «дзе можа лепей ведаюць рады гэтага гатунку...».

Не пакідала, тым болей, яе думка і Васіля Кудравага.

У нядзелю здань яго ўляцела ў Паруліну спальню з першым святлом золку, адгарадзіўшы яе ад Паўла...

Не разлучаючыся з ёю, Паруля нядбайліва адносілася да Паўлавай уважлівасці і да яго ветлага абыходжання з ёю. Але Павал не хацеў «прыдзірацца» і разладжваць зборы да Цяцерак.

Такім чынам яны спакойліва прыгатаваліся і а другой гадзіне выйшлі з кватэры.

Пераезд рамізнікам адняў сорак хвілін часу, і яны з'явіліся на месца блізка трэцяе гадзіны. Гэта было якраз у пару. Госці Цяцерак амаль не ўсе былі ў зборы, але бяседы не ўшчынялі. Таццяна з Лукашом увіхаліся каля прыгатаваных сталоў, якія стаялі лаголем у найпрасторнейшай каморцы Цяцерчынай кватэры. На сталох паміж грудаў ежы стаялі пукі красак. У дапамогу Лукашу парадкавала крэслы нейкая незнаёмая Парулі маладзіца. Госці сядзелі ў суседніх пакоях, з часткаю тупалі ў калідорчыку.

Цяцеркі сустрэлі Сталовічаў з радаснымі выгукамі, кінуўшыся цалавацца. Таццяна нават занядбала далейшым уладваннем сталоў і тут жа, каб не адсылаць Сталовічаў у суседнія пакоі, прагукала да ўсіх гасцей:

— Грамадзяне, папрашу вас да стала, калі ласка... Лукашка, прасі гасцей... Сядайце, Павал, Паруля... Вось гэта.

Паруля перадала Таццяне краскі, абгорнутыя папераю, і, адчуваючы сябе смелаю ў таварышчыным доме, першаю села на рагу стала... Яна выбрала гэта месца знарок, каб можна было пераглядзець усіх гасцей, якія павінны паміж яе прайсці. І вось, калі апошнія сталі ўсаджвацца за сталы, Паруля спрытна, не даючы выгляду, сачыла за кожным чалавекам, з пруткаю натужнасцю чакаючы Васіля Кудравага і зусім забыўшы пра Паўла... Але да стала прыблізіўся астатні госць, а Васіля не было. Гэта ўплыло на Парулю непрыемнасцю. Яна моцна занедаволілася і адвярнулася да акна. Ні каліва не аддавала ўвагі на гамонку ды жарты, якія чуліся ў пакоі з прычыны рассаджвання Таццянаю і Лукашом мужчын упярэмежку з кабетамі. Яна нават не прымеціла, калі побач з ёй сеў нейкі малады мужчына, чарнявага выгляду. Толькі тады Паруля адвяла погляд ад акна, калі падсеўшы абярнуўся да яе з запытаннем:

— Вы, пэўна, некага чакаеце?

Запытанне было пустым сказам з боку падсеўшага да Парулі мужчыны, але ёй чамусьці паказалася знарочыстым ды двухсэнсоўным. Яна скрыла сваю запалозранасць і адказала:

— Нікога, ведаеце... не чакаю. Бо некага чакаць... Вось мой муж са мною...

Трэба было заняць час хоць якою гутаркаю, і Парулін сусед пачаў вышукваць яе і праводзіць да першае вясёласці.

— Вы заўсёды з мужам... і гэтым здаволены?

Паруля паглядзела на суседа і спакойліва адказала:

— Ды я не з гэткіх, каб за мужава крысо трымацца... Аднаго мужа мала...

Сусед усумніўся ад Паруліных слоў. Але не пасаромеўся запытаць:

— Чаму?

— Яшчэ трэба і дзеці...

— А ў вас няма?

Паруля махнула рукою.

— А хто ваш муж? — перайшоў на другое сусед.

— Вось гэны, што сядзіць найскос, шатэн, у белым гарнітуры...— кіўком галавы паказала Паруля.

— Гэты?.. Гм!.. Я, здаецца, яго недзе бачыў...— інтрыгаваў яе сусед.

— Можа служыце разам?

— А, даруйце, як ваша прозвішча?

— Сталовіч.

— На часе цяжка прыпамятаваць...

— Вядома...

З нацягнутае, гутарка між Паруляю і яе суседам, які, як тут жа выявілася, быў кватарантам Цяцерак і меў прозвішча Амялюк, перайшла ў дзелавую. А калі пачалася бяседа і Таццяна некалькі разоў прымусіла Парулю адпрабаваць віна, пасля чаго да яе надышла лёгкая п'янасць, Паруля развязала язык. Пра Паўла яна зусім занядбала, і адышоў на задні план Васіль Кудравы. Амялюк, варта было ёй прыглядзецца, выглядаў прыгожым мужчынам і сімпатычным чалавекам. Яго ўмеласць пагутарыць, цікавасць зместу гутаркі і мяккасць рысаў твару цягнулі да сябе Парулю. Скора яе думкі, што вярцеліся вакол Васіля Кудравага, цалком перакінуліся да Амелюка. Ёй стала карцець, каб выйсці з-за стала і хоць на дзесяць хвілін астацца аднэю з ім.

Першы момант, калі думка пад'юшыла гэта хаценне, Паруля ўкрадкаю паглядзела ў бок Паўла. Як паказалася ёй, Павал нядбайна гутарыў праз стол з незнаёмай Парулі жанчынай. Нельга было ўлавіць, каб ён углядаў за ёю. Ды каб гэта і было, далей Па-

руля ўсё роўна не зважала б на яго... На тое бяседа... ці ж нельга абмяняцца словам з суседам?

К змроку, калі ўжо акцябрыны далі аб сабе знаць кожнаму госцю, многія з іх пачалі вылазіць з-за стала і тупаць па пакоі або выходзіць у калідор. Выйшла і Паруля. Яна прайшла ў калідор, аглядаючы распарадак пакояў у кватэры і не забываючы аб дзецях...

— Вы мо зайдзеце да мяне? — пачула яна ззаду сябе і абярнулася.

Амялюк лісліва ўглядаўся ў яе постаць і раптам працягнуў руку да дзвярэй пакоя.

— Вы тут жывяце? — ласкава запытала Паруля.

— Да шкоды, і адзін,— адказаў Амялюк, прачыніўшы дзверы.

— Цікава! — бязмэтна вымавіла Паруля і хутка ўвайшла ў пакоік.

Амялюк зачыніў дзверы.

— Вось маё гняздо — падабаецца?

Ён акінуў поглядам вузкі пакоік, цесна застаўлены ложкам, канапкаю, сталом ды дзвюма крэсламі, і дадаў:

— Як мыш у нары... Халасцяк, бачыце; усё дачасна.

Паруля ўсміхнулася і хацела штосьці выказаць, як раптам пачуўся стук у дзверы.

— Уваходзьце! — падскочыў да дзвярэй Амялюк і прачыніў дзверы.

Налпам, абураны, ускочыў Павал.

— Ты вунь куды трапіла! — кінуўся ён да жонкі, абмінаючы Амелюка: — дзяцей шукаеш? Марш адгэтуль...

Амялюк цяў плячыма і падбег да Паўла:

— Грамадзянін, у чым справа? Што-о вы гвалтуеце без дай прычыны...

Але Павал не заўважыў Амелюковых слоў і, лаячы жонку, гэтак жа раптоўна выскачыў з пакоя, як і ўскочыў у яго.

Паруля растрывожанай выйшла ўслед за ім.

## VIII

Акцябрыны ў Цяцерак былі далёка да сканчэння, калі Павал з Паруляю, нечакана для гасцей і для гаспадароў, іх пакінулі. Тацяна і яе муж колькі не

упрошвалі іх застацца — нічога не пасабіла. «Трэба ісці абавязкова», настойвалі абое — і Павал і Паруля — хаваючы прычыну свайго выходу.

Гаспадары правялі іх у двор, шчыра перапрасілі, каб не гневаліся за што-кольвечы,— асабіста за магчлівую нядбайнасць ды няўважлівасць да іх, і недаўменна вярнуліся ў кватэру.

Павал з Паруляю моўчкі ішлі па вуліцы каля гадзіны часу. Ніводзін з іх і не думаў вымавіць слова. Ніводзін нават не глядзеў на другога, адчуваючы глухую цвёрдую адчужанасць. Паруля на некалькі крокаў адставала ад Паўла, а той і не аглядаўся на яе.

Каб не канец вуліцы, якая ўперлася ў жоўты чатырохпавярховы мур і гэтым спыняла іх хаду, Сталовічы без дай рады выйшлі б у поле ці моўчкі блудзілі б па горадзе, пакорныя свайму абурэнню. Але ператочная вуліца разбіла маўчанку і спыніла іх бязмэтную хаду. Паруля першаю кінула Паўлу:

— Ты доўга думаеш цягацца, як сват без ума?

Павал суха і злосна адказаў:

— Маё дзела,— і тут жа выгукнуў: — Вазніца!

Мо на гоні ад іх, дзесьці за рогам хаты, затарахцелі па бруку конскія падковы. А хвілін праз пяць пад'ехаў рамізнік.

— На Савецкую, 10, колькі?

— Два з паловаю.

— Ты ўсшалеў!..

— Памілуйце, грамадзянін, гэта ж у другі канец горада.

— Два і больш ні капейкі...

— Два з паловаю,— пераказаў рамізнік і адвярнуўся ад Паўла.

— Вязі! — злосна праказаў Павал і дадаў, не адварачаючыся да Парулі:

— Садзіся... паводніца...

Калі абое ўселіся, Павал тым жа тонам прамовіў:

— Ты мне вось тут сядзіш з тваімі дзецьмі...

— Кінь, непрытомны,— не стрымалася Паруля. І на гэтым перамаўленні гутарка між імі абмежавалася.

Тая ж цягучая маўчанка, што і да гэтага, ізноў завязла між абоіх, праводзячы іх да кватэры. Рамізнік некалькі разоў прабаваў выклікаць «грамадзян» на гутарку, але не атрымаў адказу. Нават пры расплаце

Павал не вымавіў слова, цішком прасунуўшы рамізніку выцягнутыя з кішэні грошы. У яго нутры кіпела злосць на Парулю. Рой дзікіх, цудоўных думак кружыўся ў яго галаве; паўставалі размаітыя дагадкі. І над усім гэтым, як здань, стаяла сцэна ў пакоіку Амелюка. «Што там магло быць? Чаму ўсё-ткі яна пайшла туды? Адурэе без дзяцей...»

Паруля зрабілася яму зненавіснаю, адваротнаю... Былі моманты, у якія ён не жахнуўся б, каб яна раптам упала нежывою.

З гэтым пачуццём Павал заснуў. З ім прачнуўся і цэлых два тыдні з ім не расставаўся. Хадзіў на службу, вяртаўся дамоў — роўна нахмураны, ваўкалакам, непрыветным. Калі і перакідаўся часамі словам з Паруляю, то выключна таму, што ўжо нельга было без яго абысціся. Але ў гэтых словах, як і ва ўсіх паводзінах Паўла, чулася ўпартая адзервянеласць душы, ліхамысная нядбайнасць да жонкі... як бы то была чужаніца якая ці проста жывёла.

Парулю гэта цяжка непакоіла, нервавала. Яна чула сябе загнанаю, прыніжанаю. І, занядбаўшы гонар, кожны дзень ці раніцою, калі Павал ішоў на службу, ці вечарам, калі ён варочаўся, парывалася звярнуцца да яго з словамі прабачэння, з перапрашэннем, ды ўсё не магла, не рашала, думаючы, што з гэтага нічога не выйдзе.

Але доўга цягнуцца так не магло, і Паруля пайшла на самаахвяру. Яна рашыла вымаліць у Паўла згоду вярнуць людскае абыходжанне з ёю.

Каб не абышлося дарма, яна надумала план гутаркі, падабрала словы, праверыла іх, ці не ўразяць яны Паўла, і, поўная трывогі, чакала яго прыходу.

«Толькі ён пераступіць парог, як я звярнуся да яго са словамі ўвагі», разважала яна хвалюючыся.

Але Павал запазніўся. Нервуючыся, Паруля не ведала, як хутчэй яго дачакацца. Пaглядала ў акно, прыслухоўвалася каля дзвярэй; пачынала работу і тут жа кідала — не находзіла спакою. Нарэшце надзвычайная нервовасць выклікала новыя прыступы хваробы. Паруля не сцярпела і прылягла, занядбаўшы пра ўсё іншае і разам пра Паўла.

У гэтым стане яна не пачула, як адчыніліся дзверы, якіх яна нават забылася прышчапіць, не пачула,

як Павал увайшоў у хату. Яе заставіў паварушыцца Паўлаў вокліч, паданы ім ад дзвярэй.

— Паруля... Паруля, ты спіш?

— Га?.. Хто-о там? — з боллю ў голасе адазвалася яна.

— Ты спіш?

— Не-е...

— Ты хворая? Баліць жывот?

Паруля не адказала.

Тады Павал паспешна, з надышоўшым сполахам, кінуўся да жонкі і, нагнуўшыся к ёй, заглянуў у вочы. Парулін твар быў белы, змучаны; у вачох хадзіла пакута. Павал папракнуў сябе за свае паводзіны і адвярнуў погляд у бок ад Парулі.

«Гэта я вінаваты».

— Паруля... Парулька... Даруй... Я разумею цябе... Мне таксама баліць сэрца аб тым самым, што і тваё. Можа і праз мяне ўсё так склалася ў нашым жыцці...

Ён нахіліўся над Парулаю і, як бы перапрашаючы яе, заверыў:

— Ачунівай і паедзеш у Ленінград да прафесара... Няхай ён праверыць дыягназ Дыдніка і скажа... Калі ўсё так, тады мы...

Павал скраў апошнія словы сказу цёплым пацалункам.

1927

## ТАВАРЫШЫ

Адзін — Піліп Дубейка, другі — Лаўрэн Сявеня.

Па сацыяльнаму паходжанню — бяднейшыя сяляне.

Абое сябры нацыянальнай секцыі Камуністычнай партыі.

Адказныя працаўнікі, актыўныя камуністы.

Сустрэліся выпадкова — на адказным з'ездзе, а былі землякі не вельмі далёкія.

Піліп Дубейка ўваходзіў у лік тых, хто склікаў з'езд, Лаўрэн Сявеня — з тых, хто на з'езд прыехаў. Ён быў трыццатым дэлегатам, якога не чакалі і на

якога не спадзяваліся арганізатары з'езда. Думалі аб мясцовасці, якую Лаўрэн Сявеня прадставіў — што ёй досі аднаго прадстаўніка. Абмыліліся, бо Лаўрэн Сявеня прывёз паўнапраўны мандат і на другога, на самога сябе. Гэты мандат ён адразу ж паказаў Піліпу Дубейку, які ў час уваходу Лаўрэна Сявені сядзеў за сталом і разглядаў спіскі дэлегатаў.

Піліп Дубейка сядзеў над лістом паперы і нешта чыркаў алоўкам; яго думкі і погляд яго былі аддады дробным радком зместу, напісанага чырвоным чарнілам. Ён не пачуў, калі прачыніліся дзверы з пярэдняе каморкі і да яго падышоў Лаўрэн Сявеня. Нават не адхіліўся ад стала.

Лаўрэн Сявеня здзівіўся, нават збянтэжыўся, і з момант не ведаў, як быць: даваць аб сабе ведаць ці гэткім жа чынам, як увайшоў — выйсці. Ды якім спосабам кранудь Піліпа Дубейку, каб і хацеў яго зачапіць...

— Рэгістрацыя дэлегатаў тут? — рашыўся ён запытаць, паглядзеўшы ўпартым узрокам на спакойна паднятую галаву Піліпа Дубейкі...

— Тут, будзьце ласкавы паказаць вашы ўпаўнаважанні.

Лаўрэн Сявеня мігам дастаў з партфеля патрэбныя паперы і падаў іх Піліпу Дубейку.

Той паважна ўзяў іх і паглядзеў.

Але ні Лаўрэн Сявеня, ні Піліп Дубейка не адвярнуліся адзін ад другога так хутка, як хутка адзін да другога павярнуліся пасля Лаўрэнавага воклічу.

Абое, мэрам згаварыўшыся, ці па натхненні, моўчкі ўважліва ды настойліва разглядалі адзін другога і вывучалі.

Гэта цягнулася хвілін пяць; усё ж кожнаму хапіла іх хапіла на тое, каб разгледзець таварыша.

І Піліп Дубейка на шостую хвіліну мог намаляваць гэткі партрэт трыццатага дэлегата на з'езд:

Сярэдняга росту, худашчавы з твару, брыты; рухавы, з праназаватым узрокам, з яўным выразам рашучасці. Адзеты ў бразантовы халат паверх новага жоўтага паўшубка, у ботах з высокімі халявамі... Русы, невялікія валасы на прадзел. Усім-усенькім, да дробязі, да малейшае рыскі, інакшы ад Піліпа Дубейкі — рэгістратара мандатаў на з'езд і сакратара секцыі. Інакшы не толькі таму, што гэтак здавалася Піліпу

Дубейку, а і за тым, што і Лаўрэн Сявеня выразна адмячаў гэта. Вось жа перад ім сядзеў Піліп Дубейка, і ён яго разглядзеў, не горш, чым сам аддаўся разглядзецца.

Піліп Дубейка адбіўся ў Лаўрэнавым ваччу, як сталы, спакойлівы, разважальны таварыш. Ростам крыху вышэй ад яго, чарнявы, паўнатвары, з кароткімі бакенбардамі, з лёгка пакручастымі касамі. У цёмным жакетным гарнітуры, у крахмале.

Што хавалася ўнутры кожнага з іх, ніводзін не ведаў, а абое судзілі дагадліва, адпаведна асобным рыскам на тварах. Але і Піліп Дубейка, і Лаўрэн Сявеня аднакава адчулі нутраную сілу цягі адзін да другога. І той і другі хацелі тут вось, не расстаючыся, пагутарыць між сабою і хоць бы павярхоўна абмяняцца думкамі. Можа, каб хто першым пачуў, то і выйшла б што-колечы; аднак ніводзін не рашыўся гэта зрабіць.

Яны абмежаваліся дзелавою гутаркаю — Піліп Дубейка, упісваючы мандат Лаўрэна Сявені, а Лаўрэн Сявеня, наглядаючы за Піліпам Дубейкам.

— Вам у канцылярыі дадуць картку на кватэру і талончыкі на яду.

— А калі адчыненне з'езду?

— Заўтра а дзесятай гадзіне.

— Многа дэлегатаў сабралася?

— Вы трыццаты.

— Колькі дзён адбывацьмецца з'езд?

— Дзён пяць... я думаю...

Піліп Дубейка ахвотліва адказваў на пытанні Лаўрэна Сявені, а той з цікавасцю пытаў.

Дыялогі, сухія і лаканічныя, далёкія ад настрою абодвух, маглі б расцягнуцца надоўга, бо Лаўрэн Сявеня нават прысеў каля стала насупраць Піліпа Дубейкі. Але мусіў устаць і выйсці з пакоя, бо ўвайшло двое свежых людзей.

Піліп Дубейка, адчыняючы з'езд, красамоўна казаў ва ўступнай прамове.

«Мы з'ехаліся сюды, дарагія таварышы, каб вырашыць шэраг адпаведных пытанняў. Бягучы момант настойліва вымагае ад нас не абмінаць спрыяючых нам абставін... Рэвалюцыя ўздымнымі хвалямі коціцца на захад; прабівае муры ўзнятае загарожы і адгу-

каецца зычным рэхам з вуліц Варшавы, Берліна і далей... Нямецкае акупацыйнае войска пакідае нашы палі. Новыя абшары савецкіх краін далучаюцца да нована вольнага работніцка-сялянскага ладу... Наш рэвалюцыйны абавязак — кінуць туды свае сілы, узняць на вызваленай зямлі чырвоны сцяг і ажыццявіць пад ім векавыя імкненні працоўнага люду...»

Высокае натхненне кіравала думкамі і настроем Піліпа Дубейкі. Ён захапляўся прамоваю, але ў запале гутаркі не мінаў сваёю ўвагаю Лаўрэна Сявеню.

Піліп Дубейка бачыў, як той настарожана лавіў яго словы, якою ўмільнасцю гарэла ўхмылка на яго твары. Было ясна, што думкі прамовы пападаюць у цэль, што Лаўрэн Сявеня імі захапляецца...

Усе ўдзельнікі з'езда — заварожаны рэвалюцыйным пачуццём, але ён, Лаўрэн Сявеня, надзвычайна.

Яго воплескі Піліпу Дубейку, калі апошні скончыў прамову, і гукі «Няхай жыве рэвалюцыя» былі галаснейшымі ад іншых.

— Я прашу пару слоў!

Піліп Дубейка дазволіў Лаўрэну Сявеню слова, пакуль абраць прэзідыум і прыняць рэгламент.

І ніхто ні слова супярэчкі, як бы чулі, што Лаўрэн Сявеня павінен дапоўніць Піліпа Дубейку.

І было так — ён дапоўніў, бо сказаў:

«Ваш вокліч мы пачулі. Гэты вокліч — слушны, дачасны, вокліч непрыменны. Мы сядзелі ў далёкіх краях, захопленыя абаронаю рэвалюцыі, і адзнавалі адно: наша месца на іншым фронце, там, дзе рэвалюцыя стыкнулася з вялікшымі заданнямі. Я лічу, перад тым, як абраць прэзідыум з'езда, паслаць прывітанне ЦК партыі...»

Увесь склад з'езда заўважыў: у іх злітная думка, у іх адзіная мэта, і прыняў прапазіцыю Лаўрэна Сявені.

Многім кінулася ў вочы, што Піліп Дубейка нахіляе ў бок трэзвага, халаднаватага разважання, а Лаўрэн Сявеня — пыхае пачуццём. Праўда, словы аднакава палкія, сказы роўна натхнёныя — ды выразы твараў розныя, ды ўзрокі ваччу — не схожыя, але...

Лаўрэн Сявеня — пад электрычным токам, а Піліп Дубейка пры спакойным полымі...

Удваіх жа — кандыдаты на адказныя месцы.

Гэта рашэнне аформілася на з'ездзе далёка да яго канца і без думак аб выбарах...

Перад кожным дэлегатам з'езда ляжала павестка дня. Яна трымала ў сябе пытанні гэткага характару і значэння, што для іх вырашэння — першымі Піліп Дубейка і Лаўрэн Сявеня...

Ды і самі яны, толькі ўчора стрэўшыся, зараз адчувалі сябе блізкімі.

Ці ж на гэта многа трэба?

Далей, калі яны спаткуцца з рэчаісным жыццём, мажліва і будуць незгаворы, супярэчкі.

А пакуль?

Ці ж з'езд у баку ад жыцця? Хто скажа?

Ён сабраўся, менавіта, каб урэгуляваць жыццё ў наступным. З'езд — кіраўнічы жыцця... Гэта разумелі ўсе тыя, хто прымаў у ім удзел.

Разумелі Лаўрэн Сявеня і Піліп Дубейка. Як кіраваць — найбольшае пытанне. Дзе і калі, пры чым і на што чалавек можа аддаць больш свае ўвагі? Рэчаіснасць не мёртвая сіла, чалавецтва не нядбайны глядач...

Ужо ў першы дзень з'езду знаёмства Піліпа Дубейкі з Лаўрэнам Сявенням стала натыкацца на няроўнасць. Тое, што ляжала ў іх настроі і што мала кідалася ў вочы,— чым далей, тым адзначалася выразней.

Рэзалюцыя аб бягучым моманце выявіла значныя разыходжанні.

Піліп Дубейка прапанаваў «Наладзіць арганізаваную адпраўку партыйных сіл у вызваленыя мясцовасці шляхам сістэматычнага іх падбору».

Лаўрэн Сявеня адстайваў «неадкладна, усяму з'езду адправіцца на захад і ўшчаць працу, каб не ўпусціць часу».

Піліп Дубейка стаяў на тым, «каб узняць хадайніцтва перад адпаведнымі органамі наконт арганізацыі нацыянальных атрадаў чырвонае гвардыі...»

Лаўрэн Сявеня высоўваў патрэбнасць «залажыць асяродак нацыянальных атрадаў чырвонае гвардыі з удзельнікаў з'езду».

І следам іншым параграфы і пункты рэзалюцыі, здавалася непрыкметна, усё ж двaіліся перад сябрамі з'езду, калі за іх браліся Піліп Дубейка з Лаўрэнам Сявеняю.

Многія недаволіліся зацягам часу; другія баяліся незгаворнасці, як гэткае, іншыя ж, а іх была большая палова, уважліва слухалі абодвух супярэчнікаў, дадавалі свае ўвагі і, большасцю галасоў, якая заўсёды знойдзецца і якая знайшлася тут, прымалі пункт за пунктам пастанову.

Ніхто ж паасобку і ўсе ўцалку не перадумоўвалі аб Лаўрэну Сявені і Піліпу Дубейку, як аб кандыдатах у пасляз'ездаўскую ўстанову.

Самі яны менш другіх спыняліся на сваіх разыходжаннях. Наадварот, еднасць мэты і шчырасць думак абодвух засланялі гэта, збліжаючы таварышаў усё шчыльней ды цяплей.

К канцу з'езду іхняя таварыскасць дайшла да таго, што межавала з сяброўствам. Давер'е ж, выказанае ім з боку з'езду, яшчэ больш лучыла іх. Абодва, як сябры камітэту і першыя пасланцы ў вызваленыя месцы, атрымалі яны аднакавыя копіі пастаноў і роўныя па сіле ды значэнню ўпаўнаважанні.

«Не пазней месяца павінны сабрацца і ехаць».

Дысцыпліна і вымаганне рэвалюцыі.

Чаму ж не так?

Ні Лаўрэн Сявеня, ні Піліп Дубейка і не думалі адгаворвацца. Не былі б яны рэвалюцыянерамі, каб да гэтага дайшлі.

Наадварот —

Абое лічылі пашанаю да сябе з боку з'езда, які надаў ім гэткія паўнамоцтвы. «Як выхадцаў з краю, які ім вядомы з усіх бакоў, як свой край,— лічыць патрэбным абавязкова накіравацца ў распараджэнне №-га губернскага камітэта партыі».

Так, яны былі выхадцамі з вызваленае краіны. Так, іх цягнула туды на працу. Так, у гэтай працы яны будуць магчы яшчэ шчыльней, яшчэ бліжэй сысціся...

Таварышы адзнавалі гэта ясна і поўна. Рэвалюцыйная праца ў роднай краіне — што можа іх мацней паяднаць? Тым болей, што гэта праца не мае дробных інтарэсаў, і шурпатасцей не будзе ў іх узаемаадносінах. Мала што былі разыходжанні ў час прыняцця рэзалюцыі, мала што... Рэвалюцыя складаецца з дзвюх сіл: з сілы, якая кіруе людзьмі, і з сілы, якая людзьмі кіруецца. Увогуле, паяднаўшыся, абедзве гэтыя сілы поўны натхнення. Яны носяць у сабе вялікую моц

творчасці, прасвятлення наступных дзён вольнага жыцця.

Але і ў часы ўрачыстасці рэвалюцыйнага калыхання, паціху, абочынамі ўкрадаецца ў людское жыццё будзённая клапатніна. Толькі моцныя натуры не прыкмячаюць гэтага. Слабейшыя гартуюцца воляю ў полымі рэвалюцыйнага змагання...

Гатовыя для новае працы, ні Піліп Дубейка, ні Лаўрэн Сявеня не праведалі за час з'езду аб гэтых сваіх якасцях. Спатканне іх адбылося ў надзвычайных абставінах, калі няма месца сумненню, калі малыя непаразуменні хаваюцца пад вялікасцю агульных заданняў. Па з'ездзе, цікава, хто кожны з іх...

Таварышы пільна аддаліся выяўленню гэтага. Так ішло між імі, што ніводзін не злаваўся на другога, чуючы бесканечны шэраг пытанняў. Кожны лічыў абавязковым адкрыцца таварышу да канца.

Абое адчувалі моцнае сяброўства, якому асноўную падпору дало першае знаёмства.

Але хто лепш ад жыцця можа праверыць чалавека?

Піліп Дубейка і Лаўрэн Сявеня апелявалі да яго...

Піліп Дубейка быў жанаты, сямейны, жыў у невялічкай кватэры з трох пакояў. Папсаваныя правады вымушалі асвятляцца газаю. Непадрапараваныя трубы цэнтральнага ацяплення застаўлялі паліць неналаджаную печ. Паправіць усё гэта было не дорага — ён ведаў. Звяртаўся ў дамавы камітэт колькі разоў, але нічога не выходзіла. Старшыня камітэта паперш упіраўся. Тады Піліп Дубейка папікнуў яго ў бесстароннасці; той зазлаваўся і не хацеў гутарыць з Піліпам Дубейкаю наконт гэтага.

Аставалася больш рашуча ўзяцца за справу і вымусіць старшыню дамкома паддацца. Піліп Дубейка ведаў гэтае, але ніяк не мог сабрацца выклікаць канфлікт. Справы бягучага часу, важныя ды неадкладныя, перашкодзілі яму... Толькі выпадкова ён быў паддаўся настрою і ўжо сеў пісаць паперку ў жылішчны аддзел гарадскога савета, як раптам адумаўся і справу са скаргаю пакінуў. Колькі ўсё гэта адымае дарагога часу! Ды аб чым яно паследчыць? Аб здзірстве? Усякія ёсць людзі. Зложацца так абставіны, што возьмуць дакажуць тваю віну, а тады — правуйся...

Піліп Дубейка тупаў па халодным пакоі і паціраў рукі. Успамінаў момант заўзентасці і разважаў аб яго значнасці.

У гэты час да яго пастукаў Лаўрэн Сявеня.

— Уваходзьце.

І, угледзеўшы таварыша, дадаў:

— Мерзну, браток.

— Чаму? — запытаў Лаўрэн Сявеня.

— Трубы ад цэнтральнага ацяплення палопалі, а старшыня дамкома не хоча рапараваць.

— Старшыня дамкома?

— Так...

Лаўрэн Сявеня раптам зарагатаў і ўподбежкі пачаў хадзіць па пакоі.

Піліп Дубейка глядзеў на яго і дзівіўся.

— Старшыня дамкома?

— Так...

Смех змоўк. І Лаўрэн Сявеня мігам перамяніўся: прыняў сур'ёзны выгляд, сціснуў кулакі і ўпэўнена загутарыў:

— Млямля, браце мой! Даруй мне... Ты, сям'я мерзнеце, а дамком... не хоча рапараваць... Ты мусіш аддаваць свае сілы на ахвяру бюракратызму!.. а дамком — пасміхаецца... Ты мусіш адпраўляцца на фронт, а... Кінь! Скажу табе, што ён смяецца з твае слабасці... Будзеш маўчаць, на голаў сядзе ды яшчэ віноўным цябе зробіць... Павер... Ты павінен яму прыказаць...

— Чакай, чакай,— пераняў яго Піліп Дубейка,— ты, я бачу, занадта востры... Часамі другі не варты, каб з ім займацца... Да чаго мне вязацца яму ў вочы...

Ізноў Лаўрэн Сявеня адказаў гучным смехам. Супакоіўшыся дадаў:

— Хадзем удваіх да старшыні дамкома — я навучу цябе ахоўваць законныя патрабаванні... Добрая рэч! Сам едзеш бараніць рэвалюцыю, а сям'ю пакідаеш мерзнуць у халоднай кватэры... таму што дамком капрызуе... Ганьба, таварыш Піліп Дубейка.

— Адказваць было позна —

Лаўрэн Сявеня схаваўся за дзвярыма.

У тыдзень Піліп Дубейка праводзіў таварыша на цягнік: яму трэба было вярнуцца ў горад, з якога прыехаў на з'езд, каб ліквідаваць свае справы і перабірацца па назначэнню.

На вакзале трапіўся гэткі выпадак: Лаўрэн Сявеня ткнуўся да касы, каб купіць білет, але яму адказалі — усе білеты былі распісаны паміж рознымі ўстановамі. Скарбнік ваўкліва адказаў:

— Трэба было прыйсці не за дзесяць хвілін да адходу цягніка, а за дваццаць,— і зачыніў перад вачмі ў Лаўрэна Сявені акенца.

— Нахал! — выгукнуў Лаўрэн Сявеня і раптам знік з Піліпавага ваччу.

Грамада пасажыраў уталопіла вочы ў Піліпа Дубейку, накіроўваючы на яго сваё абурэнне за выгук Лаўрэна Сявені.

— Што гэта за ён? — злосна гукаў здаравенны мужчына з мяшкамі за плячыма.

— Адказны нейкі,— іранічна дадаў шляхотна адзеты таўсцяк...

Некая паня, што стаяла побач з ім, дыскантам падставіла сваю думку:

— Цяпер толькі і ездзяць гэтакія...

Піліпу Дубейку рабілася ніякавата.

«Няхай бы ён абмінуў гэты крымінал. Няўжо ён не можа стрымаць свайго пачуцця», падумаў ён і хацеў адысці ў бок, як у яго над вухам пачуўся голас Лаўрэна Сявені.

Апошні рашучым крокам накіроўваўся да касы, ведучы за сабою прадстаўніка чыгуначнага ДПУ.

— Ласне мы рабілі рэформу, а не рэвалюцыю? — казаў Лаўрэн Сявеня,— скідалі старых чыноўнікаў, а не мянялі старыя парадкі? Я назначаны на варту, а мне не даюць аружжа ўзяць... Так быць не павінна...

Каля касы, у якой хутка адчынілася акенца, а ў яго прасунулася галава ласкавага мяккага скарбніка, Лаўрэн Сявеня змоўк.

Піліп Дубейка глянуў да касы і адразу прымеціў вясёлы твар таварыша: Лаўрэн Сявеня трымаў у руках зялёны чыгуначны білет, а прадстаўнік ДПУ настаўнічым цвёрдым голасам чытаў скарбніку натацыю. Пасля ён выпрастаўся і ўзяў Лаўрэну Сявені пад казырок.

Тыя пасажыры, што толечкі абкружалі Піліпа Дубейку, каб выліць на ім сваю мяшчанскую крыўду, з паніклымі вачыма разышліся па кутках вакзальнага будынка.

Таварышы выйшлі на перон і накіравалі да цягніка.

— Трэба браць настойнасцю,— пахваліўся Лаўрэн Сявеня.

— Ці ж варта ўся справа столькае гаворкі?.. Ты пайшоў, а пасажыры згрудзіліся вакол мяне, грозячы і крычучы.

— Мяшочнікі! — перабіў Лаўрэн Сявеня.— Вось і бяда, што мы прыслухоўваемся да іх думак... Маўчы...— дык эшалона не адправіш на фронт... Трэба выпаліць агнём мяшочны настрой...

— З-за білета?

— Так, з-за білета... З-за абгарэўшае сярнічкі, калі хочаш ведаць...

Гэта не было сваркаю, нават было не рэзка прагаворана, але таварышы пасля гэтае рэплікі холадна разышліся.

Лаўрэн Сявеня людскі не развітаўся, а Пілiп Дубейка маўкліва адышоў ад цягніка.

Як вёў сябе Лаўрэн Сявеня, едучы дамоў, і што ён думаў аб таварышу — Пілiп Дубейка не дагадаўся. Але гэта асабліва яго цікавіла. Пiлiпу Дубейку зусім не хацелася, каб яго новы таварыш астаўся пры адмоўных аб ім думках. Было б вялікаю прыкрасцю дапусцiць, што Лаўрэн Сявеня на гэтым скончыць сваё знаёмства з ім. Было б гэта — раскідаліся б усе планы і намеры Пілiпа Дубейкі. У справу замяшаўся б камітэт, вынікла б многа пастаноў, пераплановак... Гэта, так сказаць, з тэхнічнага боку. А па сутнасці знаёмства, якое б пачуццё засталося на душы ў Пілiпа Дубейкі. Ён жа шчыра падблізіўся да Лаўрэна Сявені, адкрыў яму многа сакрэтных думак, прызнаўся ў шэрагу асабовых планаў. А ён возьме і скончыць адносіны на тым, што было...

Пілiп Дубейка ніяк не хацеў пагадзіцца, што Лаўрэн Сявеня не выпаўніць пастаноў з'езду. Усё ж такі адказны ён таварыш, а партыйная справа — не гульня. Не хацеў пагадзіцца, таму шкадаваў пабудаваных ім планаў працы, якія ён намеціў правесці ў вызваленых месцах. Аднаму ўзяцца за іх выкананне — не хапіла б сілы, дый яны былі разлічаны на дваіх. Знайсці іншага чалавека — не гэтак лёгка. Лаўрэн Сявеня, як

ніхто, падыходзіў да вызначанай працы... Няўжо ён астанецца там, адкуль прыехаў на з'езд?

Чалавек — загадка. Здаецца, рэвалюцыйнае натхненне злучае цэлыя арміі людзей пад тым ці іншым лозунгам, а між тым, у кожнае адзінкі ёсць асабовы падыход да агульнае справы. Свае дробныя думкі, як чарвякі, точаць роўнае палатно грамадскасці. Падняты сцяг гойдаецца на вятры, убіраючы ўздымныя гушчы працаўнікоў. І вось — аднаму здаецца, што сцяг невысока падняты; другі хацеў бы яго павярнуць крыху ўлева; трэці думаў бы нахіліць убок, чацвёртаму малое яго палотнішча; пятаму...

Гэткія думкі віў у Піліпавай галаве Лаўрэн Сявеня. Які ён цудны! Навошта столькі пачуцця там, дзе трэба розум і паважнасць... Ласне можна сваім пэнтам знішчыць наслаёнае вякамі... Трэба ж астудзіцца і наглядзець, куды і што лепей пакіраваць і як пакіраваць... Часта добра рабіць знаскоку, раптоўна, праводзіць словы гучным воклічам ці прыстукам нагі, але заўсёды...

Лаўрэн Сявеня пакідаў у Піліпа Дубейкі ўражанне прыемнага чалавека і адважнага таварыша. Ці прыгадзіцца ён да будзённае працы, упартае і сістэматычнае? Або ён плён бурлівых дзён і скончыць сябе, калі скончыцца паласа ўздымаў?

У кожным разе Піліп Дубейка адчуў адну недастачу, якая бракавала іх таварыскасці — гэта палкасць Лаўрэна Сявені. Вось і цяпер: ён з трэскам, з гоманам прайшоў вакзалам да цягніка, сеў і як быццам бы заняўважыў яго, Піліпа Дубейку. Гэткая рыса — апаслівая адзнака. Піліп Дубейка ўжо сустракаў падобных людзей, не ўдавалася з імі доўга ладзіць, не ішла з імі праца...

Але... тыя людзі ўжо пры першым спатканні рабілі на яго дрэннае ўражанне, а Лаўрэн Сявеня — нельга сказаць. Яго эгаізм асабовага гатунку; ён карыстаецца ім не выключна для свае выгады, для самаабароны... Па думках і разважаннях Піліпа Дубейкі Лаўрэн Сявеня меў эгаізм рэвалюцыянера, ваякі, каторы павінен быць уласцівы кожнаму камуністу. Так, павінен быць уласцівы, але не гэтак выпуклены, як у Лаўрэна Сявені...

Можа за гэтым у Піліпа Дубейкі зайграла свая гор-

дасць, калі ён падумаў аб спатканні з Лаўрэнам Сявеняю.

Збіраючыся ў камандзіроўку, Лаўрэн Сявеня думаў аб спатканні з Піліпам Дубейкам. Ён не быў упэўнены, што праца ў вызваленых мясцох працягнецца доўга. За гэтым ён і не рабіў поўнае ліквідацыі свайго «гаспадарства». Кватэру з двух пакояў Лаўрэн Сявеня запісаў на сябе і вывесіў адпаведны ордэр. Павятовы камітэт учуў доказы Лаўрэна Сявені і не мог не згадзіцца з імі. Тым больш што Лаўрэн Сявеня меў багатыя заслугі перад рэвалюцыяй... Павятовы камітэт помніў, як умела і спрытна ён справіўся з паўстаннем белагвардзейскага генерала Брушкова. Улічаў камітэт і тыя абавязкі, якія ўзложаны былі на Лаўрэна Сявеню з'ездам нацыянальных секцый. Чаму ж не заставіць яму забяспечаную кватэру. Крызіс ад гэтага не пабольшыцца. А Лаўрэн Сявеня яшчэ магчыма прыгадзіцца камітэту. Апошні добра ведаў, з кім мае справу. Лаўрэн Сявеня быў у яго на воку і лічыўся ідэйным таварышам. Лёгкая яго гарачнасць ды чуласць прыпісваліся «пераходнаму часу». Увогуле гэта не змяншала важкасці Лаўрэнавага «я»... І аб кватэры не магло быць адмоўных пастаноў; камітэт дазволіў Лаўрэну Сявені ўпусціць часова ў сваю кватэру любога яму чалавека... Лаўрэн Сявеня гэтак і зрабіў: даверыў кватэру земляку Дзям'яну Вочапку. Яму ж даручыў ён ахоўваць і невялікія свае манаткі. На ўсякі выпадак...

Лаўрэн Сявеня разбіраўся ў складанасці палітычнае сітуацыі і не быў спакоен за вызваленыя мясцовасці. Таксама з агаворкаю верыў ён і ў пагоджанасць між сабою і Піліпам Дубейкаю. З першага спаткання гэты таварыш стаў вельмі даспадобы Лаўрэну Сявені. Ён угледзеў у Піліпе Дубейку рэдкую знаходку і пільна да яго прыглядаўся, уважліва пазнаваў яго людскія якасці і таварыскае пачуццё... Многа чаго добрага з погляду Лаўрэна Сявені было ўжыўна Піліпу Дубейку. Разважнасць, глыбокі розум, дабрата, таварыская гасціннасць...

Але...

Лаўрэну Сявені не спадабалася Піліпава занадта ўжо чулая асцярожлівасць. Ён не мог пагадзіцца з тым, каб рэвалюцыянер выпіхваў напаверх сваё раз-

важанне. Пры гэтым у такі момант, калі падзеі не прымалі падобнай якасці ад чалавека.

Складаючы рэчы і думаючы аб Піліпе Дубейку, ён не мог разагнаць шарага адцення ў сваіх думках аб ім. Прыпомніў пакорлівую постаць Піліпа Дубейкі ў халоднай кватэры, яго адмоўны погляд на ўзняты на станцыі гоман... Ласне не сведчыла гэта аб недарэчнай падатлівасці з яго боку? Ці не казала Піліпава мяккасць аб спадчыне інтэлігенцкай сентыментальнасці?

Толькі ў першы момант сутычкі з Піліпам Дубейкаю, Лаўрэн Сявеня падмеціў у ім сур'ёзны выгляд ваччу — адзнаку рашучасці. Мо гэта і было пераважным момантам у яго разам бліснуўшым палкім пачуцці да Піліпа Дубейкі. Гэта, напэўна гэта, акрэсліла іх першую таварыскасць. А далей...

Вось зойдзе Лаўрэн Сявеня ў камітэт нацыянальных секцый, напаткае там Піліпа Дубейку і нязнацьме, што з ім гутарыць. А трэба ж абгаварыць цэлы план, абмеркаваць усе яго дробязі, вылічыць час і абдумаць характар працы. Вынікне цэлы шэраг пытанняў, набяжыць процьма супярэчнасцей і тады...

Вядома, уваччу Лаўрэна Сявені Піліп Дубейка не настолькі ўжо ўмаляўся, каб з яго павінна было браць прыклад для тыповага неўгаворы. Не, яго асцярожлівасць штучна павялічвалася Лаўрэнам Сявеняю... Можна баяцца, што на вывады больш усяго ўплывала яго гарачлівасць у час спаткання з скарбнікам на вакзале... Акругляць думку і канчаткова на ёй спыняцца трэба тады, калі яна складаецца пры поўным спакою сэрца...

Гэту ісціну Лаўрэн Сявеня стараўся прыняць, хоць яна і не адпавядала яго пачуццю. Наступная стрэча праверыць першыя вывады — тады прыйдзецца даваць заключную думку. А пакуль...

Лаўрэн Сявеня ў лёгкай раздвойнасці паглядаў сеў на цягнік, каб ехаць на спатканне з Піліпам Дубейкаю...

Піліп Дубейка выйшаў з камітэта секцый, куды заходзіў за праязнымі, і пакіраваў направа. На тратуары, куды ён меўся ісці, гудзеў людскі натоўп. Набліжалася чацвёртая гадзіна, і больш спрытныя служачыя спяшаліся дадому. З мяшкамі за плячыма, з клункамі на руках, з саначкамі яны ўтваралі цікавы абраз, да-

памінаючы раз'юшаны бег выгнаннікаў ці дабравольнае перасяленне. Чамусьці на гэты раз асабліва востра кінулася гэта Піліпу Дубейку ў вочы. Ён зацікавіўся, сышоў з тратуара і паглядзеў усцяж вуліцы Леніна па адзін бок, а пасля...

Па другі бок толькі намерыўся кінуць поглядам, як у вачах вырасла постаць Лаўрэна Сявені. Прамігнуў і пацягнуў Піліпаву цікавасць. «Няўжо ён мяне прыкмеціў?» — мігнула думка ў Піліпа Дубейкі. «А можа не»,— усумніўся ён. Але тут жа рушыў наперад, не выпускаючы таварыша з сваіх вачэй.

А Лаўрэн Сявеня сапраўды ўгледзеў Піліпа Дубейку і таксама не рашыў яго зачапіць. Тое, што Піліп Дубейка не пакіраваў да яго, а рушыў ісці наперад, было прычынаю гэтаму.

І абое, амаль не на роўнай лініі, помеж, ішлі ўсцяж вуліцы двума тратуарамі. Час ад часу касілі вачмі, каб не перагнаць адзін другога або не астацца. На перагоне першага квартала абое зацішылі хаду і быццам бы намерыліся сысціся. Але адначасна адвярнуліся ў бакі і пайшлі далей.

Піліпу Дубейку, як і Лаўрэну Сявені, зусім не трэба было столькі ісці, пустыя магазіны не вабілі ніводнага — усё ж яны падаваліся наперад, туды, к пляцу Паўстання. Кожным кіравала выпадковае пачуццё незразумелае гордасці і адпіхала аднаго ад другога. За гэта адплачываліся ногі, на гэтым расло прадубяжджэнне, развінала ся адчужанасць, але ніводзін не мог заўважыць іх шкоднасці настолькі, каб перасіліць самога сябе. Піліп Дубейка памыкаўся хоць знакам, кіўком рукі ці іншым пазваць Лаўрэна Сявеню. Але раздумоўваў і баяўся, каб гэта не засталося ў паветры. Возьме Лаўрэн Сявеня, палічыць за крыўду і пойдзе далей. Каб узяў ды падышоў да яго — тады...

Тады б значыла, што Піліп Дубейка зламаў свой прынцып. Чаму прынцып — ён і сам губіўся вытлумачыць, але ўжо даходзіла да гэтай сур'ёзнай штукі. З пункту гледжання Піліпа Дубейкі было няйначай так. А віною — Лаўрэн Сявеня. Хай бы ён падышоў, калі ўгледзеў першым таварыша. А першым напэўна запрыкмеціў не ён Лаўрэна Сявеню, а той яго... Напэўна!.. Для Піліпа Дубейкі было так, а...

Лаўрэн Сявеня не згаджаўся з яго вывадамі і стаяў на супрацьлежным пункце погляду: яго наперад пры-

меціў Піліп Дубейка, але з гордасці не захацеў падысці. Гэты манеўр таварыша Лаўрэн Сявеня спачатку лічыў асноўным момантам у акрэсленні свайго пачуцця да Піліпа Дубейкі. Лаўрэна Сявеню абражала, што на яго глядзяць з узвышша; ён не лічыў сябе вартым гэтага і ішоў на козыр...

Хоць разам з гэтым Лаўрэну Сявені не прыходзіла ў голаў зрабіць абражаючых для Піліпа Дубейкі вывадаў. Уперціся лбом у эгаізм і пастанавіць за абавязак, каб першым яго зачапіў Піліп Дубейка, Лаўрэн Сявеня не хацеў і не меў жаднага намеру... Больш таго, Лаўрэн Сявеня мог бы сам забраць ініцыятыву, каб гэта ён ведаў, што яна не кончыцца ўпустую. А то...

Яму здавалася, што Піліп Дубейка перайшоў усякую мяжу і глядзіць на яго вачыма ворага. Нават здавалася Лаўрэну Сявені — ён наогул шмат радзей на яго пазірае. Можа зусім не таму, што чакае першага звароту да сябе з яго, Лаўрэна Сявені, боку, а — што яму трэба зараз сюдэю ісці.

Думаючы гэта, Лаўрэн Сявеня зачасціў азірацца па другі бок вуліцы і неадхільна сачыць за таварышам. І чым больш ды часцей азіраўся на Піліпа Дубейку, тым каразлівей рабілася нядбайнасць да яго з боку таварыша.

Тады сталі закрадацца зусім іншыя думкі і іншыя пачуцці... Нават карцела самому павярнуць назад і гэтым даць повад да пярэрвы ўсякага знаёмства...

Але гэта азначала б не просты гонар, а яўную недалікатнасць... «Перад тым, як што зрабіць, папярш трэба ўзважыць, ці варта гэта рабіць»,— успомніў дачасна Лаўрэн Сявеня.

І, прымха,— як бы што яму падказала,— ён пераменіў думку ў адносінах да таварыша.

«Піліп Дубейка не здаецца, цвёрда стаіць на сваім, ці ж гэта дрэнная якасць? Чаму лічыць гэта за ўпартасць, а не за тую ж непадатлівасць, якою ён сам хваліўся перад Піліпам Дубейкаю?»

Так, так...

Каб яны не падблізіліся да пляцу, праз які ніводнаму не выпадала дый не трэ было ісці, Лаўрэн Сявеня бяздумна накіраваў бы першым да Піліпа Дубейкі. Але гэтаму рашэнню Лаўрэна Сявені папярашкодзіў пляц. І адзін і другі ні то міжвольна, ні то па супаў-

шаму жаданню сышлі з тратуараў і павярнулі на спатканне. На адгоне каля пяці крокаў абое ў адзін час разнялі гадзіну маўчаўшыя губы і радасна пера-гукнуліся:

— Пiлiп...

— Лаўрэн...

— Ты куды?

— А куды ты?

Павіталіся з пачуццём, якое бывае пры раптоўнай, знянацкай стрэчы, пацiснулi ад шчырасцi адзiн дру-гому рукі, усміхнуліся добраю ўхмылкаю. Ад добрага настрою не хацелі кратаць ніводнага пытання, якое б гэты настрой магло папсаваць. І ціха, побач, хвілін дзесяць прайшлі сярэдзінаю вуліцы назад. Пасля сы-шлі на тратуар, ужо апусцеўшы ад гушчы служачых, і ўшчалі гутарку.

— А ты, аднак, настойны... я не думаў гэтага,— сказаў Лаўрэн Сявеня.

— Немаведама ў каго гэта пачуццё пераважвае...— не згадзіўся Пiлiп Дубейка.

— Я не ўпікаю, а задаволены, калі хочаш ведаць...

— Задаволены?..

— Не смяюся... Спярша было ніякавата, а пасля перамяніў думкі...

— Так што не заўсёды можна разлічаць на падат-лівасць?..

— Гэта добра... Я паважаю чалавека, які мае па-вагу да сябе... Наша становішча гэтага патрабуе... Рэ-валюцыянер, партыец...

— А то ж я не ведаю? — перабіў таварыш Піліп Дубейка.— Толькі не заўсёды і ўсюды гэта патрэбна. Не можна глядзець мінаю льва на рахманую авечку...

— Не забавіш, брат, песняю шчыгла галоднага ката, таксама...

— Не гарні ў бок драпежных тэм... Тут справа...

— Пачакай...— Лаўрэн Сявеня тузнуў Піліпа Ду-бейку за руку,— а вось табе прыклад. Я ехаў сюды і бачыў: у вагон лезе чырвонаармеец, ужо ступіў на першую сходку і хапіўся рукамі за парэнчы; а два здаравенных мужланы стаяць на пляцоўцы і крычаць: занята, занята... злазь!.. Калі чырвонаармеец іх крыку не паслухаў, яны тут жа размахнуліся і адначасна апусцілі на яго замерзлыя рукі пару важкіх кулакоў.

Чырвонаармеец кулём паляцеў са сходкі... А цягнік крануў пад вясёлы смех абармотаў...

— Па-твойму, скажам, трэба было лезці чырвонаармейцу з штыком напагатове? Я сам за гэта, але...

— Але — пахне драпежніцтвам?..

— Кіньма, не згаворымся...

Абое змаўчалі, каб праз некалькі часу пачаць гутарку на іншую тэму...

На гэты раз тэма была аб працы ў вызваленых месцах. Як і што да яе падысці, з якога канца пачаць... Адцягненасць, што дыктавалася няведаннем абставін і ўмоў, улівала многа лішніх думак і гадак.

Гэта займала іх два дні пасля спаткання, і займала зараз, у цягніку, па дарозе да месца назначэння.

І Піліп Дубейка, і Лаўрэн Сявеня і далёкага адгону разглядалі ўсе рэчы ў водсвеце вакольваючых з'яў. Тое, што аставалася ў іх ад мінулага да ваеннага знаёмства з краем, мала выясняла сучаснасць. Абое жылі ў розных умовах, абое мелі іншы падыход да сацыяльнага развіцця грамадскасці. Тут жа сышліся на адных ідэях, на адной тактыцы, і ехалі роўнымі чынамі і роўнымі заданнямі. І той і другі верылі ў адзін ідэал, і той і другі імкнуліся да адзінае мэты, але...

Малое і зусім нязначнае нешта заблыталася ў роўнасці іх імкненняў і хвальбавала, шурпаціла гладкую паверхню іх думак.

Ужо канчаўся другі тыдзень ад іх знаёмства. Шэраг выпадкаў выспрабоўваў сталасць і моц іх поглядаў.

Аставаліся аднакія вынікі. У хлопцаў былі разыходжанні. Лаўрэн Сявеня два дні да ад'езду, як камар над балотам, гудзеў над вухам таварыша аб непарушнасці сваіх метадаў у падыходзе да рэчаў і з'яў. Ён угаварваў Піліпа Дубейку кінуць дзявочую сарамлівасць, адкасніцца ад інтэлігенцкае асцярожлівасці і стаць прамэтэем, што здымае агонь з неба. Там, куды яны прыедуць, павінна ўзяць самыя адказныя назначэнні і стаць у асяродку краёвых падзей... Яны не смеюць адхіляць тых заданняў, якімі надзяляе рэвалюцыя смелых ваяк...

Піліп Дубейка аднімаў яго руку, што цягнулася к небу, і студзіў яго пачуцці, каторыя сягалі да твару Гарыбальдзі. У яго разуменні не ўкладаліся гарачыя

мары побач з халоднаю рэчаіснасцю. Ён разумеў, як ідзе развіццё рэвалюцыі і якія вымаганні яно ставіць для свае рэгуляцыі. І адгэтуль першым падаваў знак да спынкі размоў, якім не было канца з боку Лаўрэна Сявені...

— Слухай, Лаўрэн,— казаў Пілiп Дубейка таварышу, мінаючы чарговую станцыю,— ты, як той цягнік — разыдзецца і няма спыну... пакуль машыніст не паверне ручкі...

Лаўрэн Сявеня не аставаўся ў даўгу і плаціў таварышу сваёю манетаю і па свайму курсу. Ён тым упарцей не хацеў падавацца там, дзе гэта было найбольш патрэбна. І калі безнадзейным выглядала поўная перамога, то стараўся не астацца без усякае. Але нізашто не мог ён пагадзіцца на тым, каб зламаць свой погляд, далёка не вольны ад уплыву пачуцця.

У даным выпадку Лаўрэн Сявеня не кінуў гутаркі, пакуль не ўзяў ад Піліпа Дубейкі слова, што ён будзе гутарыць ■ губернскім камітэтам ад імя абодвух.

Абяцанка таварыша даверыць Лаўрэну Сявені свой лёс — была для яго тою ўцехаю, якая не толькі праходзіць халадком па разгарачанай постаці, а і часта выклікае чыннасць, прад якою нельга не схінуцца...

— Мы, значыцца, едзем у сёмую армію, у трэцюю дывізію? — ставіў апошняе пытанне Лаўрэн Сявеня.

Сакратар губкома ціхім голасам пацвердзіў:

— Так, у сёмую армію, у трэцюю дывізію...

Лаўрэн Сявеня забраў ад сакратара камандзіроўку і ўзяў пад казырок. Тое самае прарабіў і Піліп Дубейка. Пасля абое выйшлі з яго кабінета.

— Ну, як табе падабаюцца вынікі ад нашае гутаркі? — з востраю цікавасцю запытаў Лаўрэн Сявеня ў таварыша.

— Вынікі? Звычайныя,— холадна адказаў Піліп Дубейка і да таго засмуціў Лаўрэна Сявеню, што той ажно жахнуўся.

— Чаму?..

— Таварышы маюць шаблонны падыход там, дзе трэба асабова разбірацца...

— Ты нездаволены назначэннем?

— Я? — Нічога падобнага... Я лічу, што мне хопіць работы ўсюды, калі я толькі шчыра працавацьму...

Лаўрэн Сявеня колькі часу памаўчаў, раздумоўваючы, ці варта гадзіцца з камітэтам, пасля сказаў:

— А мы сумеем перакамбінаваць... Там будзе відаць...

Але гэта не было сказана па адрасу; Піліп Дубейка паматаў галавою і заўважыў:

— Таварыш Лаўрэн, ці ж рэвалюцыя можа гадзіцца з капрызамі асобнага чалавека... Ты думаеш мяне крыўдзіць наша назначэнне? Нікольні... я сказаў паміж іншым... Жыццё заблытана ў мільёны вузялкоў і кожны павінен развязвацца іншым спосабам. Наша знаёмства паказала, што цяжка знайсці двум асобам адзіны крытэрый...

— Што датыча нас, то эмоцыя гэтага яшчэ не даказала... Аднак, скажы мне, я бачу, што табе камісарства не падабаецца? Калі хочаш — вернемся і перарашым... Думаеш, сакратар адмовіцца?..

— Кінь... Мне ні каліва не ідзе аб сабе...

Яны яшчэ доўгі час гутарылі на гэту тэму, адчуваючы ў сваёй гутарцы якуюсьці адчужанасць. Але ў скутку гутарка не прывяла да адмоўнага.

Скончыўшы яе, абое згодна накіравалі сваю ўвагу на далейшае, на тую працу, што вось-вось да іх набліжалася. Абставіны месца, настрой арміі, людзі, з якімі ў першую чаргу давядзецца мець справу, і, галоўнае, забяспека ў ахове граніцы,— гэты знізак пытанняў заняў іх думкі. У абгаворы іх і Лаўрэн Сявеня, і Піліп Дубейка стараліся згладжваць рубы і знаходзіць пункты сутычкі. Набліжэнне жывое чыннасці вымагала ад іх цвёрдае, сталае падрыхтаванасці.

І яны спакойна ад'ехалі к месцу.

У халодным вагоне, які быў другога класа, а зараз прадстаўляў сабою невыразны выгляд разбуранае каморкі, таварышы абменьваліся першымі вынікамі працы.

Адзеўшыся ў кажушкі, абое ціснуліся ад холаду і пазяхалі. Разложаная на каленях у Лаўрэна Сявені мапа спаўзла на падлогу. Ніводнаму не хацелася сагнуцца, каб падняць і праверыць нядаўнія выкладкі. Кожны быў упэўнены ў іх адпаведнасці.

— А ў мяне трэба многае што перастроіць...— выказаў Піліп Дубейка.

— Вось дзе павінна быць цвёрдасць...— падкрэсліў Лаўрэн Сявеня.

Выказаўшы гэта, таварышы зрабілі перапынак і крыху падумалі.

— Не гэтак важна заваяваць, як цяжка ўтрымаць заваяванае...— пачаў першым Лаўрэн Сявеня.

— Тут адвага адыгрывае не першую ролю...— уставіў Піліп Дубейка.

— Так... Але заўтра мы мусім браць адвагаю... І толькі пахіліцца на развагу, як згінем, не агледзеўшыся... Польскія шайкі рыхтуюцца...

— Адвага патрабуе спакойнае развагі... А рэвалюцыі абедзве гэтыя якасці — вярнейшая ахвяра...

— Я думаю, што ў кожны адказны момант мы зможам зліць сваё «я» ў адно цэлае...

— Тым больш што тут няроўныя тратуары вуліцы, дзе можна ісці вярсту і не сысціся... Так... Слухай!..

Іх гутарку перабіў зык трубы.

Таварышы насторажыліся...

— Ці не трывогу падаюць? — запытаў Піліп Дубейка.

— Так, трывогу,— падмацаваў Лаўрэн Сявеня.

Абое машынальна падняліся з лаўкі і прылажылі правыя рукі да рамнёў на паясе.

Рамні зарыпелі, раздаючыся ад напору, з'яднанага ў абоіх, у абоіх роўна кіпучага пачуцця ваяк, гатовых жыццём заплаціць за рэвалюцыю...

І тут жа цвёрдымі ўпэўненымі крокамі рушылі таварышы к выйсцю з вагона.

Лаўрэн Сявеня побач Піліпа Дубейкі.

Піліп Дубейка побач Лаўрэна Сявені...

За вагонам пачынаўся новы этап у іх знаёмстве.

1927

## СВАЕ БЛІНЦЫ

### I

— Паглядзеце вось, таварыш Платовіч,— паказваючы на пусты будынак з пашарпанаю страхою, з выламанымі дзвярмі і пабітымі вокнамі, казаў Вінцусь

Шавель.— З гэтага будынка можна зрабіць вялікую рэч... Давайце пройдзем усярэдзіну...

— Нічога, нічога, пачакайце хвілінку,— адказваўся Платовіч, разглядаючы на будынак, на мясцовасць вакола яго і раз-адразу кідаючы позіркі на чыгунку здалёк, на доўгую дугу прыніклых хатак мястэчка.

Чаго і што яго зацягнуў сюды Вінцусь Шавель, ён не браў сабе ў глузд. Прычапіўся, прылез, і Платовіч мусіў пайсці. Навошта крыўдзіць таварыша? Такі-та ж ён так моцна спадзяваўся на яго ўвагу, як на ўвагу адказнага працаўніка. Ці ж трэба даваць повад думаць і заключаць, што ў адказных таварышаў столькі гонару, ажно яны і гутарыць не хочуць з нізавымі работнікамі... Дзеля гэтага Платовіч кінуў пільную працу па абследаванню актыўнасці сябраў сельсавета і пайшоў з Вінцусем Шавелем. Думаў, калі той казаў, што сапраўды Вінцусь Шавель песціць паважны праект, сур'ёзны... А выходзіць... Правінцыя, абмяжованасць ці проста ўшолап якісь апанаваў хлопца.

Платовіч паглядзеў Вінцусю Шавелю ў твар, акінуў вачмі ўсю яго постаць і заключыў: «З выгляду ж сур'ёзны чалавек... Глыбокі зірк вачэй, як быццам бы разумная мова... А ўшалопаў сабе з гэтым млінам...»

— Чаму ты думаеш, што гэта патрэбная рэч? — запытаў ён Вінцуся Шавеля.— Гэта ж зносак, руіна, і покуль капейку карысці дастанеш — сотню рублёў страты мецьмеш. Або махаўцы не могуць абысціся без гэтага? Станцыю электрычную паставіць ці каменны мост праз Іклу перакінуць — то зразумела... А млін вунь жа стаіць і круціцца...

Платовіч яхідна ўсміхнуўся і дастаў з кішэні цыгарку. Запаліў, рызыкоўна сплюнуў і азірнуўся на мястэчка.

Вінцусь Шавель спрытна забег з другога боку і шчыра пачаў яго ўгаварваць:

— Вы даруйце мне, таварыш Платовіч, але я з вамі не згодны: вы ўсё мераеце на свой капыл, на вакружны... Мне здаецца, што вы мыліцеся... Нам трэба паціху, з меншага пачынаць... Можа, вам невядома наша становішча, а мы — дык штодня з ім стыкаемся... Селянін патрабуе таннага памолу... Гэта асноўнае. Ён некалі плаціў за памол з пуда жыта пяць капеек, а зараз, вось гэтаму нэпману,— Вінцусь Шавель паказаў пальцам улева, дзе высіўся двухпавярховы буды-

нак млiна Хаiма Крокеса,— шэсць фунтаў збожжа... Хлеб — блiжэйшая справа... Наш мужык практык, ды...

— Кiнь фiласофiю... Практык! Або ж я не ведаю... Дзякуй богу, гадоў тры ў сельсаветах працаваў... Нашаму селянiну што нi зрабi — ён перш не здаволiцца, а пасля будзе дзякаваць. Выбрукуй вулiцу, папраў мост, палажы тратуары...

— Пабудуй млiн,— дадаў Вiнцусь Шавель...

— Да ўлажы соцень пяць рублёў, а праз дзень i стане...

— Вы не верыце майму слову, маёй шчырасцi... Калi ўжо гэтак казаць, то давайце падыдзем з iншага боку... Так... Вы рахуеце пяцьсот рублёў... а калi пакiнуць без руху, на расхоп, дык колькi трацiм — тысячу рублёў... На гэта не глядзiце... Вось...— Вiнцусь Шавель хутка падбег да ледва прытуленых к шулу варот i, хапiўшыся за адну iх фортку, так мерсканўў, што яна мiгам апынулася на зямлi.

— Папрашу зазiрнуць усярэдзiну i высянiць, што тутака маецца i што яшчэ трэба дадаць, каб млiн пайшоў... Калi ласка, таварыш Платовiч, тутака нядоўга, раз-раз...

Платовiчу нельга было адмовiцца: Вiнцусь Шавель захапiў яго сваiм манеўрам знянацку — трэба было паслухаць, i ён паважна зайшоў у сярэдзiну будынка. Бруд, непарадак i сотнi дзюрак у сценах ды даху будынка павеялi жахам. Аднак Платовiч мог праканацца сваiмi вачыма, што ў будынку валялася шмат млiнарскага начыння. Асыпаны на корх пылам ды кастрыцаю, стаяў мiж вялiзных драўляных кол яшчэ не бязгодны рухавiк; на сваiх месцах у чынным парадку тырчэлi пытлi, грамадзiўся непарушны пастаў з двух камянёў. Пры сцяне стаяла яшчэ некалькi негатовых жорнаў. На зямлi валялiся дошкi, драбiны, клiны, жалеза, сiты.

Вiнцусь Шавель, як утрапёны, насiўся па будынку, натыркаючыся на рэчы, i гукаў да Платовiча:

— А гэта што! А вось гэта! А вуньдзека! А тамака... Усё дабро, усе дастаткi людскiя... Грэх, каб гiнулi так, сорам... Мы багаты на вялiкiя замахi, на планы, на гутаркi ды абгаворы iх, а тутака вось... Сотня-другая рублёў — i млiн, пане мой, як лялька...

Платовіч выйшаў на двор і пазваў Вінцуся Шавеля:

— Давай пойдзем. Досыць...

Вінцусь Шавель выйшаў з будынка, па-гаспадарску, акуратна прыставіў тое ж падоб'е дзвярэй, палажыў пад хісткую фортку камень і падышоў да Платовіча.

— Ну, вашы заключэнні?.. Ага... яшчэ на адну хвілінку, каб даць вам поўнае ўражанне... Зойдзем з таго боку... Там...

— Ды я ўжо ясна выяўляю сабе.

Вінцусь Шавель як быццам не чуў, што выказаў Платовіч, і, хапіўшы яго за рукаў, рушыў з месца.

— Я думаю, што гэты лакаматыў пацягне і пілку і сукнавалку... Думаеце, не збытак цярпімо, калі сялянства на пілоўку дошкі траціць гэтулькі грошы... Не мае дзе сукнаываліць... Ды рабочыя рукі... Нябось, наткнуліся ўжо на беспрацоўных за гэты час... Бачылі, што ў нас робіцца, а прыстаканіць хоць бы аднаго чалавека — няма дзе... Глядзеце... І для лесапілкі ўсё гатова. Мы вокруг абслужым, калі справу добра паставіць...

Платовіч слухаў Вінцуся Шавеля моўчкі. Калі ж той кінуў тлумачыць, адчуваючы безнадзейнасць пераканаць яго, праказаў да Вінцуся Шавеля:

— Добра. Пастановім на ячэйцы. Я скажу сакратару.

Вінцусь Шавель нічога не адказаў.

## II

На пасяджэнні ячэйкі пытанне аб мліне стаяла апошнім. Вінцусь Шавель, калі галасавалі парадак павесткі, паспрабаваў перанесці сваё пытанне другім па чарзе, але яго прапазіцыю адхілілі. Сакратар ячэйкі колка ўсміхнуўся, калі Вінцусь Шавель выказаў нездавальненне галасаваннем: ён лічыў недарэчным з боку Вінцуся Шавеля выпукляць перад адказным працаўніком з акругі гэткае малое, нікчэмнае пытанне. Ён нават укорліва кінуў Вінцусю Шавелю сказ: «Ну, чаму ты заўсёды, дзе трэба і дзе не трэба, са сваім млінам». Але Вінцусь Шавель не патураў на гэта. Ён улічаў абставіны і карыстаўся выпадкам, каб яшчэ раз, перад поўным, пашыраным, нават урачыстым сходам, выка-

заць сваю думку, давесці яе да прызнання і пасля — да ажыццяўлення. З-за гэтага даўгіх тры гадзіны, якія пайшлі на абгавор папярэдніх пытанняў, Вінцусь Шавель збіраў словы і факты к прадстаячаму выступленню. Багаты, выпуклы даклад Платовіча аб міжнародным становішчы, выбары ў Саветы — абміналі яго ўвагу, не кранаючы пачуцця. План Дауэса, рэпарацыі, вайна ў Марока, здарэнні ў Кітаі, імёны, шэраг імён! Штрэземан, Чэмберлен, Мусаліні, Чжан Цзо-лін, як іскры феерверку, мітусіліся ў Вінцусевым прадстаўленні ў адным клубку з лакамабілем, з шасцярнямі, пытлямі, жорнамі. Падзеі, якімі шаламаніў прагных слухачоў Платовіч, былі блядымі, далёкімі і заблытанымі для Вінцуся Шавеля. Яны губілі ў яго ваччу ўвесь сэнс без сувязі з яго планамі.

Вінцуся Шавеля дзівіла адно, чаму Платовіч гэтак горача кажа сваю прамову аб цэлым знізку разнастайных падзей, а аб тым, што яму цікавей усяго, нічога не хоча казаць. І яму было завідна: чаму ён, Вінцусь Шавель, не можа так складна і гладка казаць? Была б ужыўна яму гэта якасць, то выгарала б справа. Ён сабраў усе свае здольнасці і накіраваў іх у адзін бок: падгатовіць дасканалае выступленне — даць бой. Разадразу бліскала надзея, што, бадай, сумее гэта зрабіць.

Але, калі зусім раптоўна для Вінцуся Шавеля паднялося пытанне аб мліне, ён мог знайсціся толькі на простыя, шэрыя сказы, якімі атакаваў надоечы Платовіча.

— Мы любім казаць аб далёкім і забываем блізкае... Я колькі разоў набіваўся ячэйцы з сваімі планамі, а яны смяюцца: блінцоў захацеў... Так, патрэбна, каб былі блінцы, каб муку на іх малоў свой млін, каб за мліва плацілі не шэсць фунтаў, а тры... Ад мліва мы...

— Убачай на хвілінку! — перабіў Вінцуся Шавеля сакратар.

Усе паглядзелі на яго; некаторыя ўкорліва засмяяліся.

Вінцусь Шавель спыніўся на паўслове.

— Я прашу казаць больш канкрэтней,— падаў сакратар.

Вінцусь Шавель пачырванеў і адказаў:

— Я не адцягаюся ад галоўнага зместу пытання... Я трымаюся рэгламенту і кажу...

Ён хвілінку памаўчаў, як быццам бы шукаючы слоў, з якіх казаць далей. Пасля напаткаў належны сказ і загутарыў:

— Можа, што і не да ладу сказаў... тады ўбачайце — я не аратар вялікі, я кажу... Мне здаецца адно... Кожны павінен дасканала ведаць, павінен настойна дбаць аб тэй справе, на якую ён пастаўлены. Калі ўручаная справа патрабуе таго ці іншага вырашэння, то ці павінен яе кіраўнік маўчаць? Гэта значыла б, што кіраўнік не адпавядае свайму назначэнню... Я вось быў у Чырвонай Арміі — камандаваў узводам, і, не хвалюся, усё ішло чын- чынам...

Сакратар пазваніў і следам прыказаў:

— Таварыш Шавель, бліжэй да справы, вам засталося пяць хвілін.

Вінцусь Шавель паправіўся на месцы:

— Я, фактычна, асноўнае сказаў ужо... Я хачу дадаць адно: сённяшняе пасяджэнне павінна рашыць так ці гэтак: патрэбен махаўцам савецкі млін ці не? Прашу галасаваць...

На гэтым ён скончыў і настарожана пачаў чакаць, на чым усё спыніцца. А вось выйдзе па-ягонаму! Але настрой сходу не казаў за гэта. І Вінцусь Шавель сабраў усю сваю ўвагу на постаці і настроі Платовіча.

Безумоўна, ад яго ўсё залежыць. Толькі кіўне сакратару ячэйкі...

— Я лічу, што канчатковае рашэнне па гэтаму пытанню вынесе бюро ячэйкі...— запрапанаваў сакратар.— Хто за гэта?

У Вінцусевым ваччу мільганула дзесятак паднятых рук, было ясна, ён не выйграў справы і на гэты раз.

«Што сабе таварышы думаюць!» — злосна выказаў ён сам сабе, забываючы партыйную этыку, калектыўную думку і таварыскае пачуццё.

Збоку яго таварыш пацешыў:

— Вырашым, справа не гарыць...

Але Вінцусь Шавель не прыняў яго слоў за ўцеху, а выкарыстаў як повад да лаянкі.

— Мы заўсёды на гэтым выязджаем... А таго не ўлічаем, што час ідзе, дабро гіне, я гуляю, як дурань, лезу кожнаму ў вочы... а справа адкладаецца.

Сусед, не чакаючы ад Вінцуся Шавеля гэткага адказу, павярнуўся і пайшоў разам з іншымі да выйсця.

У памяшканні стаяў гоман, смех.

Тое, што толькі-толькі займала агульную ўвагу, дзесьці знікла, адышло на задні план.

Да Вінцуся Шавеля не даходзіла ніводнага зыку, які б датыркаўся млінарнага пытання.

Каля стала прэзідыума спрачаліся аб падзеях нядаўніх дзён у вёсцы Кумаўка. Сакратар ячэйкі голасна даводзіў, чаму здарэнні прынялі іншы зварот, чымсь яны ўгадвалі. Старшыня сельсавета гэткім самым тонам адмячаў несправядлівасць тактыкі ячэйкі. Платовіч уважліва слухаў, запісваючы некаторыя асабістасці паведамленняў у вузенькі блакноцік.

Вінцусь Шавель мо хвілін з пяць слухаў, не зыходзячы з месца і не зважаючы на тое, што будынак апусцеў. Але як ні цікавы былі спрэчкі, думка аб правалесным пытанні перабівала іх. Тады ён падняўся, падышоў да стала і праказаў да Платовіча:

— Дазвольце прыехаць да вас у акругу.

— Чаго?

— Я хачу з вамі пагутарыць...

— Не забараняю, але я яшчэ заўтра буду тут, цэлы дзень.

## III

Роўна праз тыдзень Вінцусь Шавель паехаў у акругу. Усю дарогу, на якую аддавалася да шасці гадзін часу, ён меркаваў, як і што выкарыстаць сваю паездку. Цэлы шэраг планаў прайшоў у яго галаве. І за які ён браўся, здавалася,— дарэмны, нежыццёвы. Рэчаіснасць выразна казала не ў яго карысць.

Калі паўстала думка зайсці да прадсядацеля акрыгвыканкома, то рабілася проста страшна. Наведанне Платовіча абяцала малыя вынікі. Наогул, акружныя планы працы душылі сваёю вялікасцю і адказнасцю дробныя думкі Вінцуся Шавеля. Хвілінамі яму рабілася ніякавата везці іх у акругу. Найпэўнейшае, што іх чакала — Вінцусь Шавель ясна гэта выяўляў сабе,— зноў тая ж іронія, што і з боку Платовіча. Але вярнуцца з дарогі без нічога было большай бяссэнсіцай. Сумленне не дало б ні на момант спакою: як то так магло стацца, каб учора яшчэ цвёрдае, прадуманае рашэнне

сёння стала нечым непатрэбным. Гэта было б для Вінцуся Шавеля роўна самапрызнанню ў сваёй несамастойнасці. Болей таго, усё б яго рэнаме пайшло на няма нічога... Пераацэнка ўсіх каштоўнасцей!..

Вінцусь Шавель, ступіўшы на тэрыторыю акругован цэнтра, перабраў яшчэ раз думкамі практычнасць, вартасць і значэнне сваіх планаў і рашыў, што ён не мыліцца. Наадварот, ім апанаваў эгаізм не заўзятага дурасы, а грамадскага працаўніка, і Вінцусь Шавель з непаваротнаю рашучасцю накіраваў зразу ў акругвыканком. «Кожны выпаўняе тое, што ён здацен выпаўніць»,— пераказаў ён свой прынцып і з ім, як з ліхтаром уначы, прайшоў дарогу ад вакзала да акругвыканкома і ўвайшоў у яго памяшканне.

У акругвыканкоме выйшла так, што ніхто яго не спыніў ад вахода да самых дзвярэй прадсядацеля.

Вінцусь Шавель прамінуў некалькі каморак і смела стукнуў у дзверы, на якіх вісела шыльдачка «Прадсядацель акругвыканкома».

— Вайдзеце! — данёслося з-за дзвярэй.

Вінцусь Шавель увайшоў у кабінет прадсядацеля і ўжо ад дзвярэй пачаў сваю гутарку:

— Я да вас, убачайце, таварыш прадсядацель... з невялікаю справай...

— Кажэце, кажэце...

Але не паспеў Вінцусь Шавель зрабіць уступ да свае просьбы, як прадсядацель яго спыніў махам рукі.

— Вам ужо гэта вядома?

— Таварыш дарагі,— пачаў прадсядацель,— ласне можна гэтак, як вы, ставіць пытанне? Перад намі цэлы шэраг выпадкаў у сто разоў большае значнасці, і то мы не можам іх зараз паасобку разбіраць... Вось цэлы тыдзень мы ўсім выканкомам абгаварваем справу гаспадарчага будаўніцтва акругі і то...

— Мая просьба вашага плана не парушыць,— перабіў Вінцусь Шавель...

Прадсядацель крыху падвысіў голас:

— Кожны, хто прыходзіць да мяне з тым ці іншым пытаннем, стараецца пераканаць вось гэткімі ж доказамі!.. А вынікі нікога не цікавяць... Пасудзеце самі, таварыш дарагі, што можа выйсці ўрэшце, калі мы сваю працу вясцімем урыўкамі, хапунцом... Вам адно, сваё важна, а па-нашаму...

Вінцусь Шавель зноў не стрымаўся:

— Мая справа вымагае двух-трох слоў, і я прашу вас, таварыш прадсядацель, аднесціся да яе з павагаю.

— Я да ўсяго адношуся з павагаю... Але... нельга мяняцца на дробязь... Кожны гукае з свае званіцы...

Званок тэлефона перабіў прадсядацеля.

Ён нервова хапіўся за трубку і суха адказаў:

— Хто пытае? Спакою не даюць,— вылаяўся.

Пасля настаражыўся і пачаў гутарку:

— Так, акругвыканком... Каго трэба?.. Сакратара?.. Прадсядацеля?.. Я... Што трэба?.. Ага!.. Даруйце-э, таварыш Ласка, дальбог, не пазнаў... Бюджэт? Наконт Залускае лесапілкі? І Котліцкае гуты?.. Нялад-на, кажаш?.. Ч-чорт яго вазьмі... Зноў на два вечары... Добра... Зараз, вось, вось...

Прадсядацель павесіў трубку і падняўся з месца.

— А што раён кажа на гэта? — запытаў ён Вінцуся Шавеля, складаючы паперы ў партфель.

— Я не хадзіў яшчэ ў раён...

— Вось бачыце...— нездаволена вырачыўся прадсядацель.— Да канца не дойдзеце — і ў акругвыканком... Вам яшчэ дысцыпліну патрэбна вывучыць...

Ён паспешна надзяваў паліто і стараўся не глядзець на Вінцуся Шавеля...

— Думка раёна мне даўно вядома...

— Як?

— Я меў ужо гутарку з таварышам Платовічам.

— І што? — ужо на хаду пытаў прадсядацель.

— Таксама заняты іншымі планамі... Хто ж будзе дробяззю займацца? Вы нам даручылі вядомую справу — дайце ж магчымасць яе вырашыць. У нашым складаным гаспадарстве, як у машыне,— кожная шрубка мае сваё месца і сваё значэнне... Часта дужа паважнае значэнне... можа, нават большае...

Яны выйшлі з кабінета прадсядацеля.

— Я ўсё гэта ведаю, таварыш дарагі... Але ў вас адны Махаўцы, а ў мяне цэлая акруга... Да ўбачэння...

Прадсядацель узяў пад казырок і знік з вачэй Вінцуся Шавеля.

Вінцусь Шавель прайшоў у канцылярыю і прысеў на крэсле каля акна.

Перад ім віднеўся шырокі дзядзінец, абмяжованы з усіх бакоў старою паветкаю. Пад дзюрпатаю страхою паветкі ляжалі горы ламачча, калісьці прадстаўляўшага з сябе добрыя брычкі, мэблю, машыны. За дзя-

дзінцам, улева, паднімаліся сцены муру, ужо асыпаныя ў розных месцах, з абкуранымі дзіркамі замест акон. Над гэтымі сценамі высіліся два вялікія каміны ці то фабрыкі, ці завода. За паветкаю, управа, быў сад, на дрэвах якога бялелі кругі ад парэзаных галін... Гэта панарама надала Вінцусю Шавелю розных думак. «Сапраўды, ці ж можа хоць бы прадсядацель акругвыканкома адарваць увагу ад агульнаакруговых заданняў і заняцца справаю аб Махаўскім млыне... Спадчына акупацыі, грамадзянскае вайны абяскровілі краіну... Дзе ні паглядзі — патрабуецца аднаўленне, рапарацыя, будаўніцтва... Можа б, і не варта было мне ехаць сюды... дурыць галаву і траціць час...»

Вінцусь Шавель паддаўся мінорнаму настрою і спакойліва, безнадзейна пайшоў з акругвыканкома. Ужо ў ім мулялася рашэнне кінуць усё і ісці проста на вакзал, як пры выхадзе з дзвярэй яго напаткаў Платовіч.

— Таварыш Шавель?

— А, таварыш Платовіч!

— За блінцамі прыехаў? — пажартаваў апошні з Вінцуся Шавеля.

— Я хацеў зайсці да вас, можна?

— Прадсядацель паслаў?

На твары Платовіча іграла рэзвая ўхмылка.

— Я скажу, як прыйду. Можна?

Платовіч зрабіў сур'ёзную міну і праказаў да Вінцуся Шавеля:

— Няўжо ты яшчэ не пакінуў свае думкі аб млыне?

Гэтых слоў было досыць, каб у Вінцуся Шавеля ўнутры зноў усё перавярнулася ўверх дном. Яго ўкалола крыўдлівасць, чаму такі да яго так адносяцца? Няўжо ён настолькі нічога не варты, што не ўмее нават разабрацца ў гэткай рэчы, як справа з млынам? Ці, можа, сапраўды гэта справа настолькі нікчэмная і непатрэбная, што аб ёй не павінна быць і гутаркі?.. Але тады для Вінцуся Шавеля была б неразгаднай уся сістэма гаспадарчае машыны. Ён не знайшоў бы жаднага тлумачэння на тое, для чаго і навошта энергія гэткіх людзей, як ён... Тады б...

— Так, я сваю справу хачу давесці да канца... Пакуль яшчэ мне ніхто не даказаў, што гэта справа непатрэбная, а мая думка і мае клопаты аб ёй — марныя... Я дамагаюся, каб вы мне гэта даказалі...

Гэта было сказана артыстычна, ёмка. Сам Вінцусь Шавель не растлумачыў бы, як гэта ў яго выйшла так. Можна было заключыць адно — Вінцусем Шавелем кіравала цвёрдае рашэнне паставіць сваю справу на адпаведнае ёй месца. Вось чаму Платовіч не мог адказацца ад спаткання.

— Я з табою гэту справу абмазгую... Толькі праз некалькі часу. У мяне цяпер столькі работы, што, паверыш...

Яго перабіў раптам наляцеўшы на іх таварыш, які хапіў Платовіча за руку і адцягнуў ад Вінцуся Шавеля.

— Праз тыдзень я буду ў вас,— пачуў ён з калідора, куды пайшоў Платовіч з незнаёмым Вінцусю Шавелю таварышам.

## IV

Праз дзве гадзіны пасля гутаркі з Платовічам Вінцусь Шавель ужо ехаў цягнікoм да гасподы. Скутак, які ён вёз з сабою, збіў яго з глузду. Ім апанавала бесцікаўнасць да ўсяго: не хацелася паглыбляцца ў думкі і чапаць наступнага. Ён сядзеў каля акна і ўкорлівым поглядам развітваўся з негасціннай акругай. Але, на дзіва, не знаходзілася выразнае злосці ні на прадсядацеля акругвыканкома, ні на Платовіча. Прычына гэтага ляжала паза імі, дзесьці глыбей, куды ў гэты момант яму не захацелася заглядаць. Яна давядзе Вінцусю Шавелю аб сабе, можа, скора, можа, крыху пачакаўшы... Не павінна ж таго быць, каб Платовіч схлусіў, што наведае Махаўцы. А тады — адзін на адзін — ён, Вінцусь Шавель, паспрачаецца за свае намеры. Але да гэтага яму прыйдзецца спаткацца з некаторымі непрыемнасцямі. Сакратар ячэйкі...

— А, таварыш Шавель! — пачуў ён збоку і азірнуўся, не скончыўшы думкі.

На праходзе, гледзячы яму ў вочы, стаяў чырвонаармеец Пракоп Асіна ў форме камандзіра ўзвода, з якім Вінцусь Шавель служыў у адным палку.

— Ты ж чаго тутака? — запытаў ён чырвонаармейца.

— Еду на пабыўку, на месяц выпрасіўся...

— А ласне твой дом у гэтых краях?

— Так, вось на другой станцыі злажу.

— Землякі!

— Як бачыш...

Пракоп Асіна прайшоў да Вінцуся Шавеля і прысеў помеж з ім.

— А ты што парабляеш? — запытаў ён Вінцуся Шавеля.

Той матнуў рукою.

— Чаго недаволішся?

— Цяжкая праца, браце мой.

— Якая?

— Гаспадарчая... Я пакуль без месца, заняўся млінарскаю справаю... І вось нашуся з ёю больш месяца, а скуткаў жадных... Гэтак людзі заняты, што выслухаць не маюць часу... Вакола столькі недастач, ажно рады няма спыніцца на кожнай паасобку...

— У чым жа рэч, я не разумею? — перапытаў Пракоп Асіна.

— А, бач, я хачу адбудаваць млін у сваім мястэчку; будынак ёсць, ёсць розных прыладаў досыць, а вось пусціць — не хапае якіх-колечы двухста — пяцісот рублёў... Шукаю іх увесь час...

На Пракопавым твары вызначалася здзіўленне, з якім ён паглядзеў Вінцусю Шавелю ў вочы.

— Ты дзівішся, што я заняўся гэткімі дробнымі справамі?

— Так, дзіўлюся...

— Я пазнаў па табе... Дык вось, браток,— трэба... Трэба і гэта... На вялікія справы ёсць адпаведныя людзі, а на малыя — таксама. Але не павінна быць, каб малыя справы аставаліся нявырашанымі... У жыццёвай машыне кожная шрубка мае сваё месца; звіхтавалася, не папраў — уся машына не пойдзе... Цябе дзівіць, што якраз мне выпалі дробныя справы — гэта рэч іншая... Пакуль я за большым не ганюся...

Пракоп Асіна злёгку ўхмыляўся, але Вінцусь Шавель ці не зважаў на гэта, ці даваў выгляд, што не зважае.

— З мяне і іншыя дзівяцца, але я рашыў млін адбудаваць; пасля можна будзе перайсці да іншае працы, а пакуль — мне цяжка глядзець, калі да мліна ўсё гатова, а сяляне павінны плаціць нэпману па шэсцьсем фунтаў з пуда.

Смех таварыша заставіў Вінцуся Шавеля азірнуцца.

— Смяешся?

— Не тое каб смяяўся, але, мне здаецца, лепей было б табе камандаваць узводам... К гэтаму часу ты быў бы ўжо ротным... Пахвалюся, што мяне прыставілі да павышэння... А млін? Блінцоў захацелася?..

Апошні свой сказ Пракоп Асіна правёў голасным смехам і, пэўна, рагатаў бы далей на ўсё купэ, але прабегшы вагонам кандуктар перабіў яго сваім воклічам:

— Хто ў Паленнае?

Ён развітаўся з Вінцусем Шавелем і пабег з купэ. За ім пагнаўся незразумелы погляд Вінцуся.

Быццам усе згаварыліся. Няўжо яму аднаму гэта трэба? Ці, наогул, ён сам сябе абманвае, калі хоча ўверыцца, што яго справа патрэбная і карысная. А мо таму ён за яе хапіўся, што іншае не здолее рабіць?

Вінцусь Шавель прыпомніў словы Платовіча аб мосце праз Іклу, аб бруку вуліц і параўнаў гэта з млінам. Нічога дзіўнага — ён упэўнены, што першае і другое яго таксама не застрашылі б — справіўся б. Але, па яго думках, пакуль здавальняе мост стары, а тратуары могуць да часу замяніць брук... Безумоўна, прыйдзецца зрабіць і гэта, толькі ў чаргу. Тут павіннасць грамадская ды не зусім трудная: навазіць каменняў і пяску. А млін...

Вінцусь Шавель успомніў гутарку з сялянамі, іх папрок Савецкай уладзе, чаму апошняя нічога не рашае наконт мліна... Трэба прыслухоўвацца да іх голасу — то голас зямлі... Млін... Ён давядзе сваю думку да ажыццяўлення...

Палоска праменю адцягнула яго ўвагу. Вінцусь Шавель паглядзеў у акно. Цягнік спыніўся на Паленнай. З вагонаў выходзілі пасажыры, чалавек дваццаць лікам. Ён правёў поглядам некалькі да самага выйсця ў дзверы вакзала і хацеў адвярнуцца ў іншы бок, як раптам перад самым акном вырас Пракоп Асіна. Ён развітальна памахаў рукою і нешта праказаў. Вінцусь Шавель не ўчуў і перапытаў. Той выгукнуў на ўвесь голас:

— Не забудзь пазваць на блінцы!

Гэта зычэла як жарт, на які Вінцусь Шавель ужо многа раз адказваў.

Цяпер было досыць дадатнага кіўка галавою.

## V

Вінцусь Шавель стаяў пры сваёй хаце і пазіраў пераменна то на млін Хаіма Крокеса, то на будынак будучага савецкага мліна, які ён павінен адбудаваць. Першы гудзеў, пускаючы дым з вузкага бляшанага коміна, другі маўчаў, тулячыся між двух высокіх ясеняў. Вуліцаю сяляне везлі збожжа на мліва і азіраліся на Вінцуся Шавеля; іх погляды здаваліся яму ўкорам і намёкам на тое, што пара пускаць савецкі млін, годзе адгаварвацца аднымі абяцанкамі. Гутарка паміж сялянамі тлумачылася Вінцусем Шавелем, як нараканні на яго бяздзейнасць. Усё гэта прыкрыла яму, выклікала ў яго непрыемнае пачуццё. Няхай бы цуг сялян накіроўваў ужо да савецкага мліна: мо б адмеціў хто яго старанні і падзякаваў сельсавет за дбанне аб сялянах. Дык не! Хаім Крокес стаіць на ганку і цешыцца, як плывуць у яго засекі фунты, пуды і асміны мужыцкага збожжа. Паціраe нэпман рукі ды ціха пасмейваецца з яго, Вінцуся Шавеля, няўдач...

Каб жа то адносілася да яго асабіста! А то хітры і пракураты Крокес мае ў воку сельскую ўладу і праз Шавеля цэліць у сельсавет. Не, гэта нядобрая штука. Яго, Вінцуся Шавеля, дарэмна не хочуць паслухаць ды пасабіць яму. Тут проста недагляд, нядбайства, непашана. Відаць!

Вінцусь Шавель рушыў з месца і пайшоў да сельсавета.

Яму зарупела яшчэ раз дапомніць аб сабе і сваёй думцы сакратару ячэйкі і старшыні сельсавета. Не будзе лішнім. Але, падышоўшы да дзвярэй будынка, ён перадумаў і накіраваў да мліна. Чаму і што зрабілася ў яго гэткая перапланоўка, Вінцусь Шавель не разбіраўся. Праўдзівей таму, што зайграла ў ім пачуццё эгаізму, а мажліва і затым, каб яшчэ раз пераканацца, што млін варта рапараваць. Прынамсі, ён сабе не выяўляў ні першага, ні другога, калі раптам сустрэў Хаіма Крокеса. Млінар ябедна паглядзеў Вінцусю Шавелю ў твар і прыпыніўся. Гэта Вінцусь Шавель прыняў за вызаў, узлаваўся і хацеў вярнуцца назад. Пасля адышоў ад злосці і падблізіўся да Хаіма Крокеса.

— Ты, слухай, да мліну, таварыш Шавель? — запытаў млінар.

— Так, пайду пагляджу.

— Слухай, а як справа з адбудоваю яго?

— Будую... Праз тры дні наязджае механік, і млін...— схлусіў Вінцусь Шавель.

— Нават праз тры дні?..

Не спыняючыся, яны паціху пайшлі ўсцяж вуліцы.

Хаім Крокес абярнуўся назад і пахіліўся да Вінцуся Шавеля:

— Таварыш Шавель, кінь ты з гэтым млінам... Навошта, слухай, табе гэтая вазганіна з ім. Таварыш Шавель, ці мястэчка не мае пільнейшае патрэбы... Слухай... Ты проста назло мне робіш... Бярыся, слухай, за іншае, а мяне не губі-ы. Таварыш Вінцусь, ці ж сяляне незадаволены? Маўчаць... Хочаш — я куплю гэты злом, і таквеле таго...

Вінцусь Шавель маўчаў, ледва стрымліваючы злосць. Ад слоў млінара нясло адначасна надсмяяннем, здзекам і падгаворам. Да чаго вырасла нэпманская нагласць! Не, не ўлічыў ён поўнасцю ні абставін, ні Вінцусевае натуры.

— А ты думаеш, я з млінам не спраўлюся? — запытаў Вінцусь Шавель, калі яны падыходзілі да будынка мліна.

— Не тое, таварыш Шавель... Вам млін... Слухай, абодва будуць стаяць... Колькі таго млiва ў людзей... Каб ты, таварыш, бачыў, што мне застаецца... Трымаюся ж таму, слухай, што незашта іншае ўзяцца-а... Ты думаеш, таварыш Шавель, што гэта лёгкая рэч... Патэнты, ураўніцельны, арэнда... А колькі датацыі, глядзі-ы...

Вінцусь Шавель пакінуў Хаіма Крокеса і абег вакола мліна. Хтосьці адкінуў дзверы, і ўсярэдзіну глядзела сонца. Вачам прадставілася непрыглядная мешаніна награмоджаных адна на другую рэчаў. Напэўна, нехта гаспадарыў і па частцы сцягаў да сябе тыя ці іншыя прылады. Вінцусь Шавель падумаў аб Хаіме Крокесу і паглядзеў у яго бок.

Хаім Крокес падыходзіў да яго і здалёк казаў:

— Разбіраюць, слухай!.. Расцягнуць па кавалачку... людзі, таварыш Шавель, як... Навошта, слухай, казаць... Сельсавет добра робіць, што не ўкладае грошай у гэту справу... Тут тысячы патрэбны... Дарма ты кажаш...

Вінцусь Шавель усміхнуўся...

— Па-твоему... А па-моему... людзі не бачаць про-

стае выгады... Паглядзі,— ён паказаў у млін,— столькі дабра! Гэта ж грошы, якім трэба маленькая падмога, як яны заварушацца... Я ведаю, што табе гэта справа нявыгадная... Ды ці ж можна лічыцца грамадзе з тваімі інтарэсамі?.. Ці можа грамада пакладацца...

Хаім Крокес змаўчаў і меў ахвоту адысці ад Вінцуся Шавеля. Ён крывіўся, пераступаў з нагі на нагу і хітра жмурыў левае вока. Відаць было, што млінару нешта рупіла сказаць, але ён не знаходзіў адпаведнага моманту ў настроі Вінцуся Шавеля. Як ён паглядзіць на гэта. Аднак млінар не сцярпеў і выказаў:

— Слухай, таварыш Шавель... я быў заўчора ў акрузе, і мне таварыш Платовіч сказаў, што гэтага мліна будаваць не будуць... Што, можа, яго і прададуць...

Настаражыўшыся, Вінцусь Шавель слухаў Хаіма Крокеса.

— Ну?

— І я думаю, што будзе, слухай, лепей, калі ты згодзішся са мною: ідзі да мяне мельнікам, а гэтыя астаткі няхай будуць на падмацунак майго мліна... Вось і таварыш Платовіч схіляецца да гэтага... Ён, слухай, і радзіў мне пагутарыць з табою...

Настрой, які абуяў Вінцуся Шавеля пасля пачутага, не казаў у карысць нэпмана. Гэта зразу млінар падмеціў і папярэдзіў Вінцуся Шавеля:

— Як хочаш, слухай...

Вінцусь Шавель нічога не адказаў, завярнуўся і пайшоў ад Хаіма Крокеса. Нават забыўся прыставіць упаўшыя вароты і азірнуцца на млін. Яго абуяла крыўда — не на Хаіма Крокеса, а на таварышаў, з якімі ён гутарыў аб мліне і якія не хацелі і не хочуць яго зразумець. Гутарка з млінаром ясней яснага засведчыла яму правовасць яго думак і карыснасць яго плана. Не было б гэтага — не клапаціўся б так гэты нэпман. Да чаго яму было ездзіць у вокруг і лазіць там па ўстановах?.. Але дзіва з таварышам Платовічам — няўжо той так-такі і сказаў яму — падгавары Шавеля перайсці за мельніка ў яго млін... Не павінна таго быць... Ён гэта праверыць, выведае, не зараз, дык спусціўшы дзён колькі... Ён паедзе ў акругу, і там...

Вінцусь Шавель падыходзіў да сельсавета і ўспомніў абяцанку таварыша Платовіча быць у іх. Згодна тэрміну, ён павінен днямі наведаць у мястэчка. Але

Вінцуся Шавеля брала сумненне, ці выйдзе што-кольвечы з яго новых гутарак з Платовічам. Добра было б выведаць аб адным,— ці сапраўды што-кольвечы казаў ён Хаіму Крокесу, ці той хлусіць. Не выйшла б таемнага памаўлення між імі. Як адказнаму таварышу, Вінцусь Шавель давяраў Платовічу, ну баяўся, каб хітры пралаза млінар не падлез да яго з гэткага боку, на які Платовіч не звяртаў увагі.

Не мяшала б пагутарыць з прадсядацелем сельсавета аб яго размовах з Хаімам Крокесам.

З гэтым намерам Вінцусь Шавель падышоў да ўвахода ў сельсавет, як яго раптам аклікнулі. Ён азірнуўся і ўгледзеў перад сабою сакратара акругвыканкома Банэдыся Віхляя.

— Я ад цябе, панімаеш ты... Дзе ты блытаешся?..

— Вы былі ў мяне ўдому?..

— Дык экстранае дзела, панімаеш ты...

Вінцусь Шавель настаражыўся.

— У нас адбылася пастанова, панімаеш ты...

Яны ўвайшлі ў сельсавет і занялі месца каля пустога стала сакратара.

— Якая? — паддаючыся прыемным адчуванням, запытаў Вінцусь Шавель.

— Аб тваёй справе, панімаеш ты... Учора днём. І, панімаеш ты, ваш нэпман пасобіў... Зайшоў да Платовіча і просіць у арэнду млін... Даказвае, што адбудоўваць самім выгады няма, што лепей здаць у арэнду, што... Тады, панімаеш ты, Платовіч гэта пытанне на павестку пасяджэння і... пастанаўляюць: «Млін адбудаваць... На першы пачын вызначыць трыста рублёў... Ускласці працу, панімаеш ты, на Вінцуся Шавеля, выклікаўшы яго для надання дырэктыў...»

Віхляй уголас перdesigned Вінцусю Шавелю нечаканае яму рашэнне акругвыканкома. А той пазіраў на сакратара з лёгкім недаверам і не ведаў, як яно так раптам усё перакруцілася...

— Вы знарок прыехалі па мяне? — запытаў Вінцусь Шавель.

— Амаль што так, панімаеш ты... Тут, вядома, і іншыя справы ёсць, але галоўным чынам прыехаў нахонт мліна... панімаеш ты...

Прадсядацель сельсавета паціху ўсміхаўся...

— Пахне блінцамі, кажаш? — жартаваў.

— Папахвае, панімаеш ты...

Але Вінцусь Шавель не слухаў гэтага: яго думкі ўжо круціліся ў акрузе, а руплівасць штурхала хутчэй спяшыць дамоў і збірацца на цягнік.

— Вы едзеце сённека? — пытаў ён Банэдыся Віхляя.

— Сёння, патрэбна сёння, панімаеш ты...— спакойліва адказаў той.

— Дык едам разам?

— Разам?.. Можна разам...

## VI

Яны спаткаліся на станцыі перад адыходам цягніка. Вінцусь Шавель не адставаў ад сакратара, і абое палезлі ў адзін вагон. Уселіся побач, пры акне, і Віхляй не паспеў адумацца, як Вінцусь Шавель разняў гутарку. Яму не цярпелася, каб не выказаць сваіх думак сакратару, тым болей што зараз ён быў перакананы ў іх непарушнасць, падмацаваную, нарэшце, пастановаю акругвыканкома. Выказам сваіх думак Вінцусь Шавель хацеў падкрэсліць начальству адну ісціну — гэта мець увагу да кожнага, хто не бракуе малою справаю, дробным інтарэсам, абы яны накіраваны былі для грамадскае карысці.

— Паглядзіце вось,— крануў ён сакратара,— прыватны млін працуе, а грамадскі — маўчыць. Ласне гэта прыемная рэч? Не лепш было б, каб круціліся абодва, а імі кіраваў сельсавет? Дык не ўгаварыць нікога, не ўверыць... Кожны пацвельваецца... Думаеце, мне гэта трэба?.. Во, бачыце...

Цягнік рушыў і выехаў з будынкаў станцыі. Як на далоні ляжалі Макаўцы перад іх узрокамі. Дыміла труба Крокесавага млїна.

— Вунь, вунь, бачыце,— паказваў Вінцусь Шавель,— мелецца ў два кашы: уласніку і млінару. Кожны пуд збожжа дае нэпману шэсць-сем фунтаў... Ці ж гэта лад? А ўжо б даўно большасць сялян ад яго адышла... Дык упіраюцца, як адзін,— усе...

— А ты да каго звяртаўся?

— Не пералічыць... Ад прадсядацеля сельсавета да прадсядацеля акругвыканкома.

— І ніхто нічога?

— Блінцоў захацеў — вось іх адказ... Гэта дзела?.. Вось бачыце, чуць не выпаўзла з рук... Балела сэрца —

не выказаць... Я ўжо думаў, грэшным дзелам, пачаць з іншага боку... А цяпер, нарэшце, дайшлі... дзякуючы Хаіму...

Шчырасць і заўзятасць, што несла імі з гутаркі Вінцуся Шавеля, захапілі Банэдыся Віхляя. Той занядбаў усё і слухаў захопленага справаю таварыша. Ужо ён ні каліва не сумляваўся, што Вінцусь Шавель выяўляе сабою асаблівы тып чалавека, досыць сур'ёзнага і талкавітага. Маленькая справа, за якую ён учапіўся рукамі і нагамі і аб якой хадзілі жарты ды пагаворкі, выглядала ў яго ваччу справаю неадкладнаю, значнаю справаю. Чаму ж, сапраўды, не паслухаць было Вінцуся Шавеля зразу?

Банэдысю Віхляю ён прадстаўляўся разумным, дападкім гаспадаром. Мець у вёсцы гэткага працаўніка было, па яго думках, знаходкаю. За гэтым сакратар даў сабе абяцанку пасобіць Вінцусю Шавелю, наколькі будзе мажлівым з яго боку.

— Я рад, панімаеш ты, што адбылася гэткая пастанова... Будаўніцтва не павінна абмяжоўвацца адным местам... Яно, панімаеш ты, мусіць класці найшырэйшыя падваліны...

— Так-так, таварыш Віхляй,— перабіў сакратара Вінцусь Шавель, вельмі палішчаны начальнічым сказам.

— Ото ж і тое... Людзі думаюць, што каштоўнасць складаецца з вялікіх парыванняў... з грандыёзных планаў ды намераў, а звычайная, дробная праца — гэта нічога... А мне думаецца, што зусім не так... Каб думаць аб большым, трэба мець меншае... Няпраўда мо? Або ўсім і дадзена здольнасць на вялікія справы? Па-мойму, тады б было зусім бесцікаўна, бо не было б меры, не было б розніцы... Мільёны асуджаны на малое, на непрыкметнае — ці ж у іх адбіраць іх здольнасць, або гэту здольнасць зневажаць?.. З дробнага складаецца буйное...

— Ты праўду кажаш, панімаеш ты...

Вінцусь Шавель яшчэ болей настрыўся да выкладання сваіх думак, гледзячы Банэдысю Віхляю ў вочы.

— Бачыце, таварыш... Млін — драбніца; ёсць адзін — і хопіць... Здавалася б і так, а, падумаўшы, зусім іначай. А чаму ж бы перабіць у мяне ахвоту наладзіць другі млін? Па-першае,— гэта будзе млін дзяржаўны, свой, а па-другое,— ён танней будзе ма-

лоць... Па-трэцяе,— яшчэ пакажа людзям на шырызну ў размаху творчасці Савецкае ўлады... Дух яе праняў усе мясцінкі паветра, а чыннасць павінна захапіць усе куточкі зямлі... Няпраўда мо?.. Вось, глядзеце.— Ён паказаў у акно вагона.— Людзі перакладаюць шпалы... Гамузам. Камандуе імі тэхнік... А я не скажу, каб праца таго чалавека, які перасоўвае шпалу, была нічога не вартаю параўнальна з працаю тэхніка...

— Ты праўду кажаш... панімаеш ты...

— А вы не схлусілі мне, што ў акругвыканкоме ёсць пастанова аб мліне? Мне здаецца, што гэта...

— Кінь, таварыш Шавель... Мы пад'язджаем ужо да горада... Я не прывык насміхацца...

— Я не думаю гэтага, таварыш сакратар, але мяне так разуверылі, так адахвоцілі ад спадзей, што я...

Яго перабіў знаёмы голас, падаўшы прывітанне.

І Вінцусь Шавель і Банэдысь Віхляй азірнуліся і ўбачылі перад сабою маладога чырвонага камандзіра — то быў Пракоп Асіна.

— Хто ён? — запытаў сакратар на вуха ў Вінцуся.

— Мой знаёмы,— адказаў Шавель і абярнуўся да Пракопа: — Ты з пабыўкі?

— Не, яшчэ, у акруговы камісарыят выклікалі нечага... Еду за гэтым...— І, крыху памаўчаўшы, ён дадаў: — А ты ўсё за блінцамі ганяешся? — і ўголас засмяяўся.

Што мог адказаць Вінцусь Шавель пры цяперашнім сваім настроі? Ён перш хацеў адгаварыцца простым жартам, а пасля хваціўся, што гэтага рабіць не варта, і з сур'ёзнасцю чалавека, які не мыляецца ў сваіх думках, цвёрда адказаў:

— Так, хутка пазаву на блінцы.

— Значыць, справа на калёсах?

— Кру-ціц-ц-а...

— Маладзец, аднак, дастукаўся...

— Пасля будзе ведама...

Банэдысь маўчаў, гледзячы ў вочы камандзіру, які хітра ўсміхаўся. Напэўна, падобны смяшок прабягаў не адным тварам! І яму было зразумела, чаму Вінцусь Шавель з недаверам едзе ў акругу. Гэта тым болей падахвочвала Віхляя хутчэй апынуцца разам з Шавелем перад Платовічам і атрымаць з яго рук пастанову аб мліне і дырэктывы наконт яго адбудовы. Калі хвілін з дзесяць назад ён думаў не пайсці на службу, то зараз

рашыў з'явіцца ў акругвыканком абавязкова. Ён быў ахоплены шчырым жаданнем пасобіць Вінцусю Шавелю, калі стрэнуцца якія-кольвечы цяжкасці.

Пакепная гутарка камандзіра зусім не спадабалася сакратару, і калі той адышоў ад іх, ён так выказаўся аб ёй Вінцусю Шавелю:

— Што гэта за разумнік такі?

— Мой таварыш, разам служылі,— адказаў Вінцусь Шавель.

— Смяецца з цябе?

— Каб толькі ён адзін! Усе, як ён... Іх дзівіць мая заўзятасць у гэткай, па-іхняму, дробнай справе...

— Цяпер мне зразумела, панімаеш ты...

Кандуктар, патрабуючы білеты, перабіў іх гутарку. У вагоне зашавяліліся, зарухалі. Набліжалася станцыя — акружны горад.

— Вы зойдзеце ў акругвыканком? — запытаў Вінцусь Шавель Банэдыся Віхляя.

— Абавязкова! Пойдам разам...

Абое глядзелі ў акно, за якім слаўся нелапы гарадок з некалькімі высокімі комінамі.

## VII

У акругвыканкоме Банэдысь Віхляй правёў Вінцуся Шавеля да дзвярэй кабінета намесніка старшыні і сказаў:

— Стукай. Трэба буду я — заві...

Вінцусь Шавель пастукаў і пачуў дазвол увайсці. Платовіч кінуў на яго поглядам і тут жа сцяміў, у чым справа.

— Сядай, таварыш. Я скончу гутарку з загадчыкам культаддзела, а пасля пагутарым з табою.

— Можа, я перашкаджаю?

— Нічога.

Гутарка Платовіча з чалавекам, якога Вінцусь Шавель у яго застаў, цягнулася нядоўга. Платовіч падганяў яго і, каб не зацягнуць часу, папрасіў некалькі пытанняў развязаць другім разам. Гэта намякнула Вінцусю Шавелю на добры гумар у Платовіча, і ён пачуў сябе яшчэ больш увераным у дадатны канец...

Калі ад Платовіча выйшаў наведывач і яны засталіся ўдваіх, адзін на адзін, Вінцусь Шавель першым узняў гутарку:

— Вы мяне выклікалі ў акругу, таварыш?
Той ласкава ўхмыльнуўся і адказаў:
— Табе таварыш Віхляй перадаў аб нашым рашэнні?
— Я вельмі ўзрадаваўся, таварыш Платовіч...
— Так... як бачыш, мы паслухалі цябе, а зараз чакаем добрых скуткаў. Блінцы павінны быць смачнымі для ўсіх...
Як ні сур'ёзны быў Вінцусь Шавель, аднак не стрымаўся і зарагатаў.
— Пастараюся аздобіць, хоць рошчына падыходзіла занадта доўга...
— Затое падышла як належыць...
Вінцусь Шавель прысеў напроціў Платовіча і неадхільна на яго глядзеў.
— Пастанавілі, брат, даць ходу мліну і прадпісалі сельсавету, каб вылучыў цябе гэту справу ўладваць... Адпускаем на першую рату трыста рублёў.
— Малавата, таварыш Платовіч...
— Лепш, як нічога... Фінансы ўгінаюцца... Бюджэт не дазваляе болей... Затое даём дапамогу вось чым: давыбарам тых рэчаў, якіх не хопіць, у Долінскім млінe, а таксама адпускаем пяць хвой...
— Але, таварыш Платовіч, я маю на воку не толькі млін, а і лесапілку, і...
— Чакай, чакай, чакай! — замахаў рукою Платовіч.— Спраўся наперад з адным, а пасля пяройдзем да другога... А то бывае, што ў муку насыплецца пілавін і... першы блін выйдзе камяком...
Ён засмяяўся.
— Так,— паправіўся Платовіч,— гэта між іншым... А цябе трэба прывітаць: чаго дамагаўся — таго і дамогся...
— Вы думаеце — для сябе, таварыш Платовіч? Дарэмна,— для справы... Паверце, для справы... Для сябе — адно: уцеха, што хоць малое, нязначнае, а сумеў зрабіць... Бо нельга ж толькі гутарыць ды планаваць, а павінна рабіць. Савецкая ўлада, па-моему,— гэта жывая творчасць, несціханая чыннасць... Ад малога да вялікага і ад вялікага да малога яна ўсё-ўсенькае павінна перабудаваць, падстроіць... І дух будаўніцтва мусіць прасякнуць усё насельніцтва нашае рэспублікі, бо нічога няма харошага, калі яно нерухомае, нежывое...

— Бадай што ты праўду кажаш... Ну, рухай жа далей... Прыеду на блінцы — пачастуеш?..

— Абавязкова.

Вінцусь Шавель падняўся і працягнуў руку Платовічу. Той прыўстаў і развітаўся.

— Паведамляй, як ісціме праца.

— Не забывайце аб чарговых ратах, таварыш Платовіч...— дабрадушна напомніў Вінцусь Шавель і накіраваў да дзвярэй. Але раптам адвярнуўся і праказаў да Платовіча: — Выбачайце... Папрашу ў вас запіскі на грошы і распараджэння на выдачу мандату...

Платовіч, уважлівы да Вінцуся Шавеля, тут жа прысеў і выпаўніў яго просьбу.

— Звярніся да таварыша Віхляя, той табе зробіць... Бывай...

Вінцусь Шавель нізенька схіліўся і выйшаў з кабінета. За дзвярыма яго пільнаваў сакратар, Банэдысь Віхляй.

— Дагаварыўся, а? — запытаў ён Вінцуся Шавеля.

— Амаль што поўнасцю... Цяпер вось да вас...

Ён падаў сакратару дзве маленькія паперачкі, кожная з трыма радкамі, Платовічавы рэзалюцыі, і папрасіў:

— Дапамажэце... калі ласка.

Банэдысь Віхляй забраў ад Вінцуся Шавеля абедзве запіскі і хутка выбег з пакоя. Вінцусь Шавель астаўся адзін, бадзёры і ўвераны ў сябе і ў сваю справу, якая так трудна давалася і якая, дзякуючы гэтай труднасці, захапляла ўсю яго істоту.

«Ад малога дойдзем да вялікага. Нельга пабудаваць вялікага, дзе не пабудавана малога»,— мільганула перад ім ісціна, у якую ён верыў, як у цудоўную сілу.

## VIII

Платовіча абудзіў гудок паравоза. Ён паглядзеў у акно вагона: цягнік набліжаўся к мястэчку Махаўцы. Невялікі гаёк, шырокае гала выгана вакола яго павеялі знаёмым і блізкім. Платовіч хутка саскочыў з верхняе лаўкі, працёр хустачкаю вочы, прыадзеў жакетку і нарыхтаваўся к выйсцю. Цягнік усцішаў хаду, уваходзячы ў будынкі станцыі. На пероне стаяла шмат

людзей. Усе яны выйшлі на станцыю з мэтаю напаткаць знаёмага, не думаючы, ці мог гэтакі сюдою і сёння ехаць, ці не. Некаторыя зняцерпу зазіралі ў вокны вагона.

Калі пасажыры сталі выходзіць, на іх глядзелі дзесяткі вачэй. Здараліся зусім нечаканыя, выпадковыя стрэчы. Платовіч міжвольна заглядзеўся на сцэну спаткання маладое, дужа мілавіднае дзяўчыны са сваім бацькам — чыноўнікам у форме. Дзякуючы гэтаму ён зусім не заўважыў, як да яго падбег хтосьці з публікі і тузнуў за рукаў, аклікнуўшы:

— Таварыш Платовіч!

Платовіч азірнуўся якраз пры ўваходзе ў дзверы станцыі і сустрэў знаёмы твар. Але на яго націснулі заднія пасажыры і памяшалі яму ўспомніць, хто гэта за чалавек яго чапіў. Ён не думаў, каб у Махаўцах не было знаёмых яму людзей, але хто з іх затрымаўся да гэтага часу, Платовічу не прыходзіла ў голаў. Загэтым вокліч яго зацікавіў: ён прайшоў на станцыю і спыніўся чакаць, ці не пазаве яго аклікаўшы яшчэ раз. Так і было: праз хвілін пяць да Платовіча падбег Вінцусь Шавель і праказаў:

— Вы мяне не помніце?

— Цябе? — і Платовіч паглядзеў на Вінцуся Шавеля.— Трохі помню... Здаецца... разам млін будавалі?

— Так, вы пасобілі мне, таварыш Платовіч... Каб не ваша пастанова год таму назад, дык і зараз млін стаяў бы без руху і раскрадаўся б людзьмі... А вы... вы пусцілі млін, і цяпер...

Яны адышлі да дзвярэй.

— Значыць, блінцы пякуцца? — пажартаваў Платовіч...

— А вы бачыце вунь, як комін курыць? А чуеце, як тарашчыць лесапілка, ажно па ўсіх Махаўцах рэха ідзе? Заўважылі?

Вінцусь Шавель казаў гэта, а ўся істота яго дрыжэла натхненнем і асалодаю.

— Чую... Здалёк угледзеў комін і падумаў, ці не Шавелеў гэта млін разышоўся... Ажно і так...

— Так, так... Уласна кажучы — то і не Шавелеў, але я... я ўлажыў у яго шмат старанняў, шмат клопату.

Платовіч рупесліва паглядаў на выйсце, Вінцусь Шавель трымаў яго за руку і супакойваў:

— Паспееце... я вас правяду, таварыш Платовіч... Я хачу вам падкрэсліць адно: можа, гэта справа і малая, але яна неабходная... Яна абавязковая справа... Паглядзеце — год мінуў, а мястэчка не пазнаць. Было ціхім, а зараз гудзе-э... Чуеце?.. Я, пахваліцца, з мліна вырасціў цэлы камбінат... Троха энергіі, а троха шанцу, і глядзеце — фабрыка. Працуе дванаццаць чалавек... Крокеса пабіў, і той на ладан сапе... Мялю і лепш, і танней... Пілую — да дваццаці хвой у дзень... Вальцую сукно, крупы раблю...

— Здо-орава!..— пахваліў Платовіч.

— Для вас, таварыш Платовіч, можа, і мала, а для нас,— бадай што, і здорава... Вось,— ён паказаў на траіх сялян,— сукно майго вырабу... У торбе — хлеб майго памолу...

Вінцусь Шавель на хвіліну занатаваўся. Пасля з яшчэ большаю ласкавасцю ў голасе загутарыў да Платовіча:

— А я вас прашу, таварыш Платовіч, зайдзеце ў млін; я вам пакажу нашы дасягненні. Вы надоўга да нас?

— Дзён на два.

— Скажэце, бок, адкуль хаця?.. Я і забыў, цьфу... зарапартаваўся з млінам... І па якой справе?

Платовіч далей не ўтрымаўся на месцы і рушыў к выйсцю...

— Я з цэнтра... Па справе, якая не падлягае аглашэнню...— выказаў ён на хаду.

Гэта Вінцуся Шавеля, відаць, не задзівіла, бо ён тут жа зноў перайшоў да свае справы:

— Пахвалюся, таварыш Платовіч,— мне за маю працу райвыканком вынес падзяку. Во, маю пры сабе...

Яго рука лягла на левую грудзіну...

— Віншую,— праказаў Платовіч...

— А цяпер... пастаўлена ў райкоме пытанне, каб мяне перакінуць на загадванне Вапнянскімі майстэрнямі... Прызнацца, таварыш Платовіч, гэта не для мяне... Я люблю сваю справу і, мне здаецца, павінен астацца пры ёй... Як ваша думка, таварыш Платовіч?

— У райкоме відней...

— А я папрашу вас, закіньце слова... Вы ж мяне ведаеце... разам будавалі млін, разам...

Яны выходзілі са станцыі.

Угледзеўшы гэта, да ганка станцыі хутка прымчаўся рамізнік.

— Я давязу, калі ласка... Куды трэба?..

— Да доктара Бянёвіча,— адказаў Платовіч і палез на воз.— Можа, падвязу цябе? — запытаў ён Вінцуся Шавеля.

— Не, дзякуй, гэта не па дарозе... Не забудзьце, таварыш Платовіч, райком і млін... Хоць на хвілін дзесяць заскочце ў млін... Добра?..

— Зазірну... Хоць мала маю часу, а зазірну... Гатуй блінцы...

Платовіч махнуў рамізніку, і той паехаў. Вінцусю Шавелю ён зняў шапку і паківаў галавою... Нешта праказаў, але раптам загудзеўшы ў младзе сігнал заглушыў Платовічавы словы...

Вінцусь Шавель з пяшчотнаю ўхмылкаю на твары накіраваў да мліна.

# КАМЕНТАРЫІ

## УМОЎНЫЯ СКАРАЧЭННІ І ТЛУМАЧЭННІ

«Бел. калгасная» — «Беларусь калгасная», штомесячны літаратурна-мастацкі часопіс, выдаваўся ў Мінску ў 1932 годзе Аб'яднаннем пралетарска-калгасных пісьменнікаў Беларусі. Выйшла 8 нумароў.

«Бел. каляндар «Н. Н.» — «Беларускі каляндар «Нашай нівы», выпускаўся рэдакцыяй «Нашай нівы» з 1910 г. да 1915 г.

«Вольная Беларусь» — грамадска-палітычная, эканамічная і літаратурная газета, выдавалася ў Мінску з 28.V.1917 да канца 1918 г.

«Дзянніца» — грамадская і літаратурная газета, выходзіла ў Петраградзе з 1.XI да 31.XII.1916 г. на беларускай мове.

«Дзянніца» — першая савецкая газета на беларускай мове, орган Беларускага нацыянальнага камісарыята пры ўрадзе РСФСР. Выдавалася з 1 сакавіка 1918 г. у Петраградзе, з 6 красавіка 1918 г. да 24 лютага 1919 г.— у Маскве.

Зб.— Зборнік.

«Збор тв.», т. I — «Збор твораў» Ц. Гартнага, т. I, ДБВ, Мінск, 1930 г.

«ЛіМ» — «Літаратура і мастацтва», літаратурная і грамадска-палітычная газета. Орган Міністэрства культуры і праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. Выходзіць з лютага 1932 г. у Мінску.

«Лучынка» — юнацкі і краязнаўчы ілюстраваны часопіс. Выдаваўся ў Мінску ў 1914 г. Рэдактарам лічыўся А. М. Уласаў, палітычная і літаратурная газета на беларускай мове. Выдавала-6 нумароў.

«Маладняк» — літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс, які выдаваўся ў Мінску ў 1923—32 гг.

«Мал. Беларусь» — зб. «Маладая Беларусь», культурна-асветніцкі часопіс, які выдаваўся ў Пецярбурзе ў 1912 г. (два выпускі) і ў 1913 г. (адзін выпуск) выдавецтвам «Загляне сонца і ў наша аконца». Друкаваўся кірыліцай і лацінкай. У серыі I, сшытак 2 былі змешчаны вершы Ц. Гартнага.

«Н. Н.» — «Наша ніва», легальная штотыднёвая грамадска-палітычная і літаратурная газета на беларускай мове. Выдавалася ў Вільні з 10.XI.1906 да 7 жніўня 1915. Рэдактар-выдавец з 1906 — А. Уласаў, з 7.III.1914 рэдактар, а потым і выдавец — I. Луцэвіч (Янка Купала).

«Песні працы і змагання» — зборнік вершаў Ц. Гартнага быў выдадзены ў Берліне ў 1922 г. Навукова-літэрацкім аддзелам Камісарыята асветы БССР.

«Полымя» — штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс, выдаецца ў Мінску са снежня 1922 г. У 1932—41 гг. (да № 3) яго назва была «Полымя рэвалюцыі».

«Правда» — штодзённая масава-палітычная газета, орган ЦК КПСС. Выходзіць у Маскве. Заснавана Леніным у 1912 г.

«Прысады» — зб. апавяданняў Ц. Гартнага, Мінск, першае выданне 1927 г.

«Сав. Беларусь» — «Савецкая Беларусь», грамадска-палітычная газета, орган ЦВК і СНК БССР. Спачатку выдавалася ў Смаленску як часопіс, з № 11 (ліпень 1920 г.) — як газета, да № 20 — на рускай, потым на беларускай мовах.

Сш.— сшытак.

«Трэскі на хвалях» — зборнік апавяданняў Ц. Гартнага «Трэскі на хвалях», Мінск, 1924 г.

«Урачыстасць» — зб. вершаў Ц. Гартнага, БДВ, Мінск, першае выданне 1925 г.

«Чырв. Беларусь» — «Чырвоная Беларусь», мастацкі часопіс, выдаваўся ў Мінску ў студзені 1930 — сакавіку 1933 г.

## ВЕРШЫ

Вершы на рускай мове Зміцер Жылуновіч пачаў пісаць рана, яшчэ тады, калі быў вучнем Капыльскага двухкласнага вучылішча. Было гэта зімою з 1904 на 1905 год. Вясною 1905 г. ён са сваім сябрам Антосем Красуцкім, які таксама спрабаваў пісаць вершы, накіраваліся разам у Кіеў, каб надрукаваць там свае рыфмаваныя радкі. Але ў рэдакцыі газеты «Киевские отклики» іхнія творы адмовіліся друкаваць. Пасля Зміцер Жылуновіч вярнуўся ў родны Капыль, працаваў чорнарабочым на будоўлі і пасылаў свае вершы ў Маскву, вядомаму выдаўцу літаратуры для народа і самаадукацыі Гарбунову-Пасадаву, але і там не меў поспеху. У фондзе Л. М. Клейнбарта, які знаходзіцца ў рукапісным аддзеле Інстытута рускай літаратуры АН СССР (Пушкінскі дом) ёсць тры сшыткі ранніх вершаў паэта. Кожны сшытак мае сваю назву: «Мои душевные излияния», «Душевные излияния» и «Скорбная лира». Творы датуюцца 1908 годам, большасць з іх напісана па-руску.

Сам аўтар прызнаецца, што яго раннія вершы былі напісаны пад моцным уплывам М. Някрасава: «Астаўшыся ў лютым 1906 года вучнем у гарбарнай майстэрні, я пасля доўгага працоўнага дня садзіўся пры газнічцы ў халоднай хаце за сталом ці на печы і пісаў, галоўным чынам, вершы» [1]. Але малады паэт заўважаў, што яго вершы не заўсёды гучаць па-руску так, як яму хацелася б: «Толькі адно мулялася ў маіх думках, гэта цяжкасць з расійскай мовай. Здавалася мне, што знаў я яе добра, бо разумеў усё чытанае, гутарыў, хоць і з акцэнтам, усё ж нядрэнна, а пішучы — даводзілася шукаць слоў» [2].

Летам 1908 года З. Жылуновіч упершыню прачытаў беларускую газету «Наша ніва» і з вялікай радасцю адчуў багацце роднага слова: «Калі беларуская мова ўдала перадавала весткі і думкі на старонках газет, то мілагучнасць яе ў вершах аказалася зусім нечаканай для мяне. Першыя беларускія вершы, прачытаныя ў «Нашай ніве», зрабілі на мяне сапраўды галаваскружанае ўражанне. У маім нутры раптам усё перавярнулася, і цяга пісаць па-беларуску завалодала мною цалкам» [3].

---

[1] Гартны Ц. Дваццаць гадоў назад. // Полымя. 1929. № 5.
[2] Тамсама.
[3] Тамсама.

Так пачалася новая старонка ў творчасці маладога паэта. Купалаўская і коласаўская паэзія аказала дабратворны ўплыў на дарэвалюцыйную лірыку Ц. Гартнага сваім праўдзівым адлюстраваннем рэчаіснасці, дэмакратычнай накіраванасцю, нацыянальна-вызваленчымі матывамі, бо гэта была родная песня, якая ішла з глыбінь душы прыгнечанага народа, апявала яго жыццё, светлыя спадзяванні: «З гэтага моманту імёны Янкі Купалы і Якуба Коласа зацямнілі ўсе іншыя, з якімі я пазнаўся раней...» [1]

Творчая вучоба маладога паэта ў Я. Купалы відаць ужо ў рукапісных зборніках, дзе побач з рускімі змешчана некалькі беларускіх вершаў («Хай грае жалейка» і «Грай нам на жалейцы»). Не выпадкова і першы друкаваны верш Ц. Гартнага — «Бяздольны» быў прысвечаны Янку Купалу.

Пад непасрэдным уражаннем купалаўскай паэзіі і вядомага верша «Мужык» («Што я мужык, усе тут знаюць...») з'явіўся твор Цішкі Гартнага «Хто ж мы?». Як і Купала, аўтар верша «Хто ж мы?» складае гімн таму, хто сваімі рукамі і сваёй працай стварае ўсе багацці на зямлі. Як і ў купалаўскім вершы, тут на ўвесь голас гучыць вера ў сілу народа:

Хто ж мы? Мужыкі з-пад мястэчка і вёсак,
Мы слугі багатых, мы парабкі іх.
О, мы мужыкі, мы той цвёрды падносак,
Што жыцці на свеце трымае ўсіх...

Прыгаданы верш Ц. Гартнага «Хто ж мы?» быў своеасаблівай заяўкай маладога паэта на сваю тэму ў літаратуры. Ужо тут праявілася асаблівасць, якая ў пэўнай ступені стала вызначальнай для дарэвалюцыйнай творчасці Ц. Гартнага: ён упершыню ў беларускай літаратуры апаэтызаваў новага героя — пралетарыя.

На старонках «Нашай нівы» публікуецца некалькі вершаў Ц. Гартнага, пакуль не з'явіліся паасобныя часткі цыкла «Песні гарбара» ў № 49 за 1910 («Сагнуўшыся, я ля варштата стаю») і ў «Беларускім календары» за 1911 г. («Гэй, не тамецеся, рукі»). Так у беларускую паэзію ўпершыню прыходзіць рабочы-гарбар.

Першыя спробы стварэння вобраза рабочага зроблены былі яшчэ ў рукапісным зборніку «Скорбная лира» («В мастерской кожевников», «Элегия»). Пасля «Песні гарбара» друкуюцца ў часопісе «Маладая Беларусь», 1912 г., серыя 1, сшытак 2, увайшлі ў першы зборнік паэта «Песні» (СПб, 1913). «Песні гарбара» — значнае ідэйна-мастацкае дасягненне дарэвалюцыйнай творчасці Ц. Гартнага, яны пашыралі тэматычны дыяпазон беларускай паэзіі. У іх адлюстравана свядомасць пралетарыя, учарашняга селяніна, які ўздымаецца на рэвалюцыйную барацьбу.

Імкненне да свабоды, спадзяванне знайсці сваю долю і шчасце, скарга на сацыяльную несправядлівасць — усе гэтыя матывы набываюць больш акрэслены характар у іншых вершах («Гарбар на вандроўцы», «Без работы», «Не шумі, не гудзі» і інш.).

Зборнік «Песні» меў і слабасці. Побач з вершамі, якія вызначаліся навізной тэматыкі і закладалі асновы беларускай рабочай паэзіі, а таксама творамі, поўнымі грамадзянскага пафасу і глы-

[1] Гартны Ц. Дваццаць гадоў назад. // Полымя. 1929. № 5.

бокага пачуцця, у першай кнізе Ц. Гартнага была і эпігонская лірыка (цыкл «Песні кахання»). Часам імкненне паэта адысці ад традыцыйна песеннай паэтыкі, ад публіцыстычнага верша не заўсёды прыводзіла да жаданых вынікаў: у паасобных творах адчуваліся з аднаго боку — рытарычнасць і схематызм, а ■ другога — прыземленая апісальнасць і фактаграфія.

Далейшы этап творчай дзейнасці Ц. Гартнага (1913—1917) вызначаецца тым, што матывы працы і барацьбы пачынаюць гучаць у яго паэзіі вельмі моцна. Паэт выказвае думку, што час абнбоўны блізка («Озірк», 1913), ён бачыць, як на даляглядзе загараецца зорка свабоды («Дзянніца»), прадчуваннем вялікіх грамадскіх перамен прасякнуты словы калыханкі («Калысная песня», 1913).

Трэба адзначыць, што паэзія Цішкі Гартнага дарэвалюцыйнага часу няроўная: побач з сапраўды ўдалымі творамі ёсць вершы сырыя, малазмястоўныя ці проста слабыя ў мастацкіх адносінах.

Другім зборнікам выбранай паэзіі Ц. Гартнага былі «Песні працы і змагання» (Берлін, 1922). Складаўся ён ■ раздзелаў «Песні працы», куды ўвайшоў поўнасцю цыкл «Песні гарбара», а таксама вершы «Гарбар на вандроўцы», «Песня грабара» і інш., быў раздзел «Чырвоны золак» з доўгаю апісальнай драматычнай паэмай «Паэта маці і муза» («Мукі творчасці»). Найбольш цікавы раздзел «Змаганне» — жывы водгук паэта на падзеі вялікага Кастрычніка і грамадзянскай вайны, тут змешчаны вядомыя вершы «Работнічая і сялянская рэвалюцыя», «Далакопам рэвалюцыі», «Чырвонаармейцы», «Ад сахі, ад станкоў», «Сельскі рэўком».

У 1925 годзе выходзіць зборнік «Урачыстасць» (дапоўненае выданне 1928). Тут нарэшце абстрактныя вобразы савецкіх людзей («сыны новых дзён», «усясветнай Камуны ганцы-вестуны») зводзяцца з касмічных вышынь і становяцца канкрэтнымі людзьмі ў канкрэтных абставінах («Беларуска», «Рабфакавец-вясковец»). Рост паэтычнага майстэрства Ц. Гартнага відаць у цыклах «Берлін», «Горад», «Чырвоная радзіма», дзе побач з публіцыстычнай вастрынёй таксама адчуваўся паварот да жывых назіранняў і рэальных фактаў.

Апошняе прыжыццёвае выданне паэтычнай спадчыны — першы том Збору твораў Цішкі Гартнага «Вершы» (Мн., 1930). У 30-я гады паэт толькі зрэдку друкаваў адзін-два вершы ў год у газеце «Літаратура і мастацтва» ці часопісе «Чырвоная Беларусь».

*Бяздольны* (с. 27)

Упершыню — «Н.Н.», 1909, № 2, 9 студз. Першы друкаваны верш Цішкі Гартнага.

*Да Нёмна* (с. 28)

Упершыню — «Н.Н.», 1909, 28 мая.

*Пажарыска* (с. 28)

Упершыню — «Н.Н.», 1909, 1 мая.

*Сявец* (с. 29)

Упершыню — «Лучынка», 1914, № 4, с. 14.
Датуецца 1909 г.

*** *Сонейка вечна зіяе...* (с. 30)

Упершыню — «Н.Н.», 1909, 13 жн.

*Загудзі ты, вецер* (с. 30)

Упершыню — «Н.Н.», 1911, 7 ліп.
Датуецца 1909 г.

*Восень (І сумна, і нудна, і вецер пяе...)* (с. 31)

Упершыню — «Н.Н.», 1909, 26(9) кастр.

*** *Без пары памёр ты, браце...* (с. 31)

Верш прысвечаны памяці С. Палуяна, датуецца 1910 г.

*Роднай краіне* (с. 32)

Упершыню — «Н.Н.», 1910, 1 ліп.

*Красуй, збожжа!* (с. 33)

Упершыню — «Н.Н.», 1915, 24 крас.
Датуецца 1910 г.

*У дарозе* (с. 33)

Упершыню — «Мал. Беларусь», серыя 1, сш. 2, с. 97—98.
Датуецца 1910 г.

*Восень (З поўначы цёмнае, сіверу дальняга...)* (с. 35)

Упершыню — «Н.Н.», 1910, 21 кастр.

*Бачыў я...* (с. 35)

Упершыню — «Дзянніца», 1918, 4 жн.
Датуецца 1910 г.

*Каваль* (с. 36)

Упершыню — «Дзянніца», 1918, 1 мая.
Датуецца 1911 г.

*Дружна з ахвотай...* (с. 37)

Упершыню — «Н.Н.», 1911, 9 чэрв.

У «Зборы тв.», т. 1 пад вершам стаіць дата «Вількамір, 1912», відаць, памылковая, бо разыходжанняў вельмі мала.

*Песня жняі* (с. 38)

Упершыню — «Н.Н.», 1911, 28 ліп.

У «Зборы тв.», т. 1, дата напісання «Вількамір, 1912 г.». Відаць, гэта памылка аўтара.

*** *Не хачу забыцця я ў цудоўных чарах...* (с. 39)

Упершыню — «Мал. Беларусь», серыя 1, сш. 2, с. 107.
Датуецца 1911 г.

*Песня грабара* (с. 40)

Упершыню — «Мал. Беларусь», серыя 1, сш. 2, с. 81—82.
Датуецца 1911 г.

*Я жыву (Я жыву ў квятох валошкі...)* (с. 41)

Упершыню — «Урачыстасць», с. 94.
Датуецца 1 верасня 1912 г.

**** Узышоў месяц і паўкругам...* (с. 42)

Упершыню — «Урачыстасць», с. 81.
Датуецца 31 кастрычніка 1912 г.

*Я люблю...* (с. 43)

Упершыню — «Дзянніца», 1918, 23 сак.
Датуецца 1912 г.

*Дзяўчыне-таварышу...* (с. 44)

Упершыню — «Мал. Беларусь», серыя 1, сш. 2, с. 90. Там верш мае 4 страфы. Датуецца 1912 г.

*Да надзеі* (с. 44)

Упершыню — «Мал. Беларусь», серыя 1, сш. 2, с. 102. Там верш не мае назвы, змешчан пад лічбай 13. Датуецца 1912 г.

*Ветру* (с. 45)

Упершыню — «Мал. Беларусь», серыя 1, сш. 2, с. 91—92.
Датуецца 1912 г.

*Званар* (с. 46)

Упершыню — «Дзянніца», 1918, 24 верас. Датуецца 1912 г. Паводле зазначэння самога пісьменніка, большасць вершаў, датаваных 1912 годам, напісана ў Вількаміры Ковенскай губ.

*Песні гарбара* (с. 47)

I песня («Ах, як стрэлка марудна ідзе...») упершыню — «Мал. Беларусь», серыя 1, сш. 2, с. 74, датуецца 1912 г.; II песня («Сагнуўшыся, я ля варштата стаю») упершыню — «Н.Н.», 1910, 2(14) снежня; III песня («Гэй, не тамецеся, рукі...») упершыню — «Бел. каляндар Н. Н.», 1911, с. 82—83 з подпісам «Магілёў-Беларускі»; IV песня («Я рабочы-гарбар»); V песня («Не здавайся, гарбар») і VI песня («Я гарбар малады») упершыню — «Песні працы і змагання», 1922, с. 10—12. Нягледзячы на розныя даты напісання і розныя месцы друкавання, у «Зборы тв.», т. 1 аўтар памячае ўсе песні датай «1912, Вількамір». Тэкст I песні ў «Зборы тв.» намнога адрозніваецца ад першапачатковага.

«Песні гарбара» перакладзены на рускую мову Л. Палякам у зб. «Поэзия народов СССР», складальнік С. Валайціс, 1928 г. На ўкраінскую мову перакладзены І. Кулікам у зб. «Нова Білорусь», 1929 г. і «Українскі робітнічі вісти» (Канада), 1928, № 103.

*Сабачка* — прылада для апрацоўкі скуры.

*Гарбар на вандроўцы* (с. 51)

Упершыню — «Мал. Беларусь», серыя 1, сш. 2, с. 78—80.
Датуецца 1912 г.

*Я далёка...* (с. 53)

Упершыню — «Мал. Беларусь», серыя 1, сш. 2, с. 86.
Датуецца 1912 г.

*Да кляніны* (с. 54)

Упершыню — «Мал. Беларусь», серыя 1, сш. 2, с. 93—94.
Датуецца 1912 г.

*Сэрцу волю!* (с. 55)

Упершыню — «Мал. Беларусь», серыя 1, сш. 2, с. 96.
Датуецца 1912 г.

*Да жаўранкі* (с. 56)

Упершыню — «Мал. Беларусь», серыя 1, сш. 2, с. 102.
Датуецца 1912 г.

*Рвуся я* (с. 56)

Упершыню — «Мал. Беларусь», серыя 1, сш. 2, с. 106—107.
Датуецца 1912 г.
*Уладзіслаў Галубок* (1882—1942) — вядомы беларускі драматург і тэатральны дзеяч.

*** *Мець бы жыццё бессмяротнае мне...* (с. 57)

Упершыню — «Н.Н.», 1912, 3 мая.
Датуецца 1912 г.

*З чужыны* (с. 58)

Упершыню — «Н.Н.», 1912, 26 студз.

*Касьба* (с. 59)

Упершыню — «Н.Н.», 1912, 16 жн.

*Ліхтаршчык* (с. 60)

Упершыню — «Дзянніца», 1918, 25 кастр.
Датуецца 1912 г.

*Мая стыхія* (с. 61)

Упершыню — «Мал. Беларусь», серыя 1, сш. 2, с. 105. Там — без назвы, пад лічбай 16. Датуецца 1912 г.

*Пазыў (Я хацеў бы непакорным...)* (с. 62)

Упершыню — «Збор тв.», т. 1, с. 169.
Датуецца 1913 г.

*Мой верш* (с. 63)

Упершыню — «Збор тв.», т. 1, с. 170.
Датуецца 1913 г.

*Звон* (с. 63)

Упершыню — «Дзянніца», 1918, 9 жн. Мае прысвячэнне пры публікацыі «(Ахвяруецца Я. Пятровічу, А. Усціловічу і Я. Лагуну)».
Датуецца 1913 г.

*Многа сіл маладых* (с. 64)

Упершыню — «Н.Н.», 1913, 7 лют.

*Новая хатка* (с. 65)

Упершыню — «Дзянніца», 1918, 15 кастр.
Датуецца 1913 г.

*Змагайся!* (с. 66)

Упершыню — «Дзянніца», 1918, 1 кастр.
Датуецца 1913 г.

*Калысная песня (Спі, сыночак, ў калыбелі...)* (с. 67)

Упершыню — «Дзянніца», 1918, 7 лістап.
Датуецца 1913 г.

*Клянінка* (с. 68)

Упершыню — «Дзянніца», 1918, 4 жн.
Датуецца 1914 г.

*Краю роднага не кіну...* (с. 69)

Упершыню — «Вольная Беларусь», 1917, № 34.
Датуецца 1914 г.

*Капыль (Капыль, Капыль! Маё мястэчка...)* (с. 70)

Упершыню — «Вольная Беларусь», 1917, № 22, с. 2—3. Там мае прысвячэнне: «Пасвячаю таварышу-другу Р. С. Шкурынскаму».
Датуецца 11 верасня 1914 г.

*Напярэдадні* (с. 72)

Упершыню — «Дзянніца», 1918, 30 ліп.
Датуецца 1916 г.

*Дарадчыкам* (с. 73)

Упершыню — «Вольная Беларусь», 1917, № 35.

*Работніцкая і сялянская рэвалюцыя* (с. 74)

Упершыню — «Дзянніца», 1918, № 1, 1 сакавіка. Мае назву «Работнічая і сялянская рэвалюцыя». Перакладаўся: на чэшскую мову Я. Горай, «Iskra Praha», 1919, № 1; на ўкраінскую мову В. Палішчуком, зб. «Нова Білорусь», 1929.

*Я хацеў бы пяяць...* (с. 75)

Упершыню — «Дзянніца», 1918, 22 чэрв.

*Маёй песні далі тоны...* (с. 76)

Упершыню — «Дзянніца», 1918, 30 ліп.

*Я жыву... (Я жыву таму, што маю...)* (с. 76)

Упершыню — «Дзянніца», 1918, 14 жн.

*Чырвонаармейцы* (с. 77)

Упершыню — «Дзянніца», 1918, 1 кастр.

*Годзе!* (с. 78)

Упершыню — «Дзянніца», 1918, 30 кастр.

*Гадавіна 25 кастрычніка 1917 года* (с. 79)

Упершыню — «Дзянніца», 1918, 7 лістап. Там мае назву «Да 25 Акцябра».

*Я хацеў бы...* (с. 80)

Упершыню — «Сав. Беларусь», 1920, № 35(45), 24 крас.

*Раньш і цяпер* (с. 82)

Упершыню — «Сав. Беларусь», 1921, 26 студз.

*Песняру* (с. 83)

Упершыню — «Сав. Беларусь», 1921, 11 лют.

*Сельскі рэўком* (с. 84)

Упершыню — «Сав. Беларусь», 1921, 8 сак.

*Сцяна федэралістаў* (с. 85)

Упершыню — «Сав. Беларусь», 1921, 18 сак.

*Гляджу на поле я...* (с. 86)

Упершыню — «Збор тв.», т. 1, с. 277—278.
Датуецца 23 сакавіка 1921 г.

*Будаванне* (с. 87)

Упершыню — «Сав. Беларусь», 1921, 28 чэрв.

*Паўстанне* (с. 87)

Упершыню — «Збор тв.», т. 1, с. 271. Там гэты верш з'яўляецца IV часткай з цыкла «Нараджэнне».
Датуецца 1921 г.

*Чырвоны сцяг* (с. 88)

Упершыню — «Песні працы і змагання», 1922, с. 78. Там верш мае дзве часткі.

*Беларускі народ* (с. 88)

Упершыню — «Полымя», 1923, № 3—4, с. 5—6.

*У зялёным лесе* (с. 90)

Упершыню — «Урачыстасць», с. 72—73.
Датуецца 14 крас. 1922 г.

*Сельскі мітынг* (с. 91)

Упершыню — «Полымя», 1922, № 1, с. 8.

*Хто мы?* (с. 92)

Упершыню — «Полымя», 1923, № 5—6, с. 3. Перакладаўся на чэшскую мову Я. Горай, «Reflektor», Praha, 1928 (1929?), № 24.

*Беларуска* (с. 93)

Упершыню — «Полымя», 1923, № 7—8, с. 32—33.

*Адвячоркам* (с. 94)

Упершыню — «Полымя», 1924, № 2(10), с. 27—28.

*Каля бору сонца ходзіць* (с. 95)

Упершыню — «Полымя», 1924, № 3(11), с. 37—38.
*Машастовы* — з мошасту, аксаміту.
*Лёха* — скляпенне, падзямелле.

*** *Над шумным палацам, над курнаю хатай...* (с. 97)
Упершыню — «Урачыстасць», с. 48—49.
Датуецца 7 верас. 1924 г.

*Восеннае* (с. 98)

Упершыню — «Полымя», 1924, № 4(12), с. 52—53. У зб. «Урачыстасць» маецца папярэдніх 5 строф.

*Чырвоная радзіма* (с. 99)

Складаецца з трох вершаў: I. Случчына і II. Слуцак, упершыню — «Полымя», 1925, № 3, с. 21—23; III. Капыль («З сівых вякоў выглядае даўнасць») упершыню — «Полымя», 1926, № 1, с. 73—75.

*Язэп Дыла (1880—1973)* — беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч, родам са Слуцка.

*Заваёвы* (с. 103)

Упершыню — «Чырв. Беларусь», 1930, № 15, с. 7. Там мае назву «На выстаўцы».

*Пятнаццаць* (с. 104)

Упершыню — «Чырв. Беларусь», 1932, № 20—21, с. 13.

*Радзіме* (с. 106)

Упершыню — «ЛіМ», 1935, 11 чэрв.

Вершы на рускай мове

*Лишь только фабричный гудок прогудит* (с. 107)

Упершыню — «Правда», 1912, 26 жн. Верш надрукаваны пад псеўданімам «Д. Скорбящий».

*Песня кузнеца* (с. 107)

Упершыню — «Правда», 1912, № 124, верас. Падпісаны «Д. Жилунович».

*Говор волн* (с. 108)

Упершыню — «Правда», 1913, 26 мая. Падпісаны «Д. Жилунович».

## АПАВЯДАННІ

Раннія празаічныя творы Цішкі Гартнага напісаны на рускай мове і датуюцца 1904 годам [1]. Гэта яшчэ сырыя і слабыя ў мастацкіх адносінах апавяданні: «Вдова (эскиз)» — 1904 г., «Внутренние враги» (1904—1905 гг.), «Что с ними», «Участь коробейника» (1905), «Жизнь Авдотьи» (1905), «Восстание поляков (рассказ крестьянина)». Захоўваюцца яны ў фондзе Л. М. Клейнбарта, у рукапісным аддзеле Інстытута рускай літаратуры АН СССР (Пушкінскі дом), ф. 586. Тут жа знаходзяцца «Дневник рабочего» (6 агульных сшыткаў, датуецца 1907) і «Дневник посадчика [2]. Очерки посадческой жизни» (55 старонак, без пэўнай даты).

У 1909 годзе на старонках «Нашай нівы» ў № 23 за 4(17) чэрвеня друкуецца лірычная замалёўка «На ўсходзе сонца», а пасля «Думкі», «Скошаны луг», «Думка беларуса» і «Пустуючы шну-

---

[1] Клачко А. М. Раннія творы Цішкі Гартнага // Беларуская літаратура. Даследаванні і публікацыі. Мн., 1959. С. 301—316.

[2] П о с а д ч и к — гарбар, які апрацаваную скуру чарніў і рабіў з яе матэрыял для ботаў.

рок», пазней з'явілася «Адвячоркам» (1910), «Завяўшая краса» (1911). Гэта былі нататкі лірычнага зместу, блізкія да вершаў у прозе. Усе гэтыя раннія беларускія празаічныя творы Ц. Гартнага вызначаліся паэтычнай фактурай, эмацыянальнай танальнасцю, своеасаблівай сінтаксічнай будовай.

Трэба думаць, што апавяданні «Распусніца», «Лайдак», «Шукаючы працы», «Велікодная каробка», «Штрэйкбрэхер», апублікаваныя ў 1918 годзе ў газеце «Дзянніца», былі напісаны яшчэ ў дарэвалюцыйны час. На гэтую думку наводзіць тая акалічнасць, што Ц. Гартны, заняты працаю ў 1918 годзе ў Белнацкоме, апе-ратыўна адклікаючыся публіцыстычнымі артыкуламі на актуальныя тэмы бурлівых рэвалюцыйных падзей, не мог тады дазволіць сабе такую «раскошу», каб пісаць звычайныя бытавыя апавяданні з жыцця беларускай дарэвалюцыйнай вёскі. Можна з упэўненасцю сцвярджаць, што гэтыя творы даўно чакалі зручнага моманту, каб пайсці ў людзі, і дачакаліся яго, калі пачала выдавацца газета «Дзянніца», якую рыхтаваў Ц. Гартны адзін ці разам з Я. Нёманскім.

Такія ж апавяданні, як «Дойдзем, сынок» і асабліва «Чырвонаармеец Панкел Ліпа», адкрываюць цыкл твораў, што пісаліся па гарачых слядах падзей і адразу траплялі на друкарскую машыну, у газету «Савецкая Беларусь» ці на старонкі часопіса «Полымя».

Першы зборнік апавяданняў Цішкі Гартнага меў назву «Трэскі на хвалях». Выйшаў ён у Мінску ў 1924, у 1927 годзе з'явілася другое выданне, праз год трэцяе, у Зборы твораў 1929—1932 гг. апавяданні са зборніка «Трэскі на хвалях» склалі другі том (1929 г.).

У 1927 годзе выходзіць зборнік «Прысады», у які ўвайшлі апавяданні «Прысады», «Ядзя-Жучок», «Праводзіны», «Хільшчык Шлёма Брыкер», «Чапіла душы», «Таварыш інспектар», «Дыягназ», «Таварышы», «Свае блінцы», а таксама два драматычныя творы «На стыку» і «Дзве сілы», у наступным годзе выходзіць другое выданне, якое поўнасцю паўтарала першае.

Пасля быў зборнік апавяданняў «Гоман зарніц» (1932), дзе змешчаны «Гаспадар», «Напевы сірэн», аповесць «Зялёны шум», «Пахучы зяб», «Круты паварот», «Смерць Германа Васермана». У 1932 выходзіць зборнік «Наступ на горны», дзе было змешчана апавяданне «Прыкры выпадак».

*На ўсходзе сонца* (с. 109)

Упершыню — «Н.Н.», 1909, 4(17) чэрв. У 1910 г. паўторана ў «Першым Беларускім календары «Н.Н.», мае прысвячэнне «Ахвярую «Нашай ніве» і ўсім яе супрацоўнікам». Пад тэкстам у «Н.Н.» паметка: м. Капыль, Мінск. губ.

*Думкі* (с. 111)

Упершыню — «Н.Н.», 1909, 16(29) ліп. Мае прысвячэнне: «Пасвячаю Якубу Коласу, песняру народнаму». Пад тэкстам у «Н.Н.» паметка: м. Капыль, Мінск. губ.

*Адвячоркам* (с. 113)

Упершыню — «Н.Н.», 1910, 20 мая (2 чэрв.)

*Распусніца* (с. 114)

Упершыню — «Дзянніца», 1918, 8 сак. Перакладзена на ўкраінскую мову С. Піліпенкам (альманах «Нова Білорусь», Харкаў, 1929, с. 175—178); у 1962 г. перакладзена І. Грыгор'евым на рускую мову (зб. «Хозяин», Л.).

*«Лайдак»* (с. 118)

Упершыню — «Дзянніца», 1918, № 7, 12 крас., дзе мае назву «Распуснік» і азначэнне ў дужках (Сказ). Пад гэтай назвай перакладзена Д. Снежкам на мову эсперанта (газ. «Herald de Esperanto», 1929, № 17, Кёльн). У 1962 г. перакладзена І. Грыгор'евым на рускую мову (зб. «Хозяин», Л.).

*Шукаючы працы* (с. 123)

Упершыню — «Дзянніца», 1918, 24 крас. Там мае назву «Няма працы. (Сказ)». У 1962 г. перакладзена А. Астроўскім на рускую мову (зб. «Хозяин», Л.).

*Барліна, барка* — драўлянае пласкадоннае рачное судна без палубы для перавозкі грузаў.

*Мурын* — негр, арап.

*Велікодная каробка* (с. 136)

Упершыню — «Дзянніца», 1918, 1 мая пад назвай «Іх свята (Велікодны сказ)». Перакладалася на рускую мову (зб. «Соки целины», М., 1928 г.).

*Штрэйкбрэхер* (с. 145)

Упершыню — «Дзянніца», 1918, 3 снеж. № 41, 10 снеж., 17 снеж. У 1929 і 1932 гг. выдавалася асобнымі кнігамі на ўкраінскай мове ў перакладзе С. Піліпенкі.

*Дойдзем, сынок* (с. 157)

Упершыню — «Сав. Беларусь», 1920, 3 сак. пад назвай «Дойдам, сынок». Друкавалася пад псеўданімам Шчыры. Перакладалася на чэшскую мову праф. Ф. Ціхім (літар. дадатак да газ. Rude Pravo, 1929, № 6 і літар. дадатак да газ. «Obъapa», 1929, № 17, Нью-Йорк). У 1928 г. перакладзена на рускую мову К. Пушкарэвічам (зб. «Щепки на волнах») і ў 1962 А. Астроўскім (зб. «Хозяин», Л.).

*Цюцюпан* — палявая расліна з белымі пахучымі кветкамі.

*Чырвонаармеец Панкел Ліпа* (с. 161)

Упершыню — «Сав. Беларусь», 1920, жн.— кастр. На ўкраінскую мову перакладзена Л. Кардзіналоўскай (асобныя выданні, Харкаў, 1928 і 1929 г.).

*Спатканне* (с. 193)

Упершыню — Вольны сцяг, 1920, № 2. Перакладзена на рускую мову (зб. «Соки целины», М., 1928 г.).

*Бегунец* (с. 200)

Упершыню — «Сав. Беларусь», 1920, 10 ліп., 16 ліп. Друкавалася пад псеўданімам Чырвоны Язэп. У 1928 г. выдадзена на рускай мове ў перакладзе К. Пушкарэвіча (зб. «Щепки на волнах», Л.). У 1929 перакладзена на ўкраінскую мову С. Піліпенкам (альманах «Нова Білорусь», Харкаў).

*Сымонка-інжынер* (с. 207)

Упершыню — «Сав. Беларусь», 1921, 4 лют. Мае назву «Як памёр Сымонка-інжынер».

*На руінах* (с. 214)

Упершыню — «Полымя», 1923, № 2, с. 6—28. Перакладзена на рускую мову І. Грыгор'евым (зб. «Хозяин», Л., 1962).

*Трэскі на хвалях* (с. 239)

Упершыню — «Полымя», 1923, № 3—4, с. 21—56. Твор перакладзен на рускую мову К. Пушкарэвічам (зб. «Щепки на волнах», Л., 1928; у зб. «Хозяин» С. Волкавым, Л., 1962), а на ўкраінскую мову пераклаў А. Сарока (Харкаў, 1930).

*«Больш за ўсіх»* (с. 277)

Упершыню — «Полымя», 1923, № 5—6, с. 29—52. Перакладзена К. Пушкарэвічам на рускую мову (зб. «Щепки на волнах», Л., 1928 і пераклад І. Грыгор'ева ў зб. «Хозяин», Л., 1962).

*Прысады* (с. 303)

Упершыню — «Полымя», 1925, № 4, с. 3—17. Перакладзена на рускую мову Г. Бунтаром («Просторы», 1927 г.), В. Ракоўскай («Повести и рассказы», 1929, М.—Л.) і ў 1962 г. С. Волкавым (зб. «Хозяин», Л.).

*Праводзіны* (с. 320)

Упершыню — «Полымя», 1926, № 2, с. 3—13. Перакладалася на ўкраінскую мову («Молодняк», Харкаў, 1928, № 12) і на рускую мову В. Ракоўскай («Повести и рассказы», М.— Л., 1929), А. Тонкелем (зб. «Хозяин», Л., 1962).

*Таварыш інспектар* (с. 332)

Упершыню — «Полымя», 1926, № 5, с. 3—21. Перакладзена на рускую мову В. Ракоўскай у зб. «Повести и рассказы», М.—Л., 1929.

*Дыягназ* (с. 355)

Упершыню — «Прысады», 1927, с. 115—139. Перакладзена на ўкраінскую мову Л. Кардзіналоўскай (альманах «Нова Білорусь», Харкаў, 1929, на рускую мову В. Ракоўскай у зб. «Повести и рассказы», М.—Л., 1929.

*Таварышы* (с. 377)

Упершыню — «Прысады», 1927, с. 140—160. У 1929 г. перакладзена на польскую мову І. Машынскай-Гельтмановай (зб.

«Wybornowel», Minsk), на рускую мову В. Ракоўскай у зб. «Повести и рассказы», М.—Л., 1929.

*Свае блінцы* (с. 396)

Упершыню — «Прысады», 1927, с. 161—187. У 1929 г. перакладзена на польскую мову І. Машынскай-Гельтмановай (зб. «Wybornowel», Minsk), на рускую мову В. Ракоўскай у зб. «Повести и рассказы», М.—Л., 1929.

# ЗМЕСТ

Вершы на рускай мове



АПАВЯДАННІ

**Гартны Ц.**

Г 21 Збор твораў. У 4 т. Т. І: Вершы, 1909—1935. Апавяданні 1909—1927/Аўт. прадм. |С. Александровіч|.— Мн.: Маст. літ., 1987.— 438 с., 3 л. іл., 1 л. партр.

Цішка Гартны — адзін з арганізатараў БССР, яе новай літаратуры. Гэта найбольш поўнае навуковае выданне яго твораў. У першы том увайшлі вершы з паэтычных зборнікаў: «Песні», «Песні працы і змагання», «Урачыстасць», лепшыя апавяданні з кнігі «Трэскі на хвалях».

У творчасці Цішкі Гартнага адлюстраваны нялёгкія і супярэчлівыя шляхі станаўлення грамадскай свядомасці беларускага пралетарыя — учарашняга селяніна.

Г $\frac{4702120200-145}{М 302(03)-87}$ 93—87 ББК 84 Бел 7

ТИШКА ГАРТНЫЙ
*(Дмитрий Федорович Жилунович)*
Собрание сочинений в четырех томах
ТОМ ПЕРВЫЙ
*Стихи*
*Рассказы*



Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар А. Дз. Куліш
Мастак В. П. Масцераў
Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін
Тэхнічны рэдактар А. Б. Барадзіна
Карэктар Я. А. Бебель

IB № 2694

Здадзена ў набор 26.11.86. Падп. да друку 16.09.87. АТ 07685. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 23,10+0,42 укл. Ум. фарб.-адб. 23,94. Ул.-выд. арк. 23,79. Тыраж 6600 экз. Зак. 3074. Цана 2 р. 30 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.
Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Минск, Чырвоная, 23.